2/2005



# ПОЛЫМЯ

Уладзімір Гніламёдаў
УСХОД
Раман /заканчэнне/

Павел Вераб'ёў
Міхась Башлакоў
Юля Новік
Вершы

Раіса Баравікова
Апавяданні

Уладзімір Нікалаеўскі
ДЗЯРЖАВА, ЧАЛАВЕК
І ПЕНСІЁННАЯ СІСТЭМА

Таіса Бондар
ШЭСЦЬДЗЕСЯТ МІНУС
ДВАЦЦАЦЬ ДВА
/працяг/

**Якуб КОЛАС**

## ГОЛАС ЗЯМЛІ

Я чую голас несціханы —
Зямля мая мяне заве
І кроіць сэрца мне на раны,
Звініць, як звон касы ў траве.

І шум дубровы, і стогн пушчы,
І рэк усхліп, і плач крыніц,
І немы зрок балотнай тлушчы
Нясуць мне весць пра чужаніц.

Я бачу постаці тэўтонаў —
Халодны твар, звярыны від.
Не знае жалю, ні законаў
У сталь закованы капыт.

О, каб я меў такія рукі,
Зямля, абняў бы я цябе,
Каб сцішыць гора твае, мукі
І сілу даць у барацьбе!

Зямля мая, мая краіна!
Я чую твой прызыўны звон.
Прымі ж хоць слова твайго сына —
Не доўгі будзе твой палон.

Шумяць гняўліва твае пушчы,
Трасуцца помстаю бары,
І дзень твой хмурны зрок расплюшчыць —
Ёсць у цябе багатыры!



60-годдзе
**ПЕРАМОГІ**

# ПОЛЫМЯ

2

ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ
ЧАСОПІС

(904)

ВЫДАЕЦЦА СА СНЕЖНЯ 1922 ГОДА

2005
люты



РЭДАКЦЫЙНА-ВЫДАВЕЦКАЯ ЎСТАНОВА
«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Мінск 2005

ЗМЕСТ



**ЗАСНАВАЛЬНІК — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.**



Павел ВЕРАБ'ЁЎ

# «МЫ ЛЁС ЧУЖЫ НЕ БРАЛІ НАПРАКАТ...»

* * *

Мне холадна ад вашага кастра,
Дзе між карчоў балотных тлеюць лёсы,
Дзе заклік камандзіраў безгалосых
Штурхае бастыёны браць на «ўра».

На стогн падобны вымучаны крык.
Пагардліва ўсміхнуцца амбразуры —
Вядома добра ім, што ў шклянцы бура
Ніколі не заменіць верны штык.

Я да штыка халоднага прывык,
Ён саграваў мяне, і неаднойчы.
І ратаваў, калі нябесны Ойча
Зваў да сябе, набліжаны ўпрытык.

І раптам са штыком наперавес
Я апынуўся ноччу ў чыстым полі.
Тых, хто паслаў, я не пабачыў болей,
Яны не полем ходзяць, а праз лес.

---

***Вераб'ёў Павел Віктаравіч*** *нарадзіўся 7 лістапада 1958 года ў вёсцы Рабавічы Слаўгарадскага раёна Магілёўскай вобласці. Скончыў факультэт журналістыкі Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна (1983), Мінскую вышэйшую партыйную школу (1987), Смілавіцкі сельскагаспадарчы тэхнікум (1993). Працаваў у Слаўгарадскай раённай газеце, у ЦК ЛКСМБ, у рэспубліканскім друку. Быў галоўным рэдактарам газеты «Знамя юности», намеснікам галоўнага рэдактара штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва», начальнікам прэсцэнтра Камітэта дзяржаўнага кантролю Рэспублікі Беларусь, першым намеснікам дырэктара рэдакцыйна-выдавецкай установы «Літаратура і Мастацтва». Цяпер — дырэктар радыёстанцыі «Сталіца» Белтэлерадыёкампаніі.*

*Аўтар кніг паэзіі «Крытычная маса» і «Цёмнае віно».*

Як цяжка мне ля вашага кастра,
Дзе лёсы вырашае куля-дура,
Дзе зноў і зноў — грудзьмі на амбразуру,
Дзе зноў і зноў усё бяруць на «ўра».

* * *

Мы лёс чужы не бралі напракат,
Мы не вымольвалі лацвейшай долі.
І басаногі шлях наш — шлях на волю —
Ніхто не змог аспрэчыць — помні, брат.

Таксама не забудзь, хто нас карміў.
Не збыльняжэюць гэтыя быліны.
І не забудзь, як вецер галасіў,
Калі прыгадваў тое, дзе былі мы.

## АЛАВЯНЫЯ САЛДАЦІКІ

Наш эшалон кіруецца на поўдзень:
Там у разгары бархатны сезон,
Але наўрад на пляж прыморскі пойдзе
Агульны спецыяльны наш вагон.

Мяне свідруе сотня пар вачэй,
У гэты момант я для іх — за Бога.
Хаця і мне нікольки не лягчэй,
Бо я і сам не ведаю нічога.

І вось нядаўні хуліган і франт
Нясмела падыходзіць са слязамі:
— Вы хлусіце, таварыш лейтэнант,
Не можа быць, каб вы не зналі самі.

Я ж ведаю адно, што я — салдат.
І вы салдаты — бабнікі і франты.
Нас не сустрэнуць воклічам «Віват!»
Другі расклад, другія варыянты.

Ну вось і ўсё, не пазірайце скоса,
І аб мяне не разбівайце час.
А на адхоне спеюць абрыкосы,
Ды гэта ўсё пакуль што не для нас.

А што для нас — нам тое невядома,
І не пытайцеся вы зноў і зноў...
Як невыцерпна я хачу дадому,
А больш за ўсё — прывезці пацаноў!

## ПАМЯЦІ АЛЕСЯ ПІСЬМЯНКОВА

Увагаю мэтраў аблашчаны,
Ты рана ўвайшоў у іх круг.
Эліта спакуслівай пашчаю
Уцягвала ў тлумны рух.

Таўкліся вакол на пегасіках
І стайняй зрабілі храм.
Ты страціць баяўся тых класікаў,
Баяўся. І страціўся сам.

Абранасць не сталася казкаю,
І не размінуцца журбе.
Ты часта трымаўся падказкамі
І слухаць баяўся сябе.

Як часта нылі карэнейкі
У суме па роднай зямлі!
Ты боль той высцёбваў венікам,
Бо ўсё-ткі карэнні — былі.

Скаваны прыдворнымі путамі
Ступаў на бацькоўскі парог.
Не сталася яваю чутае,
Ты жыць на радзіме не мог.

Ты быў як сасонка з падсочкаю —
Так сілы знікалі твае.
У снах ты радзіму высочваў
І выжыць не змог без яе.

Разлучаны з Бесядзі хвалямі
Пранёс да канца свой крыж.
Да рысы апошняй прычалены —
Ты так красамоўна маўчыш.

* * *

Да распяцця сямейнага быту,
Як цвікамі Ісус Хрыстос,
Я прыбіты,
І ты прыбіта.
А каханне глядзіць з нябёс.

Затрапечаш:
— Нашто так высока?
Каб хаця б не ўгнявіць багоў.
Пачуццё кружляла, як сокал...
Ці дацягнешся ты да яго?

Так раптоўна усё растрачана.
Па цнатлівым снезе — сляды...
І дарога на неба страчана.
Дый ці трэба табе туды?

Пад суцішнай алеяй ліпаў
Ты не тая, ў цябе другі...
Ах, які падаруначак выпаў —
Дарагі, дарагі, дарагі.

## ВОЎКАСАБАКА

Ты глядзіш на карту задыяка
І не возьмеш аніяк у толк:
Ну чаму па карце я сабака,
А калі ў душу заглянеш — воўк?

І адрозна ад сабачай зграі
Ні прад кім не падаем мы ніц.
І заўсёды жорстка выбіраем
Самую найлепшую з ваўчыц.

Мы не знаем, што такое здрада,
Што такое сучы кавардак.
Каб у нас быў гэтакі парадак,
То і мы звяліся б да сабак.

Ўсё з ваўком ваўчыца зносіць моўчкі,
Асабліва верная ў бядзе...
Толькі ж ты не можаш жыць па-воўчы,
Бо душа сучыная ў цябе.

## ПАПЛЕЧНІКІ

Яшчэ і пеўні нават
Не спявалі,
Прыбліжаны Пятро не чухаў зад.
Вы па чарзе усе мяне прадáлі,
Бо зналі, што купіць змаглі б наўрад.

Вам толькі каб шаманнічаць ля трона,
Пакуль, як дуб, стаіць трывала трон.
Вы трону аніяк не абарона,
Ці самая з найгоршых абарон.

Ды як без вас праменістай кароне? —
Каб склад са збожжам, ды без пацука!
Трыдушнічаць кароль не забароніць,
Не стоміцца дары дзяліць рука.

## ВОРАГІ

Аніколі вы не падманулі —
Ворагі, вы лепшыя сябры.
Не прасвішчуць міма вашы кулі,
Не абыдуць шчырыя дары.

Гожа мне на хісткім парапеце
Выкрасаць вам ненавісны верш.
І датуль, пакуль жыву на свеце,
Вы мае памочнікі найперш.

З вамі не уведаю я здрады
І другіх пакутлівых параз.
З вамі кожнаму уздыху рады,
Быццам дыхаю апошні раз.



Уладзімір ГНІЛАМЁДАЎ

# УСХОД

*Раман**

## VIII

На змену вайсковаму рэвалюцыйнаму трыбуналу (27-я стальная дывізія пераможным крокам рушыла далей на ўсход) у Запалоннае заявілася чака — два чалавекі, па модзе часу, у скуранках. Адзін пажылы і бледны, з нездаровым колерам твару — таварыш Сычоў; другі маладзейшы і больш вясёлы, з рудаватым шчаціннем на шчоках — таварыш Кудрашоў. У аднаго і другога на тонкіх раменьчыках цераз плячо зброя — па маўзеры ў драўлянай кабуры. Зброя надавала ім важнасці і самаўпэўненасці. Спыніліся ў каравулцы — усё адно як адчувалі, што гэта месца найбольш адпавядала профілю іх заняткаў.

— Чака прыехала! — загаманіла Запалоннае.

— Дык яны ўжо былі — чэкі... — не разумеў што да чаго Вярзілін. Ён меў на ўвазе чэхаславакаў, якія прыходзілі з учрадзілаўцамі.

— Чака, цака — столькі слоў панарабілі! — матляў белай вузкай барадой Сісяйкін. Голас яго зрабіўся яшчэ больш тонкі і пісклявы. — Эх, галавы мачальныя!

— Чакайце навасцей, Елізар Ампадзіставіч! — не спадзеючыся, відаць, на добрае, па-старэчы ўхмыляўся Ільля Аляксандравіч, хаваючы крывую ўсмешку ў доўгую бараду.

— Якіх навасцей, Ільля Аляксандравіч?

— Баюсь, што не надта добрых...

Прайшоў летні дождж, і паветра набракла вільгаццю. З лужынаў, на сонечных угрэвах, ледзь прыкметна ўзнімалася пара.

— Самагонам пахне! — прынюхваўся да паветра Кудрашоў, яшчэ калі яны ехалі праз Запалоннае. — Безабразія!

Сычоў таксама круціў галавой і носам:

— Нічога, мы выветрым бражны дух. Мы, таварыш Кудрашоў, з табой як санітары. Сацыяльныя санітары...

Назаўтра яны зрабілі невялікую нараду тут жа, у каравулцы, з удзелам Пяцельнікава як прадстаўніка савецкай улады. Пяцельнікаў прыхапіў з сабой Мішу Касякіна і старшыню камуны Чудайкіна. У памяшканні каравулкі панавала страшэнная гарачыня, але на гэта ніхто не звяртаў увагі.

— Ад гарэлкі вам непаздаровіцца! — сказаў Сычоў, як толькі Пяцельнікаў з Мішам пераступілі парог каравулкі. — Я разумею, што самагон — пралетарскае ўдавольствіе, аднак нельзя...

* Заканчэнне. Пачатак у № 1, 2005 г.

Абодва — і Сычоў, і Кудрашоў — сядзелі за сталом апранутыя па ўсёй форме, насунуўшы на галовы скураныя фуражкі.

— Прымаем меры, пачаў апраўдвацца Пяцельнікаў, — змагаемся! — Ён, не знімаючы з галавы такой жа, як і ў прыезджых, скураной фуражкі, пачаў выціраць з ілба пот.

— Значыць, недастаткова! — перабіў яго Кудрашоў. — Да ты, таварыш, садзіся!

Пяцельнікаў прысеў на лаўку, апусціўшы галаву, як бы вінаваты ў чымсьці.

— І ты, таварыш, садзіся, — кіўнуў Кудрашоў Мішу. Той прысеў каля старшыні выканкама.

Пяцельнікаў прадставіў Мішу як начальніка запалонаўскай міліцыі. Міша кіўнуў галавой.

— Значыць, таксама чэкіст! — нібы ўзрадаваўся Кудрашоў і паўзіраўся ў Касякіна. — Добрым чэкістам можа быць толькі добры бальшавік!

— А гэта наш галоўны камунар! — Пяцельнікаў кіўнуў на Чудайкіна, які ўсё яшчэ стаяў ля парога.

Таццянка заўсміхаўся і таксама ўмасціўся на лаўцы, падабраўшы крысы свайго падзёртага зіпунка, стаў слухаць, што скажуць прыезджыя. Сычоў застаўся змрочным, потым загаварыў:

— Семнаццаць генералаў вайной на нас ідуць! І ўнутраная контррэвалюцыя не сунімаецца! А ў вас, таварышы, палучаецца, ціха! Чаму? Навокал класавая барацьба аж гудзе, а ў вас ціха, — не без падазронасці паглядзеў ён на запалонаўскае начальства.

— Ціха, — пагадзіўся Таццянка.

У размову ўлез Міша:

— Дык, можа, гэта і добра...

Сычоў быў, аднак, напагатове:

— Не, гэта, таварышы, нікуда не гадзіцца! Так, чаго добрага, і пільнасць можам пацяраць! Ізменнікаў шмат! Думаеце, чака не ведае? Чака ведае ўсё!

Зноў пачаў гаварыць Сычоў. Мяркуючы па ўсім, ён вельмі не любіў самагоншчыкаў:

— Таварышы! Бязлітасна змагайцеся з гэтым злом! Пра кожнага самагоншчыка паведамляйце нам, у чаку. Не шкадуйце іх, яны вашы ворагі, а да ворагаў, ізвесна, літасці няма. Рэвалюцыя не пацерпіць буржуазных перажыткаў.

«Дзівак-чалавек. Як бы я гэтага не ведаю!» — падумаў Пяцельнікаў, пазіраючы сабе пад ногі.

— Змагайцеся і са спекуляцыяй. Спекулянт таксама вораг, як і самагоншчык, — працягваў Сычоў. Яго абурэнне расло: — Да гэтага часу нікога не прыстукнулі. Што гэта такое? Гэта — безабразіе!

У цёмных вачах Сычова ўгадвалася думка: «Вы ўжо вычарпаныя для рэвалюцыі, вы ёй больш не патрэбныя. Абмяшчаніліся. Цярпіць яна вас пакуль што...»

— Ну, кое-каво прыстукнулі, — Пяцельнікаў падняў галаву, — але...

— Што? — перабіў яго Кудрашоў. — Следства вам трэба, адвакаты?

Чэкісты пераглянуліся паміж сабой, крыва пасміхнуліся.

Зноў рэзка, у павучальным тоне, загаманіў Сычоў:

— Следства, допыт, сведкі, адвакаты — гэта ўсё буржуазія напрыдумляла, каб над нашым братам змывацца. Пра гэта трэба ведаць. А судзіць трэба гарачым полымем пралетарскага сэрца! Вось дзе справядлівасць! — ён пляснуў далонню па драўлянай кабуры, дастаў адтуль маўзер і, грозячы некаму, падняў яго над галавой. — Мы не маралісты, мы прафесіяналы. Мы ведаем, як рабіць рэвалюцыю. Апазіцыі я не пацярплю.

— Вінаваты ці невінаваты — гэта дзела дзесятае, — пацвердзіў Кудрашоў. — Галоўнае — да якога класа належыць! Карэнні капіталізму падлягаюць выкарчаванню. — Кудрашоў выцягнуў з нутраной кішэні скуранкі нейкую паперыну, ужо добра пакамечаную. Збіваючыся, па складах, прачытаў: — Груда чалавечых касцей будзе служыць помнікам на магіле капіталу, але цаліцельнае сонца камунізму залечыць старыя раны...

На шчаку Кудрашову накацілася слязіна. Сычоў сунуў маўзер назад у кабуру. Усе чацвёра нейкі час маўчалі.

— З марадзёрамі следует змагацца! — парушыў маўчанне Сычоў. — Незаконная выдача дакумантаў! Работы неўправарот. Мы факцічасці меч рэвалюцыі! Пра сантыменты прашу забыць!

— Нам неабходна прысылка агітатараў, — падаў голас Пяцельнікаў.

— Агітатараў прышлюць! — запэўніў Сычоў. — У вас надта многа няграматных. Гэта дрэнна.

— Непісьменны — той жа вораг, — Кудрашоў скрывіў вусны і развёў рукамі. — Ён не ў састаянні паняць...

Слухаючы таварыша, Сычоў зноў выйшаў з раўнавагі:

— Даю тыдзень на ліквідацыю непісьменнасці. Хто за гэты час не авалодае грамацёшкай, будзе расстраляны. Інакш нялзя!

— Вораг — ён не спіць, ён дзейнічае! — напомніў Кудрашоў. На яго скуранцы пагрозліва зарыпелі рамяні.

Сычоў прапанаваў азнаёміцца з сялом. Следам за ім падняўся з-за стала Кудрашоў. Усе чацвёра выйшлі з каравулкі. На дварэ было яшчэ гарачэй, чым у памяшканні. Смаліла сонца. Першым, каго яны сустрэлі, быў Спірыдон Вярзілін, які ехаў на возе, запрэжаным параю коней. На возе — мяшкі. Яго запынілі.

— Што ў вас на цялеге? — строга звярнуўся да яго Кудрашоў.

Вярзілін сумеўся, раскрыў рот, але нічога не сказаў.

— Зярно! — усміхнуўся, памацаўшы мяшкі рукамі, Чудайкін.

— Ты што, буржуй, сабаціраваць? — Сычоў паклаў руку на маўзер.

— Куды вы без нашага ведама? — ускіпеў Пяцельнікаў.

Вярзілін маўчаў.

— Ты што, у чаку захацеў? — падступіў Кудрашоў.

— Закалупіну вязу... — прызнаўся Вярзілін.

— Хто гэта? — насцярожыўся Сычоў.

— Лавачнік... — замест Вярзіліна адказаў Міша.

— Лавачнік? — здзівіўся Кудрашоў. — Да вы, таварышы, што?

Пяцельнікаў, апраўдваючыся, пачаў даводзіць, што апошнім часам у Запалонным паспела арганізавацца мясцовая спажыўкаапера-

цыя — адзінае спажывецкае таварыства. Патрабілаўка — як гаварылі запалонаўцы.

— Вось у нас ёсць патрабілаўка, — пачаў скардзіцца Таццянка, — а што мы атрымліваем з яе? Нічога!

— А хто знаходзіцца ў гэтай патрабілаўцы? — пацікавіўся Сычоў.

— Вядома — хто: Сісяйкін, Яфімавы, поп...

— Поп? Кім ён туды абраны?

— Не намі ж, беднякамі, — не без гонару адказаў Таццянка.

— Буржуазія — яна плодзіцца! — па-свойму зразумеў запалонаўскіх актывістаў Сычоў. — Дрэнна скончыць гэты Закалупін і яго патрабілаўка. Дагандлююцца!

— Тая буржуазія хоць на школу давала, — з свайго боку здзіўляўся Таццянка, — а цяперашняя толькі пра сябе думае! Махорка ў патрабілаўцы — трыццаць два рублі за фунт!

— Нада задзержываць падазроных лічнасцеў, — напомніў Кудрашоў.

— Да, нам, брацішкі, — Сычоў паправіў на галаве фуражку, — нада прасеяць усіх гэтых шыбздзікаў.

Вярзіліна з падводай яны накіравалі ў грамадскі свіран, каб пакінуў збожжа там, пад распіску. Пракантраляваць даручылі Таццянку, а самі рушылі далей па запалонаўскай вуліцы.

Наступны ім сустрэўся Крандзялёў. Апрануты ў нейкую пацёртую адзежыну, вочы — за зялёнымі акулярамі.

— Хто гэты? — не стрымаў здзіўлення Кудрашоў.

— Былы пісар...

— Нешта не падабаецца ён мне.

— Давайце да сястры маёй зойдзем — вунь яе хата! — прапанаваў Міша.

— Ну што ж, давай! — згадзіўся Сычоў.

— У яе бежанцы жывуць — з Польшчы. Харошыя людзі.

У хаце былі Лявон і Фёкла. Павіталіся. Гаспадыня пачала завіхацца каля самавара.

— Адкудава? — спытаў Сычоў у Лявона, сеў на лаўку і зняў з галавы фуражку. Галава ў яго аказалася лысай — ні валасінкі.

Зняў фуражку і Кудрашоў, як бы счакаўшы, калі гэта зробіць Сычоў. Рудыя валасы ў Кудрашова падстрыжаны вожыкам.

— Мы здаляка, з-пад Брэст-Літоўска, — сказаў Лявон.

— Ён і ў Амерыцы быў! — дадаў Міша.

— Ну і як там амерыканскі пралетарыят? — зноў задаў пытанне Сычоў, правёўшы рукой па лысіне.

— Людзі як людзі. Працуюць цяжка... — Лявон таксама прыгладзіў на лбе чубчык.

— Паддзержаць нас?

Прускавец пацiснуў плячыма: «Хто яго ведае».

— Мы не амерыканцы! Не сплуататары! — ажывіўся Кудрашоў, глянуўшы на Пяцельнікава.

— У Амерыцы шмат працуюць! — зноў няпэўна паўтарыў Лявон.

Фёкла паставіла самавар. Адчыніліся дзверы, і ў хату зайшоў Таццянка.

— Ну што, выгрузіў? — запытаў Пяцельнікаў.

— Усю цялегу! — адказаў Таццянка.

— Глядзіце! Мяккацеласці і лібералізму нам ніхто не даруе! — Сычоў адпіў са шклянкі гарачага чаю і скрывіў вусны, як бы нешта прыпомніўшы: — А праца што? Праца таксама перажытак... Бо яна ад прагнасці, ад буржуйскай прагнасці багацця!

— Нам з Амерыкай не па дарозе! — насцярожана кашлянуў Кудрашоў, п'ючы чай.

Лявон маўчаў, адчуваючы, што гэтыя людзі цвёрда перакананыя ў сваіх думках.

Сычоў абвёў прысутных строгім позіркам, паставіў на стол шклянку, набычыў лысую галаву:

— Нада падумаць, таварышы, хто ў вашай дзярэўне лішні.

Прысутныя пераглянуліся, бо не адразу яго зразумелі.

— Мы праводзілі саатветствуючыя меры пакарання, — нібы апраўдваючыся, сказаў Пяцельнікаў. — Апрадзялённая пeратурбацыя праведзена.

— Гаворка не пра пакаранне ідзе, а пра ліквідацыю! — патлумачыў Сычоў.

— Пра што? — пачуўся голас Фёклы. Яна стаяла каля пліты і глядзела на гасцей здзіўленымі вачыма.

— А што? — у сваю чаргу здзівіўся Кудрашоў. — У сваёй рэспубліцы — і не магу ў расход пусціць?! Рэвалюцыя — не жартачкі...

Гаспадыня не стрымалася зноў:

— Калі караюць заведама невінаватага, дык гэта самае вялікае злачынства, самы вялікі грэх!

— Цёмны яшчо мы народ, — сказаў Таццянка, азірнуўшыся на гаспадыню і нібы просячы за яе прабачэння ў Сычова.

— А што такое народ? Смецце! Галоўнае для нас — гэта ідэя! — наступаў Сычоў. Яго лысіна ўся пакрылася кроплямі поту.

— Усё ж такі шкада, — няўпэўнена кашлянуў у кулак Міша.

— Што — шкада? — накінуўся на яго Сычоў. — Да? А таго паняць не хочаце, што сёння кожны чэсны чалавек кроўю вымазаны!..

— Гэта ж страшна! А Божа мой!.. — ажно ўзмалілася жанчына.

Кудрашоў, не адрываючыся, глядзеў на Фёклу:

— Страшна?

— Ой!

Лявон па-ранейшаму маўчаў, нервова прыгладжваючы даланёю валасы над ілбом. У галаве снавалі абрыўкі нейкіх страхотлівых думак: «Вось яно дзе — пекла тое. Было далёка, а стала блізка...» Ураджанне было такое, нібы побач размаўлялі чэрці, якія аб'явіліся на гэтым свеце, пакінуўшы сваю апраметную ў пошуках грэшнікаў. «Грэшнікаў шукаюць, і кожны для іх грэшнік...» Яго дзівіў іх фанатызм, безаглядначе імкненне ўперад. Не, гэта не яны, гэта зло ў іх гаворыць. Дзе яны гэтак злабою заразіліся? Дзякуючы такім само слова «рэвалюцыя» незаўважна і нечакана памяняла сваё значэнне: раней яно азначала палітычную свабоду, а цяпер іменем рэвалюцыі чынілася непрыкрытае насілле. «І хочуць, дзівакі, ашчасліўціць свет!..» Ён успомніў словы Грыцька-фермера, у якога рабіў у Амерыцы. Грыцько казаў: рана пачалі грамадзянскую вайну — рабы не гатовыя былі да свабоды. Гэтак ён гаварыў пра грамадзянскую вайну ў Амерыцы. І Лявону падумалася: «Меў ён рацыю: адной свабоды мала, да свабоды яшчэ нешта трэба...» Свабода, здавалася б, скіраваная на дабра-

чыннасць, у людзей, пазбаўленых жыццёвай мудрасці і цярпення, перарастала ў волю да ўлады і прыгнёту! «Куды ж мы ідзём, куды мы ідзём?..»

Ён перавёў пагляд на Сычова з Кудрашовым: «Тут ужо нічога не зробіш, застаецца толькі паклапаціцца пра сябе самога, каб хоць асабістую прыстойнасць больш-менш захаваць...»

Госці некаторы час яшчэ сядзелі моўчкі, потым, зразумеўшы, што размова вычарпаная, усталі і пакінулі хату.

Планы ў Сычова і Кудрашова — змаганне з контрай. Доўга не думаючы, яны пачалі далей варушыць прыглушанае рэвалюцыяй запалонаўскае жыццё. Сёй-той не супраць быў ім дапамагчы. Немалую сілу і давер у Запалонным пачыналі набываць ананімныя пісьмы і даносы. Такая карэспандэнцыя час ад часу паступала ў адрас Сычова з Кудрашовым. Яна і давала падставу чэкістам для прыняцця недвухсэнсоўных санацыйных мер, каб пазбавіцца ад непажаданых элементаў. У спіс першымі трапілі Сісяйкін з Ільёй Аляксандравічам.

— Сісяйкін — гэта лішні элемент, — сказаў Пяцельнікаў, які ўключыўся ў работу разам з чэкістамі.

— Гэтага трэба к нагцю прыбраць! — згадзіўся Міша. — Платонаў болен! — дадаў ён. — І сын у яго ў Краснай Арміі пагібшы...

— Самагоншчыкаў Бурлака і Яфімава! — прапанаваў наступныя кандыдатуры Пяцельнікаў. Ячэйкаўцы падтрымалі.

— Блінова! — азваўся Таццянка.

— Надзвычайны падатак дрэнна плаціць! — пацвердзіў Міша.

— Крандзялёва! З быўшых!

— Такога нада выдварыць! — загаманілі ячэйкаўцы.

— Пераверзева!

— Быў чулы, скромны бядняк... А ў каго ён ператварыўся?! — з горыччу сказаў Міша. — Эх!

Сычоў падняў руку і стаў чухаць патыліцу, якая ў яго была голая, як і ўся галава.

— А гэты, як яго?

Кагосьці ён ніяк не мог успомніць.

— Хто? — дапытваўся Міша, жадаючы дапамагчы таварышу.

— Ну, бежанец...

«Няўжо ён мае на ўвазе Лявона?» — падумаў Міша і спытаў уголас:

— Лявон?

— Ён! — пацвердзіў Сычоў. — Ці не афіцэр будзе?

— Ну, нет! Гэта бежанец з Польшчы — толькі і ўсяго.

— Міндальнічаць? Ён па той бок барыкады — значыць, падлягае...

Але на бок бежанцаў усталі і Кудрашоў з Пяцельнікавым:

— Гэтых нальзя — не нашы! Яны ўсё роўна паедуць... — даводзіў Пяцельнікаў.

— З імі міравая рэвалюцыя на месце разбяроцца, — адгукнуўся Кудрашоў.

— Цяпер мы самі вырашаем каму жыць, а каму не, — як бы самому сабе сказаў Сычоў.

Усіх, пазначаных у спісе, арыштавалі і адвезлі ў Бузулукскую турму. Праз пэўны час некаторыя з арыштаваных вярнуліся.

## IX

Лявон паехаў на Урал па хлеб. Бяда прымусіла. Запалонаўскія засекі апусцелі, і збожжа цяпер размяркоўвалася па картачках — на кожнага едака. Паёк для бежанцаў і раней складаў два-тры фунты хлеба ў месяц, а цяпер і гэтага не перападала. Калі прывязуць, дык спачатку для мясцовых, а бежанцам — што застанецца. Рэпін Герасім на што ўжо зычлівы чалавек, але і той аднойчы вазьмі ды і скажы Пятру Ламаку:

— Ты бежанец, паязджай на радзіму і там палучай! Нам і самім жраць нечава.

Ламака нічога не адказаў, толькі цяжка ўздыхнуў, ведаючы, што ў Рэпіна вялікая сям'я — пяцёра дзяцей.

Трывогі і клопаты нарасталі, як снежны камяк. Усяго не ставала. Запалонаўцы, хто здаравейшы, павесілі торбы — крыж-накрыж — і пайшлі-паехалі на ўсход. Шукаць хлеба, хрыстараднічаць, як казалі яны.

«Дзе ж выйсце? Дзе ж выйсце?» — пакутліва думаў Лявон і вырашыў таксама падацца куды-небудзь на ўсход. Неяк за вячэраю падзяліўся сваімі намерамі з сямейнікамі. Тыя спачатку не хацелі пускаць, але потым згадзіліся.

— Можа, пашанцуе, — сумна прамовіла Марыля.

Даўжэй за ўсіх адгаворвала ад паездкі Фёкла, як бы чагосьці баялася, аднак потым саступіла і яна.

У цягнік ён сеў у Непрыку. Гэта быў таварняк, счэплены з драўляных вагонаў-цялятнікаў. Цяпер яны лічыліся пасажырскімі. Людзі, вузлы, скрынкі, кошыкі. Сярод цывільных былі і чырвонаармейцы. У кутку, за людскімі галовамі, Лявон заўважыў круглую жалезную печку-буржуйку. Па дарозе, калі сустракаўся лес, цягнік некалькі разоў спыняўся, каб папоўніць запас дроў. Загружалі імі паравоз і ехалі далей. Паабапал чыгункі цягнуўся ўдалеч плоскі, парослы бур'яном стэп. Уздоўж вагона аднастайна праплывалі тэлеграфныя слупы. Чырвонаармейцы-свавольнікі, едучы ў эшалоне, стараліся з вінтовак пацэліць у правады, спаборнічаючы ў тым, хто больш спрытны. На адным з тэлеграфных слупоў гайдаўся пад ветрам павешаны чалавек, але на гэта відовішча ніхто як бы і не звярнуў увагі. Справа звычайная, паўсюль ідзе вайна.

Цягнік, з прыпынкамі, дасунуўся да Уфы. Тут Лявон, закінуўшы на плечы хатулі, сышоў, падаўся ад станцыі за горад. Давялося павандраваць па вёсках, пакуль выменяў два пуды мукі і амаль столькі ж прасяных круп. Хаты ўральскага сялянства — каржакаватыя, моцныя, бервяно ў бервяно. Аканіцы пафарбаваныя ў вясёлыя стракатыя колеры. За вокнамі — вазоны з кветкамі. Народ даволі гасцінны: і паесці дадуць, і чаем напояць.

І яшчэ адна падзея адбылася ў Запалонным: памёр Ілья Аляксандравіч. Яму ўжо даўно было дрэнна. Шмат перажываў. З сярэдзіны 1919 года ўся надзея на Калчака была страчана. Ён усё пра нешта думаў, напружана ўспамінаў, узіраўся ў аднавяскоўцаў і як бы не пазнаваў іх. «А можа, нічога і не было, толькі здавалася? Толькі прывідзелася? — пытаўся ў самога сябе Ілья Аляксандравіч. Яшчэ ўчора, апрануўшы стары армяк, ён выйшаў пад вечар з варотаў на

запалонаўскую вуліцу сустракаць кароўку. У канцы вуліцы паказаліся каровы — вяртаўся з пашы камунарскі статак. Гнаў яго Іван Нямцоў. Восень. Скаціну меліся ўжо загнаць у хлявы — на стойлавае ўтрыманне. Карова, параўняўшыся з былым гаспадаром, спынілася і доўга глядзела на яго, потым пачала абнюхваць. Тады падышла да веснічак і паспрабавала адчыніць іх рагамі.

— Ай, буро-оначка! — узрадаваўся Ілья Аляксандравіч. — Пазнае!

— Гэта яна здароўкаецца з табой, — засмяяўся Нямцоў.

— Чаго смяешся, дурак! — узлаваўся Ілья Аляксандравіч.

— А што? Уж і ўлыбнуцца нямьзя?

— Табе гэтага не паняць!..

Веснічкі не адчыняліся. Схуднела платонаўская буронка, як сам гаспадар. Ілья Аляксандравіч заплакаў. Паглядзеўшы каровам услед, ён вярнуўся ў хату.

Афанасся разам з Домнай спрабавала распаліць печ.

— Пакідаюць мяне сілы... — пажаліўся Ілья Аляксандравіч і, не распрануўшыся, апусціўся на лаўку. — Яно-та, сказаць, усё было і ў прэжняй жызні — і балезні, і старасць, і смерць, і ўсё астальное, аднак бальшавікі ўсё гэта ўдзесяцярылі...

Афанасся адвярнулася ад печы і ўважліва паглядзела на мужа. Той раптам абхапіў галаву рукамі і зарагатаў на ўсю хату. На лбе выступіў пот, ён з нейкім жахлівым пачуццём абмацаў свой жывот, грудзі. Афанасся падхапілася, падбегла да гаспадара:

— Бацюшка, што з табой? Ці здаровы ты?

Ілья Аляксандравіч нічога не адказваў.

— Малітву чытай, Ілья, малітву! «Отча наш»!

Той зноў схапіўся за галаву, няўцямна зірнуў на жонку:

— Забыў я, Афанасьюшка, малітву-та...

— Ох ты, беднай! На печ палязай! Зараз я растаплю — пагрэешся. Прайдзёт! — гаспадыня падставіла да печы ўслон, і Ілья Аляксандравіч, не здымаючы армяка, узабраўся наверх і прымасціўся на краі, звесіўшы ўніз ногі. Відаць было, што яму нядобра. Жонка падала падушку, і ён прылёг.

Прайшло колькі часу, Афанасся раптам пачула, як Ілья Аляксандравіч уздыхнуў, заварочаўся, а потым неяк няўцямна крэкнуў. Афанасся напачатку напалохалася, а потым узрадавалася: жывы і будзе жыць! Нарэшце загарэлася ў печы.

— Січас, Ілья, я табе, балезны ты мой, чайку згатоўлю пагарачэй!

Але чаю гаспадар не дачакаўся: як сядзеў, так і бахнуўся з печы на падлогу.

— Вады! Дайце вады! — закрычала Афанасся. Хоць побач нікога не было, але яна крычала так моцна, што пачулі Домна і Андрушка, якія знаходзіліся на панадворку. Прыбеглі абое, перанеслі яго на ложак. Замітусіўся ля бацькі Андрушка:

— Баця, бацю! Не памірай!

Той як бы крыху ачуняў, павёў вачыма па хаце. Кінуліся за фельдшарам Іванам Спірыдонавічам, але той быў такі п'яны, што ледзьве апрануўся з дапамогай Андрушкі і здолеў толькі з хаты выйсці, зачапіўся за вушак і асунуўся на зямлю. Уцяміўшы, што яго клічуць да Платонавых, сабраўся з сіламі і прыехаў, агледзеў хворага, які ўжо капаў.

— Атруціўся ваш гаспадар, — нарэшце аб'явіў ён і змоўк.

(Дыягназ аказаўся правільны: потым Афанасся знайшла на печы пухірок з сулемой, якую ўжыў Ілья Аляксандравіч.)

На твары канаючага адбіўся перадсмяротны жах, а Афанасся, да якой вярнулася нейкая дзіўная разважлівасць, прасіла:

— Слыш, Ілья Аляксандравіч, не памірай, амбар яшчэ ж не накрылі!

Каля ложка, рассоўваючы змрок, гарэла свечка. Афанасся апусцілася перад бажніцай на калені і пачала шэптам маліцца і класці паклоны. Яе твар, у святле свечкі, здаваўся вылепленым з воску — бледны і пажоўклы. Потым яна зноў падышла да ложка, пачала адганяць ад нябожчыка мух. Мухі поўзалі ў яго па шчоках і носе, нібы жадаючы засведчыць, што чалавек ужо не жывы. Афанасся заплакала.

... Далей былі паховіны. Хавалі нябожчыкаў тут па традыцыі ў лапцях. У лапцях пахавалі і Ілью Аляксандравіча.

## X

Фёкла была адна, латала Лявонаву адзежыну, калі ў хату завітаў Таццянка. На дварэ забрахаў Марсік, але тут жа аціх — Таццянку ён добра ведаў і нават сябраваў з ім. Павітаўшыся, госць адразу ж, не марудзячы, перайшоў да галоўнага:

— А чаму б табе з намі не быць, малодка?

— З кім гэта — з вамі? — насцярожылася Фёкла.

— Ну, у камуну. А што? Ты нам сацыяльна блізкая — чырвонаармейка! Свая, можна сказаць... — госць прысеў на лаўку.

— Так ужо і свая?

— Абшываць нас будзеш... — Таццянка абмацаў гузікі на сваім фрэнчы, як бы жадаючы пераканацца, што ўсе яны цэлыя і кожны на сваім месцы.

Жанчына прыпыніла працу, падняла вочы, паўзіралася ў Таццянку. І выказала тое, што думала:

— Ах, вунь яно што! Закабаліць хочаш?

— Пры чым тут — закабаліць? Ты што? Работаць будзеш, як усе камунары...

— Не, Таццян, гэта не для мяне! — засмяялася маладзіца. — Я самастойна люблю, без указу...

Госць перасеў на другую лаўку, бліжэй да гаспадыні.

— Ну, тада машынку давай! У камуне ёй самае месца!

Для Фёклы гэта было поўнай нечаканасцю:

— Як я яе аддам? Мы ёю кормімся! Сям'я!..

Таццянка хітравата пасміхнуўся:

— Ты, я бачу, не ведаеш, што такое савецкая ўлада. Яна на ўсё мае права!..

За час старшынства ў камуне «Таварыш Троцкі» Таццянка меў пастаянную патрэбу кагосьці выкрываць, ушчуваць. Фёкла адчула ў яго словах пагрозу і павяла гаворку інакш:

— А якая вам выгада машынку трымаць? Ты ведаеш, колькі ніткі каштуюць? Пуд мукі за катушку!

— Аднака дорага! — здзівіўся Таццянка.

— Давялі бальшавікі... — не стрымалася жанчына.

— Бальшавікоў не чапай! Мігам падмятуць... гэта я табе па знаёмству кажу.

Фёкла нічога не адказала.

Таццянку нічога не заставалася, як пайсці з хаты. «Дзялы чакаюць!» — буркнуў ён на развітанне і выйшаў.

Зноў забрахаў Марсік — на парозе новы госць. Чэкіст Кудрашоў.

— Добры дзень! — важна павітаўся госць.

— Добры дзень! — азвалася гаспадыня.

Кудрашоў прысеў ля сцяны, зарыпеўшы рамянямі, не здымаючы з галавы фуражкі. Паправіў толькі драўляную кабуру, што звісала збоку.

— Вы, што лі, адна?

— Адна, як бачыце, — сказала гаспадыня, не звяртаючы ўвагі на госця, які тут жа перайшоў на «ты»:

— А муж твой дзе?

Кудрашоў устаў, прайшоўся па хаце, падышоў да Фёклы і сеў побач. Яна маўчала, а ён не спыняў гаворкі:

— Сям'я таксама адпадае. Нынча ўсё абчэсцвенае! Паверце мне. Усё далжно быць па-харошаму.

Яна адчула, як ён прасунуў руку і стараецца расшпіліць ёй спадніцу, намацвае гузік. Фёкла сумелася:

— Да ты што? Ашалеў?

— А што?

— Нахабнік!

Маладзіца з усяе сілы ўдарыла яго даланёю па руцэ. Кудрашоў адняў руку і адсунуўся ўбок. Зрабіў выгляд, што такога ён не чакаў.

— Ну, я не ведаў, што ты такая.

— Якая?

— Несазнацельная.

— Дык будзеш ведаць.

— Рэвалюцыя вызваліла ўсіх і ўсё, у тым ліку і каханне! Падумаеш — муж...

Фёкла нічога не адказала.

— Табе каб буржуй, дык згадзілася б!

Фёкла доўга маўчала і нарэшце прамовіла:

— Па вас бачу, што непатрэбная я вам, — маладзіца ўздыхнула. — Вы ідэямі палаеце — што вам жанчына... — яна ўспомніла, што так казаў пра сябе Міша, калі яна нагадвала яму пра жонку.

— А можа, ты падабаешся мне?

Фёкла зарагатала, у цёмна-блакітных вачах запаліліся іскрынкі:

— Ты што, — дзяўчыну не можаш сабе знайсці?

Скуранка і рамяні на Кудрашове крыўдліва зарыпелі.

— Часу няма, пра іншае думаць даводзіцца.

Счакаўшы яшчэ трохі, Кудрашоў глыбей насунуў фуражку на лоб і, нічога не гаворачы, пайшоў. У маладзіцы адлягло ад сэрца.

Калі вярнуўся Лявон, ён застаў Фёклу са слядамі слёз на твары. Яна расказала пра прыход Таццянкі, а потым — Кудрашова. Лявонава рэагаванне было нечаканым:

— Я разумею — баба заборыстая... — у словах Лявона пачуліся рэўнасць і нават нейкая крыўда.

— Чаму ты так размаўляеш са мной? Заборыстая? Ніколі я не была такой!

— Прабач, я не хацеў цябе пакрыўдзіць, — спахапіўся ён. У галаву прыйшла думка: «У кожным, відаць, сядзіць звер, які прагне насалоды і жорсткасці. І ўва мне таксама. І, мусіць, нікуды ад гэтага не дзецца, так пабудавана жыццё...»

Нейкі час яны сядзелі моўчкі.

— Прабач, — паўтарыў ён і моцна прытуліў да сябе.

... Сычоў з Кудрашовым працягвалі сваю санацыйную дзейнасць у Запалонным. Хадзілі па вуліцы, кідалі позіркі за платы, перамаўляліся між сабой, але большасць часу праводзілі ў каравулцы. Абодва прыйшлі да думкі, што кулак мае дзіўную тэндэнцыю адрастаць і пладзіцца. У гэтым быў згодны з імі і Міша Касякін.

— А пра Закалупіна — што, забылі? — напомніў яму памятлівы Кудрашоў.

— Ён пад палой са склада сахар ташчыць. Я сам бачыў! — пацвердзіў Міша Касякін.

— Не толькі сахар! — умяшаўся ў размову Пяцельнікаў, які таксама быў, што называецца, у курсе ўсіх запалонаўскіх спраў. — Ноччу ўсё са склада перавёз на падводзе дадому: крупы, карасін, мыла, нават каробку з расчоскамі!

— Нават расчоскі? — не стрымаўся Сычоў і ад абурэння пакруціў лысай галавой.

Не маўчаў і Таццянка, выстаўляючы напаказ усе заганы Закалупіна:

— Да шыняля каўнер з аўчыны прысабачыў!.. Да чаго дайшоў! Ты паглядзі толькі, хто ў яго праўленні! Усе бышыя багацеі!

— Контрык! — падвёў вынік Кудрашоў.

— Такіх, як ён, — да вышэйшай меры сацыяльнай абароны! — згадзіўся Сычоў.

— Прапаную расстраляць! — і дадаў, шырока вытрашчыўшы вочы: — У гонар Камінтэрна! Браць будзем пад раніцу. Цёпленькага.

Да Закалупіна з'явіліся перад світаннем. Узялі з сабой Пяцельнікава.

— Хазяін! — пастукаў у вароты Кудрашоў.

Насустрач выйшаў вартаўнік, апрануты ў доўгі кажух, хоць было цёпла, з калатушкай.

— А сам дзе?

— У Бузулук паехаў срочна...

— Какой Бузулук! — узлаваўся Сычоў. — Нам даподлінна ізвесна, што ён дома! Абманваць уласць?!

Лавачнік і сапраўды быў дома. Убачыўшы ўзброеных чэкістаў і Пяцельнікава, замітусіўся, пачаў апранацца:

— Па рэвалюцыйнай законнасці — я не вінаваты!

— Не вінаваты? — здзівіўся Кудрашоў. — Чэсны, стала быць. Харашо паеш!

Закалупін стаяў, угнуўшы галаву ў плечы, лысіна яго пакрылася дробнымі кропелькамі поту.

Старшыня Савета маўчаў. Загрымеў голас Сычова:

— Куды што дзеў? Дзе сахар? Дзе мука? Дзе табак?

— Я ж народных грошай не браў! — апраўдваўся лавачнік. — Гандаль у ЕПО свабодны!

— Свабодны гандаль аб'яўляю закрытым! — як адрэзаў Сычоў і, звяртаючыся да старшыні Савета, загадаў: — Лаўку яго рэквізіраваць! Неадкладна!

— Вы не даеце чалавеку разгарнуцца, будзеце адказваць!..

— Ты пагавары ў нас!

— Не табе нас вучыць! — падтрымаў таварыша Кудрашоў.

— Я не вінаваты! — паціскаў плячыма лавачнік.

— Давай, давай!

У тую ж раніцу Закалупіна адправілі ў Бузулук, адкуль ён так і не вярнуўся.

— Каго наступнага? — паскараў падзеі Сычоў, паціраючы далонёю пукаты лоб.

— Вярзіліна Спірыдона! — падаў думку Міша.

— З гэтым усё ясна: па ім даўно куля плача, — згадзіўся Сычоў, як бы ён Спірыдона даўно ведаў. — Гэта яшчэ той элемент.

Той жа думкі быў і Таццянка.

— Ва ўсім вінаваты гэты Фушэ! — абвясціў ён і злосна сцяў вусны.

Хто такі Фушэ, Таццянка не ведаў, але неаднойчы чуў гэта слова ад упаўнаважанага Дрэера, які нядаўна з інспектарскай праверкай наведаў камуну «Таварыш Троцкі».

— Гэты, рабяты, нам пастаянна муціць будзе. Я яго ведаю, — пацвердзіў і Пяцельнікаў.

— Убраць...

Адчуўшы, што возьмуць і яго, Вярзілін звярнуўся да Мішы Касякіна — уплывовага ў Запалонным чалавека. Міша сядзеў у сваім «кабінеце», як ён называў бакавушку пры каравулцы. Спірыдон, знаходзячыся ва ўзрушаным стане і будучы на падпітку, пачаў абурацца:

— Каго? Мяне? Кавалера? Ды якое вы маеце права? — што ён меў на ўвазе, называючы сябе кавалерам, ніхто не ведаў, хоць пастаянна гэта ад яго чулі.

Мішаў пагляд, аднак, не абяцаў нічога добрага, і Спірыдон перайшоў на больш спакойны тон:

— Адну ж рэвалюцыю, можна сказаць, рабілі, толькі стаялі па розныя бакі...

— То-та і яно, што па розныя бакі.

Міша ўстаў і, накульгваючы, прайшоўся па пакоі. На баку ў яго целяпаўся наган.

— Мы ж сябрамі былі! — напомніў Вярзілін. — Міхаіл!

— Сябрамі былі? Скончылася наша дружба!

— Ах так? Ну дык не забудзь маю фамілію! Вы яшчэ не ведаеце Вярзіліна. Ніхто не ведае! Але ўведаеце! Яшчэ пажалееш, Міхаіл!

Вярзілін, раз'юшаны і знерваваны, выйшаў, моцна бразнуўшы дзвярыма. Міша сцяміў, што былы сябар недзе добра «прыняў на грудзі», паглядзеў яму ўслед: «Ён цвярозы за вілы хапаецца, а п'яны...» Так і сталася: пакрыўджаны Вярзілін прадумаў далейшы ход падзей і змог арганізаваць сваіх прыхільнікаў (незадаволеных было шмат), каб даць адпор актывістам. У яго галаве выспеў план, і ён здолеў яго рэалізаваць. У наступную ноч усе актывісты, у тым ліку Сычоў з Кудрашовым, былі арыштаваны і не змаглі нават аказаць супраціўлення. Ціха, без шуму, павыцягвалі з пасцелі, сагналі ў каравулку, зачынілі на замок і паставілі вартавога Івана Паравeрзева.

...Цесната, духата, бруд. Усё адбылося так хутка, што актывісты нават не сцямілі, як апынуліся ў такім незразумелым становішчы. З кутка чулася:

— Піць... піць...

Гэта прасіў вады Таццянка, але дзе яе ўзяць — вады. Даводзілася цярпець. Побач сядзелі, прытуліўшыся да сцен, Пяцельнікаў, Сычоў з Кудрашовым, Старшых, Андронаў, Нямцоў і яшчэ той-сёй. Усе босыя, у адной бялізне.

Трапіў у каравулку і Гамон як член камуны. Голасу не падаваў, сядзеў у кутку, абамлеўшы ад страху.

Раніцаю з вуліцы, чулася, крычалі:

— Гэй, старыкі, усе да аднаго на сходку! Да каравулкі! Хто не прыйдзе, пяняй на сябя!

Запалонаўцы пакідалі работу, пацягнуліся на плошчу.

— Трэба ісці на сход, а то і нас камуністамі палічаць, — занепакоілася Марыля.

Прыпякала сонца, у чыстым блакіце там-сям віселі невялічкія белыя аблачынкі. Дзень абяцаў быць гарачы. Ля каравулкі гуў натоўп, некаторыя — з вінтоўкамі. На ганку ў белай кашулі стаяў Вярзілін, пры ім — Ванюшка Чапурных, Сарокін, Пераверзеў і яшчэ чалавек дзесяць. Гэта, зразумеў Лявон, закапёршчыкі бунту. Твар у Вярзіліна нейкі чырвона-сіні, прытомлены, але настрой прыўзняты, нават узбуджаны. З-пад носа ваяўніча тырчаць канцы вусоў.

— Дарагія аднасяльчане! — пачаў Вярзілін. — Як вам усім даподлінна вядома, жыдоўская ўлада, якую накінуў нам, міранам, басяк Сёмка Пяцельнікаў, сядзіць у падштанніках пад арыштам! Крыкуны! Мы пакажам ім кузькіну маць! Усім мірам будзем іх судзіць. Сёння ж! Неадкладна! Скока можна цярпець! Усё!..

Раз'ятрыўся Вярзілін — не стрымаць! Кашулю на сабе рве:

— Граждане! Трудавой народ! Пара прачнуцца і даць адпор камісарам і так званай савецкай уладзе! Далей цярпець нельга!

Нехта крыкнуў:

— Расстрэльваць нада!

— У расход!

— Шчавілі нас бальшавікі, прасмольнай вяроўкаю душаць! — лямантаваў Вярзілін. — Людзі! Усё! Хопіць!

— Што з Пяцельнікавым будзем рабіць? — запытаў Пераверзеў.

— Прыстраліць жуліка!

— Павесіць!

— Прынародна!

— Забіваць іх трэба, забіваць!

— Правільна, міране! — згадзіўся Вярзілін. — Але перш за ўсё нам нада выбраць сельскага старасту. Дык вот, давайце, не адкладваючы, і прыступім.

Яны б, напэўна, і прыступілі, але тут з-за павароткі на Аляксееўку выскачылі два коннікі ў чырвонаармейскай форме.

— Брацішкі! Таварышы! Дазвольце прадставіцца! — картавячы, закрычаў адзін з іх, прыставіўшы далонь да казырка. — Я толька што з Аляксееўкі, маё прозвішча Нерабееў, камандзір Краснай

Арміі. Я факцічаскі галоўнакамандуючы вайскамі на дадзенай тэрыторыі!

Лявону зноў пачулася знаёмае вымаўленне. Сапраўды: «Нерабееў! Ротны! Ён! Дзіва нейкае...»

Натоўп ад нечаканасці анямеў. Нерабееў, каб звярнуць на сябе ўвагу, махаў рукою, некуды паказваў. Конь пад ім круціўся, грыз цуглі, матляў галавою, перашкаджаў вершніку гаварыць.

— Таварышы! Таварышы!

«Ну і ну! — жахаўся Лявон. — Ну і ротны! Гэта ж трэба...»

— Тое, што ў вас здарылася, — яўная контррэвалюцыя! — выкрыкваў Нерабееў. — Бунт! Няльзя! Вы далжны паняць!

Царскі афіцэр, потым учрадзілавец, затым калчакавец штабс-капітан Нерабееў цяпер пайшоў на службу да чырвоных, пакінуўшы ў Самары ў якасці заложнікаў, як потым даведаўся Лявон, сваю сям'ю — маці і жонку з сынам.

— Мы з таварышым Карабейнікавым заклікаем вас адумацца і ад імя савецкай улады загадваем зараз жа скласці зброю і вызваліць арыштаваных вамі людзей! Счас з Бузулука падмога явіцца — сто штыкоў! Мы разбяромся ва ўсём! Абідчыкі будуць наказаны!

Натоўп зашумеў, а потым усе аціхлі, не ведаючы, што рабіць.

— Прадлагаю адумацца! Здавайце зброю! Таварышы! Толькі так можна пазбегнуць непатрэбнага кровапраліцця. Таварышы! Пра ваша выступленне забудзем!

І тут прагрымеў бас Вярзіліна:

— Не выпусцім зброі з рук, пакуль не загонім у магілу вас, басякоў, пакуль не ачысцім Расію ад жыдакамуны. Ужо Красноў цісне вам на пяты, не сёння-заўтра будзе ў нас! Канец вашаму панаванню! Усё!

Карабейнікаў нешта сказаў Нерабееву, конь пад тым раптам узвіўся на дыбы, крутануўся назад і, кінуўшыся з месца ў галоп, знік за паваротам. Натоўп ажыў, заварушыўся. Вярзілін са сваімі аднадумцамі нешта ліхаманкава абмяркоўваў. Урэшце важак бунтаўшчыкоў падняў абедзве рукі, просячы супакоіцца, і хацеў нешта аб'явіць, але не паспеў.

— Рукі ўгору! Ні з месца! Кідай аружжа!

З-за павароту выскачылі чалавек дзесяць-дванаццаць чырвонаармейцаў і кінуліся да ганку, на якім стаялі бунтаўшчыкі.

— Рабята! Давай у каравулку, — крыкнуў Вярзілін і першы ўскочыў у прыадчыненыя дзверы. За ім — іншыя. Рэшта бунтаўшчыкоў, што не паспелі ўбіцца ў памяшканне каравулкі, у паніцы пакідалі вінтоўкі на зямлю.

З дзвярэй каравулкі пачалі выскокваць арыштаваныя без шапак, у адной бялізне. Тыя, хто арыштоўваў, і тыя, каго арыштавалі, памяняліся месцамі. Сычоў з Кудрашовым, а таксама Пяцельнікаў схапілі ў рукі кінутыя вінтоўкі. Па натоўпе пракацілася хваля здзіўлення.

— А ну, сволач, марш на наша месца! — закрычаў Пяцельнікаў.

І тут, нягледзячы на агульную мітусню і крык, усе пачулі, як з трэскам расчынілася акно каравулкі. З яго выскачыў на вуліцу Вярзілін і, сагнуўшыся ў тры пагібелі, кінуўся ўцякаць.

— Стой! Стой! — заверашчаў Сычоў, бразнуў затворам, ускінуў вінтоўку і стрэліў, але відаць было, што не папаў. Вярзілін рыўком па-

вярнуў за вугал бліжэйшай хаты. Яшчэ некалькі стрэлаў страсянулі паветра.

У поўнач арыштаваных мяцежнікаў па адным сталі выклікаць на допыт, а пад раніцу адправілі ў Бузулук.

На гэты раз Лявон з Нерабеевым не сустракаліся, але прускавец шмат думаў пра былога ротнага: умее чалавек рабіць нечаканыя павароты. Што ж, жыццё прымусіць...

## XI

Спірыдон Вярзілін згуртаваў банду і на працягу года трымаў у напружанні ўсю ваколіцу. Народ там сабраўся бывалы. Большасць — прыбышы з іншых валасцей і ўездаў, меншая частка — свае, запалонаўскія: Ванюшка Чапурных, Пераверзеў, Сарокін, Камышоў і яшчэ некалькі чалавек. Былі і крымінальнікі — у асноўным самарскія, выпушчаныя з мясцовай турмы яшчэ ў семнаццатым годзе. Разам рабілі налёты на ўстановы, палявалі на савецкую адміністрацыю. Узбраенне мяцежнікаў — тачанка з кулямётам, вінтоўкі, наганы, шаблі ды гранаты, што неахайна боўталіся на папругах. Зброю, як хваліўся Вярзілін, пазычылі ў белых. Ім як бы і сапраўды пашанцавала. На станцыі Бузубей, у тупіку, стаяў вагон са зброяй, ахоўваўся, відаць, слаба. Яго вярзілінцы прысабечылі і адразу выраслі ва ўласных вачах. Атаман у парыве пачуццяў абвясціў сябе Сценькай Разіным. Банда ўвесь час заставалася ў сваім логаве — паміж Запалонным і Бузулукам, у тым месцы, дзе наравістая Самарка рабіла вялікую пятлю, агінаючы цэлы паўвостраў, густа парослы чаротам, талам, купамі дрэў.

Каса — шырокая, месца хапала, і людзі прыбіваліся адусюль. Адусюль і самыя розныя. Знаходзіўся сярод іх, казалі, нават былы акцёр Самарскага тэатра Сестрамілаў. Арыгінал Сестрамілаў насіў чорны бліскучы цыліндр. Тлумачыў гэта тым, што ён акцёр і да іншага галаўнога ўбора не прывык.

Сярод мяцежнікаў увайшло зазвычай бавіць час і спаць не распранаючыся. Харчаваліся, як давядзецца. Шмат пілі. Ужывалі прывычны самагон і бражку. Напіўшыся, да хрыпаты спявалі песні. Неяк Лявону спатрэбілася паехаць у Бузулук — купіць тое-сёе з абутку і адзежы. Сямейнікі адгаворвалі, але ён паехаў. Праводзячы, Фёкла перасцерагала:

— Будзь асцярожны. Вярзілін са сваімі людзьмі, кажуць, кружыць па ваколіцах!

У яе вялікіх цёмна-блакітных вачах свяціўся непадробны спалох.

— Не бойся! Мяне ён не кране. Што я яму?

Ён выладаваў воз, запрог каня. Едучы, успамінаў той мінулагодні зімовы буран, які насціг яго на гэтай дарозе. За Аляксееўкай — там, дзе дарога наблізілася да поймы Самаркі і ішла паміж кустоўя і тальніку, — Лявону здалося, што нехта крыкнуў. Ён азірнуўся і пачуў злое:

— Стой! Стой, сволач!

Да яго галопам накіроўваліся двое на конях. Мільганула думка: «Што рабіць?» Параўняўшыся з Лявонавым возам, асадзілі коней і падаставалі з-за спіны карабіны. Абодва даўно не голеныя, аброслыя шчаціннем.

— Хто такі? Куды ідзеш? Атвячай! — спытаў той, які падскочыў першы. Ноздры яго шырока набухалі, вусны крывіліся ад злосці.

— У Бузулук.

— А нашто? — уступіў у размову другі, які, відаць, падпарадкоўваўся першаму. У яго былі доўгія, як у малпы, рукі. Лявон успомніў, што такую малпу ён бачыў некалі ў Дэтройце ў звярынцы.

— З адзення трэба нешта купіць, з абутку. Сям'я ў мяне...

— Следуй за намі! — загадаў першы.

«Усё. Кранты! — падумаў прускавец. — Адвядуць убок ад дарогі і заб'юць. Такіх выпадкаў цяпер шмат. Звычайная справа...»

Аднекуль з ветрам данёсся царкоўны звон. «Адкуль? З Аляксееўкі? Здаецца ж, не свята? Паховіны? Каму ж гэта? Можа, мне?..»

Павярнулі ў бок Самаркі. Дарога стала вузкай і калдобістай, з абодвух бакоў абступала кустоўе, чарот. Адзін з коннікаў ехаў папера-дзе, другі — ззаду. Нарэшце яны прыехалі ў Вярзілінава логава. Лявон агледзеўся навокал. Вярзілінцы павылазілі з буданоў і займаліся хто чым. Кожны па-свойму бавіў час. Большасць аддавала перавагу картам і п'янцы. На памяць прыйшло слова «аргада». Лявон не помніў, дзе і калі ён яго пачуў, але яно стасавалася да таго, што ён убачыў. Апрануты хто ў што: гімнасцёркі, выцвілыя касавароткі, чырвоныя галіфэ, ліха заломленыя фуражкі, боты з бліскучымі халявамі. Хто ў салдацкім шынялі, хто ў сялянскім чапане ці кажуху. А вунь у чорнай вышыванай касаваротцы былы бузулукскі фатограф Дзёмка Жылінскі. Лявон яго пазнаў, бо некалі ў таго фатаграфаваўся.

«І зброя дзе папала, і не чысцяць, відаць».

Былі тут людзі і з сякерамі, і нават з віламі. Выйшла, значыць, так, што ўсе яны сабраліся разам.

Палоннага, пакінуўшы каня з возам, павялі да большага за іншыя будана, з якога чулася песня:

Все тучи, тучи понависли.
На море пал тума-ан.
Скажи, о чем задумался,
Скажи, наш атаман...

Ля будана іх сустрэў чалавек гадоў пад трыццаць у ссунутай на патыліцу кубанцы, шэрым мундзіры і шырокіх чырвоных галіфэ, увесь абчапляны зіхоткімі жоўтымі рамянямі. Канвойны з аспінамі на твары далажыў аб вяртанні з разведкі. Аказваецца, гэта яны былі ў разведцы. Песня аціхла.

— У чым справа? — прагрымела з будана. Лявон пазнаў магутны вярзілінскі бас: — Вядзіце сюды!

У будане яго чакаў сам Вярзілін — такі, якім прускавец яго і памятаў: шыракаплечы, здаравенны. Толькі апрануты па-вайсковаму: афіцэрскі мундзір, галіфэ з шырокімі лампасамі.

— Добры дзень! — сказаў Лявон.

— Здравія жалаю! — прагудзеў атаман і падаў руку. Жэст быў па-вярзілінску шырокі — ажно зарыпела скуранка, што туга аблягала круглыя атаманавы плечы. З-за пояса ў яго, заўважыў Лявон, тырчэў цяжкі браўнінг.

У будане знаходзіўся і запалонаўскі гарманіст Ванюшка Чапурных.

Абставіны не абяцалі нічога добрага, і страх у арыштаванага не праходзіў.

— Прысядзь! — не то запрасіў, не то загадаў гаспадар, надзьмуўшы свае тоўстыя губы.

— Сядай, калі запрашаюць! — як бы прадубліраваў атамана Ванюшка. Нездарма, відаць, быў вярзілінскім ардынарцам.

Атаман падсунуў бліжэй да Лявона шклянку і наліў — поўную, да краёў, — самагонам з вялікай бутлі. Самагон меў нейкі шызы колер, нібы ў яго далілі крыху малака.

— Выпі! Савецкая ўлада выпіць не дасць, — сказаў Вярзілін.

Лявон выпіў і занюхаў кавалкам чэрствага хлеба. Як бы апраўдваючыся, Вярзілін прамовіў:

— Не сябруем мы з савецкай уладай, крыўдзіць яна народ! — і патлумачыў: — Бальшавікі! Хто распачаў вайну?! Бальшавікі! Грабюць сялян, а я не магу з гэтым прымірыцца!

— Рускі чалавек не робкага дзесятка, — невядома дзеля чаго і ў якой сувязі зазначыў Чапурных. Ён быў добра п'яны, круціў у руках і разглядаў бліскучы партсігар, які яму невядома як трапіўся.

Вярзілін паківаў ускудлачанай галавой:

— Далёка зайшла камісарская дыктатура! Ай далёка! Народ для іх што — плюнуць і расцерці. Галоўнае для іх камунізм, ды яшчэ каб па ўсім свеце! Бальшавікі ўсё разбурылі, усю дзяржаву... Цесна мне з імі! Мяняць трэба гэтую ўладу. Раней хоць жыць можна было...

— Цяжка цяпер, асабліва нам, бежанцам...

— Вот артылерыі ў нас няма, — паскардзіўся Вярзілін, — дрэнна без артылерыі.

«Дзіўны свет, — падумаў бежанец, — аднаму без хлеба і ботаў дрэнна, другому — без артылерыі».

— Да нас пойдзеш, калі скажу?

— Не, — пасля некаторай паўзы прызнаўся Лявон.

— Смела ты са мной размаўляеш!

— Вы ж ведаеце маё становішча: сям'я. Апроч мяне яшчэ пяцёра. Чатыры жанчыны і дзіця.

— Ну, дык што нам з табой рабіць?

— Мы тут у вас не збіраемся затрымлівацца, мы дадому хочам. Мы ж бежанцы, прыбышы...

Атаман на хвіліну задумаўся, засяродзіўшыся на чымсьці сваім. Па твары нельга было зразумець, пра што ён думае:

— Сястра вот у цябе пагібла. Антаніна. Я помню...

Прускавец нічога не адказаў.

— Ну, што ж, ступай! Скажаш: я адпусціў. Сам Вярзілін. Гэта на тот случай, ежалі мае людзі ўстрэнуць...

Лявон развітаўся, як бы саромеючыся і просячы прабачэння за свой выбар, і, прыгнуўшыся, выйшаў з будана.

— Што ж ты яго адпусціў? — незадаволена прабурчэў Ванюшка Чапурных.

Вярзілін крыва пасміхнуўся і, не глянуўшы на сябрука, сказаў:

— Ладна. Арол не ловіць блох.

Выйшаўшы ад Вярзіліна (пашанцавала!), Лявон падаўся да падводы, якая стаяла на тым самым месцы, дзе пакінуў. Вярзілінцы яе не

чапалі, бачачы, што затрыманы знаходзіцца ў атаманскім будане. Прускавец адвязаў лейцы, сеў на воз і развярнуў каня ў адваротны бок. Раптам востра адчуў боль у грудзях. «Сэрца, ці што? Ці, можа, ад страху, які перажыў? А было ж страшна! Вярзілін па сутнасці пашкадаваў, злітаваўся. Настрой у яго быў. Чалавек, выходзіць, і дрэнны, і добры адначасова...»

Нарэшце ён выбраўся з самарскай поймы, уз'ехаў на дарогу.

«...Дзіўныя нейкія стварэнні — людзі. З крайнасці ў крайнасць кідаюцца. Няма супакою. Але нічога: прыйдзе час — адумаюцца...»

I яшчэ думалася: «Звярэе чалавек у натоўпе, пра сябе забывае. Калі памеркаваць, дык усё ж такі кожны сам будуе свой лёс і сам за сябе адказвае».

Што тычылася яго самога, дык палітыка, а тым больш палітыканства яго ніколі не вабілі.

I яшчэ давялося раз бачыць Спірыдона Вярзіліна. Ужо ў самім Запалонным.

... Набліжалася восень, і настрой бунтаўшчыкоў пагаршаўся. Часцей здараліся ўцёкі, «дзезерцірствы» — як казаў атаман «Сценька Разін». Вядома, усё гэта адбывалася не толькі таму, што набліжаліся халады, а па нейкіх больш істотных, «нутраных» прычынах. Бавячы час у будане, Вярзілін з Чапурных больш маўчалі, нават калі пілі гарэлку. Зрэдку ўзнікаў кароткі дыялог:

— Згарэла ў мяне душа! — прызнаваўся і аднachасова скардзіўся «Сценька Разін». — Часам я сам сабе страшны. Ох!

Атаманавы настроі рэхам адгукаліся ў вуснах Ванюшкі Чапурных:

— Аблажылі — сволачы! Аблажылі, мацъ іх так! Нам з табой, дружа, ходу тут няма! Ну і дзялы!

Ён браў у рукі гармонік і спяваў надрыўную «То не ветку ветер клонит» і калі даходзіў да слоў:

Расступись, земля сырая,
Дай мне, молодцу, покой,
Приюти меня, родная,
В тихой келье гробовой...

— дык плакаў. Разам з ім пускаў слёзы сам атаман.

Вярзілін доўга думаў і нарэшце вырашыў прад'явіць жыхарам Запалоннага, а найперш валвыканкому ультыматум: калі не збяруць і не аддадуць яму паўтысячы золатам, дык ён спаліць вёску, а валвыканком выража. Ванюшка ўхваліў і падтрымаў гэтую яго думку ды яшчэ і дадаў сваю:

— Па пуду золата — і за мяжу! Адно выйсце. А там магчымасцей многа!

Заявіцца ў Запалоннае дамовіліся бліжэй да поўначы (зрабіць «візіт ветлівасці», як казаў фатограф Дзёмка Жылінскі). З раніцы Вярзілін выпіў пару пляшак старой, настоенай на травах літоўскай гарэлкі (якую рэквізавалі ў нейкага купца) і да вечара не прачынаўся. Вечарам падалі атаманавага каня — сажэннага росту, у адпаведнасці з седаком, які, паказваючы сваю сілу і ўладу, рэзка нацягнуў павады і падняў каня на дыбкі. Астатнія таксама паселі на коней.

Апоўначы ўзброены атрад мяцежнікаў напаў на Запалонаўскі валвыканком, у якім знаходзіліся, як аказалася, Сычоў з Кудрашовым. Абмяркоўвалі планы на бліжэйшы час, а заадно вартавалі валвыканком. Напад быў нечаканы. Сычоў з Кудрашовым не змаглі нават аказаць супраціўлення — усё адбылося знянацку. Прозвішча вярзілінцы не пыталі — адно толькі:

— Бальшавікі?

— Бальшавікі, — прызналіся абодва.

Іх тут жа завялі да рова і расстралялі. Целы ляжалі непрыбраныя і распранутыя да таго часу, пакуль у Запалоннае не прыбыў атрад чырвонаармейцаў на чале з камісарам Мальцам.

Мяцежнікі выламалі ў валвыканкоме ўсе дзверы, адчынілі шафы, знішчылі дакументы, за выключэннем загсаўскіх. Загсаўскія чамусьці пакінулі, але вырашылі перанесці ў царкву: там, маўляў, для іх месца.

Паграбіўшы валвыканком, пачалі грузіць на падводы тое, што заставалася яшчэ ў былой лаўцы Закалупіна.

Заняўшы Запалоннае, Вярзілін загадаў склікаць сход. У такіх выпадках ён гэта рабіў абавязкова. Калі сход сабраўся, Дзёмка Жылінскі, як самы ініцыятыўны, зрабіў крок наперад. Лявон пачуў, як ён крыкнуў:

— Жыды, бальшавікі і камісары — выхадзі!

Такіх, вядома, не аказалася. Пяцельнікаў, ячэйкаўцы і камунары пахаваліся хто дзе змог. Не відаць было ні Мішы Касякіна, ні Таццянкі, ні каго-небудзь з іх кампаніі. Дзёмка вытрымаў паўзу і аб'явіў:

— А зараз будзе гаварыць сам атаман!

Вярзілін выйшаў уперад. Зняў шапку, пакланіўся, перагнуўшыся ў поясе і схіліўшы галаву так нізка, што звесіліся наперад ужо з сівізной, валасы.

— Ці-іха! — крыкнуў Ванюшка Чапурных, які знаходзіўся побач з атаманам.

— Мы — партызанскія рэвалюцыянеры. Мы супраць камісараў і жыдоў па ўсёй Расее! — пачаў Вярзілін. — Вы яшчо не ведаеце Вярзіліна! Пражылі мы ўмясцях нямала — далжны ведаць! Я што — вораг сялянству? Нет! Не вораг! Мы за волю і зямлю для народа, за тайнае і роўнае галасаванне ў Саветы! — пры гэтых словах Спірыдон падняў шапку і бразнуў яе аб зямлю.

— Правільна! — пахваліў нехта з запалонаўцаў.

— Строга папярэджваю, — атаман падняў свой вялізны кулак над галавой, — каб камуна разышлася! Я грамату, можа, і не надта ведаю, аднак два разы адно і тое ж не паўтараю!

Лявон убачыў яго зведзены сутаргай твар, ашалелыя, ажно лезлі на лоб, вочы. Усе напружана слухалі. Вярзіліна было не стрымаць, ён гаварыў і гаварыў:

— Серп і молат — смерць і голад! Гэта я вам гавару! Камуністы — ворагі працоўнага сялянства! Яны ашукваюць нас! Мы вот на іх машынах не ездзіем, так пускай і на нашу зямлю не суюцца!..

Атаман гаварыў доўга, часта павышаючы голас. Яго людзі між тым рабілі «прыпасы», шукалі харч і гарэлку, бралі коней. Добрая палавіна коней, якія належалі камуне, была захоплена. Хто быў пешы —

стаў конны. Зарэзалі таксама некалькі авечак. Скаціну хацелі раздаць сялянам, але тыя адмахнуліся ад такіх дароў. Адны дадуць — другія забяруць. Нехта прапанаваў:

— Спаліць гэту камуну к чорту!

Сарокін спрабаваў хоць крыху суняць таварышаў:

— Дык гэта ж не іх! Гэта купца Нікабалава пабудовы! Тое, што засталося. Нікабалаў яшчо вазвярнёцца!

Але яго ніхто не слухаў. Падпалілі барак, з якога выбеглі дзеці і жанчыны. Касцёр узвіўся на ўсю акругу. У зыркім святле заззялі пазалочаныя крыжы на царкоўных купалах.

Вярзілін зірнуў ашалелымі вачыма на крыжы і спыніў прамову. Усе бачылі, як ён кінуўся да папа. Чутно было, як атаман гулка, нецярпліва забарабаніў у дзверы, потым у акно. Айцец Сергій не спаў — усё адно як чакаў гэтага дзіўнага візіту. Быў даўно апрануты і адчыніў начному госцю. Атаман кінуўся ў ногі святару:

— Пакаяцца хачу, бацюшка, паспавядацца...

— Усе мы грэшныя, сын мой.

— Цяжка мне, — прызнаўся Вярзілін, — цяжало!.. — ён гулка бухнуўся лбом аб падлогу, крыху прыўзняўся і, давячыся словамі і задыхаючыся, пачаў расказваць, колькі давялося яму перажыць, быць жорсткім, паліць і забіваць. Потым яго пачало ванітаваць. Твар айца Сергія, спачатку жывы і ўспрымальны, застыў, зрабіўся як каменны.

— Я ўжо табе, Спірыдон, не дапамагу, не ў маіх сілах. На плошчу ідзі ды ўсенародна, на каленях кайся...

Вярзілін няўцямна падумаў, што толькі што ён стаяў перад імі, людзьмі, народам, і гаварыў! Але каяцца!..

— Толькі так ты ачысцішся, — гучаў голас айца Сергія.

За сценамі папоўскага дома затупацелі коні. Пачулася ржанне. Спірыдон збольшага ачомаўся, павярнуў галаву да акна, праз якое відаць быў пажар і людская мітусня. З клубоў дыму вылятalі ўспененыя коні з седакамі і без седакоў. За акном крычаў Ванюшка Чапурных:

— Айда, Спірыдон, уходзім!

Вярзілін падняўся з падлогі.

— Красныя, красныя! — не пераставаў лямантаваць Ванюшка.

— Ну, што ж, бывайце, айцец Сергій, — кінуў Вярзілін і выбег на вуліцу.

Як аказалася, у дагонку за Вярзіліным кінуўся чырвоны атрад на баявых аўтамабілях з кулямётамі, так званы ЧООН (Чрезвычайный отряд особого назначения). Інакш кажучы, карнікі. Адыходзіць давялося спешным парадкам, мінаючы сваё пастаяннае стойбішча. Атаман і яго людзі ўзялі кірунак на поўдзень. Болей у гэтых краях іх не бачылі. Потым запалонаўцы ўсё-такі дачуліся, як склаўся лёс іх авантурнага земляка. Ён апынуўся ажно пад Царыцыным. Няўлоўнага Спірыдона Вярзіліна соннага застрэліў у 1921 годзе яго задушэўны дружок Ванюшка Чапурных (гэтым разлічваў на палёгку ў пакаранні за зробленыя злачынствы). Ці атрымаў ён тую палёгку — пра гэта ніхто не ведаў, і больш Ванюшку ніхто нідзе не сустракаў.

# ЧАСТКА ПЯТАЯ

## I

Пасля таго як «вярзіліншчына» ў ваколіцах Запалоннага аціхла, вярнуліся Пяцельнікаў, Чудайкін і іншыя, хто вымушаны быў хавацца. Паявіўся, пасля курсаў Усевобуча ў Самары, Міша Касякін. Усе яны адчувалі сябе ў небяспецы: а раптам аб'явіцца які-небудзь новы Вярзілін. Таццянка ўпрасіў Мішу (сам так і не спазнаў граматы) скласці заяву. Той напісаў:

*«У Бузулуцкую чразвычайку*

*Старшыня камуны «Таварыш Троцкі» Таццян Чудайкін просіць выдаць яму зброю ў віду таго, што на яго якабы рыхтуецца замах.*

*К сему Чудайкін».*

Зброі Таццянка не дачакаўся, але з Бузулука завітаў яшчэ адзін чалавек, таксама ўзброены, з наганам. Прыехаў ён з партыйным даручэннем на месцы разабрацца, што адбываецца ў гэтым Запалонным. Прозвішча прыезджага было Малец. Высокі, светлавалосы, яшчэ малады. Казалі, што з бежанцаў, недзе з-за Мінска.

Тым часам набірала моцы зіма. Белымі каснікамі завівалася вакол платоў замець. Ноччу з усеянага зорамі неба падалі знічкі, пакідаючы за сабой бледныя пісягі святла. Кусаў шчокі ранішні марозік.

Пяцельнікаў адчуў сур'ёзнасць моманту і адразу пачаў дакладваць таварышу Мальцу «састаяніе дзел». Яно было нездавальняючым. Улада мянялася неаднойчы. А тут яшчэ выбухнуў мяцеж. Загінулі незабыўныя таварышы Сычоў і Кудрашоў. Барацьба абвастралася.

— Усюды здрадніцтва! — скардзіўся і абураўся Пяцельнікаў. — Для рэвалюцыі, таварыш, патрэбна чыстае грамадства. Нягоднікаў мы пад ногаць! Новыя людзі павінны быць чыстыя!

У Мальца на гэты конт былі іншыя меркаванні:

— А хто нам тых чыстых дасць? Адкуль?

— Прыедуць таварышы з гарадоў...

Мальцаў твар пасуровеў:

— Доўга чакаць. Трэба абыходзіцца тымі, што ёсць.

— Як так? — не здаваўся Пяцельнікаў, па звычцы размахваючы рукамі і нязграбна прыгладжваючы рудую шавялюру на галаве.

— А вось так, — тлумачыў прыезджы, — чаку ў Запалонным давядзецца закрыць. Шкада, канешна, загінуўшых таварышаў...

— Чака — арудзія класавай барацьбы! Як жа без чакі? Нам неадкладна нада правесці вобыскі. Павальныя вобыскі! А як гэта зрабіць без чакі?

Малец стаяў на сваім:

— Павальныя вобыскі могуць быць праведзены толькі з дазволу мясцовага Савета.

— За дазволам дзела не стане.

— Очань увлякла цябе барба, таварыш Пяцельнікаў. А ўпрочым, з кем не случаецца...

— Не зашкодзіла б, яснае дзела, стральнуць пару чалавек...

— У такіх расстрэлах няма ніякага сэнсу! За расстрэлы прымусяць адказваць. Рэвалюцыя — гэта не расстрэл! Гэта брацтва працоўных усяго свету, роднасць душ і сэрцаў! Вось што такое рэвалюцыя!

Пяцельнікаў пацiснуў плячыма: «Ну і гаварун ты, таварыш Малец! Хто толькі навучыў цябе?..»

— Нардом у вашай дзярэўне ёсць? Здаецца, няма?

Пяцельнікаў зноў пацiснуў плячыма:

— Няма.

— Пра гэта трэба думаць. Нардом — гэта штаб, дзе ідзе барацьба за чалавечы матэрыял!

Праз нейкі час, адразу ж пасля новага года, Пяцельнікава з Запалоннага адазвалі ў сувязі з пераходам на іншую працу. Палічыў патрэбным пакінуць запіску:

*«У валасное бюро*

*Прашу мяне з 10 студзеня лічыць выбыўшым у павет па справах службы на няпэўны час.*

*З камуністычным прывітаннем,*

*С.Пяцельнікаў.*

*10.I.1919»*

За старшыню валвыканкома застаўся Малец. Таму не трэба было пазычаць арганізатарскага імпэту. Ажыццявілі яго прапанову наконт нардома, пад які занялі ўсё тую ж каравулку і далі новай установе назву імя незабыўнага таварыша Фралова. Валвыканком стварыў «культурную» камісію, драмгурток. Пры нардоме адкрылася бібліятэка — ажно дзвесце кніг, якія прыслалі з Бузулука. Бібліятэкарам прызначылі сына Галёнкі Мікітку. («Ён ужо стаў як рускі!» — гаварыў пра Мікітку Гамон.) І знешне многае памянялася, бо з павета даслалі агітсродкі. Голыя сцены каравулкі набылі некаторую аздобу. Пачапілі намаляваны на вялікім аркушы паперы лозунг: «Уставай, праклящцем заклеймёны!» Побач плакат: мускулістая жанчына з малатком у руцэ і надпіс: «Что дала Октябрьская революция работнице и крестьянке». Жанчына паказвае на дамы з шыльдамі: «Библиотека», «Школа», «Изба-читальня», «Дом матери и ребенка»...

Работу нардома Малец вырашыў пачаць з лекцыі «Прычыны падзення і ўрокі Парыжскай камуны», з якой меўся выступіць асабіста. Назбіралася шмат народу. Цьмяна гарэла падвешаная да столі газнічка, і не ўсе заўважылі, як з'явіўся Малец, агладжваючы далонню светлавалосую галаву. Яго яшчэ мала ведалі. Першы спахапіўся, згледзеўшы начальства, Іван Нямцоў:

— Слыш, аратар прышоў!

— Дзе, дзе?

— А вунь!

Малец узяў слова:

— Таварышы!

Каравулка аціхла.

— Я раскажу вам пра Парыжскую камуну. Яна хоць і даўно была, але нам, можна сказаць, зрадні, блізкая, хоць і мела месца ў Фран-

цыі, як аб том сведчыць яе назва. Гэта, таварышы, была вялікая падзея ў жыцці міравога пралетарыяту, аднака, гаворачы пра Парыжскую камуну, нялься не ўпамянуць пра Французскую рэвалюцыю, якая мела месца яшчэ да гэтага.

Дакладчык пачуваў сябе нязмушана. Ён асвятліў ролю Марата ў гісторыі Французскай рэвалюцыі, расказаў пра жорсткую барацьбу якабінцаў з жырандыстамі і толькі тады вярнуўся да падзей Парыжскай камуны, якую тут жа раскрытыкаваў за буйныя памылкі, дапушчаныя камунарамі. Пасля падзення Камуны генерал Галіфэ абяцаў заплаціць тысячу франкаў таму, хто знойдзе і выдасць яму сцяг Камуны.

У каравулцы засмяяліся. Прычынай смеху было дзіўнае прозвішча. Прамоўца не зважаў на жартоўны настрой сваіх слухачоў.

— Аднак, таварышы, сцяг так і не трапіў у яго рукі, і вось цяпер ён аб'явіўся ў Расіі і горда развяваецца над рэвалюцыйнай масай. Гэта — чырвоны сцяг! Таварышы! Памылка парыжскіх камунараў была ў тым, што яны не знайшлі агульнага языка з сялянамі. Нам, таварышы, гэту памылку нада ўлічыць!

Потым выканкомаўскі старшыня гаварыў пра становішча ў краіне.

— Пра дутаўцаў, таварышы, ужо не чуваць. Арэнбургскія і ўральскія казакі адхлынулі ў стэпы Казахстана, а затым падаліся ва Усходні Кітай. На поўдні, таварышы, Чырвоная Армія падышла да Навачаркаска. Добрыя весці паступілі з поўначы, з Архангельска! Там — савецкая ўлада, англійскія і іныя войскі паехалі дадому. Буржуазная панская Польшча пачынае беспакоіць! Здесь нада думаць.

Пры гэтых словах бежанцы прыкметна ажывіліся, загаманілі.

— Наша задача, — працягваў Малец, — усямерна дапамагаць фронту, дапамагаць гораду, якому пагражае кашчавая рука голаду. Для гэтага мы вымушаны праводзіць развёрсткі і па зярну, і па скату!

— Скока можна? — прастагнаў нехта ў кутку.

— Нада, таварышы, нада! — развёў рукамі прамоўца. — Нічаво не здзелаеш.

Пасля даклада слухачы засталіся ў нардоме піць чай.

...Нардом не спыняў работы ні днём ні ноччу. Зласліўцы казалі:

— Які гэта нардом? Сарай! Накураць так, што не знюхаць!

— Падлога ўся заплявана, а ў царкве паспрабуй плюнь!

Але людзі ішлі валам. Прыходзілі камунары, моладзь. У нардом часта заглядалі і бежанцы.

Зімою 1920 года нечакана вярнуўся з Чырвонай Арміі Міша Ясеў. Ён не быў падобны на свайго брата Грышку — незласлівы, мяккі, ціхмяны, але разам з тым і кемлівы.

Пры народным доме ўжо працавала танная сталоўка. Сюды і завітаў дэмабілізаваны. Ён не распранаўся. Толькі зняў з галавы пакамечаны вастраверхі шлем.

— Ну што, не пакінулі цябе ў арміі? — ухмыляючыся, пацікавіўся Галёнка. — Маглі б камандзірам зрабіць, дык от жа не зрабілі.

Служба ў Чырвонай Арміі была вялікай школай і дарогай наверх — у шэрагі кіраўнікоў. Пра гэта ведалі ўсе.

— Лішнім, стала быць, аказаўся, ці як? — прыстаў і Гамон.

— Ды не! Я, як бы вам сказаць, у палоне пабываў...

Міша, па ўсім відаць, быў галодны, еў паспешліва.

— Раскажы! — падахвоціў яго брат Грышка, які, мусіць, ужо чуў пра гэту гісторыю.

— Узялі нас белыя пад Бугурусланам. Выйшлі мы з разведкай, паўзём... Раптам цэлая кагорта на конях. Паперадзе — афіцэры. Убачылі нас. А нас усяго трое. Што рабіць? Схапілі, звязалі, рукі — назад. Іхні афіцэр усё шабляй махаў: «Зарублю, красная сволач!..»

Падсеў Таццянка Чудайкін, які цяпер пастаянна ашываўся ў нардоме, таксама пачаў слухаць. Глядзеў на дэмабілізаванага строга і з недаверам.

— Павялі нас у штаб пад канвоем, — працягваў Міша. — А канвой хто? — Усё наш брат, селянін. Дарогай пытаюцца: «Што там у вас набальшавікі народ забіжаюць, крыўдзяць? Цэрквы грабюць?» Бачу, народ свой, — кажу ім: «Эх, братцы, пустое гэта дзела... Няпраўду вам гавораць. А ў вас што?» — «Ну, а нам, — кажуць, — жыцця ад іх няма. Замучылі. Зямлю адбіраюць. Па зубах б'юць. Падаткі якія... Адно слова — старую машыну заводзяць. Мы і то думаем...» Я зразумеў, часто ён хоча. «Эх, братцы, — кажу, — недалёка тут нашы чырвоныя стаяць. Бяжым...» Іх чацвёра чалавек — канвою. Паглядзелі па баках: нікога няма блізка. Кругом аўрагі. Лясок там-сям. Цішыня. Пад вечар справа была. Развязалі яны нас, рукі вызвалілі... Глянуў я на іх: «Ну, рабяты, айда!» І пайшлі! Аўрагамі-та, аўрагамі-та ідзём, крадзёмся.

Лявон звярнуў увагу на Мішыну мову — ужо зусім мясцовую, запалонаўскую. Не ўсе прускаўцы гэтак умелі.

— Ну, тут і нашы недалёка адышлі. Народ нас абступіў... Ну і смеху! Мы, слыш, да іх у палон трапілі, а выйшла наадварот, яшчэ чацвярых з сабой прывялі. Агледзеліся яны навокал, бачаць, усе свае, таварышы. Усміхаюцца. Радыя...

— Выходзіць, што ты герой! — ажывіўся Пятро Ламака.

— А што! — падтрымаў яго Гамон.

— Н-не, — запярэчыў Чудайкін, — у палоне ён усё-такі быў. Няшмат, але быў! Тут нада строга!

Аспрэчыць Чудайкіна ніхто не рашыўся. Апошнім часам яго называлі Чудайкін-Жарэс.

Бежанцы толькі пакруцілі галовамі. Паспрабуй зразумей, што да чаго. Цяжка было асвоіць і ўсвядоміць усе гэтыя новыя парадкі і патрабаванні. Каб на іх паморак!

Чудайкін-Жарэс паўзіраўся на Мішавы ногі:

— Боты ў цябе дабрэнныя! Дзе ж ты іх узяў?

— У буржуеў адабраў.

Усе з зайздрасцю паглядзелі на Мішавы боты.

Вечарам паклікалі на лекцыю «Рэлігія — опіум для народа». Лектар — таварыш з Бузулука.

— Дзівакі! Не бог стварыў чалавека, а чалавек бога! — даводзіў лектар. — Запомніце гэта назаўсёды, таварышы! Усё астатняе — ідэалізм!

Усе зацiхлі і знепрытомнелі, калі лектар сказаў, што чалавека нарадзіла малпа, а Галёнкава Аляксейчыха плюнула.

— Газеты пішуць... — накінуўся на яе сын Мікіта, жадаючы, мусіць, і сваю дасведчанасць паказаць.

Спрэчка пра паходжанне чалавека доўжылася і пасля лекцыі.

— Дык што ж яны, чорта на покуцці садзіць збіраюцца? — пыталася Ламакава Апраска.

Заставалася толькі здзіўляцца.

## II

Народ ахвотна ішоў на ўсе гледзішчы, якія ладзіліся ў нардоме. Неяк запалонаўцам кінулася ў вочы папера, што вісела на шчыце каля валаснога будынка. У ёй паведамлялася, што ў чацвер у нардоме імя таварыша Фралова мае адбыцца камсамольскае вяселле. Цяпер у Запалонным, дзякуючы старанням новага старшыні валвыканкома таварыша Мальца, побач з партыйнай ячэйкай існавала і камсамольская. Запалонаўскія камсамольцы настолькі паміж сабой згуртаваліся, што ў вёсцы гаварылі: «Камсамол бліжэй радні!» Цікаўных, што хацелі трапіць на камсамольскае вяселле, было шмат. Народу набілася процьма. Не ўсім, вядома, хапіла месца. Многія (усё роўна як «запарожнікі» на прускаўскім вяселлі) тоўпіліся ў сенях і пад вокнамі.

Бежанцы таксама не ўтрымаліся, каб не прыйсці. Цікава! Жаніх і нявеста — на сцэне ў акружэнні моладзі, камсамольцаў, сярод якіх Лявон заўважыў Галёнкавага Мікітку. Малады апрануты ў карычневы фрэнч, на грудзях — чырвоны бант. Маладая ў скураной тужурцы, з-пад якой высвечваўся каўнерык белай кофтачкі. Крыху дзіўна глядзелася і чырвоная касынка, завязаная збоку акуратным вузельчыкам. Маладыя, радасныя і ўсхваляваныя, пра нешта перашэптваліся паміж сабой. На сталах талеркі, нейкая закуска. Усе звярнулі ўвагу на тое, што не было гарэлкі.

— Скора ж яны сварганілі вяселле энта! — засмяяўся нехта з запалонаўцаў.

— Да-а...

— А што? Цяпер свабодная любоў. Кожнаму — пажаласта! — адказаў Тацянка, які знаходзіўся ў гушчы моладзі.

— Ніякага кахання не можа быць, пакуль рэвалюцыя не скончыцца, — запярэчыў яму Міша Касякін, не зважаючы на Тацянкаву пасаду старшыні камуны і яго новае прозвішча Чудайкін-Жарэс.

— Раней іх да самага вяселля крапівою сцягалі, а цяпер, глядзі, намі камандаваць хацят! — бурчэў Герасім Рэпін.

Моладзь, што акаляла жаніха з нявестай, шмат курыла. Хлопцы, відаць было, даўно не стрыгліся і выглядалі залішне лахматымі. У некаторых валасы спадалі ажно да носа, закрываючы вушы і вочы.

Зайграў гармонік, і нехта з хлопцаў не вытрымаў і зайшоўся гуллівай частушкай:

Я не буду воду пить —
Вода ключевая.
Я не буду жену бить —
Жена молодая.

У натоўпе засмяяліся, пачуўшы, магчыма, нейкія новыя павевы ў гэтым спяванні.

— Не, не так! — перахапіў ініцыятыву новы пявун — таксама, відаць, з камсамольцаў.

Комсомолочка Анюта,
Пойдем вместе воевать —
Буду бить я с пулемета,
Ты — патроны подавать...

У залі зноў пачуўся незласлівы, паблажлівы смех. Людзі цешыліся з гэтага незвычайнага адовішча. Сын Філіпчыкава — камсамольскі сакратар з доўгай грывай чорных валасоў — высока падняў руку, жадаючы суцішыць гаману. Калі зала паступова аціхла, сакратар пачаў:

— Здавён, таварышы, чалавек марыў пра залаты век, пра справядлівыя адносіны паміж людзьмі! Колькі часу прайшло — нават страшна падумаць! Колькі было гора і слёз! І вось нарэшце гэтая мара пачынае збывацца. Надыходзіць залаты век камунізму! Ён уваходзіць у наш быт, у маладую сям'ю! Гэта — пачатак новай гісторыі, таварышы! І пачынаецца яна сёння, таварышы, здзесь!

Пасля гэтага сакратар, пераведшы дых і крыху прыгладзіўшы на галаве лахматыя валасы, звярнуўся да маладых:

— Іменем Савецкай рэспублікі і камсамола вы па добрай волі ўступаеце ў сумесны шлюб! Каб далей ісці ўмясцях! Умясцях бароцца за савецку ўласць! Мікалай! Ці згодзен ты ўзяць на сябе абавязкі мужа?

Малады кіўнуў галавой:

— Згодзен.

— А ты, Аўдакея, ці згодна быць яво жаной?

— Усё адно як поп, — зазначыў нехта ззаду.

— Я сагласная, — пацвердзіла Аўдакея, сарамліва ўгнуўшы галоўку ў чырвонай хусцінцы.

— Ну, тада ўсё ясна! Будзем садзіцца за стол! — абвясціў сакратар.

— Горка-а! — закрычала публіка.

Маладыя спачатку саромеліся, а потым сціпла пацалаваліся.

— Дык цяпер яе ўсім можна цалаваць, бо нявенчаная! — засмяяўся Нямцоў, і ўсе згодна зашумелі.

— Ну ты ў мяня пасмейся! — памахаў яму пальцам Таццянка, усаджваючыся разам з моладдзю за сталы.

Рэпін, пачухаўшы за вухам, выказаўся грамчэй:

— Мы не маглі так, як цяперашняя моладзь дазваляе сабе!

— Пра мараль забылі, — азваўся яшчэ нехта.

Гэта пачуў камсамольскі сакратар, які кіраваў вяселлем:

— Мараль? Заткніся з сваёй мараллю — ведаем мы вашу мараль!

— Каб жыць, трэба ўбядзіцца, — тлумачыў некаму Таццянка, беручы са стала закуску і мнучы яе бяззубымі дзяснамі.

Зноў зайграў гармонік, але, відаць, зарана, бо тут жа змоўк. Вясельнікі перакусвалі.

— Вунь, кажуць, у Аляксееўцы, бальшавікі дзеўку згвалцілі, — сказала нейкая з жанчын.

— Саўраціцелі! — пачулася ззаду.

За сталом абурана зашумелі.

— Ну, калі так, — узлаваўся сакратар, — дык прашу ачысціць памяшчэніе! Не трэба нас вучыць! Знайшліся...

Хацелася хоць трохі паглядзець на тое дзіўнае вяселле, але загад сакратара давялося выканаць.

Апошнім часам Пленбеж узяўся дапамагчы з абуткам. Прыслалі некалькі скрынак чаравікаў. Размеркаваннем чаравікаў займалася ячэйка. Увесь абутак, на жаль, як бы хто насмяяўся, аказаўся аднаго памеру.

— Усё роўна ўсім не хопіць — па адной пары на сям'ю, — апраўдваўся Міша, які дзяліў тыя чаравікі паміж бежанцамі. — Мы так і бралі, каб нікому крыўдна не было і каб роўнасць саблюсці.

Дзялёжкай лапцей (дасталася пара і Мікіце) таксама займалася ячэйка. Але што тыя лапці — тыдзень пахадзіў, і яны рассыпаліся.

— А боты?

— Боты і нам трэба, — адказвалі ў Пленбежы. — Не хапае ботаў. Цяпер пакуль што лапці даём, а пры сацыялізме боты атрымаеце! Без усякіх турбот, бясплатна бяры і насі! Вось так, таварышы!

З Безымянкі Лявон прывёз для маці пару пасталоў. Тры рублі заплаціў — дорага, вядома, але Марыля была задаволеная, на двары ўсё ж — сярэдзіна зімы. У лютым прадстаўніка запалонаўскіх бежанцаў тэрмінова выклікалі ў Бузулук, у Пленбеж. На гэты раз ехаць давялося Лявону. Паважаная ўстанова знаходзілася на рагу вуліц Трэцяга Інтэрнацыянала і Германскай Рэвалюцыі (былыя Дваранская і Губернатарская). У памяшканні, за перагародкай, сядзеў пісар і, крывячы вусны, смаліў самакрутку. Апрануты ў выцвілы фрэнч вайсковага крою, з вялікімі накладнымі кішэнямі. Твар пляскаты, з шырокім ротам і носам-бульбінкай.

— Адкуда вы?

— З Беларусі.

Лявон зняў шапку, прыгладзіў на галаве чубчык.

— Запоўніце анкету! — пісар падаў разлінеены аркуш паперы.

— Нашто гэта?

— Нашто — гэта вас, таварыш, не датычыцца. Учот далжон быць.

— Дык вы ж нас каторы ўжо раз перапісваеце.

— Мала лі што! Жызнь нясёт змяненні. Тада было адно, цяпер — другое.

Лявон падумаў, што яго суразмоўнік мае рацыю. Той працягваў:

— Абстаноўка ў вас, таварышы, складаная. Вот газеты пішуць пра яўрэйскія пагромы ў Польшчы...

— Пазвярэлі людзі! — уздыхнуў пruskавец.

Пісар уважліва на яго паглядзеў, як бы гадаючы, куды ён хіліць і што мае на ўвазе. Бежанец выкарыстаў гэты момант і пачаў гаварыць, хочучы пераканаць чыноўніка:

— Увайдзіце ў наша здзешняе безвыходнае становішча. Мы ўжо не маем больш сіл чакаць. Стаміліся! Я вас убядзіцельна прашу. Паімейце снісхаждзенне. Мы тут факцічаскі чужыя. Нас насільна трымаюць. Вельмі просім. Няма такога закону, каб насільна людзей трымаць!

Пісар абмацаў свае кішэні, чагосьці шукаючы, зірнуў на Лявона:

— Пры чым тут закон? Вы мяне слухайце! Паляк жа, ізвеснае дзела, шашкай маша! Там апасна! Куды ж вас адпраўляць? Вы што?

— Нам дадому трэба, таварыш! — амаль выкрыкнуў бежанец. — Зразумейце гэта!

— Ну, харашо. Запрос мы здзелаем, хаця нас ужо папярэджвалі.

У гэты момант у пакой увайшоў мужчына з абвіслымі вусамі, таксама апрануты ў вайсковы фрэнч, павярнуўся да Лявона і строга на яго паглядзеў:

— Штой-та ты громка гаварыць пачаў...

— На родзіну хацят, — растлумачыў пісар. — Бежанцы!

— Родзіна ёсць родзіна, — як бы завінаваціўся Лявон. — Трэба ехаць.

— Родзіна, кажаш? — Дзіўна! Хіба ты не ведаеш, што ў пралетарыяў няма родзіны? Увесь мір — наша родзіна! Ясна? Куды пашлюць — там і родзіна!

Лявон, каб не раздражняць пленбежаўцаў, нічога не адказаў.

Зноў загаварыў вусаты:

— Да-а, распаўзаюцца многія — фіны, латышы, палякі... Украінцы таксама ўбок глядзяць. Ро-одзіна! — ён матлянуў галавой. — Прыдумаюць жа!

Лявон зноў прамаўчаў. Так ні з чым ён і вярнуўся ў Запалоннае.

— Ну як? — запытала Марыля.

— А ніяк! Мы, кажуць, цяпер пад Польшчаю, а з палякамі замірэння няма.

— Ці будзе той мір калі?

Сын паціснуў плячыма і махнуў здаровай рукой:

— Канцылярскае засілле! Такога яшчэ не было.

Тут яго ўжо пачала суцяшаць Марыля:

— Ну, нічога, Бог не без міласці.

Афіцыйнага адказу чакалі доўга, але ён нарэшце прыйшоў. У ім пісалася:

*«Атрымана рэзалюцыя з цэнтра. На вашу заяву ад 20 лютага 1920 года за № 527 паведамляем, што адпраўка бежанцаў у Гродзенскую губерню ў цяперашні час не адбываецца. Аб часе такавой адпраўкі паведамім.*

*Пісар Чарнамырдзін».*

## III

Вясна дваццатага года прайшла неспакойна. Лявона ўсё больш адольвалі нейкая апатыя да ўсяго і разам з тым трывога. І не аднаго яго. Жыць стала горш, — гэта прызнавалі ўсе, — не высоўвайся, замест хлеба — дуля з макам, замест міру — вайна і вайна. І з генераламі вайна, і паміж сабой.

Асабліва пакутлівай была трывога ўначы. Колькі можа працягвацца такі ненатуральны стан рэчаў? Класавая свядомасць? А можа, гэта проста агрэсіўныя інстынкты? Чалавек ад прыроды зайздрослівы, грубы, прагавіты — хіба можна яго зрабіць іншым? А тут яшчэ і час такі, што людзей забраталі, як гаварыла Фёкла, варожасць і нянавісць. Тое, што ён пабачыў і перажыў, даводзіла да роспачы. Адны гатовы былі знішчаць другіх толькі за тое, што тыя думалі інакш, чым яны. Абяцаюць шмат і адны, і другія, але вызваленне ці палёгку чалавеку яны, калі так будзе, наўрад ці дадуць. У Амерыцы была ўсё ж такі свабода, а тут... Лявон успомніў пачутыя калісьці ў Амерыцы словы пра тое, што людзі, раней заняволеныя, не заўсёды бываюць гатовыя да свабоды. Відаць, я лішні сярод тых, хто будуе новы свет. Мне трэба заставацца ў старым. Па-новаму я ўжо не патраплю... Новы свет? Але ці не будуюць яны замест яго другую Вавілонскую вежу,

якую чакае лёс першай. Ён успомніў, як некалі расказваў пра яе ў Камянецкім народным вучылішчы айцец Нікадзім, што выкладаў Закон Божы...

Аднойчы, адарваўшыся ад сумных думак, ён пачуў, як на вуліцы трэнькала чыясьці балалайка.

— Таварышы! На мітынг! — пачулася за акном.

«Ісці на той мітынг ці не? Надаелі ўжо і мітынгі. Мітынгуюць да адурэння...»

А людзі ўжо ішлі, прагна спадзеючыся пачуць добрыя весткі. Лявон павагаўся, а потым рушыў і ён.

Мітынг, як звычайна, наладзілі на плошчы каля воласці. На ганку стаяла купка людзей — Малец і кіруючыя таварышы з Бузулука. Побач, на сцяне, вісеў каляровы плакат: «Красный подарок белому пану»: рабочы і чырвонаармеец узвалілі на плечы аграмадны снарад, прызначаны тоўстаму вусатаму пану, які таксама намаляваны на плакаце: стаіць убаку і трасецца ад страху, нават выпусціў з рук шаблю.

Калі людзей сабралася больш, слова ўзяў чалавек у вайсковым адзенні. Перад тым як гаварыць, зняў фуражку. Галава паголеная да бляску. Агледзеў натоўп.

— Таварышы! — пачаў ён прамову. — Як мы і ждалі таго, Польшча дзвінула на нас войскі! Палажэніе сур'ёзнае. Мы вынуждзены даць адпор! Рэвалюцыонный адпор! Па-пралетарску! Неабходзімы людзі, коні, правіянт! Я прызываю вас адклікнуцца і ўсе, як адзін, устаць на абарону савецкай улады!

— Хто? Што такое? — загаманілі ў натоўпе.

— Хто ідзе? — недачуў Гамон.

— Польская паньша ідзе на нас! — сыкнуў на яго Таццянка. — Яснае дзела!

— Хто ідзе на нас? — перапытаў Аляксей Галёнка, прабіраючыся наперад.

— Паньша нейкая... — здзіўлена сказаў Міхаль Тупчык.

— Польшча!

— Няўжо?

— Эх! Ну і дзялы!

Бежанцы ведалі, што яшчэ ў жніўні мінулага года польская армія ўзяла Мінск. А што цяпер?

Лысы аратар гаварыў, пераходзячы на крык:

— Палажэніе сур'ёзнае! Цыфры гаварат аб многім! У яго паўмільённая армія! Гэта — многа! І Антанта дапамагае! Адных толькі французскіх спяцоў тры тысячы!

— Ого! — дзівіліся запалонаўцы. — Апяць Антанта!

— Хоць яны і ўзброены да зубоў, мы пакажам ім нашу пралетарскую сілу! — крыкнуў прамоўца і памахаў кулаком. — На сцягах пралетарыята напісаны лозунгі нянавісці і помсты! Калчака разбілі, Дзянікіна, Урангеля — разаб'ём і Пілсудскага. Даёш Варшаву! Будзем змагацца, таварышы, пакуль буржуазія не ляжа ля нашых ног! Смерць міравой буржуазіі!

Нехта крыкнуў:

— Давай, давай!

— Правільна! — прарэзлівым голасам гукнуў Таццянка.

Падышоў задыханы Пятро Ламака:

— Што тут адбываецца?

— Не бачыш — што? З палякамі ваяваць збіраюцца, — пераказаў яму навіну Міхаль Тупчык.

— З палякамі?

З натоўпу нехта закрычаў:

— Дайце перадышку!

Наперад выйшаў Малец, абвёў вачыма людзей:

— Таварышы! Якая перадышка? Кіеў захапілі! Колькі можна? Потым будзе перадышка! Нада паднатужыцца! — выступовец перавёў дыханне і працягваў: — Тут трэба разумець! Дзела вот у чом! Як толькі мы наблізімся да Варшавы і ўвойдзем у яе, польскія рабочыя адразу ж узнімуць паўстанне і захопяць уладу. Вы разумееце?

— Ясна! — падтрымаў прамоўцу чалавек у вайсковым адзенні. — Дуй далей!

— Ура чырвонай Варшаве-е! — дружна адгукнуліся людзі, што стаялі на ганку. — Даёш Варшаву!

— Праз Варшаву мы пойдзем рэвалюцыйным крокам на Берлін — на злучэнне з нямецкім пралетарыятам! У імя сусветнай рэвалюцыі! — Малец высока ўзняў руку. — Няма ніякага сумнення, таварышы, што скора нашы сцягі запалымнеюць па ўсёй Еўропе! Усё згарыць у полымі міравой рэвалюцыі! Гэта непазбежна!

— Дзіва што! — азваўся Гамон, быццам і не дапускаючы інакшага варыянта развіцця падзей.

— Хто б з бежанцаў выступіў? — папытаў Міша Касякін, які таксама знаходзіўся сярод тых, што стаялі на ганку. — Ну? Упярод і з песнямі!

«Гэтак, — падумаў Лявон, — любіў гаварыць Ілья Аляксандравіч. Няма ўжо Ільі Аляксандравіча. Нябожчык...»

— Не-е, — ціха і як бы вінавата сказаў з першага рада Галёнка, — мы лепш паслухаем.

Усе прыдзірліва паглядзелі на яго. Асабліва тыя, хто знаходзіўся на ганку.

— Ты што, таварыш, як будта хлеба не еў? — здзівіўся вайсковец.

— Пітанія не важная... — паскардзіўся Гамон, тулячы галаву ў каўнер свайго падранага кажушка.

Жальбы і нараканні на «плохое питание» даўно ўжо ні для кога не былі навіною.

На гэтым мітынг скончыўся. Калі разыходзіліся, Пятро Ламака сумна ўздыхнуў:

— Ох, Беларусь нацярпелася!

— І ў той раз, і цяпер, — напомніў Галёнка.

— Ва ўсіх яна на дарозе — Беларусь... — згадзіўся з землякамі Лявон.

Бежанцы ў глыбіні душы, насуперак усялякай логіцы, усё чакалі: «А можа, скажуць ехаць? А можа, адправяць?» Пагэтаму іх усё хвалявала — і свой лёс, і лёс родных мясцін, што знаходзіліся недзе далёка на захадзе сонца.

— Цікава, што цяпер у Прусцы робіцца? — услых падумаў Міхаль Тупчык.

— Стаіць! — супакоіў земляка Гамон.

Іх дагнаў Таццянка.

— Аддасць вас Мархлеўскі пад Польшчу! — загадкава пасміхнуўся ён, як бы нешта тоячы.

Хто такі Мархлеўскі, ніхто з прускаўцаў не ведаў. Сам Таццянка таксама нічога пэўнага на гэты конт не мог сказаць. Чуў звон, ды не ведае, дзе ён.

— А палякі, што, як і мы, у Расіі апынуліся, ужо вяртаюцца, — паведаміла Куліна Каленік, якая ішла побач. — Андрэй учора быў, дык гаварыў.

Андрэй — Кулінін сын як тэлеграфіст пра ўсе навіны даведваўся першым.

— У Польшчу? — чамусьці перапытаў Ламака, да якога сказанае не заўсёды даходзіла з першага разу.

— Вядома, у Польшчу. Куды ж яшчэ? — агрызнуўся Таццянка.

— На родзіну, — удакладніў Гамон.

— Ну, так. Чачэрын пра гэта казаў, — зноў паказаў сваю дасведчанасць Таццянка.

— А для нас які выхад? — як бы падумаў услых Галёнка. У яго словах гучалі здзіўленне і разгубленасць адначасова.

— Выхад адзін: дадому трэба дабівацца, — пасля працяглага маўчання прамовіў Пятро Ламака.

— Трэба, трэба, — вінавата заківалі галовамі астатнія.

— Давайце паспрабуем яшчэ раз у Пленбеж звярнуцца, — прапанаваў Галёнка.

...У пачатку 1920 года польскі паўднёвы фронт быў прарваны і ў жніўні Чырвоная Армія аказалася ля сценаў Варшавы. Аднак захапіць яе не ўдалося...

Апошнім часам у камуне не ўсё ладзілася. Адольвала, як пошасць нейкая, безгаспадарчасць. Двор захламлены: разбітыя вазы, струхлелыя сані, рассохлыя колы без абадоў. Там-сям да плота прыткнуліся кранутыя рудою ржой плугі ды бароны. Пасярэдзіне, пад паветкай, стаяла скасабочаная жняярка. Безгаспадарчасці не маглі даць рады.

Скарацілася і без таго невялікая колькасць жывёлы. Мінулай восенню забылі ўцяпліць хлеў, і ад гэтага ў няшчаснай скаціны паменшалі надоі. Бліжэй да зімы адольвала бяскорміца. Даводзілася пазычаць сена і салому ў сялян.

Пачаў абурацца ўжо нават сам Чудайкін-Жарэс:

— Мінулым летам, калі я быў старшынёй, нашы каровы давалі па вядру ў дзень! А цяпер?..

Але, трэба сказаць, што і Чудайкін-Жарэс на новай пасадзе таксама дапускаў недагляды. Неяк прыгнаў ён з пашы кароў, і камунары адной не далічыліся. Згубілася, аказваецца, карова. Нямцоў гэта заўважыў — была цельнай, і яе ўвогуле не варта было выпускаць з хлява. Чудайкін-Жарэс, аднак, не зрабіў выключэння. Ён лічыўся старшым пастухом, а Нямцоў — малодшым і падпарадкоўваўся старшаму. Шукалі карову ўсёй камунай разам з Андронавым і знайшлі ля Самаркі ў карчах. Каля яе ляжала нежывое цялятка. Карова, быццам адчуўшы прысутнасць начальства, падняла галаву і неяк вельмі сумна паглядзела на новага старшыню. Ісці яна ўжо не змагла. Прыйшлося дарэзаць.

Прыкметна было, што некаторыя камунары аслабілі свой працоўны пыл, запанавала раўнадушша, абыякавасць да грамадскага дабра. Гэта заўважыў і сам Андронаў, які, назіраючы аднойчы, як Чудайкін-Жарэс выганяў статак на пашу, пачаў дакараць недалужнага пастуха:

— Пазнавата ты іх выганяеш, Таццян! Бачыш, дзе сонца?

— Нічога! Я іх даўжэй на пашы затрымаю! Я па-навучнаму!

Але Андронаў, звычайна цярплівы, на гэты раз быў яўна незадаволены.

— Па-навучнаму? Эх! — старшыня не вытрымаў і вылаяўся. — Карысці ад цябе, Таццян, як ад халастой дзеўкі малака...

— Ну, нашто так гаварыць, таварыш? Малако ёсць! Трэба вось сепаратар купіць — сліўкі адцэджваць. Хто хоча малако, а хто — сліўкі...

Старшыня больш уважліва зірнуў на Таццянку, нібы запытаць хацеў: «Ты што, Чудайкін-Жарэс, канчаткова здзяцінеў, ці як?»

— Які к чорту сепаратар — скот скараціўся!

Але Чудайкін-Жарэс і тут знайшоў што адказаць:

— У канцы канцоў авечак жа столькі!

— Дзівак-чалавек! Авечак даіць не будзеш.

Чудайкін-Жарэс прамаўчаў, бо з гэтым напэўна і ён быў згодзен.

Андронаў як старшыня з вялікай увагай ставіўся да ўказанняў і дырэктыў, якія спускаліся з цэнтра, як быццам там лепш ведалі, што рабіць, чым самі камунары. Ён ужо не мог без распараджэнняў зверху, рабіў толькі тое, што скажуць. Начальству, як вядома, відней. Але справы ўсё адно не ладзіліся.

Сабралі агульны сход камуны.

Гэты сход, можна сказаць, мала што даў. Становішча не паляпшалася, а пагаршалася. Заставалася, як казалі ў падобных выпадках у Запалонным, дзівіцца.

## IV

Цяжкая ў Мішы Касякіна работа. То развёрстка, то кантрыбуцыя, то рэквізіцыя, то мабілізацыя. І так — бясконца. Не паспее закончыцца адно, як наспявае другое, за другім — трэцяе. Ён ужо не раз, застаючыся адзін на адзін і лежачы на тапчане, разважаў сам з сабою: «Так яно і павінна быць. Правільна кажуць таварышы: жыццё камуніста — барацьба, бесперапынная барацьба. Трэба падпарадкаваць сябе жалезнай неабходнасці. Інакш нельга. Асабістае? Менш асабістага! — Міша ў чарговы раз адштурхнуў ад сябе гэтую назойлівую думку. — Не час для асабістага!» Асабістыя чалавечыя пачуцці ён лічыў перажыткам мінулага і вышэй за ўсё цаніў партыйнасць, духам якой быў прасякнуты, як яму здавалася, і ён сам. Не ўсе справы яшчэ параблены!

Вярнуўшыся позна вечарам дадому, ён запаліў лямпу, паеў хлеба з малаком і ўзяўся за дзённік.

*12 сакавіка 1920*

Няма Сёмкі Пяцельнікава. Кажуць, падаўся на фронт. Замест Пяцельнікава — Малец. Прыслалі з Самары. Пра Пяцельнікава ён сказаў:

— Для рэвалюцыі ён, таварышы, ужо вычарпаны! Нужны новыя кадры.

Ніколі з гэтым не згаджуся. Міравой таварыш быў! Нада цаніць тых, хто на мястах.

*16 сакавіка*

Думаў над тым, што адбываецца. Усё ж такі многа пабіта, многіх размяло. Што ж, дзярэўя рубюць — шчэпкі ляцяць. Гэта нада панімаць.

*17 сакавіка*

Паймалі аднаво на вуліцы, выдаваў сябе за чырвонаармейца. Пад канвоем адправілі ў Бузулук. Нада было на месцы кокнуць. Цацкаемся...

*18 сакавіка*

У камуне «Таварыш Троцкі» пайшлі нянужныя споры і сплетні. Гэта мне не нравіцца.

*30 сакавіка*

У камуне новы прадсядацель. Андронаў Макар. Чудайкіна-Жарэса асвабадзілі ад должнасці. Апошнім яго аргументам было: «Я, як вы ведаеце, пастрадаў за рэвалюцыю». Аднак увіду плахова палажэнія ў камуне па яго віне на гэта не абрацілі ўвагі.

*2 красавіка*

Цяпер нада ісці без астаноўкі. Некаторыя кажуць: «Рэвалюцыя і розум — розныя рэчы». Што ж, не сакрэт, перахлёсты здараюцца. Ідзём нязведанай дарогай. Нараджаецца новае жыццё. Роды, як бачыце, цяжкія, мы павінны аблегчыць іх, і чым стражэй мы будзем, тым лепш. Мысль правільная! Адкуль гэта я выпісаў? Навярное, з «Правды».

*5 красавіка*

Кое-где, слышна, бунтуюць. Незадаволеныя савецкай уладай есць. Нада гэта імець у віду. За народам нужон глаз да глаз. Яшчэ многа драні. Многа адсталых, каторыя гавараць: «Куды ж ета яны матушку Расею вядуць?» А мы ведаем, куды вядзём.

*8 красавіка*

Без зброі нашаму брату нельга. Харашо, што ў мяня рэвальвер. Хоць какой, аднак, есць. Рэвальвер — гэта ўлада, без яго я, пры ўсім аўтарытэце, нішто.

Запахла вясной. Работы прыбавіцца.

*16 красавіка*

Кажды імкнецца ў начальства, аднак не каждаму гэта ўдаецца. Не ўсякаму можна даверыць — гэта ясна. Прымер Чудайкіна паказвае...

*17 красавіка*

А Сібір-та, аказваецца, зноў шавеліцца. Таварыш адтудава расказвает чудзяса. Не знаю, верыць ці не? Камуністаў не расстрэльва-

юць, а пілуюць піламі або абліваюць халоднай вадой і замарожваюць. А яшчэ разбіваюць дубінамі чарапы, спальваюць жывымі, успорваюць жываты, набіваючы бруха зернем і мякінай, валочаць за бягучым канём, пратыкаюць калкамі, віламі, раскалёнымі пікамі, разбіваюць малаткамі палавыя органы, топяць у палонках і калодзежах. Пішу эта, і дрыжыць рука.

*21 красавіка*

Настаўніка арыштавала «чака». А как жа інакш? У школу было страшна зайсці. У памяшчэніі па-ранейшаму развешаны лікі святых. І на шыльдзе — стары надпіс: «Царкоўнапрыходская». І настаўніцкі персанал на чале з папом — той жа! Неізвесна, адкудава прыслалі гэтага настаўніка. Я яму не ў шутку гаварыў:

— Вучыш дзяцей любіць цара?

— Нет.

Вот табе і «нет». Усё правільна.

*13 ліпеня*

Эх! Дзе той Троцкі? Няўжо ён не ведае? Ува мне ўсё кіпіць.

*14 ліпеня*

Палажэніе сур'ёзнае. Адно слова — разруха. Мысль — как паесць. Работаць з людзьмі ціжало, задаюць нянужныя вапросы. Вапросаў многа. Калантай, кажуць, шые плацця ў Парыжы. Адкуль жа яна дзеньгі бяроць?

Прачытаўшы апошні запіс, Міша цяжка ўздыхнуў, лёг на ложак і доўга глядзеў уверх, на столь. Не заўважыў, як і заснуў. Летняя ноч кароткая. Разбудзіла яго песня. Спявалі «Чубчыка».

«Хто гэта? Што?..» — Ён глянуў у акенца. Праз Запалоннае ішло коннае войска. Сваё, здаецца, чырвонае. Кавалерыя. Міша хуценька апрануўся і выбег на вуліцу. Забыўся нават памыцца і пашыбаваў проста на плошчу, узіраючыся ў абліччы коннікаў. Відаць было, што вайскоўцы зморaныя, але нейкія ўзбуджаныя, усхваляваныя. За кавалерыяй шуганула пяхота. Хутка ўся вёска была запоўнена ўзброенымі вайскоўцамі, якія не таілі, хто яны. Называлі сябе паўстанцамі. За сялом, з боку Бузулука, на схіле яра, выставілі заслон, і калі паказалася чырвоная разведка, знялі яе стрэламі з вінтовак.

— Бальшавікі на бальшавікоў пайшлі! — загаварылі запалонаўцы. — Паміж сабой валтузню распачалі!

— Вот це раз! — разводзіў рукамі Андронаў.

— У Расіі ўсё бунты ды рэвалюцыі! Хто ведае, што яшчэ наперадзе чакае... — уздыхнуў Герасім Рэпін.

«Дык што, новая ўлада? — занепакоіўся Міша. — Як гэта разумець?» Ён успомніў, што кожную новую ўладу ў Запалонным сустракалі хлебам-соллю. Пабег, кульгаючы, у валвыканком. Яго спыніў вартавы з вінтоўкай. Мальца на месцы не аказалася (яшчэ ўчора падаўся ў Самару). Замест яго — некалькі вайскоўцаў. Відаць, камандзіры. Адзін — высокі, худы, з доўгай тонкай шыяй, што выглядвала з шырокага каўняра суконнай гімнасцёркі, — праццяў Мішу, як лязом, уважлівым позіркам:

— Кто таков?

Міша зніякавеў, але тут жа знайшоўся:

— Месны я. Па дзялам...

— Нікакіх дзялоў! — гаркнуў на Мішу другі вайсковец з панылым абліччам. —Ззывай народ на міцінг!

Міша пакульгаў у бок вёскі. Аднак склікаць нікога не трэба было, людзі сабраліся самі, бо кожны цікавіўся, што ж гэта такое дзеецца. Бальшавікі на бальшавікоў! На плошчы ля царквы як бы сам па сабе ўзнік мітынг. З валвыканкома выйшлі вайскоўцы, падкрэслена абвешаныя рамянямі і зброяй.

— А чаму ж не сустракаюць хлебам-соллю? — спытаў высокі і худы, у скуранцы, азіраючы натоўп. Ён быў, мабыць, самы галоўны.

— Трудна цяпер з соллю, — сказаў Таццянка, які з'явіўся на плошчу адзін з першых, забыўшы пра сваіх кароў, якія ўсё яшчэ стаялі ў стадоле.

Прыйшлі, не ўтрымаліся і бежанцы, Лявон, а з ім Фёкла.

Узяў слова высокі і худы:

— Таварышы красцьяне! Я камдзіў Сапажкоў! У прошлым простой красцьянін, а сёння камандую арміяй праўды! Паслушайце мяня!

На плошчы ўсталявалася цішыня. Лявон бачыў, як задраў уверх бараду Таццянка, слухаючы выступоўца.

— Мы не разбойнікі, мы — ідэйныя барацьбіты! Мы ваюем, атцы нашы пашуць землю, а ў дзяраўнях адбіраюць хлеб, масла! А хто адбірае — камісары! Грабюць народ! Вы былі рабамі памешчыкаў, а цяпер вы рабы камісараў! Гэта панімаць нада! — Сапажкоў перайшоў на крык: — Савецкая ўласць акружана ўрагамі! Хопіць карміць камуністаў! Далоў! Да здраствует народ! Працоўнага чалавека трэба любіць! Ён жа таварыш табе, рукі яго ў мазалях!..

Ззаду нехта заварушыўся:

— Дык што, і сапраўды без камуністаў жыць будзем?

Сапажкова змяніў вайсковец з панылым абліччам. Цяпер ён устрапянуўся, скінуў з сябе панылаcць:

— Таварышы! Я хачу вот пра што сказаць! Патрабаванні ў нас якія? Неадкладная адмена харчразвёрсткі, адмена харчатрадаў, свабода на гандаль, свабода слова, перадача ўлады ад бальшавікоў Саветам, свабодныя выбары! Карацей кажучы, улада Саветам, а не партыям!

Здзіўлены натоўп маўчаў. Міша Касякін з Таццянкам зашыліся ў заднія рады.

— Далоў камуністаў! Няхай жыве савецкая ўлада! Хай і савецкая, толькі без камісараў! Далоў! Афіцэраў былых — таксама! Пазаймалі камандныя пасады! Спецы знайшліся!.. Далоў спяцоў! Што яшчэ? Гандаль! Гэта правільна, гэта харашо! Няхай жыве свабодны гандаль! Далоў прадразвёрстку і прадкамісараў! Змагайцеся з прадатрадамі! Таварышы! Красцьяне, казакі! А таксама мусульмане! Усе граждане! Уступайце ў нашы рады, арганізуйце свае атрады, як і мы! Народ пакончыў з Калчаком, пакончыў з Дзянікіным, пакончыць з камунай! Наша дзела правае, з намі Бог!

— Ай да ну! — не вытрымаў нехта з запалонаўцаў, здаецца, Нямцоў.

— Няхай жыве свабодны труд, свабодная таргоўля. Няхай жыве ісцінная народная ўлада, а не імянуючая сябе рабоча-красцьян-

скай, якая стала нашай кравапіўцай! За савецкую народную ўласць! Упярод!

Людзі, ад лішка пачуццяў, запляскалі ў далоні.

— Вось яна якая — наша дывізія! — Сапажкоў павёў рукой і акінуў вачыма ўсіх прысутных. — Сапраўдная армія праўды!

Пачуўся гармонік, і «армія праўды» азвалася ліхой песняй:

Эх, яблочко-о,
Оно хруста-альное —
Революция идет,
Социальная-а...

— Пагуляем па тылах! — заварушыўся загарэлы чырвонаармеец, што стаяў непадалёк ад Лявона.

— Апрадзялённа! — падтрымаў яго сябар.

Зноў пачулася песня і да запалонаўцаў звярнуўся сам Сапажкоў:

— Мужыкі! Нам патрэбны падводы! — ён агледзеў натоўп. — Часткова, канешна, возьмем у міліцыянераў, але гэтага будзе мала. Прашу дапамагчы!

Назбіраўшы падвод пятнаццаць, сапажкоўцы рушылі на поўдзень.

Потым Лявон даведаўся пра гісторыю гэтага сапажкоўскага выступлення. 2-я кавалерыйская дывізія пад камандаваннем Сапажкова была расквартыравана ў сяле Александраўцы — за сем кіламетраў ад Бузулука. Складалася дывізія ў асноўным з сялян. Навакольныя падзеі, уціск над сялянствам, здзекі, — пра ўсё кавалерысты ведалі. І, як звычайна, з'явіліся агітатары, якія падказалі, хто вінаваты і дзе шукаць праўду. «Трэба пачынаць малую грамадзянскую!» — гаварылі яны. У пачатку ліпеня 1920 года Сапажкоў са сваімі паўстанцамі — часцямі 2-й кавалерыйскай дывізіі — заняў Бузулук. Ля Бузулука быў бой, у якім перамог Сапажкоў, камуністычны атрад адступіў. Але ў горадзе камдзіў-2 вырашыў не затрымлівацца, падаўся далей. Па дарозе «армія праўды» наведала Запалоннае, але пабыла там толькі адзін дзень. Сапажкоў спяшаўся на поўдзень...

З Сапажковым, як і з Вярзіліным, змагаліся чырвонаармейскія часці асобага прызначэння — карнікі. Дагналі яго недзе за Царыцыным, і на паўстанні была пастаўлена кропка.

## V

У камуне справы не паляпшаліся. Нічога добрага не прадбачылася і на перспектыву. Арганізацыя працы заставалася даволі прымітыўнай: брыгад не было, працавалі гуртам, абавязковых норм выпрацоўкі ніхто не ўстанаўліваў, даходы размяркоўваліся па едаках. Галоўныя ж цяжкасці выявіліся тады, калі даходы пачыналі дзяліць: усім не падабалася ўраўнілаўка.

Працавалі, як жаліўся старшыня Андронаў, «спустя рукава». Таццянка па-ранейшаму хадзіў за каровамі, але рабіў гэта неяк механічна. З-за недахопу прадуктаў жывёлу забівалі на ежу, але некалькі цялушак, найбольш вынослівых, яшчэ заставалася. Пачалі варыць і есці каніну. Палавілі суслікаў, якіх было шмат у полі.

— Хаця б хлеба ўволю давалі! — скардзіўся памочнік Таццянкі Нямцоў, прыгнаўшы вечарам парадзелы статак у стойла. — Надышашся тым палыном, есці хочацца!

Паступова людзі пачалі губляць цікавасць да камуны. Нават Гамон, убачыўшы неяк Лявона, пачаў скардзіцца, аглядваючыся па баках:

— Абрыдла ў гэтай камуне! Робіш, як конь, свету божага не бачыш за працай! А нічога не маеш...

Калі падумаць, дык работа ў Гамона была не такая і цяжкая — ён працаваў вартаўніком.

— Камунію гэтую па бервяну трэба расцягнуць, — жартаваў Кіпрыян Скакуноў, зняважліва пазіраючы на вартаўніка.

Інвентар у камуне вартаваў таксама Гамон. Пад яго наглядам былі жняяркі, малатарня, плугі, align рознае гаспадарчае начынне. Апошнім часам, даючы сабе палёгку, ён, замест таго каб пільнаваць даручанае дабро, спаў. Пра такое Гамонава вартаванне дачуліся аляксееўцы (там была свая камуна — «Таварыш Свярдлоў»). Карыстаючыся Гамонавай безадказнасцю, яны ўкралі пару баронаў і хамут. Прускаўца хацелі аддаць пад суд, але за яго ўступіўся Чудайкін-Жарэс (з валкампарта пацвердзілі, што ён можа займаць розныя пасады, у тым ліку і адказныя):

— Яго не чапай! Ён нам сацыяльна блізкі! Ён, можа, таксама, як і я, пралетарый!

— Ну і што? — не згаджаліся камунары, перш за ўсё Андронаў.

Таццянка вытрашчыў на яго вочы і раскрыў рот, здзіўляючыся, што старшыня не разумее такіх простых рэчаў:

— Калі пралетарый, значыць, брат!

Цяжка было што-небудзь на гэта запярэчыць.

Становішча спраў у запалонаўскай камуне разглядалі ў Бузулукскім павяткоме.

Але захады не далі станоўчага выніку, а тут яшчэ новыя падзеі накатваліся — да людскіх непаразуменняў далучылася сама прырода, пагражаючы жорсткай засухай, — камунарам давялося падзяліць, што засталося ад маёмасці і разысціся па асобных гаспадарках.

Апошнім часам дабрабыт запалонаўцаў надта заняпаў — і камунараў, і некамунараў. Сухім і неўрадлівым выдалася лета 1920 года ў Паволжы. Ураджай сабралі мізэрны. З хатніх прыпасаў засталося крыху бульбы, ячменю, жменька фасолі, салёныя грыбы. Хлеб з лебяды з дабаўкай бульбы і грэчкі быў чорны з выгляду і развальваўся ў руках, але і яго не хапала. У ход пайшлі сахарын, вобла. Многія запалонаўцы ехалі па хлеб у Ташкент, Сярэднюю Азію, Сібір.

— Цяпер чалавек свабодны, ён можа ездзіць па ўсёй Расіі і жыць, дзе захоча! — тлумачыў Таццянка, зайшоўшы ў народны дом.

— Палажэніе ціжолае, — прызнаваў і Малец. — Па гарадах голад...

Чуючы такое, людзі апускалі галовы, згаджаліся. Хіба што адначаму Таццянку ставала аптымізму.

— Затое моцныя — застануцца! — гаварыў ён, шчэрачы рэдкія зубы. — Сапраўдныя бальшавікі!

— Вот з польскім панам пакончым да з баронам Урангелем — тады будзе лягчэй, — нібы згаджаўся з ім Малец, — тады, канешна, і пабудуем што задумалі...

## VI

Цяжкай была зіма 1921 года: і холад, і голад. Людзі амаль не выходзілі з хат, спадзеючыся хоць як дачакацца вясны. Жывіліся рэшткамі нішчымных запасаў. У канцы лютага, на Грамніцы, усхадзілася завіруха. Яна гуляла некалькі дзён, невядома дзе беручы сілы. Нарэшце яна выдыхлася, змарылася і пад раніцу зусім аціхла.

Кужалі доўга глядзелі на казачную карціну, якая адкрылася за вокнамі. Неба ачысцілася і пасвятлела, а потым стала блакітным. Зырка свяціла сонца, як бы пераконваючы ўсіх у сваёй дабраце і нядрадлівасці. На высокім сумёце, прама перад акном, узбуджана скакалі, пырскаючы снегам, чырванагрудыя снегіры, нібыта жадаючы звярнуць на сябе ўвагу насельнікаў хаты. Лявон паклікаў пасынка:

— Вася, вынесі ім каноплі!

Хлопчык хутка апрануўся, узяў з мяшэчка, што стаяў на кухні, жменьку канапляных зярнят і выбег на вуліцу, пачаставаў птушак.

— Маладзец! — пахваліў Лявон, калі Вася вярнуўся ў хату. — Снегірам таксама есці хочацца.

Фёкла пяшчотна зірнула на сына, які распранаўся, скідаючы з сябе кажушок і шапку-аблавушку.

— Дай я табе ў галаве пагляджу!

Вася падсеў да маці і паслухмяна прыгнуў галаву.

Апошнім часам на людзей наваліліся хваробы. Набраў сілу сыпны тыф, які, нібы касой, валіў людзей. Асаблівай лютасці ён дасягнуў у 1920 годзе. Разносчык гэтай хваробы — вошы. З імі змагаліся як маглі. Ленін недзе нават сказаў: ці сацыялізм пераможа вошы, ці яны адолеюць сацыялізм. Ад тыфу спрабавалі ратавацца самагонам і спіртам, але і гэта не дапамагала. У дадатак яшчэ падкошвалі людзей халера і дызентэрыя.

Лявон захварэў на сыпняк і тры тыдні ляжаў у непрытомнасці. Пасля хваробы ад яго застаўся, можна сказаць, адзін шкілет. Тыф, халера, галадамор нібы змовіліся і дзейнічалі заадно.

— Карасіну няма, солі няма, дровы канчаюцца, — уздыхнула Фёкла.

Харчы таксама былі на зыходзе.

— Вот бы прыдумаць што, каб менш есці! — жартам адказаў Лявон. Але на памяць усплылі зусім не жартоўныя словы дзеда Кірылы: «Чалавек — такая істота, што можа жыць і ў нечалавечых умовах. Звер не можа, а чалавек можа».

«Эх, каб удосталь паесці!» — пра гэта запалонаўцы даўно ўжо толькі марылі. Зімой пачалі ўжываць у ежу ліпавую кару, харчаваліся, як тут казалі, лесам. Мерзлая бульба была верхам дабрабыту, не пакідалі нават бульбянога лушпіння. Многія развітваліся з вёскай, кіравалі на захад або на ўсход, галоўным чынам у Ташкент. У Запалонным з'явіліся хаты з забітымі дзвярыма і вокнамі.

Бежанцаў — яшчэ больш, чым мясцовае насельніцтва, — ахапіў жах галоднай смерці. З цікавасцю сустрэлі звесткі пра савецка-польскія мірныя перамовы. Можа, гэта прыспешыць вяртанне? Але лёс зноў марудзіў. З Самары прыйшла папера:

*«20 лютага 1921 года. Самарскі губэвак просіць растлумачыць бежанцам, што згодна з распараджэннем Цэнтрэвака адпраўка іх ні ў*

*Польшчу, ні ў Гродненскую губерню не будзе праводзіцца да ратыфікацыі мірнага дагавору з Польшчай.*

*ГубПленбеж».*

Вясна 1921 года пачалася рана, але па-сапраўднаму цёплыя дні пазніліся. З паўночнага захаду падзьмулі моцныя вятры, раніцы ахутваліся густымі туманамі. У паветры пахла расталым снегам, але ноччу зноў гаспадарылі марозы. Нарэшце дачакаліся красавіка, калі пачалі вяртацца з выраю птушкі.

Вясна ў Запалонным надзвычай прыгожая, але на гэты раз прыгажосць як бы і не заўважалася. За зіму і за ўсе апошнія гады людзьмі авалодалі стомленасць і інертнасць. Рэпін — той прама гаварыў:

— Не буду сеяць, хлеб усё роўна камісары адбяруць.

Вясной 1921 года і сюды данёсся гром кранштацкіх гармат, які адгукнуўся рэхам істотных перамен. У сакавіку прадразвёрстка была, нарэшце, адменена, замест яе ўведзены прадуктовы падатак. У Запалонным усе былі дужа здзіўленыя:

— Чулі? Для сялянства новы закон пусцілі! — праднаалог!

Людзі патроху ажывалі. Надвор'е ж здзіўляла холадам і сушшу. Запалонаўскія гаспадары спрабавалі цешыць сябе прымаўкай: «Сухі марац, мокры май — будзе жыта, як гай». Таму з сяўбой марудзілі, спадзеючыся на дажджы і пацяпленне, але, не дачакаўшыся, а палове красавіка сталі сеяць. Пачалі з пшаніцы, аўсу, ячменю і мусілі спыніцца з-за раптоўнай і непрывычнай для гэтай пары гарачыні, якая ў адначассе змяніла халады. Прыляцелі салаўі і звонка заспявалі сярод чорных, бязлістых галін. Такога не памяталі нават старыя. З павета Мальцу прыйшло ўказанне — «раз'ехацца па мястах, узмацніць максімум энергіі работы валвыканкома, дабы вясеннюю палявую кампанію выканаць поўнасцю».

На пасаду часовага палітычнага ўпаўнаважанага паветпасяўкома быў прызначаны Чудайкін-Жарэс, але яго намаганні аказаліся неэфектыўнымі: Таццянку ніхто не слухаў, і яго давялося памяняць. На сяўбу з павета прыбыў Таран Пётр Максімавіч — чалавек, відаць па ўсім, разважлівы.

— Чаму не сееце? — дапытваўся ён у Рэпіна.

Рэпін маўчаў.

— Рана ішо! — спрабаваў заступіцца за Рэпіна Нямцоў.

— Чаму не сееце? — наступаў упаўнаважаны. — Я вас спрашываю!

— Чым сеяць? — пацiснуў плячыма Рэпін.

— Як чым?

— Паелі ўсё, бо рэквізіцыі баяліся! — шчыра прызнаўся Рэпін.

Паехалі па бліжэйшых вёсках. Упаўнаважаны Таран вёў работу такім чынам, каб зернем дзяліліся сусед з суседам, — трэба было засеяць увесь клін. Гарачыня між тым не сунімалася, і людзі, не скончыўшы з раннімі, прыступілі да сяўбы позніх культур. Пасеялі проса, потым лён, гарох, каноплі, сланечнік. Нарэшце падышла чарга бульбы, але гарачыня настолькі ўзмацнілася, што бульбу ўжо не было як садзіць. Тэмпература ў другой палавіне красавіка ўзнялася да васемнаццаці градусаў замест трох-чатырох, да якой тут прывыклі. У маі сярэдняя тэмпература склала дваццаць пяць градусаў, а звычайна не перавышала пятнаццаці. Ва ўсім наваколлі і ў суседніх паветах ні

кроплі дажджу. І, можа, найбольш чакаў дажджу сам упаўнаважаны Таран. Седзячы ў валвыканкоме, ён час ад часу пазглядаў у акно:

— Здаецца, дождж збіраецца...

— Добра было б, дождж патрэбны, — згаджаліся з ім Малец, Міша Касякін і Таццянка, які звычайна бавіў час у валвыканкоме і лічыўся ў складзе актыву.

— Калі-небудзь, прыйдзе час, навучымся кіраваць і дажджом, а пакуль што... — як бы завінаваціўся ўпаўнаважаны.

У маі і чэрвені не пралілося нават кроплі, нелітасціва пражыла сонца. Травы і збожжа высыхалі, пажоўкла лісце на дрэвах. Амаль не ўзышлі яравыя. Як у той прымаўцы: «Ад коласа да коласа не чуваць чалавечага голасу».

Убачыўшы хмарку, Таран задзіраў галаву ўверх:

— Можа, з гэтай крапне?

Але не крапала.

Бежанцы ў чаканні дазволу на вяртанне дадому заставаліся на месцы. Часта наведваліся да Кужалёў. Фёкла дапамагала чым магла. Шкадавала бедакоў. Работы ў прускаўцаў — ніякай, засталося хрыстараднічаць, як казалі ў Запалонным. Спрабавалі хадзіць па суседніх вёсках, але ніхто нічога не даваў. Пачалі назапашваць салому, лебяду, калючкі, кару дрэва. Сушылі, калі ўдавалася дастаць, каровіны і конскія косці, а потым таўклі на муку.

Зноў і зноў звярталіся ў Пленбеж.

— Каб куды ў лагер нас пасадзілі, ці што... Кажуць, і ў Самары такія паадчынялі... — прасілі ў Пленбежы Пятро Ламака і Міхаль Тупчык.

Канцэнтрацыйны лагер для падазроных быў створаны тут чырвонымі яшчэ восенню 1918 года, і прускаўцы пра гэта ведалі ад Андрэя-тэлеграфіста. У лагеры хоць нейкі харч, мабыць, давалі.

— Няма падстаў, таварышы, няма падстаў! — адказаў работнік Пленбежа.

Асабліва настойлівым і вынаходлівым аказаўся Гамон:

— Пакарайце нас! Мы контры!

Работнік Пленбежа ажно засмяяўся ад Гамонавага досціпу:

— Да якія вы контры?! Бедната! Контру мы знаем, а вы — сапраўдныя пралетарыі! — пахваліў ён прускаўцаў.

Іншым разам ад такой ацэнкі можна было ўзрадавацца, але цяпер нічога добрага яна не абяцала.

— Хлеба няма! Нічога няма! Арыштуйце нас! — стаялі на сваім бежанцы.

— Пры чым тут хлеб? Трэба трымацца на класавых пазіцыях, як і паложана беднаце, — угаворваў прускаўцаў пленбежавец, дзеля пераканаўчасці шырока размахваючы рукамі. — Будучыя пакаленні будуць жыць у дастатку... А наша справа працаваць дзеля гэтага. Пацярпіце, таварышы!

Ні з чым вярнуліся бежанцы ў Запалоннае. Цярпелі, як маглі. Становішча, аднак, не паляпшалася, а пагаршалася. Людзі пачалі пухнуць з голаду і паміралі як мухі. Дайшлі чуткі аб трупаедстве ў суседніх паветах.

— Нейкая маці, кажуць, дзіця сваё забіла, адрэзала ногі і зварыла, — пачуў недзе Гамон. Усе ведалі, што ён умеў «змысліць», але ця-

пер яго словы былі падобныя на праўду. Людзей ахутваў страх. Пачалася паніка.

«Трэба ехаць, тут мы прападзём», — гэтая думка ўсё настойлівей пульсавала ў галовах пруcкаўцаў. Яны зноў накіравалі ліст — цяпер ужо ў Самару. У ім гаварылася:

*«Калі Губэвак не прыме неадкладна ніякіх мер па вывазу бежанцаў, дык тады Бузулукэваку нечага будзе рабіць. Мерцвякоў і шкілеты адпраўляць за мяжу не прыйдзецца. Яны і без эвакаў адправяцца ў сырую маці-зямлю, якая хутчэй прымае і адпраўляе, чым наш Бузулукскі павятовы эвак».*

*Подпіс стаяў: «Бежанцы».*

Скласці «прашэнне» дапамог Андрэй-тэлеграфіст, які быў больш за ўсіх граматны і ведаў што да чаго.

Аддзяленне Памгола тым часам адчынілася і на станцыі Непрык, пры чыгунцы. Лявон з Галёнкам ездзілі ў Непрык і прывезлі мяшок круп на ўсіх. Работнік Памгола — інтэлігентны, пажылы ўжо чалавек з рэдзенькай бародкай — тлумачыў:

— Бальшавікі пастанавілі, каб дзесяць сытых памаглі пракарміцца аднаму галоднаму. — Пакапаўшыся ў паперах, што ляжалі на стале, чалавек выцягнуў адтуль нейкі лісток з карцінкай: — Гэта плакат. Мы па ўсёй Расеі такія плакаты распраcтранілі.

На плакаце быў намаляваны худы, кашчавы ад голаду чалавек (скура і косці) з раскрытым ротам і скрыўленымі ад крыку вуснамі. Унізе — подпіс: «ПОМОГИ!!!»

Потым, па часе, у нейкай газеце Лявон прачытае: «У Прыволжы загінула 5 мільёнаў чалавек, але палітычнае становішча было выратавана».

Атрад кавалерыстаў з сінімі пятліцамі на каўнярах спыніўся каля царквы — той, у якой святаром быў айцец Вісарыён. На царкоўных купалах, нібы вітаючы ўзброеных гасцей, уразнабой загарланілі галкі. З хат павыходзілі людзі. Падаліся на плошчу таксама і бежанцы.

Розныя ўпаўнаважаныя (у тым ліку і Таран), рэвізоры, лектары, якія наведваліся ў Запалоннае, не раз гаварылі, спачуваючы агульнаму становішчу, што народ вось галадае, а ў царкве вунь колькі золата ды каштоўнасцей розных! Лявон успомніў пра гэтыя размовы, убачыўшы кавалерыстаў з сінімі пятліцамі.

— Паставіць каравул! Каб пастароннія не заходзілі! — распарадзіўся камісар. — Панятых ка мне!

Панятымі Міша Касякін прызначыў Лявона і Галёнку, і яны вымушаны былі ісці разам з камісарам. Лявон бачыў, як ён зайшоў у царкву і, не здымаючы шапкі, накіраваўся да алтара, дзе знаходзіўся прастол з залатою чашай.

У кутку, ля іконы, стаяў святар айцец Вісарыён. Камісар з сінімі пятліцамі ўбачыў яго і здрыгануўся ад нечаканасці, але авалодаў сабой:

— Іменем рабоча-сялянскага савета народных камісараў рэквізірую царкоўныя каштоўнасці! — сказаў ён і, угледзеўшы на прастоле чашу, узяў яе і асцярожна паклаў у мяшок, які дзеля гэтага, відаць, і прыхапіў з сабою.

— Гэта ж свяшчэнныя сасуды! — не вытрымаў, устрапянуўся айцец Вісарыён. — Свяшчэнных прадметаў не аддам! Богава павінна застацца Богу!

— У краіне голад, — бясстрасным тонам напомніў камісар і стаў узірацца што б узяць яшчэ.

— Сасуды бярыце, грошы бярыце, — захваляваўся святар, а багаслужэбных кніг не чапайце!

— У краіне голад, — паўтарыў госць у шынялі з сінімі пятліцамі.

— Я самому патрыярху Ціхану буду скардзіцца!

Камісар скептычна пасміхнуўся:

— Сядзіць ваш Ціхан у каталажцы!

Айцец Вісарыён ад нечаканасці знерухомеў. Наступіла працяглая цішыня, якую нарэшце парушыў голас святара:

— А душу не баішся згубіць? Увесь свет рэквізіруеш, а душу згубіш. Каму карысць ад гэтага?

— Дык вы ж самі гаворыце, — пацiснуў плячыма камісар, — што на свеце нічога не адбываецца без божага на тое дазволу!

— Адказнасць на чалавеку! — амаль закрычаў святар. — Ён сам робіць выбар і адказваць будзе сам!

— Дарэмна вы пеніцеся, айцец Вісарыён! Хрыстос на вашым месцы гэтак бы не зрабіў. Ён, несумненна, узяў бы наш бок: як-ніяк — першы рэвалюцыянер. Бальшавік, можна сказаць!

У айца Вісарыёна шырока адкрыліся вочы і рот: такога ён яшчэ не чуў. Камісар працягваў:

— Ён жа вунь як рэзка падняўся супраць тагачасных парадкаў! Хіба не ён сказаў, што чалавечае грамадства павінна грунтавацца на законе любві?!

Айцец Вісарыён нічога не здолеў запярэчыць на гэта, толькі паправіў на жываце сярэбраны крыж, быццам хацеў пераканацца, ці на месцы ён. Камісар загарэўся яшчэ больш:

— Хіба ён не стаяў за роўнасць?!

— Але ж ён быў супраць жорсткасці! — знайшоўся нарэшце святар. — Адкуль жорсткасць? Жорсткасць улады не сведчыць пра яе сілу...

— Адкуль жорсткасць — вы пытаеце... У цемры народ трымалі! У коснасці! Асветы ніякай — дзевяноста працэнтаў бязграматных! І цар, і міністры — усе былі супраць граматы!

— Зло параджае зло — хіба вы гэтага не ведаеце? Насілле плодзіць насілле.

— Гэта ваша царква зрабіла чалавека такім спакойным — абыякавым да ўсяго. Рабом! — наступаў камісар.

— Вы ва ўсім царкву вінаваціце, — не здаваўся айцец Вісарыён, — а між тым яна мае заслугі, і не малыя! Рускі народ — гэта глыбока веруючы народ. А хто прышчапіў яму веру? Царква! Царква стрымлівае наш эгаізм, злабу, зайздрасць! А хіба мала царква народ ратавала? Без царквы мы б арду не адолелі, царква народ збірала...

І камісар, і панятыя маўчалі, слухалі.

— Русь — паняцце кроткае, старажытнае і дабрачыннае. Расія ж — гэта імперыя! Вас, бальшавікоў, імперыя якраз і ўзгадавала...

Камісар падняў руку і спыніў яго прамову:

— У вас, бацюшка, шмат слоў. Нам столькі слоў не трэба, мы свае думкі не хаваем...

Выйшаўшы на паперць, ён закурыў.

«А ўсё ж такі ў царкве курыць пасаромеўся!» — падумаў Лявон.

Угледзеўшы ў камісаравых руках мяшок, закрычалі, перабіваючы адна другую, жанчыны:

— Бальшавікі! Бязбожнікі! Басякі!

«Пайшло наступленне на царкву», — падумаў Лявон і пачуў, як айцец Вісарыён зашаптаў малітву. Зрэшты, гэта была не малітва. Святар успомніў чамусьці даўні верш, які чытаў у газеце «Новая зямля» гадоў дзесяць таму назад, яшчэ калі быў семінарыстам:

Час пробил исполниться срокам.
Пощады не ждите.
Пощады не будет пророкам.

Падышоў дзяк Траяперсцеў.

— Ганенне на духоўных, — сказаў ён.

— Несть бо власть аще не от Бога, — адказаў айцец Вісарыён.

— За што ж ім Бог Расію на здзек аддаў?.. — уздыхнуў дзяк.

У натоўпе — прускаўцы чулі — гаманілі:

— Ой, калі яшчэ Бога адбяруць, зусім падурэюць людзі!

— А ў Самары, у царкве, сказваюць, яўленне было!

— Загіне ўсё дарэшты...

## VII

Мінула яшчэ адна зіма. Вытрымалі і яе. Мера чалавечай стойкасці і трываласці, аказваецца, не малая.

У вокнах яшчэ толькі займалася на світанне, а Кужалі былі ўжо на нагах — збіраліся ў пойму Самаркі па дровы. Насілі, грузнучы ў снезе, сухі тал, узвальваючы вязкі на плечы, бо каня не было.

Фядора з Варкай апраналіся па-зімняму. Лявон абвёў позіркам сясцёр. Вочы ў дзяўчат былі цёмныя ад голаду. «Не дай Божа аслабнуць, тады канец!» — падумаў ён. Цяпер ва ўсіх было адно жаданне: выжыць.

— Ой, ну калі ўжо паедзем! — неспадзявана вырвалася ў Варкі: здараецца часам так, што чалавек скажа нешта як бы забароненае, чым жывуць усе, але маўчаць.

Ніхто Варцы нічога не адказаў, толькі ўздыхнулі. Лявон стараўся адганяць ад сябе чорныя думкі, але фактычна і ён быў бяссільны, і ўсведамляў гэта.

Выручала Фёкліна швейная машынка. Харчаваліся нішчымніцай, але ўсё ж такі харчаваліся. Фёкла дадавала ў хлеб жалудовую муку, перацёртае ў жорнах бярозавае лісце.

Іншым бежанцам даводзілася яшчэ горай. Пачалі сніцца галодныя сны. Часта снілі і ўспаміналі Пруску. Не магло так быць, каб у Прусцы ды нічога не ўрадзіла. Калі не жыта, дык бульба, калі не бульба, дык яшчэ нешта. А тут?

Вяртаючыся з вязкамі талу дадому, сустрэлі Гамона. Ён ужо зусім страціў бадзёрасць, азыз, да ўсяго стаў абыякавы.

— Марфа Цюрына памерла, — паведаміў ён.

— Каб усім разам, у адначассе, — добра было б! — сумна і неяк па-старэчы сказала Фядорка.

— Ну што ты? — паглядзеў на сястру Лявон. — Усё лепшае яшчэ наперадзе!

На згоне зімы выклікалі ў Бузулук, у Пленбеж. Паехалі Лявон і Галёнка.

— Лявоне, я ўжо нікому не веру! — казаў дарогаю Галёнка. Лявон маўчаў.

У Пленбежы на гэты раз сустрэлі ветліва. Вайсковец у рудой гімнасцёрцы і шэрым, злінялым шлеме на галаве, даведаўшыся, з кім мае справу, паведаміў:

— Для вас ёсць папера з Мінска, каб вярталіся.

— Што? — перапытаў, не паверыўшы сваім вушам, Лявон. Забыў нават зняць шапку.

— Каб вярталіся! Пачынаецца рэпатрыяцыя, віншую!

Прускаўцам, аднаму і другому, заняло дых. Напачатку не паверылі.

— Можаце вяртацца, — паўтарыў вайсковец. — З польскім бокам наладжаны візавы рэжым.

Лявон міжвольна ўспомніў хату і чамусьці вярбу ля калодзежа: «Няўжо я іх убачу?» З новай сілай пацягнула да роднай сялібы. «Там, можа, будзе свабадней, не будзе таго, што тут...»

— Вы як бы і не радыя? — пачуў ён здалёк.

— Што?

— Што гэта вы — што ды што? — незадаволена бурчэў вайсковец, але пяро яго борзда заскакала па паперы.

Прускаўцы ўсё яшчэ не верылі свайму шчасцю, думалі, што ўсё адменіцца, як і раней, але праз колькі часу пісар ужо ўручаў ім прыціснуты пячаткай гатовы дакумент — дазвол на выезд. Галёнка дрыжачымі рукамі схапіў паперыну, ад якой цяпер залежаў далейшы іх лёс, і паспрабаваў разабраць, што там было напісана.

Пісар патлумачыў, якія дакументы яны павінны ўзяць у дадатак да гэтага ў валвыканкоме.

— Глядзіце, таварышы, каб паперы ў поўным парадку былі!

— Вядома, вядома! — заківалі галовамі прускаўцы.

Лявон зняў шапку, абмацаў успацелы лоб, прыгладзіў чубчык. «Хоць сясцёр — Барбару і Фядору — дадому адвязу, — думаў Лявон, — Фёклу з Васем. Усё ж дарослыя, выжывем як-небудзь...»

— А можа, усё ж такі застанецеся тут? — спытаў на развітанне, як бы дзеля прыліку, пісар.

— Не застанёмся! Застанёмся — пагінем... — у адзін голас адказалі прускаўцы.

— Цяпер вы польскія! — пасміхнуўся пісар. — Як лёс іграе чалавекам...

— Польскія? — паціснулі плячыма прускаўцы. — Што гэта значыць? — запыталі ў адзін голас.

— Дагавор заключаны, у Рызе.

Пра гэта прускаўцы нічога не ведалі, але да пастаянных змен, што адбываліся ў навакольным свеце, прывыклі настолькі, што ўжо цяжка было іх чым-небудзь здзівіць.

Пачутае занепакоіла Лявона: «Як жа бальшавікі так лёгка згадзіліся на гэты падзел? Яны ж быццам бы спрыяюць беларусам... — думаў ён. — Выходзіць, што намі яны з Польшчаю расплаціліся?..»

Але верх брала іншае: «Дадому! Дадому! Нарэшце дадому!» Трывожныя думкі, аднак, не адпускалі: «Чые ж мы цяпер будзем? Якога грамадзянства? Польскага? Ці рускімі застанёмся, праваслаўнымі? Ці, можа, самі па сабе будзем? Як яно ўсё павернецца? А можа, самастойнасць дадуць?..»

У Запалоннае ляцелі як на крылах.

— Паедзем! — гаварылі ўсім сустрэчным.

Землякі ўжо не верылі:

— Праўда?

— Праўда! Ісцінны Бог!

Найдаўжэй сумняваўся Гамон.

— Змысліў! — ківаў ён сваёй вялізнай галавой, якая, здавалася, ледзьве трымалася на тонкай ды яшчэ скрыўленай шыі. — Мяне не правядзеш!

Але калі землякі пачалі пакаваць клункі, паверыў і ён.

Неўзабаве з павета прыйшло ўказанне аб падрыхтоўцы дакументаў на адпраўку бежанцаў германскай вайны. Пачалі вырабляць дакументы. У дакументах значылася, што іх уладальнікі — «рабочыя па рамонце чыгункі, ад мабілізацыі і рэквізіцыі звольненыя». Цяпер яны жылі чаканнем ад'езду. Як-ніяк, сем гадкоў прабылі тут. Шмат уладаў перавярнулася ў Запалонным...

Рашылася ехаць і Фёкла, хоць цяжка было расставацца з роднымі мясцінамі. Напачатку вагалася: «Чужая старана!..»

— Чаго там баяцца! — падбадзёрваў Лявон. — Разам будзем, Фяклуша! Усё будзе цудоўна! Паглядзіш!

І яна, пасля доўгіх ваганняў, рашылася:

— Ну вось і добра!

Фёкла адразу адчула ў сабе нейкую ўнутраную сілу і моц. Рашылася — і ўсё, нічога не страшна. Пачалі збірацца.

Едучы назад, прускаўцы таксама, як і калі ехалі сюды, атрымалі білеты бежанцаў. Атрымала і Фёкла як Лявонава жонка. У валвыканкоме далі грошы на чыгуначны білет.

Для некаторых прускаўцаў стала як бы нечаканым тое, што Лявон браў з сабою Фёклу. Размова пра гэта ўзнікла, калі мужчыны накіраваліся ў Непрык, каб дамовіцца з чыгуначным начальствам наконт білетаў.

— Нашто ты яе бярэш з сабой? — смяяўся Грышка Латушка. — Як бы сваіх не хапае...

На баку Латушкі быў і Міхаль Тупчык.

— Сваю б якую ўзяў, а то... — Міхаль пачмокаў губамі, — чужую бярэ...

— Зжыліся, — як бы апраўдваўся Лявон, — звыкліся.

— А чужая, можа, смачнейшая! — зарагатаў Аляксей Галёнка, рады ад таго, што нарэшце збіраліся ехаць дадому.

— Дзіва што! — азваўся Гамон.

— А што? — засмяяўся і Ламака. — Цяпер для кахання свабода!

Пасля Ламакавых слоў зарагаталі ўсе, добра ведаючы, якой «свабодай» карыстаўся той у сваёй Апраскі.

Іх паход на станцыю ў Непрык аказаўся амаль безвыніковы. Там толькі паабяцалі транспарт — і то нічога пэўнага, бо не хапала вагонаў. Разруха! Цягнікі хадзілі толькі вайсковыя і скорыя, і ў іх для бе-

жанцаў з клункамі месца, вядома, не было. Вярнуўшыся ў Запалоннае, убачылі, як з царквы скідалі крыжы.

Адзін — магутны, сажнёвы — ужо ляжаў у снезе каля царкоўнай агароджы. На царкоўным даху і званіцы завіхаліся Пробкін з Андрушкам Платонавым. Кіраваў усім Малец разам з Мішам Касякіным. Каля іх мітусіўся ў падраным кажушку Чудайкін-Жарэс. Ад холаду мерзлі вушы, і начальства энергічна расцірала іх далонямі.

— Дык вось, таварышы, заставайцеся ў нас! — звярнуўся да прускаўскіх мужчын Міша, прытуліўшы руку да вуха.

— У нас новая жызнь зацяваецца — без папоў! — радасна паведаміў Чудайкін-Жарэс. — Колькі можна народ опіумам травіць!..

— Не, ужо наважыліся, — за ўсіх адказаў Галёнка. — Павінна ж быць у чалавека свая хата...

— Дрэнна робяць, што адпускаюць, — уздыхнуў Міша. — У вас няправільныя настроі.

— Я вось беларус, — падтрымаў Мішу Малец, — а не еду! Адно вось толькі што галадна тут, а так бы не адпусцілі! — дадаў ён, выдыхнуўшы з-пад вусоў аблачынку халоднай пары.

— Дуракі вы, братцы! — яшчэ больш рашуча загаманіў Міша, — у нас не сёння дык заўтра камунізм будзе па ўсёй Расеі, а вы едзіце!..

— Піла трэба! — гукнулі са званіцы. — Так яго не возьмеш!

— Ну дык дастаньце! — стуліўшы далоні каля рота, крыкнуў Міша. — Што, я вам буду даставаць?

Малец быў незадаволены тым, што землякі «несазнацельныя» і адпраўляюцца невядома куды — выходзіць, што ў Польшчу, да паноў.

— Выжывем! Квакеры абяцалі дапамагчы, — бадзёра сказаў ён.

— Хто? — здзіўлена перапытаў Лявон.

— Квакеры! — паўтарыў старшыня валвыканкома.

«Няўжо гэта тыя, што ў Амерыцы?» — падумаў Лявон.

— Якія квакеры? — спытаў уголас.

— Амерыканскія! Якія ж яшчэ? — паглядзеў на яго Малец.

Лявон быў вельмі здзіўлены, але нічога не сказаў. Прыемна было ад думкі, што недзе ў далёкай Амерыцы знайшліся бескарыслівыя дзівакі, якія адгукнуліся на чужую бяду, дапамагаюць. І, можа, гэта тыя, з якімі ён калісьці сустракаўся.

Не змаўкаў Міша:

— Таварышы, у нас такія перспектывы, а вы не радуецеся! — гаварыў ён, няўцямна паціскаючы плячыма.

— Сцеражыся! — гукнулі зверху, са званіцы, скідаючы яшчэ адзін крыж.

Міша, кульгаючы, адскочыў убок, за ім іншыя, і ўсе ўбачылі, як вялікі, грузны крыж абрынуўся з даху і з нейкім стогнам цяжка грымнуўся аб мерзлы дол. Глуха затрашчалі яго жалезныя плечы, узняўся снежны пыл, камякі мерзлай зямлі.

— Ну і махіна! — першым апамятаўся і здзіўлена пахітаў галавой Чудайкін-Жарэс.

— Вот арганізуем суботнік, навядзём парадак! — бадзёра сказаў старшыня валвыканкома.

— Без суботніка не абысціся. Не сакрэт... — згадзіўся з начальствам Міша і зноў павярнуўся да прускаўцаў: — Едзяце буржуеў умацоўваць? Так выходзіць?

— На буржуеў будуць працаваць! — пагадзіўся Малец.

— Не-е! — падаў голас Міхаль Тупчык. — На сваёй гаспадарцы будзем рабіць...

Малец і Міша пераглянуліся між сабой, скептычна ўсміхнуліся.

Бежанцы пайшлі па дамах, а Лявон павярнуў да сваёй хаты. Сямейнікі былі занятыя зборамі, даставалі прыпасы. Заставалася яшчэ пару пудоў бульбы і з паўпуда мукі.

— Возьмем з сабой, — сказала Фёкла.

— Возьмем, але ж крыху і тут трэба пакінуць, — разважыў Лявон.

— Каму?

— Ну, хаця б Домне. Хату ж перапісваеш на яе.

— Ей крыху пакінем. Дзякуй, што клапоцішся пра маю сястру.

— Сваячаніца яна мне... — жартам сказаў ён.

Фёкла збіралася ў далёкую дарогу. Хвалявалася. Балюча перажывала расстанне. Паклала ў сундучок усе Васілёвы рэчы. У дакументах Лявона стаяла: «пасынак».

— Толькі вось як з вагонам? — уздыхнуў Лявон.

Але вырашылася справа і з вагонам. Таварны вагон-цяплушку прускаўцы атрымалі з дапамогай Андрэя Каленіка, які па-ранейшаму служыў тэлеграфістам на станцыі Непрык. Праз колькі дзён ён заявіўся ў Запалоннае, і ўсе пачулі яго ўзрадаваны голас:

— Ёсць вагон!

Бежанцы замітусіліся яшчэ больш. Вагон даваў начальнік станцыі.

— Боты ён хоча за вагон. Будуць боты, кажа, і вагон будзе, — дзелавіта паведаміў Андрэй.

— А ён не дурань — начальнік гэты, — пакруціў галавою Галёнка, — але дзе яму боты тыя дастаць?

— Можа, хто б з нашых скінуў ды аддаў? — падказаў Гамон.

— Вашы ўжо стаптаныя! — пасміхнуўся Андрэй, аглядаючы абутак землякоў. — Вашы ён не возьме.

— Ай, ліха на яго! — махала рукамі Ламакава Апраска, незадаволеная тым, што ўсё складваецца не так, як трэба.

Але выйсце знайшлі. Сабралі грошы — хто колькі мог — і купілі боты ў Рэпіна, якія калісьці яму прадаў Сісяйкін. Яшчэ амаль новыя, і Андрэй занёс іх начальніку.

Станцыя прызначэння — Брэст-Літоўск. Цяпер яна была бліжэй.

Прускаўцам пашанцавала, таму што недзе праз месяц выйшла пастанова Савета працы і абароны, у якой органам улады катэгарычна забаранялася выдаваць бежанцам пропускі на выезд у заходнім накірунку, а органам камісарыята шляхоў зносін прадастаўляць рухомы састаў.

## VIII

Запалоннае пакінулі ў канцы сакавіка 1922 года, на зыходзе зімы, калі Самарка яшчэ стаяла, скаваная льдом і ўкрытая снегам. Перад ад'ездам схадзілі на могілкі, праведалі магілкі маці і Тоні, якія ўжо навечна заставаліся тут, а таксама Фёкліных бацькоў. «Ці давядзецца калі вярнуцца? Можа, апошні раз...», — у адчаі думала Фёкла.

Выязджаючы, спадзяваліся праз які месяц быць у Прусцы. Спяшаліся. Паклалі ў сані свае транты. На кожнага размеркавалі вузлы, мяшкі, карзіны. Умасцілі швейную машынку.

— Фядорка, каб нам самавар не забыць! — напомніла Фёкла.

Сярод нешматлікіх праводзячых знаходзіўся і Таццянка Чудайкін-Жарэс, які стаяў непадалёку, абапёршыся на плот, у сваім старым, латаным-пералатаным кажушку.

— Самавар важней за ўсё! — пацвердзіў ён і меў, вядома, рацыю. З гэтым згадзіўся б кожны запалонавец: без самавара нельга.

Фёкла ўзяла з сабой самавар. Тое-сёе з посуду. І альбом з фатаграфіямі таксама ўзяла — на памяць.

Апрануцца стараліся ў цяплейшае, на многіх бежанцах — кажухі, валёнкі.

Ад Запалоннага да Непрыка лічаныя кіламетры. Брат з сястрою і Андрушка — таксама праводзілі іх да самай станцыі. Следам доўга бег Марсік. Вагон стаяў на запасных пуцях. Нагадваў ён хлевушок на калёсах, у сценах свіціліся шчыліны. Нездарма такія вагоны называлі цялятнікамі. Прускаўцы змайстравалі ў ім нары ў тры паверхі, каб размясціцца ўсім. Пасярэдзіне вагона, ля сцяны, узвышалася печкабуржуйка з трубою, выведзенаю праз сцяну вонкі.

— Ну і вагон! — дзівілася Апраска. — Ну і жытло!

— Ачамярэць можна! — паказвала сваю незадаволенасць Галёнкава Міхаліна.

— А ты што хацела? Палац? — раззлаваўся на яе Галёнка. — Добра, што хоць такі далі!

Прыйшоў праводзіць землякоў Андрэй Каленік, які, як аказалася, і не думаў вяртацца, вырашыў застацца тут, на сваёй пасадзе тэлеграфіста. Куліна колькі ні ўгаворвала сына — не паслухаў.

Пачалі размяшчацца. Пагрузілі мяшкі, куфэркі, кошыкі, вузлы. З прыемнасцю прыслухоўваліся, як пераклікаліся паравозныя гудкі, грымелі рэйкі пад цяжкімі коламі вагонаў.

Фёкла стрымлівала сябе, але раптам заплакала, як бы прадчуваючы нядобрае.

Нарэшце бежанцы паселі ў вагон і закацілі за сабой цяжкія дзверы. У вагоне стала цёмна.

— Эх, што гэта за жыццё такое — света белага не бачым! — паскардзілася ў цемры Апраска.

Фёкла моцна абняла Фядору з Варкай, якія знаходзіліся побач:

— Ой, залоўкі вы мае! — і яны ўсе трое шчыльна прытуліліся адна адной. Побач сядзеў Лявон з пасынкам.

Бежанцы маўчалі. Прымоўкла нават Апраска, уражаная ад'ездам. Мужчыны ў цемнаце дасталі кісеты з махоркай, скруцілі цыгаркі, закурылі.

— Хаця б з месца скрануўся. Перагружаны! — парушыў маўчанне Ламака.

Раптам рэзка ўдарылі ў станцыйны звон.

— Паехалі!

На пероне нехта на гармоніку зайграў «яблычка». Марудна, раз-пораз, застукалі колы. Цягнік рушыў, набіраючы хуткасць.

Праз шчыліны віднеўся яшчэ белы ад снегу стэп. Паязджане прыглушана закашлялі.

## IX

У Самары выдалі сухі паёк на два дні, памыліся ў лазні, прайшлі санапрацоўку. Жанчыны развесілі ў вагоне занавескі, падзяліўшы памяшканне на асобныя «кватэркі». Стала хоць крыху ўтульней.

— Вот, Лёня, у нас ужо свая хата, — пажартавала Фёкла.

— Цеснаватая! — у тон ёй адказаў Лявон.

На вакзале, на станцыі, шмат народу. Прускаўцы трымаліся асобнай купкай. На чужыне яны добра-такі згуртаваліся і цяпер ціснуліся адзін да аднаго. Востра пахла жалеззем, каменным вугалем ды мазутам. Лявон успомніў Пахолкаву кузню, што стаяла за вёскай на прускаўскім выгане, — у ёй стаяў прыблізна такі ж пах.

Паўсюль віднеліся сляды вайны: разбураныя будынкі, пустыя вокны, непрыбранае смецце, няўтульнасць і недагледжанасць. Усюды людзі — на дахах вагонаў, на тармазных пляцоўках і буферах. Гэта — мяшочнікі, брудныя і змарнелыя. На будынку вакзала з выбітымі вокнамі вісела чырвонае палатно з надпісам: «Железной рукой загоним человечество в счастье!»

Апекаваўся бежанцамі, вадзіў у лазню, выдаваў паёк — нейкі камісар у напаўвайсковым адзенні.

— Таварышок, таварышок, — тармашыў яго Пятро Ламака, — дабаўце крыху!

Але камісар быў непрыступны:

— Не паложана, таварыш!

У поезд прызначылі каменданта з паперай: усім чыгуначнікам і грамадзянскім установам — аказваць садзеянне. Загудзеў на адпраўку паравоз, і цягнік рушыў на захад. Галёнкаў Мікіта, як чалавек палітычна свядомы, хацеў купіць газету, але не знайшоў, дзе б яе прадавалі. Зрэшты, уражанняў хапала і без газеты.

— У Самары жанчыны ў чырвоных касынках ходзяць! — заўважыла вастравокая Апраска, калі бежанцы стоўпіліся каля дзвярэй.

Ляскатанне колаў па рэйках прымушала гаварыць галасней.

На станцыях, дзе цягнік прыпыняўся, Лявон і іншыя мужчыны бралі чайнікі і беглі па кіпяток.

Мінулі Рцішчава, Ліскі. Састаў то мчаўся наўздагон за ветрам, то ледзьве поўз, а то і наогул стаяў. У паўзмроку вагона як бы перастаў існаваць час. За Ліскамі пачалася гайданка, якая працягвалася да самай Тулы.

— Шпалы спарахнелі! — шукаў прычыну Гамон.

— Што ты хочаш — разруха, — тлумачыў Мікіта.

Цяплушку страсянула некалькі разоў на стрэлках, і поезд пачаў замаруджваць ход, нібы абмацваючы нябачныя рэйкі. Праехалі паўз нейкі шэры прыземісты будынак, лязнулі буферы.

Абвясцілі, што будуць стаяць доўга, і прускаўцы павыходзілі з вагона. Ад Самары да Тулы ехалі больш за два тыдні. І тут, як усюды, вакзал і станцыя забіты мяшочнікамі. На сустрэчных цягніках на дахах вагонаў і нават на паравозах іх па тысячы і больш. Кім яны былі ў мінулым, цяжка сказаць. Людзі, ды і ўсё. Брудныя, з мяшкамі. Усе аднолькавыя. Супраць мяшочнікаў выстаўляліся заградатрады, іх лавілі і валаклі ў ЧК, адбіралі мяшкі. Аднак нават і гэта не дапамагала. У Туле ў вагон да прускаўцаў іх увалілася адразу некалькі. Было больш, але прускаўцы ўсіх не пусцілі.

— Таварыш, таварыш! — прасіў чалавек у паўвайсковым адзенні з цёмным тварам.

— Куды ты?! Хіба не бачыш — тут чалавек на чалавеку сядзіць! — закрычала на яго Аляксейчыха.

— А можа, ты недабітая контра! — падазрона паглядзеў на незнаёмага Мікітка, які апошнім часам стаў надта недаверлівы.

— Я ўжо двое сутак еду там! — незнаёмы паказаў пальцам уверх, дзе быў дах, і патлумачыў: — Мы бальшавікі-мяшочнікі.

— Адкуль?

— Інвалід я! З фронту!

— А пашпарт ёсць? — спытаў Гамон, калі «інвалід» ужо ўладкаваўся ў вагоне.

За ім пёрся другі, у абшарпанай салдацкай папасе на галаве:

— Пусці хоць на дах, таварыш!

— Што прэшся! Зараз у чаку здам... — адбіваўся Аляксей Галёнка.

— Зараз я табе морду набок зварачу, каб ты жыў сазнацельна! — прыгразіў Мікітка.

— Пасадзіце, Хрыста радзі.

— Дык куды ж мы цябе — месца няма!.. — крычала Аляксейчыха, махаючы перад сабою рукамі.

— Пашкадуй! Памром...

— Бачыш — авечкай прыкінуўся, пралез! — дзівілася Апраска.

Пасля Тулы цягнік зноў павярнуў на поўдзень у напрамку Арла. Пахла анучамі. Лявон агледзеў мяшочнікаў: некалькі мужчын і жанчына. Жанчына была з дзіцем, загорнутым у нейкую мешкавіну. Яна прасіла міласціну.

— Міласціну трэба даваць, інакш самому давядзецца прасіць, — сказала Фёкла і дала жанчыне сухар. На станцыі Рцішчава Фёкле пашанцавала купіць свечку, і цяпер яна запаліла яе.

«Усё жывое — стварэнне божае, — думаў Лявон, пазіраючы на мяшочнікаў, — трэба дапамагаць. Ох, якая бездань пакут стоена ў чалавечых душах! Але ніхто так не можа пакрыўдзіць чалавека, як сам чалавек. Валтузяцца паміж сабой людзі, не ладзяць...»

## X

Прачнуўся Лявон толькі пад раніцу. З усіх шчылін дзьмуў вецер. Калі поезд стаіць, дык яшчэ нічога, можна трываць, а калі выбягае на прастор, дык прадзімае наскрозь, выганяе цяпло адусюль і з-пад вопраткі таксама.

— Есці хочацца! — пачуўся кволы Васеў голас.

— Пачакай! — шумнула на сына Фёкла. — Нецярплівы які!

— Фяклуша, што ты ад малога хочаш? Ты мне яго не крыўдзі. Вася, хадзі сюды! — ён пасадзіў пасынка на калені, знайшоў у кішэні сухар, даў. Той адразу адкусіў, пачаў хрумсцець.

Фёклу вельмі ўсцешыла, што Лявон гэтак шчыра ўзяў сынаў бок — яна нават заплакала.

Давялося суцяшаць і яе:

— Чаго ж ты плачаш?

— Гэта я так...

Ад Лявона хлопчык перайшоў да маці. Фёкла прыціснула да сябе сынаў безабаронны тварык, абняла:

— Ну што, сонейка маё?

У вагоне распачыналася ранішняе жыццё. Галёнкі варылі ў маленькім чыгунку бульбу. Аляксей нажом дастаў з чыгунка дробненькую бульбінку, астудзіў і працягнуў Васю.

У Харкаве, на пункце дапамогі бежанцам, іх накармілі, далі тое-сёе з адзення і абутку. Наслухаліся, вядома, і крыку, і лаянкі, але паспелі пасмялець і свайго дамагаліся. За Харкавам праехалі Карасцень, наперадзе былі Сарны. Ехалі, з раніцы не ведаючы, дзе будуць у абед і вечарам. Поезд рухаўся надзвычай марудна. Спакваля, адзін за другім, праплывалі паўз вагона тэлеграфныя слупы. Аднастайнасць дарожнага побыту, бясконцы перастук вагонных колаў з рэйкамі, падобныя адзін на другі малюнкі разбураных чыгуначных станцый выматвалі чалавечыя сілы і стамлялі. Не хацелася нават размаўляць. Прускаўцы ўжо не ведалі, дзе едуць, калі спыняцца і калі рушаць далей.

Зноў прыпыніліся на нейкай станцыі, і прускаўцы, як звычайна, адкацілі дзверы. Прачнуўшыся, Вася прасіў есці.

— Глядзі, Лявонка, як ён рог падушкі жуе, — са скрухаю ў галасе прамовіла Фёкла. Паўсонны Вася і сапраўды тыцкаў у рот ражок сваёй падушкі.

На прывакзальнай плошчы крычалі гандляры.

— Картошка вароная! Картошка вароная!

Прускаўцы рынуліся па здабычу.

— Пайду! Можа, малака куплю?.. — вызвалася і Фёкла. У ёй, відаць, абудзілася няўрымслівая натура: яна павінна была пастаянна рухацца, нешта рабіць, клапаціцца. Лявон дапамог ёй саскочыць з вагона, і маладзіца закружылася ў людскім калаўроце, усё больш аддаляючыся ад цягніка.

Ніхто не ведаў, колькі яны будуць стаяць, і тыя, хто пайшоў, каб не рызыкаваць, неўзабаве пачалі вяртацца ў вагон. Нарэшце сабраліся, здаецца, усе, не было толькі Фёклы. За дзвярыма вагона накрапваў дождж. Кужалі занерваваліся. Прайшло яшчэ крыху часу, і здарылася тое, чаго Лявон больш за ўсё баяўся: машыніст даў назад, загрымелі, заляскаталі вагонныя буферы. Пасля гэтага цягнік памалу рушыў наперад, а потым пачаў набіраць хуткасць. Дзверы зачынялі ўжо на хаду.

«Дзе ж Фёкла?»

Лявон яшчэ раз агледзеўся навокал, як бы Фёкла магла быць тут, але не заўважыў.

— Цёця Фядорка, мне холадна, — паскардзіўся Вася. Фядора акрыла яго коўдрай.

«Няўжо пакінула? Усё-такі пабаялася ехаць...» Ён успомніў, як Фёкла з раніцы памяняла сваім бялізну, — як бы развіталася, і вось цяпер яе і сапраўды няма. Ім авалодала прыкрая, пякучая думка: «Пакінула! Здрадзіла!»

Знікненне Фёклы заўважылі.

— Усякае здараецца, — паспачуваў Галёнка.

Ён меў рацыю: Фёкла, сапраўды, у пошуках малака для Васі, адстала. Малака таго на тым базары і не было, а яна спадзявалася хоць на кубачак. Не заўважыла, а толькі пачула здалёк, як цягнік, які ішоў без усялякага раскладу, рушыў і, пастукваючы коламі, падаўся сваім шляхам на захад. Давялося даганяць на папутных. У сваю цяплушку яна перасела толькі ў Чаркасах. Знайшла яе між іншых, такіх жа няўтульных і абшарпаных вагонаў. Лявон не спаў і страшэнна ўзрадаваўся, калі пачуў яе ціхі, пяшчотны голас:

— Дзе ты?

Малака Фёкла не знайшла, затое прынесла паўбуханкі хлеба — выменяла на базары на іголку. У валасах — Лявон заўважыў — быў уторкнуты алюмініевы грабенчык.

— Во, і грабяшок купіла, — пахвалілася яна і засмяялася.

Паеўшы хлеба, усе паснулі, а ён сядзеў побач і трымаў яе руку ў сваёй, адчуваў, як яна прыціснула яго руку да сябе. Ён усё яшчэ перажываў яе нядаўняе знікненне.

За Чаркасамі былі Сарны. У Сарны прыехалі на світанку і стаялі мала. Ля вагонаў пахадзілі чыгуначнікі, праверылі калёсныя пары, і адразу ж пасля гэтага цягнік рушыў далей. Кужалі пачалі перакусваць рэшткамі хлеба, што прынесла Фёкла. Жуючы, Лявон пазіраў на сямейнікаў і думаў: «Калі ж канец нашым блуканням?» Ён ужо сумняваўся, ці будзе калі гэты канец. Фёкла моўчкі сядзела, заглыбленая ў свае думкі. Ужо каторы дзень яна нічога не ела. На аблічча былой весялухі лёг цень суму. Апошнім часам яна скардзілася на галаўны боль.

— Нешта ў цябе настрою няма, Фяклуша?

Яна нічога не адказала, можа, не пачула, і Лявон не стаў паўтараць свайго пытання. Вядома, здагадваўся ён, балела душа па пакінутым. Ні ён, ні яна яшчэ не ведалі, што Фёклу адолела хвароба.

— Лёня, нешта мне вельмі холадна, знабіць...

Лявон памацаў лоб, рука адчула гарачыню: «Тэмпература!» Глянуў у яе вочы. Яны гаварылі больш, чым словы: у іх адбіўся жах, як бы яна нешта прадчувала.

Пачуўся голас Галёнкі:

— Хутка пад'язджаем да Цвяткова.

Лявон здрыгануўся, як токам працяты успамінам: «Гэта ж тое Цвяткова, дзе пад вагоннымі коламі загінула Ганна!..»

— Надта галава баліць! — зноў паскардзілася Фёкла. Яна адчувала сябе ўсё горш і горш. Цела балела так, што цяжка было дыхаць. Як бы хто ўзяў яго ў ціскі якія і душыў, душыў, душыў... Хворую абступілі з усіх бакоў Фядора з Варкай, Лявон. На ложку, каля маці, сядзеў Вася.

— Тыф у мяне, — спалохана сказала Фёкла і стала траціць прытомнасць, нікога вакол не пазнавала.

Пачаліся трызненні. Снілася, як потым успаміналa, што едзе яна на радзіму ў Запалоннае. Вось ужо, здаецца, Волга. Поезд рухаецца па мосце. Вось ужо хутка той бераг. Раптам мост як бы прагінаецца, нешта трашчыць, і вагоны валяцца ў ваду. Потым прысніўся Аляксандр Ільіч. «Што? Пакінула мяне?» — крыўдліва і разам з тым здзекліва дапытваўся ён. Гэта быў ужо нават не сон, а нейкае бязладнае трызненне. «Адкуль ён прыехаў — з Бузулука?» Стомлены, запылены з дарогі, пры баку матляецца ў абшарпаных ножнах шашка. Фуражку з чырвонай зоркай ссунуў на патыліцу, пад казырком уецца чорны чуб. З вачэй цякуць п'яныя слёзы: «Цяпер ты ўжо не мая, цяпер ты яго», — Аляксандр Ільіч паказваў рукой кудысьці далёка, убок...

— Лявонка! Лявонка! — раптам закрычала хворая. — А Вася дзе? Вася!..

Ёй здалося, што сын падняўся з пасцелі і патупаў па вагоне да напалову адчыненых дзвярэй. Лявон глянуў у яе шырока расплюшчаныя вочы і зразумеў, што хворая непрытомная. Ён хуценька саскочыў на перон і пайшоў на вакзал шукаць урача. На медыцынскім пункце

знайшоў фельчара, які згадзіўся агледзець хворую. Фельчар з'явіўся праз гадзіну, падняўся ў вагон, у якім панавалі духата і бруд. Фёкла, калі да яе вярталася свядомасць, прасіла піць. У чалавеку ў белым халаце пазнала доктара:

— Доктар, доктар, перадайце мужу, каб прыйшоў.

— Фяклуша, я тут... — азваўся Лявон.

— Дайце лыжку! — патрабаваў фельчар. Ён падступіўся да хворай, прасунуў лыжку ў рот, расшчаміў зубы і ўбачыў язык, сухі, пакрыты белым налётам.

— Сыпняк!

У вагоне запанавала цішыня. Лявон ведаў, што такое сыпняк, бо ён ужо перахварэў, яшчэ ў Запалонным, на сыпны тыф. Выратоўваюцца адзінкі. Недзе ў глыбіні свядомасці зноў узнікла знаёмае халаднаватае пачуццё адчаю. Вярнуў да рэчаіснасці загад:

— Лыжку пракіпяціце ў гарачай вадзе!

«Вось табе і — на! — уздыхнуў Лявон. — Як заўсёды, здараецца нешта такое, чаго не чакаеш...»

Перад Кужалямі паўстала пытанне, што рабіць. Лявон пачуў, як Фядора сказала:

— Куды ж яе такую везці!

Прыйшлі санітары з насілкамі і ледзь жывую забралі Фёклу з цягніка і павезлі ў бальніцу. Для медыкаў такія выпадкі, па ўсім відаць, былі не ўпершыню, і ў іх ўсё было напагатове. Хворую суправаджалі Лявон і Фядора. Гэта была цвяткоўская бальніца. Ён адчуваў сябе разгубленым. «Не шанцуе мне на гэтай станцыі. Туды ехалі — Ганна... Назад вяртаемся — з Фёклай здарылася дрэннае... Гэта ўжо, мабыць, лёс». З Фёклай засталася Фядора, якая не адыходзіла ад яе.

— Дзе Вася? Вася? — у непрытомнасці без перастанку пыталася хворая.

Становішча здавалася безвыходным...

## XI

Калі ён вярнуўся на вакзал, дык убачыў Варку і Васю, якія разгублена стаялі на пероне, не ведаючы, што рабіць. Вакол іх — згружаныя рэчы. Вагон з прускаўскімі спадарожнікамі пакаціўся далей.

— Нашы паехалі, — сказала Варка.

Спачатку Лявон і не шкадаваў. Абрыдзела, што і казаць, гэта вагоннае існаванне. Яшчэ раней ён разлічваў купіць каня з возам і рухацца дадому. Цяпер становішча ўскладнілася. «Як жа быць далей? Фёклу ж не пакінеш! Пакуль яна ў бальніцы, трэба заставацца тут, у гэтым Цвяткове. Пакуль Фёкла хварэе, трэба прыдбаць каня з возам, а там, дасць Бог, папраўіцца — і паедзем усе разам. Толькі вось за што купіць, дзе знайсці грошы?»

Варку з Васем ён адвёў у памяшканне вакзала, перанеслі туды і рэчы, а сам пабег па савецкіх установах шукаць дапамогі. Соваў усюды бежанскія дакументы, пераконваў, прасіў, патрабаваў, але ўсё безвынікова, усюды толькі абяцалі. Хістаючыся ад стомы, вярнуўся на вакзал да Варкі з Васем. Вакзал прапах тытунём і потам. Зала чакання была запруджаная народам. Утраіх пажавалі хлеба, таранкі, запілі астылым кіпятком, і Лявон зноў выйшаў на перон.

Чырвонаармейцы ў шынялях і будзёнаўках прымацоўвалі да франтона вакзала чырвонае палотнішча з нейкім лозунгам. Кіраваў усім рослы мужчына ў чорнай скуранай тужурцы, галіфэ са скуранымі ўрэзамі і такой жа скуранай фуражцы з чырвонай зоркай. Відаць, нейкі камісар. Грудзіна перапаясана крыж-накрыж рамянямі, на якіх з аднаго боку матляўся маўзер, з другога — жоўтая палявая сумка. «Да мітынгу, напэўна, рыхтуюцца», — падумаў Лявон. Чалавек у скураным адзенні дзелавіта кіраваў падначаленымі. Нарэшце палотнішча было разгорнута, і Лявон здалёк прачытаў: Через три года мы построим на земле рай!!! Уздыхнуў і прыгледзеўся да чалавека ў скуранцы больш уважліва. У абліччы мільгнула штосьці знаёмае. Потым адчуў, што і той таксама да яго прыглядаецца. Можа, знаёмы які? Раптам той накіраваўся ў Лявонаў бок, падышоў.

— Ты, што лі? — ён адразу перайшоў на «ты».

Лявон застыў ад нечаканасці. Перад ім стаяў Андрэй Кляновік. Прускавец і пазнаваў, і не пазнаваў яго — пад носам тапырыліся вусы, не тыя былі вочы. Зрэнкі страцілі былы свой блакіт і сталі бледна-шэрымі. Па чыста паголеных сківіцах перакатваліся цвёрдыя жаўлакі. Кляновік выглядаў бадзёрым і ўпэўненым.

— Гара з гарою не сходзіцца, а чалавек з чалавекам можа сысціся! — сказаў ён, падаючы руку. Яны сардэчна абняліся.

— Няўжо гэта ты, Андрэй?

— Як бачыш!

— Жывы?

— А чаму ж не?

— Адкуль ты тут узяўся?

Замест адказу Кляновік ляпнуў Лявона па плячы.

— Доўгая размова, брацe!

Ён уважліва паглядзеў на прускаўца, зняў скураную фуражку, выцер хустачкай галаву. Яна ў Кляновіка была паголеная, — ад былой кучаравай шавялюры не засталося і следу. Ён зноў глыбока насунуў фуражку. Над казырком зазіхацела новенькая чырвоная зорка.

— Ніколі не спадзяваўся цябе сустрэць! Пасівеў... — адзначыў прускавец.

— Кавалак часу! — усміхнуўся той.

Аднак старасць Кляновіку нават не пагражала, выглядаў ён маладым і пры добрым здароўі. Лявон, гледзячы на сябра, міжвольна адчуў зайздрасць. У Амерыцы ён яму не зайздросціў, а тут падумаў: «Шанцуе чалавеку...»

— Гэта наш аддзел праявіў ініцыятыву, — сціпла, нібы апраўдваючыся перад Лявонам, сказаў Кляновік, кіўнуўшы на палотнішча.

— Прыгожы надпіс!

— Ну а ты як? Што ты пра сябе не расказваеш?

— А я дадому валакуся з жонкай, сёстрамі, усёй сям'ёй. З бежанства...

— Я так і падумаў.

Кляновік, з свайго боку, бачыў, што трэба як-небудзь падтрымаць гэтага чалавека і яго сям'ю. Аддаў распараджэнне, і салдаты іх пакармілі: далі колькі кавалкаў хлеба, адшукалі невялічкае вядзерца і налілі супу. Варка з Васем павесялелі. Крыху хлеба і рэшткі супу перадалі нават у бальніцу — Фёкле і Фядоры, якая знаходзілася неадлучна пры ёй.

Заначавалі Кужалі ў пакгаўзе пры станцыі — па пратэкцыі Кляновіка знайшлі куточак. Ён аказваў земляку ўсялякую падтрымку бо, здаецца, рады быў зрабіць яму нешта добрае.

Нараніцу ў іх пачалася доўгая размова.

— Пакуты і хаос — гэта, дружа, усяго толькі год ці два, далей усё будзе добра! — пераконваў Кляновік. — Ты нават не ўяўляеш сабе, як добра!

Прускавец слухаў сябра і не ведаў: верыць яму ці не? Кляновік упэўнена матлянуў галавой. На фуражцы зырка бліснула чырвоная зорка. Потым, пасля працяглага маўчання, ён пачаў расказваць пра сябе:

— Прагналі мяне, брат, са Штатаў. Не мог я ўтрымацца, бунтаваў. Ёсць там цяпер такая арганізацыя — «Індустрыяльныя рабочыя свету». Цяпер гэта, можна сказаць, партыя. Па сакрэце табе скажу, што да яе прычыніўся і я. Разам паставілі яе на ногі. Яснае дзела, паліцыя паклала на мяне вока. Быў такі закон у Амерыцы — так званы антыманапольны. Паводле яго забаронены былі ўсялякія штрайкі. Баяліся разрастання нашай справы. Ну, словам, апынуўся я ў турме. І ў Чыкага сядзеў, і ў Аклахоме быў, і ў Каліфорніі. Потым, разумееш, што яны робяць! Мяне і чалавек дзвесце такіх, як я, — паліцыя пасадзіла на параход. Помню нават, як ён называўся, — «Вольтурна». Вялікі, чатырохтрубны, і мы з нью-йоркскага порта выйшлі ў акіян, узялі курс у Еўропу. Была якраз сярэдзіна лета. Стаяла, я табе скажу, невыносная гарачыня, і мы паплылі на тым параходзе...

Лявон уважліва слухаў. Гадоў праз пяць ён даведаецца з польскага друку, што бальшавіцкі лідэр Ленін у 1922-м нагрузіў у Петраградзе карабель некалькімі сотнямі (пад завязку) прымусовых пасажыраў. Гэта былі вучоныя, філосафы, пісьменнікі, непажаданыя Леніну, варожа настроеныя, на яго думку, да савецкай улады. Тады Лявон успомніць Кляновіка і зразумее, што Ленін у дадзеным выпадку паўтарыў той амерыканскі «буржуазны» прыём, з дапамогай якога такія, як Кляновік і да яго падобныя, былі выдвараны ў свой час з Амерыкі. Ленінскі карабель з'явіўся як бы юбілейным (праз дзесяць гадоў) паўторам той амерыканскай дэпартацыі — своеасаблівай помстай маладой пралетарскай рэспублікі старому буржуазнаму свету.

Расказваючы пра свае прыгоды, Кляновік успомніў сяброў-пасажыраў з таго памятнага рэйса. Надзейныя былі таварышы — Краснашчокаў, Сянкевіч, Фёдар Фядотаў, іншыя! У Амерыцы ён навучыўся сыходзіцца з людзьмі розных нацыянальнасцей, цаніць ідэйную блізкасць, супольны падыход да рэчаіснасці. На караблі паводзіны капітана і каманды чамусьці адразу здаліся яму і сябрам нейкімі падазронымі. Папершае, незразумелым было, чаму капітан памяняў курс, павярнуў на поўдзень, і праз Панамскі канал яны з Атлантычнага акіяна апынуліся ў Ціхім. Па-другое, па загадзе капітана каманда пачала ладзіць шлюпкі. Пасажыры правялі нараду і вырашылі дзейнічаць. Прыціснулі ў цёмным кутку памочніка капітана, і той прызнаўся, што капітан падкуплены. «У іх загад утапіць вас разам з гэтай пасудзінай, абярнуць уверх дном...» «Эх, сволачы!» — вылаяўся тады Краснашчокаў, але нічога талковага прапанаваць не змог. За справу ўзяўся Кляновік. Капітана выкінулі за борт. Боцмана з матросамі зачынілі ў трум. На месца капітана паставілі памочніка, папярэдзіўшы яго і тых, хто быў пры ім: «Калі што, дык разам з намі пойдзеце на дно і вы!» Паплылі далей.

Кляновік непакоіўся, як сустрэне Расія. Для большай упэўненасці знайшоў сярод пасажыраў чалавека і памяняўся з ім дакументамі. Пераклеілі фотакарткі, збольшага падрабілі пячаткі. Кляновік заплаціў яму два даляры, што яшчэ заставаліся ў кішэні.

Уладзівасток сустрэў няветліва. Палічылі злачынцамі. У Расіі якраз у той час сцвярджаў парадкі Сталыпін. Рэформы ішлі туга, не ўдаваліся, спараджалі жорсткасць і злосць. Прыстань была акружана жандарамі. Пасажыраў прасейвалі па адным. Некаторых адпусцілі, у тым ліку Краснашчокава з Сянкевічам і таго, з кім Кляновік памяняўся дакументамі. За Кляновіка ўчапіліся — прыдраліся да дакументаў і адразу ж павалаклі ў ахоўнае аддзяленне. Тут арыштаванага ўжо чакаў следчы — чалавек у жандарскім афіцэрскім мундзіры, з чырвонай плямай на левай шчацэ. Допыт расцягнуўся на некалькі дзён, афіцэр падрабязна высвятляў асобу Кляновіка, які цяпер выдаваў сябе за Цімафея Хлябіча (такім было прозвішча ў яго новых дакументах), родам з вёскі Пруска, што знаходзілася на другім канцы Расійскай імперыі, недзе пад Брэст-Літоўскам. Пытанняў было шмат. У Кляновіка таксама з'явілася жаданне спытаць:

— Гаспадзін ротмістр, — звярнуўся ён да афіцэра, які сядзеў перад ім, — прабачце, калі ласка, за нясціплае запытанне. Ці не даводзілася вам быць у Брэсцкай крэпасці?

Дзіцячая памяць вострая — убачанае ды пачутае запамінаецца на ўсё жыццё. Кляновік, як толькі ўбачыў, адразу успомніў, дзе ён сустрэў гэтага жандара (тады ён яшчэ не быў ротмістрам). Даўно гэта было. Тады яны з бацькам вярталіся з Берасцейскага базару і сустрэлі гэтага чалавека з плямай на шчацэ, які з наганам бег за салдатам, размахваючы крысамі сіняга шыняля.

Ротмістр, яўна заінтрыгаваны пытаннем, уважліва паглядзеў на Кляновіка:

— Дапусцім, а што?

— А тое, што я — гэта я, а вы — гэта вы, і ніхто нікому не маніць. Вось і ўсё.

Ротмістр, мусіць, ужо добра зняверыны ў людзях, пасміхнуўся. Але, здаецца, адносіны паміж імі наладжваліся. Кляновік, адчуваючы гэта, папрасіў вывесці яго ў двор. Выводзіў сам ротмістр. Кляновік паспеў ужо ўведаць яго прозвішча, крыху дзіўнаватае, — Гадаў. Калі арыштаваны справіў малую патрэбу, канваір пачаставаў яго папяросай, дастаўшы яе з свайго партсігара. Чыркнуў запалкай, але вецер гасіў запалкі адну за адной. Кляновік чакаў, прыхінуўшыся да сцяны, нібы яму зрабілася млосна, і, калі запалка нарэшце загарэлася ў сашчэпленых далонях Гадава, рыўком адштурхнуўся ад сцяны і з усяе сілы ўдарыў яго ў сківіцу. Нават не ўдарыў, а, так бы мовіць, урэзаў, бо канваір моцна грукнуўся аб зямлю і аціх. Арыштаваны кінуўся наўцёкі.

Ён доўга хаваўся, і гэта была цэлая эпапея. Ва Уладзівастоку наняўся брукаваць вуліцы, але працаваў не доўга. Баючыся паліцыі, якая палявала за ім, кінуўся на захад. Змардаваны, паўгалодны Кляновік скалясіў усю Сібір. Араў зямлю ў заможных сялян, працаваў грузчыкам у Благавешчанску, малатабойцам у Верхаянску, пілаваў лес. Даехаў да Іркуцка, дзе зноў давялося наймацца рознарабочым да купцоў: патрэбны былі грошы. Адсюль у 1912 годзе падаўся на Ленскія залатаносныя прыіскі, проста ў Бадайба. Праца золаташукальнікаў цяжкая, а заробкі малыя. З рабочага выцягвалі і сокі, і грошы. У дадатак, яго, учарашняга амерыканца, барацьбіта за правы,

пакрыўдзіла і непавага да рабочых з боку адміністрацыі, абразлівы зварот на «ты». Хто дазволіў абражаць людзей? Натура Кляновіка была такая, што ён не цярпеў уціску і яго проста п'яніла магчымасць супрацьстаяння ўладам і змагання з імі. І ён вырашыў даць бой!

Лявон уважліва слухаў аповед даўняга знаёмага.

— Прайшоў я тыя залатыя капальні, — уздыхнуў ён і закурыў папяросу. Пачаставаў папяросай і прускаўца. Папяроса — смачная, пахучая. Фабрыкі «Ира». Даўно Лявон такіх не курыў.

Кляновік глыбока зацягнуўся дымам і распавядаў далей:

— Ленскія падзеі ў тым жа 1912-м — усё гэта на маіх вачах. Мы пайшлі дзвюма калонамі, адну вёў я. Яны стралялі з засады. Мы ішлі на Надзеждзінскі прыіск. Быў ужо красавік, але ў тых краях яшчэ зіма, снег. Дык снег стаў чырвоны. Агулам загінула дзвесце семдзесят чалавек і амаль столькі ж, браце, паранена. Такія вось справы.

Ён памаўчаў і дадаў:

— Але мы скаланулі свет!

Кляновік таксама быў ранены. Яго падабралі, і ён даволі доўга, два месяцы, ляжаў у шпіталі, дзе яго не раз наведвала паліцыя, якая яўна не хацела з ім расставацца, — чакалі толькі моманту, калі пазда-равее. Не выпускаў яго з свайго поля зроку і ротмістр Гадаў. Арыштоўваць не рэкамендаваў. Быццам бы сказаў (пра гэта Кляновік даведаўся пазней: «Ён нам больш патрэбны жывы, чым мёртвы»).

І ён збег — і са шпіталя, і ад паліцыі. Падаўся ў Маскву.

У Маскве працаваў канторшчыкам на Прохараўскай прадзільнай фабрыцы. Пашанцавала: з'явілася магчымасць запісацца ў Народны універсітэт Шаняўскага — ніякіх дакументаў для паступлення туды не патрабавалася. Запісаўся. На вячэрнюю змену, бо днём працаваў. Ноччу, у адзінаццаць гадзін, заняткі заканчваліся, а раніцай, у сем, ішоў на працу.

У самым канцы 1912-га ўступіў у бальшавіцкую партыю — прымаў Краснапрэсненскі райком. За ім тым часам уважліва сачылі ў дэпартаменце паліцыі, а ў 1913-м усё-такі арыштавалі і кінулі ў Бутырскую турму. Судзілі. Далі чатыры гады турмы і пяць гадоў пражывання ў высылцы. Лютаўскую рэвалюцыю сустрэў у Екацерынбургскай губерні. Адразу ж кінуўся ў Петраград. Там трапіў у вайсковае асяроддзе. Агітаваў канчаць вайну і павярнуць штыкі на афіцэраў. Аднойчы ноччу яму ўдалося вывесці полк з казармаў і падбіць салдат на забойства афіцэраў. Забілі некалькі чалавек, і ніхто не адказваў, бо гэта было зроблена калектыўна, самасудам і вінаватых не знайшлося.

У 1917-м за ўдзел у ліпеньскай дэманстрацыі сядзеў у Пецяргофскай турме. На дэманстрацыю з'явіўся з наганам і колькі разоў стрэліў у той бок, дзе заселі гарадавыя. У Пецяргофскай турме доўга не трымалі, адправілі далей, на поўнач. Апынуўся на адным з астравоў паблізу Архангельска. Вызваліў Кастрычніцкі пераварот. Кляновік зноў апынуўся ў Петраградзе. Адтуль паслалі ў Маскву. У лістападзе семнаццатага выбіваў белагвардзейцаў з Кудрынскай плошчы, у ланцугу наступаў па вуліцах Прэсні.

Потым матаўся па розных франтах — куды пасылалі. Яго энергія, рэвалюцыйная перакананасць, вялікі арганізатарскі вопыт стварылі аўтарытэт і папулярнасць. Працаваў у асноўным па лініі ваеннай разведкі Чырвонай Арміі, дзе аказаўся найбольш прыдатны. Не раз яго засылалі (як некалі ў Амерыку) у варожы стан, у армейскія

штабы і буйныя гарады, дзе фарміравалася сама стратэгія белага руху і былі яго ўдзельнікі, кіраўнікі і натхніцелі. У часе польска-савецкай вайны 1920 года, калі Чырвоная Армія стаяла ля Варшавы, займаўся партыйным будаўніцтвам на Берасцейшчыне. Але пра гэта земляку не расказваў. Пра такое не расказваюць. У той час, калі Лявон сустрэў яго ў Цвяткове, Кляновік узначальваў аддзел забяспячэння 2-й Украінскай брыгады. Так называўся аддзел разведкі, але пра гэта Кляновік таксама маўчаў. Сказаў пра іншае:

— Быць інтэндантам не па мне, на прастор хачу, да жывых людзей...

Недакурак папяросы ён кінуў пад абцас і расціснуў.

— Я яшчэ тады, у Амерыцы, зразумеў, што ты чалавек іншага складу, — адказаў Лявон.

## XII

Кляновік памог набыць каня з возам. Па яго даручэнні гэтым займаўся памочнік таварыш Левін. Навокал ужо гаспадарыла вясна. Набраклі сокам дрэвы і распускаліся кусты. Вярталіся з выраю птушкі. Станцыя Цвяткова набывала амаль святочны выгляд.

Кужалям трэба было спяшацца дадому, каб хоць як упарадкаваць гаспадарку, падрыхтавацца да будучай зімы, бо селянін павінен глядзець уперад. Жылі адной думкай: хутчэй бы даехаць! Фёкла між тым заставалася ў шпіталі. Пры ёй пастаянна знаходзілася Фядора, дзяжурыла каля хворай, мяняла ёй кампрэсы, паіла адварамі. Збіраючыся ў дарогу, вырашылі пакінуць яе ля хворай да поўнага выздараўлення, балазе справы пайшлі, дзякаваць Богу, на папраўку. Хворая ўжо сядзела ў ложку, на стрыжанай галаве адрасталі валасы.

— Я за ёю тут прыгляджу, — запэўніла Фядора, — а потым разам з Фёклай дагонім вас.

— А можа б, і ты ехала? — кволілася хворая.

— Не, Фяклуша, пабудзем разам. Мы іх дагонім. Накінь адзіялка!

Пакінулі ім змену бялізны, грошы і крыху харчоў. Кляновік працягваў апекавацца імі, ён і праводзіў Лявона. Ехалі на сваёй падводзе. Калі з'явіўся, у суправаджэнні Левіна і двух чалавек з аховы, Андрэй, Кужалі былі напагатове. Конь быў ужо запрэжаны, а клункі ляжалі на возе. Побач з імі сядзеў Вася. Лявон з Варкай рыхталіся да ад'езду. Конь стрыг вушамі, азіраючыся на незнаёмых людзей.

— Жвавы конік! — пахваліў Кляновік каня. — У бацькі калісьці быў такі, Гузам звалі.

— І мы, калі так, Гузам будзем зваць, — усміхнуўся Лявон.

— Ну вось і добра, — Кляновік пацерабіў каня за грыву.

— Андрэй, я ўжо нават не ведаю, як табе дзякаваць! — загаманіў Лявон. — Каб не ты, дык не ведаю, што і было б! Пагінулі б!

— Мы ж землякі! Павінны адзін аднаму дапамагаць...

— Шкада расставацца, але — што зробіш — даводзіцца. Бывай, Андрэй, — з жалем сказаў прускавец, потым падумаў і, уздыхнуўшы, дадаў: — Можа, ужо і не сустрэнемся...

— Ты думаеш? Гэта гара з гарою сустрэцца не могуць, а чалавек з чалавекам... Асабліва ў наш час!

— Я б вельмі хацеў убачыцца!

— Значыць, убачымся! Я такі чалавек: сёння — тут, заўтра — там. Ты ж мяне крыху ведаеш. А раптам калі-небудзь давядзецца ў на-

шых краях быць, калі на Захад будзем ісці. Помні, што працоўныя Варшавы і Берліна чакаюць нас! І мы прыйдзем!

Моцна абняліся, і Кляновік запісаў Лявонаў адрас — якая вёска, і колькі вёрст ад Камянца, і ў якім напрамку.

Лявон узяў у рукі лейцы, цмокнуў на Гуза, і той заскрыпеў гужамі. Паехалі. Прускавец некалькі разоў азіраўся і бачыў Кляновіка, які стаяў і павольна махаў рукой. Нарэшце постаць сябра знікла за паваротам. Хутка Цвяткова засталося ззаду.

У твар павяваў цёплы ветрык, бялела наперадзе дарога. Шумелі дарожныя прысады, чуліся галасы птушак. Добра думалася пра Кляновіка: «Які ж ён усё такі харошы чалавек, разумны, чэсны. А колькі ў ім дабрыні, спачування!.. У такім няшчасці дапамог! Як некалі Піхта, — ён успомніў цыгана Піхту, які калісьці, яшчэ ў Лявонавым дзяцінстве, прадаў Кужалям каня. — Але Піхта прадаў, а Кляновік падараваў, па-зямляцку. Што б ён рабіў без каня? Страшна падумаць. А цяпер ёсць і конь, і воз, і вось яны едуць, дабіраюцца дахаты...»

Ён азірнуўся назад, дзе сярод клункаў сядзелі Варка з Васем. Выглядалі вельмі сумна і жаласна.

— А дзе мама? — хныкаў малы.

— Мама з цёцяй Фядоркай, яны хутка нас дагоняць, — супакойвала яго Варка.

— Сёння?

— Не, крыху пазней.

Трэба было як-небудзь купіць карову. Без каровы не выжыць, як і без каня. Заехаўшы ў нейкую вёску, прадалі кажухі і валёнкі. Глыбока ўздыхнуўшы, Лявон дастаў са скрыні свой амерыканскі касцюм, які захавала маці. Як ні даражыў, надышоў час развітацца і з ім. Купілі-такі карову. Ланька (так яна называлася) — спачатку неахвотна, а потым прывыкла — пацягнулася за возам на прывязі.

— Бачыце, якія прыгожыя вочы ў нашай Ланькі, — кіўнуў у бок каровы Лявон, — толькі нейкія сумныя.

— Здарожылася, мусіць, яна, — паспачувала карове Варка.

На прывалах Ланьку кармілі і час ад часу даілі, каб не застойвалася ў вымені малако. Бубнеў у вядзерца, булькаў духмяны сырадой. Пілі самі з Варкай, але ў першую чаргу кармілі Васю.

— Еш, еш, маленькі! — падахвочвала Варка. Хлопец яшчэ болей стаў сваім, родным і Лявонава бацькоўства прызнаваў як нешта натуральнае.

Нанач раскладалі вогнішча, так-сяк вячэралі і кладліся спаць. Варка з малым на возе, а ён — дзе давядзецца. Калі займалася на дзень, уставалі і рухаліся далей.

Аднаго дня іх дагнаў абоз бежанцаў, які цягнуўся да польскай граніцы. Гаротнікі, як і ўсе бежанцы.

— Далёка куды? — пацікавіўся шыракаскулы мужчына ў парудзелай ад дыму сялянскай світцы.

— Да Берасця, а там яшчэ пяцьдзесят вёрст, — адказаў прускавец. — З Прускі мы.

— А мы да Вялікарыты. Што чакае дома — не ведаем.

— І мы не ведаем, сем гадоў як не былі. У бежанстве...

— А ў Маларыце нейкі генерал Балаховіч аб'явіўся. З войскам. Ды штандары беларускія загадаў вывесіць.

Прускавец пацiснуў плячыма — пра гэта ён нічога не чуў.

— Праз пару дзён — граніца, — зноў сказаў шыракаскулы мужчына, ахвочы на размову.

Але Лявону было не да размовы, ён спяшаўся, хоць ехаць станавілася ўсё цяжэй — пяску ды гразі па самыя восі. Палессе. З абодвух бакоў дарогі пачаў навісаць лес, шырока прасціраліся балацявіны, дрыгва. Рэдкія сосны, як зялёныя ветразі, стромка цягнуліся ў сіняе неба і раўнадушна маўчалі. Паўднёва-ўсходні вецер дзьмуў у спіну, нібыта прыспешваў: хутчэй, хутчэй... Па меры набліжэння да граніцы многія ў абозе пераходзілі на польскую мову.

І вось яна — граніца. Не думаў ён, што давядзецца праязджаць мяжу і што апынецца на радзіме, але ў іншай дзяржаве. Наперадзе паказаўся пярэсты шлагбаум, якім была перагароджана дарога, пры ім — польскія пагранічнікі з карабінамі.

— Стой!

Прускавец спыніў свой транспарт і, не выпускаючы з рук лейцаў, стаў каля каня. Гуз незадаволена крутнуў галавой. Падышлі пагранічнікі з карабінамі, у шапках з выпертымі ў чатыры бакі рагамі і вялікімі бліпчастымі казыркамі. Раменьчыкі шчыльна зацiснуты пад барадамі. Змрочна пабліскавалі лёзы штыкоў.

— Ну, што, з Саўдэпіі пан уцека?

Лявон хацеў нешта адказаць, але пачулася новая каманда:

— Дакументы!

Лявон прад'явіў дакументы.

— Skąd?

— З Прускі, — сказала Варка, якая стаяла, трымаючы за руку Васю.

— Skąd? — перапытаў пагранічнік.

— З Расіі, — адказаў Лявон.

— Czy pan mówi po polsku?

— Не.

— У Чырвонай Арміі не служыў?

— Не.

— Бальшавік?

— Не.

Іх прапусцілі, але быў яшчэ адзін доўгі прыпынак. У кіламетры ад заставы знаходзіўся санітарна-каранцінны пункт для бежанцаў, што на падводах і пяшком, гуртам і ў адзіночку, з усходу і з поўдня, рухаліся ў напрамку мяжы. Тых, хто вяртаўся з-за мяжы, правярала спецыяльная медыцынская камісія, і кужалёўская калымага разам з Ланькай пакацілася туды.

— Прэндзэй! Прэндзэй! — прыспешвалі ўрачы, але тут, на каранцінным пункце, у бараках, затрымаліся на цэлы тыдзень.

Пасля гэтага зноў рушылі ў дарогу.

— Хутка будзем дома, — сказаў Лявон, каб падбадзёрыць сястру і пасынка.





## Міхась БАШЛАКОЎ

### СУСТРЭЧЫ

*З РОДНЫХ ВОБРАЗАЎ*

1

Сасновы бор. Дарога. Нарач.
Прыбой за соснамі шуміць.
Смугой зацягнутая далеч.
І чайка горка так крычыць.

І раптам вёсачка Наносы
На вузкай возера касе.
Чарот. Чаўны ля хат. Бярозы.
І шэры змрок каня пасе.

З вяслом, як дзед, на ганак выйсці
І мне б таксама, — прамільгне, —
У смольным чоўне плысці, плысці...
Сабака брэша на мяне...

І крочу зноў сасновым борам.
Дарога. Ціша. Асака.
І ў срэбнай далечы азёрнай
Плыве чаўнок маладзіка...

2

Недзе ў ціхай вёсцы сяду каля хаты,
Дзе за плотам астры жоўтыя цвітуць,

---

*Башлакоў Міхаіл Захаравіч нарадзіўся 27 красавіка 1951 года ў пасёлку Станцыя Церуха Гомельскага раёна Гомельскай вобласці. Скончыў гісторыка-філалагічны факультэт Гомельскага дзяржаўнага універсітэта (1973). Настаўнічаў на Гомельшчыне і Браншчыне (1973—1985). Працаваў у Бюро прапаганды мастацкай літаратуры Саюза пісьменнікаў Беларусі (1985—1990). З 1991 года — у Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь, займаецца падрыхтоўкай і выданнем гісторыка-дакументальных хронік Памяці. Удзельнік ліквідацыі вынікаў аварыі на ЧАЭС.*

*Аўтар кніг паэзіі «Начны паром», «Дні мае залатыя», «Як слёзы горкія Айчыны...», «Матчыны грыбы перабіраю», «Пяро зязюлі падніму» і інш.*

І сабе падумаю: хай і небагата,
Ды, напэўна, ўсё-такі ладна тут жывуць.

Толькі выйдзеш з хаты — кветкі ў палісадзе,
Клён шуміць-шапоча штосьці пад акном.
Ластаўкі шчабечуць. На дварэ прысядзеш —
Абвявае ветрык летнім халадком.

А за хатай пахнуць белыя налівы
Так, што разумееш — ўсё не задарма...
Уздыхну самотна — не такі шчаслівы,
Бо ў мяне нічога гэтага няма...

3

Як дзеўкі, травы пераспелі,
Перастаялі, перамлелі
На ўлонні ліпеньскіх лугоў.
Касіць бы іх. Няма касцоў.
На ўсю ваколіцу тры хаты...
Тут касавіца ўжо — не свята.
Тры бабкі стомлена жывуць,
Счарсцвелы хлеб з вадой ядуць.
Зямлі ж навокал — колькі хочаш.
Ды бусел сполашна клякоча:
Няма каму араць, касіць,
Няма каму тут болей жыць...
Хаця было зусім іначай,
І ў месцах гэтых жыла ўдача.
Звінелі на світанку косы
І клалі роўныя пакосы.
Гула, шумела касавіца...
О, як спявалі маладзіцы
На гэтых сонечных пагорках
Вясковым цёплым надвячоркам...
Ах, бабка Марфа, бабка Уля,
Ах, бабка Стэфа, зацягнулі б
Вы песню мілай даўніны
На ўсе чатыры стараны...
На травах росы ці то слёзы.
Ржавеюць пад павеццю косы.
І каня жаласна крычыць:
Няма каму тут болей жыць...

4

Вёсачка ці хутар Стары Млын?
Тры двары ўсяго і засталося,
Тры двары між восеньскай імглы...
Весялей калісьці тут жылося.

І было намнога больш двароў:
Хто памёр, а хто кудысьці з'ехаў...

Між балот і векавых бароў
Вёсачка, як страчанае рэха...

У акне фіранка калыхне —
Вынесе вады папіць жанчына.
Думка ненарокам прамільгне:
Хутарам становіцца Айчына...

**5**

Дарогай між бароў
Брыду ў асенняй скрусе.
Дайду да Асавоў —
Ля крыжа памалюся...
Пятнаццаць, мабыць, хат,
З іх большасць — нежылыя.
Калодзеж. Палісад.
Тры бабкі, як святыя,
На лавачцы сядзяць,
Аб нечым уздыхаюць,
Самотна так глядзяць,
Як сонца дагарае...
Ля студні воз — як лёс.
Някошаная пожня.
За хатамі пагост
Чакае іх — апошніх...

**6**

Лясная вёсачка Бялыні
Сплыла ў нябыт, як дзіўны сон.
І толькі гай самотна стыне
Світальным рэхам даўніх дзён.

Бялыні — белыя бярозы...
Плыў раніцой ружовы дым
Над іх звычайным простым лёсам,
Над іх жыццём, амаль святым...

Касілі травы, песні пелі.
Дымы над вёсачкай плылі.
Нічога лішняга не мелі —
Усе навокал так жылі...

Жылі, бы выціралі слёзы...
Пайшлі ўсёй вёскай на пагост...
Адно, што толькі й засталося, —
Святло самотнае бяроз...

**7**

Прысяду на цёплы валун каля поля,
Падумаю: доля мая ці нядоля —
Вось так па дарогах Айчыны блукаць,
Бясконца чагосьці чакаць і шукаць.

Не знаю, чаго... Мо шчасліваe долі?
Хаця не бывае шчаслівай, відаць?..
Прысяду на цёплы валун каля поля —
Аблокі, як птушкі, кудысьці ляцяць.

І штосьці пяшчотнае шэпча мне ветрык,
І поле бяскрайняе жытам шуміць,
І васілёк гэтак міла і светла
Вачыма Радзімы ласкава глядзіць...

## ЛЯСНОЕ ВОЗЕРА

Лясное возера свяцілася,
Як вочы цёмныя твае,
Нібы шампанскае, іскрылася —
Хто ў кубкі нам яго нальe?..

І клікі, клікі лебядзіныя
Плылі над соннаю вадой.
І неба зорнае, былiннае
Звінела арфай залатой.

На хвалях серабрыўся месяц,
Спайманай плоткай трапятаў.
І на яліне ў змрочным лесе
Надрыўна філін рагатаў.

## ЛАЗНІК

Вецер скуголіць, брамаю рыпае,
Плачацца ў коміне, страшыць бядой.
А каля рэчкі венікам ліпавым
Хвошчацца Лазнік у лазні старой.

Вухкае, крэкча, стогне, рагоча.
«Пары паддайце, пары...» — крычыць.
Хвошчацца Лазнік цёмнаю ноччу —
Каменка пыхкае, парам шыпіць...

А за сцяной завывае завея.
Вочы у Лазніка жарам гараць.
Мыюцца чэрці ў лазні, шалеюць.
Лазнік жа просіць пары паддаць.

І да світання калоціцца лазня:
Любяць нячысцікі лазенны дух...
Вухкае, стогне, хвошчацца Лазнік
Ліпавым венікам, мабыць, за двух...

* * *

Асенні матылёк
Трапечацца ў акне...
Ах, як пяшчотна
Ты яго спаймала...
Так некалі
Спаймала і мяне,
Аб чым не раз,
Відаць, пашкадавала...

Што шкадаваць?
Каханая, не плач...
Гады нам тыя
Не вярнуць ніколі...
Адно прашу:
Грахі мае прабач,
І адпусці,
Як матылька,
На волю...

* * *

Мокрым лісцем засыпана сцежка —
Значыць, ўсё-такі восень прыйшла...
А твая незабыўная ўсмешка
Дорыць столькі святла і цяпла...

Чырванее на ўзмежку рабіна.
Жоўтым сумам гарадь паплавы.
Уздыхну: «Ах, якая дзяўчына,
Не згубіць бы сівой галавы...»

* * *

Зноў каля Добруша блукаю
Пад шапатлівы ліставей.
Чаго хачу? Чаго шукаю?
Няўжо няспраўджаных надзей?

Пазалаціла долы восень —
Які расквечаны прастор!

Ну і няхай, што не збылося...
Затое, як сінее бор!..

Заліты сонцам Іпуць, сосны,
Лазняк надрэчных берагоў...
За гэты міг адзін, дзівосны,
Аддаць гатовы шмат чаго...

* * *

Стажок насупраць хаты.
Буланы ходзіць конь.
За сінім палісадам
Рабінавы агонь.

Антонаўкамі свеціцца
Стары калгасны сад.

І днямі светла лецішча,
Хаця ўжо лістапад.

Так пахне адзінотай
І выстылай журбой...
І плача ля балота
Ссівелы жораў мой...

* * *

Гэта дарога асенняя
Лісцем кляновым засыпана.
Песня мая задуменная
Хмельнае восені выпіла,

І, нібы чайка бяссонная,
Лётае з крыкамі горкімі

Па-над шляхамі стамлёнымі,
Над залатымі пагоркамі,

І аж да ночы самоціцца
Над апусцелаю пожняю,
Плачацца, гэтак маркоціцца,
Нібы яна ўжо апошняя...







Раіса БАРАВІКОВА

# АПАВЯДАННІ

## ГЭТЫЯ КВЕТКІ НЕ СМЯЮЦЦА

### 1

— Мы дарэмна не заехалі ў сельсавет, — сказала Вера Мікалаеўна мужу, калі яны ўжо вывернулі на цэнтральную трасу. — Без дазволу сельсавета ніхто не стане рыць траншэю праз дарогу, а ваду хацелася б правесці ўжо цяпер. Да калонкі далекавата, не наносішся.

Антон Паўлавіч, ейны муж, вяла пасміхнуўся, ён думаў пра іншае, усё яшчэ сумняваўся, ці правільна яны зрабілі, набыўшы звычайную сялянскую сядзібу ў невялікай вёсачцы пад Уздою. Трыццаць сотак зямлі цяперашнім часам мець заманліва, але хто іх будзе апрацоўваць, ды і хата даволі старая, трэба перабудоўваць. А калі раптам акажацца, што гэта толькі часовая прыхамаць? За лета, другое нацешацца — і што далей? Будзе гэтая сядзіба зарастаць быльнягом, пустазеллем. Праўда, Веры хочацца як мага больш паветра, Мінск стамляе, у Мінску цяжка дыхаецца.

Бралася на адвячорак. У ветравое акно залятала свежасць прыдарожнага лесу.

— Чуеш, я не змагу цягаць ваду вёдрамі, а гарод паліваць трэба будзе, — даводзіла сваё Вера Мікалаеўна, і ён пагаджаўся з пэўнай доляй скептыцызму.

---

*Баравікова Раіса Андрэеўна нарадзілася 11 мая 1947 года ў вёсцы Пешкі Бярозаўскага раёна Брэсцкай вобласці. Скончыла Маскоўскі Літаратурны інстытут імя Горкага. Працавала ў рэдакцыях штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва», «Чырвоная змена», «Работніца і сялянка» (часопіс «Алеся»). Цяпер — галоўны рэдактар «Маладосці».*

*Аўтар кніг паэзіі «Слухаю сэрца», «Такое кароткае лета», «Адгукнуся голасам жалейкі», «Пад небам першага спаткання», «Сад на капялюшыку каханай» і інш., гістарычнай драмы «Барбара Радзівіл», па якой быў пастаўлены аднайменны спектакль у тэатры беларускай драматургіі «Вольная сцэна».*

*Выдала кнігі казак для дзяцей «Галенчыны «Я», альбо планета Цікаўных хлопчыкаў», «Дзве аповесці пра міжпланетнага Пажарніка і казка пра жабяня Квыш-Квыш», а таксама кнігу апавяданняў фэнтазі «Вячэра манекенаў».*

*Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь імя Янкі Купалы (1994 г.).*

— Чаго ты нервуешся? Пракладзём мы гэтыя трубы. Дамоўлюся з рабочымі, тады і ў сельсавет пайду. А рабочых трэба запрашаць з Узды, для гэтага адпаведныя службы ёсць.

— Зразумела, — яна адвярнулася да акна, за якім лясы змяняліся лугамі, лугі — лясамі... — Ты любіш усё зацягваць. Значыцца, гэтым летам будзем без вады ў сваім уласным двары. Ты з гэтым заказам яшчэ не разабраўся, а там з'явіцца нейкі новы, падкінуць якога-небудзь дзеяча і будзеш яго ўвекавечваць у бронзе, усё астатняе на мяне скінеш.

Антон Паўлавіч хацеў ёй запярэчыць, маўляў, я — скульптар, вольны мастак, жыву са сваіх заказаў, але нічога не паспеў сказаць. Вера Мікалаеўна быццам папярхнулася і тут жа сказала выразна:

— Гэтыя кветкі не смяюцца. Яны не смяюцца!

Антон Паўлавіч здзіўлена зірнуў на яе і спалохаўся. Вера Мікалаеўна была сама адсутнасць — твар, нібыта акамянеў, усё ў ёй знерухомела, застыла, толькі рука легла на яго руку, і ён мацней сціснуў руль машыны.

— Што ты сказала? Кветкі... Якія кветкі?

Яна адняла руку, раскрыла сумачку, што ляжала ў яе на каленях, дастала губную памаду, засмяялася:

— Ну, Антон... Мы яшчэ не вырашылі, як будзем з вадою, а ты ўжо адразу пытаешся пра кветкі. Іх спачатку пасадзіць трэба. Як ты думаеш, снег, напэўна, ужо ў наступныя выхадныя зусім сыдзе, ён дзе-нідзе толькі ля плота застаўся. Каб штодня было сонца, зямля прагрэлася б хутка, — яна правяла памадай па губах, аблізала іх кончыкам языка. Хутка будзем у Мінску, пазвані маці, хай пачынае гатаваць вячэру.

Ён дастаў мабільны тэлефон, пачаў набіраць хатні нумар і ўсё рабіў як не сваімі рукамі, таму што над усім панавала адна думка: «З ёю не ўсё добра. Гэтая фраза пра кветкі... Да чаго яна? Быццам выплыла з яе падсвядомасці, і яна сама не памятае яе...»

Калі б тры месяцы таму пасля чэрапна-мазгавой траўмы Вера Мікалаеўна не перанесла цяжкую аперацыю, ён, магчыма, не надаў бы ніякага значэння гэтай яе ні з чым не звязанай, раптоўнай фразе, але ўсё, што ім давялося перажыць, яшчэ балела ў ім, і гэтая фраза расхвалявала. Чалавечы мозг вельмі тонкая матэрыя, у гэтыя, як гаворыцца, два паўшар'і шэрай масы хірургу лепш не ўмешвацца. Але аперацыя прайшла добра, тут ён быў упэўнены. Яе рабіў Ігар Курловіч, яго блізкі сябар, іхні з Верай сябар, можна сказаць, самы лепшы ў горадзе нейрахірург, знакаміты прафесар, дык чаго ён тады хвалюецца?!

І гэтае хваляванне стала яшчэ большым, проста забіла яго, калі яны, ужо прыехаўшы дадому, селі за стол вячэраць і Галіна Уладзіміраўна, Верына маці, а ягоная цешча, што жыла разам з імі, безупынку пыталася то пра адно, то пра другое. Яны не паспявалі адказваць, змучаныя дарогай, а хутчэй уражаннямі ад гэтай сваёй першай паездкі цяпер ужо ў сваю вёску, у сваю хату.

— Супакойцеся, Галіна Уладзіміраўна, — прасіў ён. — Новую электраправодку абавязкова зробім, і я, далібог не супраць, каб вы жылі там усё лета.

— Ма-а, — смяялася Вера. — А можа, мы і сядзібу купілі толькі дзеля цябе. Чаму ты думаеш, што будзеш за вартаўніка ў гарадской кватэры? Калісьці ты прадала дачу, а цяпер цябе цягне да зямлі. Мяне таксама цягне, ма-а, завядзём там індычак...

— Лепш гусак, — адазвалася Галіна Уладзіміраўна. — З індычкамі клопату шмат, а чародку гусачак выгнаў да вады і — на цэлы дзень... Яны і яйкі будуць несці, гэта вам не курыныя!

— А я дык лепш пару-другую страусаў завёў бы, на іх можна і капітал скалаціць. Ад кагосьці нядаўна чуў, што адно яйка ў нашых краях некалькі соцень даляраў каштуе, — сказаў не без усмешкі Антон Паўлавіч, паглядзеў на Веру, і яму стала непамысна. Здавалася, што Вера вось-вось задыхнецца. Яна адкінулася на спінку крэсла, абхапіла рукамі скроні, сілілася нешта сказаць і нарэшце вымавіла:

— Гэтыя кветкі не смяюцца. Яны не смяюцца!

— Вера, Верачка... Дочачка мая, — ускочыла з крэсла Галіна Уладзіміраўна, кінулася да Веры. — Што з табою робіцца? Антон, што яна такое кажа? Якія кветкі, Верачка?

Антон Паўлавіч таксама выйшаў з-за стала. Хацелася кінуцца ў пярэдні пакой, дзе стаяў тэлефон, набраць нумар Ігара, ён жа яе аперыраваў, дык хай растлумачыць, ці можа такое быць? Гэта ненармальна. Кепскі сімптом.

Зазвінела талерка.

— Ма-а, а мяса ты перасаліла, — сказала Вера, тыркаючы відэльцам у адбіўную. — А яшчэ і перасмажыла, відэлец не лезе.

— Верачка, — Галіна Уладзіміраўна бездапаможна зірнула на Антона Паўлавіча. — А што гэта ты такое толькі што сказала? Ты была, бы ў памарачэнні... Галава не баліць? Нейкія кветкі ты згадвала.

— Я?.. кветкі? — здзівілася Вера Мікалаеўна. — Не прыдумляй, ма-а, абы чаго. Я кажу, мяса ты перасаліла. Ад склерозу што-небудзь п'еш?

Антон Паўлавіч з цяжкім уздыхам сеў да стала на ранейшае месца, есці не хацелася, адставіў талерку, зірнуў на Галіну Уладзіміраўну.

— Што цяпер? Пойдзем да сваіх тэлевізараў ці, можа, Ігару патэлефанаваць, хай на гадзінку-другую заедзе да нас са сваёй Ірынаю.

Галіна Уладзіміраўна згодна кіўнула, маўляў, угу-у, хай заедзе, мо ўжо нешта падобнае было ў ягоным жыцці, але Вера запярэчыла Антону Паўлавічу.

— Не церпіцца расказаць пра сядзібу Курловічам, а вы на гадзіннік зірніце... Яны мо ўжо спяць, ды і мы не жалезныя. Я з шасці раніцы на нагах. Пайду спаласнуся і — у ложак.

— Ну, глядзіце, як вам лепш, — Галіна Уладзіміраўна выразна зірнула на Антона Паўлавіча і выйшла.

— Пакрыўдзілася, — сказала Вера. — Гасцей яшчэ тут нам сёння не хапае. Збяры гэты посуд, Антон, я потым яго памыю.

Ён пачаў збіраць са стала посуд. Вера Мікалаеўна пайшла ў ванны пакой. «Што б ні здаралася з чалавекам, усё і застаецца ў чалавеку, — думаў Антон Паўлавіч, — толькі праяўляецца праз час у нейкіх іншых формах. У Веры відавочная ненармальнасць. Жыццё ёй вярнулі, а траўма засталася і дае пра сябе знаць самым нечаканым чынам. Называецца — сабраліся на Каляды і тое, што здарылася за тыдзень

да новага года, напярэдадні каталіцкіх Калядаў, выплыла з такога яшчэ нядаўняга мінулага. Усё памяталася да драбніц, быццам бы зноў адбывалася вось тут, зараз...

## 2

Даўно ўжо Антон Паўлавіч не адчуваў такога ўнутранага задавальнення. Яшчэ некалькі гадоў таму грошы не выплачвалі месяцамі, а тут міністэрства разлічылася дзень у дзень, як і было запісана ў дамове. Нават не стаў заязджаць на запраўчную, хутчэй паехаў дамоў, каб паспець з Вераю ў магазін, дзе яна нешта ўжо даўно нагледзела для сябе, дык навошта адкладваць на потым тое, што можна зрабіць сёння. Калядны падарунак ад яго! Але, як толькі зайшоў у пярэдні пакой, зразумеў, што ніякіх магазінаў не будзе.

— У цябе, Антоне, стала кароткаю памяць, — зашчабятала Вера. — Ты ж яшчэ пазаўчора тэлефанаваў Курловічам, запрашаў на Каляды, маўляў, нарэшце ў нас з'яўляюцца добрыя грошы і ёсць нагода, дык чаму б не сабрацца. Вунь, як уся Еўропа зіхаціць гэтымі днямі, мы таксама еўрапейцы. Ну ідзі, ідзі, паглядзі, які стол мы тут з маці наладкавалі, ды і Курловічы праз гадзіну ў нас будуць. Ты ж, думаю, не збіраешся сядзець за сталом у гэтым швэдры? Ідзі, пераапранайся.

— Мне не так многа і заплацілі, падатак вялікі вылічылі, — сказаў Антон Паўлавіч, — а ты ўжо гатова распачаць новы год з размахам. — Ого-о, нават каньяк, і ажно тры пляшкі. Хто гэта ўсё будзе піць?

— Я, ты і Курловіч таксама... Мама прыгубіць для сасудаў. На каньяк, дарэчы, грошы дала яна. А наконт тваіх грошай... Гэта ж табе не піянераў у школьныя двары кляпаць, як некалі ў тыя ранейшыя часы. Ты павернешся, нарэшце, да мастацтва. Ужо павярнуўся, Вярэніч, а мастацтва рэч капрызлівая, да таго ж, мала хто разумее, што за яго трэба плаціць, і нямала!

— Не ёрнічай, — адазваўся ён. — Грошы пакладу ў тумбу, — хацеў быў яшчэ папрасіць, каб яна збавіла гэты свой ненатуральна ўзбуджаны тон, але не стаў працягваць гаворку. Як правіла, гэтакая ўзбуджанасць магла давесці і да сваркі, але не сварыцца ж калядным вечарам! Ён пайшоў у спальню пераапранацца і выйшаў адтуль толькі тады, калі ў дзверы пазванілі Курловічы.

З пакункамі, каробкамі, з букетам кветак яны занялі ўвесь пярэдні пакой, дакладней, заняла Ірына, Ігарава жонка, якая проста вылазіла з неймаверна шырокага футра, якое ён дапамог ёй зняць, пры гэтым запытаўся з ноткаю іроніі:

— Ад Кардэна?

— Наша, беларускае. Я знарок нашу ўсё толькі сваё, тым самым падтрымліваю айчынную эканоміку. Яна падхапіла нейкі пакунак і пачала кіраваць працэсам:

— Ігар, клункі, пакункі — гаспадару, хай нясе на кухню, кветкі — гаспадыні! — Гучна цмокнула ў шчаку Веру Мікалаеўну, сказала прыцішана: — А ў нас яшчэ падарунак для цябе ёсць акрам кветак. — І тут жа скамандавала: — Антон, не стой, ідзём на кухню!

Там яна шумна прывіталася з Галінай Уладзіміраўнай:

— З Калядамі, дарагая, з Калядамі! Вы — схуднелі, а я, бачыце, у сваёй звычайнай форме. Ігару падабаецца!

Антон Паўлавіч толькі зморшчыўся... Ён з юнацтва лічыў Курловіча выключным флегматыкам. Спачатку — доктар-сухар, потым — прафесар-педант, а ўвогуле, жыццё — вялікая загадка, хто, што ў ім можа зразумець, асабліва, калі яно тычыцца мужчыны і жанчыны. Што можа Ігара трымаць каля яе? — ён неаднойчы пра гэта думаў. — Нават дзіця яму так і не нарадзіла, а жывуць, як і ён з Вераю, больш як дваццаць гадоў разам. Спачатку Курловіч абараніў дысертацыю, потым яна. Ён неяк пытаўся пра гэта ў Ігара, бач, глядзі, у нас ужо сын які, а дзе вашыя дзеці? Ігар толькі адмахнуўся, маўляў, мы пакуль жывём толькі навукай. І што? Даганялі акадэміка Паўлава? Не дагналі! Потым, відаць, не адважыліся, калі ўжо за сорак, — пра немаўля страшна падумаць. І ўсё ж нечым яна трымае яго, пра гэта вось і цешча кажа.

— Заўжды так прыемна вас з Ігарам бачыць, — у голасе Галіны Уладзіміраўны чулася замілаванне. — Нічога не выкладвайце ў халадзільнік, я ўсё зраблю сама. Ідзіце, Ірачка, у гасцёўню, там без вас, напэўна, засумаваў Ігар. Вы такая файная пара, куды нітачка, туды і іголачка, усё разам, разам...

Апошнія цешчыны словы дык трошкі і пакрыўдзілі Антона Паўлавіча, гаворыць так, быццам яны з Вераю не разам.

— Ну, шаноўная Ірына Пятроўна, — падкрэслена ўрачыста сказаў ён, — сапраўды, пойдзем на святло юпітэраў, а дакладней, да стала... Час запальваць калядныя свечкі.

— Пачакай са свечкамі, са сталом, ёсць размова тэт-а-тэт, хадзем на некалькі слоў да цябе ў пакой, хачу, каб ты задаволіў маё маленечкае жаданне. У калядны вечар не адмаўляюць.

— Жада-а-анне? — прамовіў здзіўлена ён і засмяяўся. — Ну, калі жаданне, вядома, пойдзем.

І там, у пакоі, яна проста рассмяшыла яго сваім маленечкім жаданнем.

— Дык што ў цябе? — запытаўся ён, як толькі селі на канапу.

— Спакайней, спакайней, не напружвайся... Драбяза! У Ігара праз два месяцы дзень нараджэння. Хачу бюсцік, хай сабе і з гіпсу.

— Які бюсцік?

— Звычайны. Мой. Каб ты вылепіў. Была я нядаўна у клініцы, там у Ігара ў кабінеце галава нейкага дзядзькі, акадэміка. Дык хай лепш мая стаіць на стале, — і яна разрагаталася... Антон Паўлавіч ажно адсунуўся ад яе мажнога цела, падумаў: «Прывычка, толькі прывычка можа трымаць іх разам, а зрэшты, чаго яму сёння ўнікаць у іхнія адносіны. Шчаслівая пара, яны таксама з Вераю шчаслівыя, хаця... Наколькі ён ведае, у Ігара няма грашкоў, ну, можа, было што ў маладосці, а вось ён, Антон Паўлавіч, нярэдка мог быць і нягоднікам, зразумела, у адносінах да Веры. У яго былі амуры, жарсць ламала яго, як хацела, і што?! Перагараў, дакладней, Вера давала яму магчымасць перагараць праз сваё маўчанне. Рабіла выгляд, што нічога не бачыць, не заўважае, толькі адчужалася на нейкі час, унікала ў сваё жыццё і ён даходзіў толькі да пэўнай мяжы, да пэўнага бар'ера. А каб паспрабавала Вера высвятляць адносіны, учыняць яму допыты, закатваць істэрыкі, невядома, чым бы тыя амуры маглі скончыц-

ца. Магчыма, нічым, а можа, і разрывам. Разбегліся б. Ён быў чалавекам эмоцый.

Ягоныя думкі нібыта падслухала Іра.

— Ды ты не проста стары лавелас, Антонік, ты яшчэ і вялікі гультай. Значыцца, бюста я не дачакаюся, так трэба разумець тваё маўчанне?

— У нас сур'ёзная гаворка, Ірына Пятроўна. Вядома, я не буду займацца ніякім бюсцікам. За каго ты мяне маеш, я — сур'ёзны творца...

Тут дзверы пакоя расчыніліся, увайшла Галіна Уладзіміраўна і абаперлася аб сцяну, быццам яе не трымалі ногі.

— Антон, там... Вера. Яна непрытомная... — І тут жа загаласіла. — Уратуй! Уратуй яе!

Калі Антон Паўлавіч убег у гасцёўню, зачапіўшыся за перакуленае крэсла, у вочы кінулася цёмная пляма на дыване. «Кроў!» — выбухнула адразу ў галаве. Вера ляжала на канапе, шыя была заліта крывёю. Ігар схіліўся над ёю, абматаў галаву ручніком.

— Вай, вай! — махала рукамі Іра, якая заскочыла ў гасцёўню следам за Антонам Паўлавічам і тут жа памкнулася назад. — Я баюся крыві!

— Не верашчы! Чуеш, Ірка, — крыкнуў Ігар. — Выклікай «хуткую», а ты, — кіўнуў Антону, — патрымай ручнік, крыві многа, я памацаю пульс...

У Антона Паўлавіча затрэсліся рукі, ён хацеў запытацца, што ж тут такое нарабілася, а язык не слухаўся.

Ігар патлумачыў сам:

— Ды супакойся... Яна здымала вазу з шафы, крэсла кульнулася, ну і галавою аб рог стала. Думаю, у галаве можа быць і шкло, раструшчыла некалькі кілішкаў...

«Хуткая дапамога» прыехала імгненна. Веры адразу ж зрабілі ўкол, але яна не апрытомнела, як высветлілася ўжо ў шпіталі, трэба было тэрмінова рабіць аперацыю.

Ён не пачуў, як у пакой увайшла Галіна Уладзіміраўна, азірнуўся толькі, калі яна загаварыла:

— І чаго ты сядзіш дасюль? Стол не прыбралі. Я думала, усё даўно памыта, — і уселася побач з ім, узяла яго за руку. — Бяда, Антон. Ці ж могуць ні з таго ні з сяго вырвацца словы, пазбаўленыя ўсялякага сэнсу? Табе трэба будзе заўтра раніцай абавязкова звязацца з Ігарам. — Памаўчала. — А ты не думаеш, што ён зрабіў нешта не так? Гэта ж варта было зачапіць не той, суседні сасудзік...

— Ну-ну, сасудзік... Галіна Уладзіміраўна, ён — прафесар і, дадам, не абы-які. Нічога ён не зачапіў, але з ім сустрэнуся абавязкова. Можа, Веры давядзецца легчы зноў у бальніцу. Адным словам, ідзіце кладзіцеся спаць.

— А стол? Брудны посуд пакідаць да раніцы?

— Я прыбяру...

## 3

Антон Паўлавіч кепска спаў ноччу. Прачынаўся, зноў засынаў. А пад раніцу, калі пачало ўжо днець, яму ўспомніўся прыёмны шпітальны пакой, куды яны тым калядным вечарам прывезлі Веру. Яе адразу ж забралі, некуды павезлі на насілках.

— Ты будзеш яе суправаджаць? — запытаўся Антон Паўлавіч у Ігара, маўляў, ты — прафесар, табе дазволяць быць пры ёй.

— Не, пабуду тут з табой. Хай спачатку прамыюць, агледзяць рану. Чуў? Ёй зараз жа зробяць здымак.

І гэты адказ не спадабаўся Антону Паўлавічу. Мабыць жа, будзе нейкі кансіліум, хай бы Ігар папрысутнічаў. Яе ж ратаваць трэба, Ігар можа быць галоўным кансультантам.

У прыёмны пакой выйшаў маладзенькі дзяжурны доктар, гучна запытаўся:

— Хто тут Вярэніч?

— Я... Я! — падскочыў Антон Паўлавіч.

Доктар пазнаў Курловіча.

— Прафесар...

— Ён самы, ён самы... — Ігар падышоў да яго, удакладняючы: — Вярэніч Антон Паўлавіч — мой сябар, мы тут разам нервуемся, — і павярнуўся да Антона. — Пачакай, мы з доктарам пройдземся.

Курловіча не было даволі доўга, а калі вярнуўся, нічога суцяшальнага не сказаў Антону Паўлавічу.

— У яе гематома на левым паўшар'і. Я ўжо дамовіўся. Апераваць будзе Сцепанчук, добры доктар-практык.

— А ты? Ты сам... Ты робіш найскладанейшыя аперацыі, да цябе з іншых гарадоў прыязджаюць. Просяць, каб менавіта ты зрабіў. Як можна даверыць Веру нейкаму Сцепанчуку? — раптам у яго, бы памутнеў розум. — Я — дурань, дурань! — ляпаў ён сябе па лбе. — Цяпер я разумею, адкуль у цябе гэты двухпавярховы дамок пад Мінскам. Ты бярэш грошы ад пацыентаў, кажуць жа, што вы ўсе бярыце, а з мяне ты не возьмеш, я — твой сябар, даўні сябар. З сяброў не бяруць! Дык што табе мая Вера, лепш спіхнуць, аддаць яе, непрытомную, у чужыя рукі. Ты і Віталіку нашаму адмовіўся дапамагчы, калі ён наважыўся паступаць у медыцынскі тут, у Мінску. Давялося ехаць у Віцебск, там сам паступіў. І цяпер вось... Вера — паміж жыццём і смерцю, і ты ў такі момант можаш адступіцца?

— Змоўкні! Я цябе зараз па сцяне размажу.

Антон Паўлавіч бачыў, як збялеў Курловіч, бачыў, як сцяў сківіцы, як рэзка павярнуўся і пайшоў па доўгім калідоры... Сам жа ён раптам сумеўся, што ж яму цяпер рабіць? Ехаць дадому ці чакаць Ігара? Павінен жа ён вярнуцца сюды. І шчыра шкадаваў, што ўсё так нечакана выйшла: навошта, навошта гэтак распаліў, распаволіў нервы?

Ігар вярнуўся хутка. Ён быў ужо супакоены, толькі чамусьці стараўся не глядзець на Антона Паўлавіча.

— Пойдзем лавіць таксі. Веру я прааперырую сам, але запомні, я ні за што не адказваю...

І вось цяпер Антон Паўлавіч згадаў тое «але...» Значыцца, Ігар у нечым сумняваўся, ён не давяраў сам сабе. І патэлефанаваць Курловічу вырашыў вельмі рана, каб сустрэцца з ім яшчэ да працы, таму што пазней той ужо можа быць заняты неадкладнымі справамі. Патэлефанаваў а сёмай гадзіне. Веру не стаў будзіць, толькі сказаў Галіне Уладзіміраўне, каб на абед яго не чакалі, бо ён будзе ў майстэрні, трэба ж закончыць даўно ўжо распачаты заказ, каб потым цалкам заняцца сядзібай, магчыма, нават з'ехаць туды на ўсё лета. Для гэтага трэба некалькі тыдняў папацець тут.

Калі пад'ехаў да клінікі, Ігарава машына ўжо стаяла ля брамы. Прыпаркаваўся, але выйсці з машыны не паспеў. Пабачыў Курловіча, той паказваў яму знакамі, маўляў, заставайся ў машыне. Ён ледзь не подбегам падышоў, адчыніў дзверцы, сеў побач.

— Ну што там у вас здарылася?

Антон Паўлавіч стараўся гаварыць коратка. Ігар слухаў уважліва, у нейкі момант памкнуўся нешта перапытаць, але махнуў рукою, маўляў, працягвай, і папрасіў цыгарэту, бо ягоныя засталіся ў машыне. Калі Антон Паўлавіч скончыў свой расповед, дык, зірнуўшы на Курловіча, у думках абурыўся: «Гэта ж трэба быць такім флегматычным, абыякавым чалавекам. Можна біцца аб заклад, што ён думае цяпер пра нешта зусім іншае, знаходзіцца дзе заўгодна, толькі не ў гэтай машыне».

— Ну, што ты скажаш? Можа, Веры варта легчы на абследаванне?

Ігар доўга тушыў цыгарэту, потым неяк залішне ўважліва, дзіўнавата паглядзеў на яго.

— Нічога не магу сказаць, Антон. Каб у яе штосьці балела, каб быў болевы сімптом. А тут нешта, што здаецца бязглуздым. Гэта ўжо псіхіка. Не бяры да галавы, — бадзёра паляпаў яго па плячы. — Будзем думаць. Ты зараз куды?

— У майстэрню.

— Ну дык едзь. Буду тэлефанаваць, — сціснуў яго руку і вылез з машыны.

«Сапраўды, — ужо ў майстэрні разважаў Антон Паўлавіч, — нічога страшнага не здарылася. Праўду сказаў Ігар: псіхіка. Тонкая жаночая натура. Жанчына думае пра адно, гаворыць пра другое, а робіць нешта трэцяе. Ну, сказала неўпапад, а яны з цешчай затрывожыліся. Глупства. Трэба выкінуць з галавы».

І яму добра працавалася, ён суцешыў сябе і ўжо толькі пад вечар пачаў збірацца дадому. Па дарозе заехаў у магазін, узяў пляшку шампанскага. Ён чамусьці ўпэўніўся, што наўрад ці падобнае з Employment Вераю паўторыцца і з лёгкім настроем увайшоў у пад'езд. Угледзеўшы, што нешта бялее ў паштовай скрынцы, адчыніў яе. На канверце, які ляжаў там, прачытаў сваё прозвішча. Тут жа разарваў яго, дастаў ліст, прабег позіркам па першых сказах і вымушаны быў паставіць партфель, які дагэтуль трымаў у руках, на сходы. Побач з партфелем сеў і сам. Тое, што было напісана ў лісце, хацелася не прачытаць, а хутчэй, праглынуць адразу.

«Дарагі Антон! Давай, з першага радка заключым з табой мужчынскую дамову: ты ніколі ні ў чым не папракнеш мяне, тым больш яе, Веру. Ты ўсё даруеш мне і ёй, і нічога ў нашых адносінах не зменіцца, мы па-ранейшаму застанёмся сябрамі. Калі б гэта было часовае захапленне, ты ніколі б не атрымаў ад мяне такога ліста. Але гэта было і ёсць каханне. Колькі разоў мы ўяўлялі з Вераю, як прыйдзем да цябе ў майстэрню, як будзем прасіць твайго даравання, лічы, блаславення, але мары працягвалі заставацца марамі. Перашкаджала адно: ты — мой сябар. І я ад пачатку, усе гэтыя больш як дзесяць гадоў, краў Веру ў цябе, таячыся, хаваючыся. Мы спадзяваліся, што аднойчы ты сам усё зразумееш і адпусціш яе, адарвеш ад сябе, але ты не адпускаў, ты нічога не бачыў, нічога не заўважаў. Лічыў сябе

шчаслівым, а шчасце — сляпое. Было, што Вера хацела пра ўсё табе расказаць, але я яе стрымліваў, баяўся страціць наша сяброўства. Калі б я быў не шаноўным прафесарам, а хлопчыкам-гімназістам, я мог бы пусціць сабе кулю ў лоб.

За некалькі дзён да таго каляднага вечара ты папярэдзіў Веру, што да ночы будзеш у майстэрні. Яшчэ адзін вечар быў наш. Мы зайшлі з ёю ў нейкі дзіцячы скверык, дзе між дрэў узвышаўся драўляны конь. Вера ўскочыла на яго, смяялася, як дзяўчынка, а я падумаў: «Цяпер ці ніколі!» І сказаў ёй: «Ведаеш, Вера, а гэты конік нас нікуды не панясе, нікуды не вывезе, таму што ён з дрэва». Мы павінны, нарэшце, штосьці зразумець і паспрабаваць ахвяраваць усім, што маем...» Антон, я ўсё гэта казаў дзеля цябе. Ашаломленую, прыгнечаную, я прывёз яе дадому і думаў, што перамагу свае пачуцці, а назаўтра ўжо гатовы быў ірваць валасы на сабе, біцца галавой аб сцяну: што я нарабіў?! І твой званок, калі патэлефанаваў, запрашаючы на калядны вечар, быў як выратавальнае кола, як магчымасць вярнуць усё назад. Ты правільна думаеш, я — мярзотнік, гнюсная пачвара, але ці адмаўляўся ты сам калі-небудзь ад сваіх пачуццяў?

Тады, тым вечарам, Іра пацягнула цябе на кухню, я бачыў, як Вера зайшла ў спальню, і з кветкамі кінуўся ўслед. Даруй, але ў тваю адсутнасць нярэдка гэта была і мая спальня. Я павярнуў ключ у дзвярах, падхапіў Веру на рукі, але яна выслізнула і адштурхнула мяне. Я пачаў абрываць пялёсткі з кветак і то абсыпаў імі Веру, то шпурляў іх на ложак. І вось тады яна прамовіла тую фразу: «Навошта ты гэта робіш? Гэтыя кветкі не смяюцца. Яны не смяюцца!» З гэтаю фразаю ў думках яна, напэўна, і падала, з ёю і страчвала прытомнасць. Словы глыбока заселі ў нейкім далёкім куточку яе мазгу, але, павер мне, гэта з часам пройдзе... Усё мінаецца, мінецца і гэта. Яна ўжо прыняла для сябе рашэнне: яна застаецца з табою, а са мною — каханне да яе. Так і будзем жыць: я, яна і ты — мой сябар. Антон, ты павінен дараваць, як я дараваў табе тваю абразу.

Помніш, тады, у тым прыёмным пакоі ты сарваўся, здалі нервы, пачаў абвінавачваць мяне ў хабары. Гэта была абраза. Я... Я баяўся, што ў нейкі момант мяне падвядуць рукі. Ты сам змог бы калупацца ў крыві, у мазгу каханай жанчыны? Але я гэта змог, значыцца, і ты зможаш нам дараваць. Калі раптам надумаеш запрасіць на сваю сядзібу, мы з Ірынай з прыемнасцю прымем запрашэнне.

Спадзяюся, што застаюся тваім сябрам. Ігар Курловіч».

Антон Паўлавіч, дачытаўшы ўсё да канца, пачаў паволі камячыць ліст. Падумаў і сунуў яго ў кішэню курткі. На ліфце не стаў падымацца. Умомант пацяжэлы, пайшоў па сходах на свой сёмы паверх. І як толькі ўвайшоў у пярэдні пакой, пачуў голас Веры Мікалаеўны:

— Антоне, ты? Мы тут з мамаю на кухні. Хадзі да нас, паглядзі, які цуд!

Але на кухню ён не спяшаўся, пачаў здымаць куртку... І Вера Мікалаеўна выйшла сама да яго з нейкімі каляровымі пакетамі ў руках.

— Глядзі, насенне. На выхадныя папрацуем. Зірні, што тут у мяне! — І пачала паказваць, радасная. — Тут — настуркі, вось — астры, а гэта — каралеўская цынія...

І яму схацелася зрабіць ёй балюча, вельмі балюча, каб яна зразумела, што ён пра ўсё ведае, каб затрапятала ўся, разрыдалася, каб пачала вымольваць у яго дараванне, можа, нават, каб упала на калені. Ён дапускаў і такое, яму хацелася гэтага. І сказаў яе ж фразу, тую самую, што так устрывожыла яго:

— Гэтыя кветкі не смяюцца. Яны не смяюцца!

— Вядома, не смяюцца, — спакойна пагадзілася Вера Мікалаеўна. — Яны ж на пакетах, намаляваныя на паперы. А вось калі іх пасеяць, калі яны ўзыдуць, пойдуць у рост, а потым расцвітуць... Ты, Антон, зусім не разбіраешся ў кветках. Кветкі могуць смяяцца.

## ВОКА СУСВЕТУ

Ліна яшчэ раз набрала нумар сяброўкі, і зноў у трубцы гучалі доўгія гудкі: да тэлефона ніхто не падыходзіў. Сяброўка павінна была дамовіцца аб яе сустрэчы з прафесарам-анколагам Тамарай Максімаўнай Даманеўскай, і ці дамовілася? Але што цяпер гадаць, і яна пайшла ў спальню. Муж ляжаў у ложку з газетай у руках. Яна падумала, што і заснуць адразу не давядзецца: будзе шамацець старонкамі. Але муж адклаў газету, спытаўся:

— Так і не дазванілася?

— Можа, тэлефон адключылі, позна ўжо. Я зачыню балконныя дзверы?

— Не чапай, горача тут. — І дадаў: — На двары, бы й не сярэдзіна верасня, каб хоць дождж які. — Ён пачакаў, пакуль яна ляжа, павярнуўся да яе. — А навошта табе сустракацца з Даманеўскай? Што гэта зменіць? Ехаць трэба ў Магілёў.

— Хм-м, ехаць... Ну і што — я паеду, пасяджу каля ложка... Я ўжо ездзіла. Яму ж дыягназ не пераменяць. Трэба паслухаць, што тут у Мінску спецыялісты скажуць. Там выпісалі з бальніцы, і ўсё, медыцына бездапаможная, хай памірае дома. Дык што, і сядзець, склаўшы рукі, збіраць грошы на пахаванне? А раптам і тут што-небудзь прапануюць? Яму ж чамусьці абпраменьванне не рабілі. Мне трэба біць ва ўсе званы, у мяне адзін брат, і ў яго — рак!

Ён уздыхнуў.

— Проста пракручваю варыянты як лепш, а ты адразу ў крык, — адвярнуўся, зноў узяў у рукі газету. Яна таксама адвярнулася і ажно прыўзняла галаву... У праёме расчыненых балконных дзвярэй пабачыла зорачку. Зорачка ўплывала ў пакой... «А гэта, што яшчэ за дзіва? — падумала яна. — Рыхтык такія ўспыхваюць, калі запальваеш бенгальскую свечку», — і прашаптала:

— Коля... Коля...

— Я сваю думку выказаў, — адгукнуўся ён. — Потым шкадаваць будзеш, чаму не паехала, не пабыла з ім хоць некалькі лішніх дзён.

А зорачка рухалася, рухалася... Вось яна падплыла да карціны, што вісела на сцяне насупраць ложка, на імгненне прыпынілася, быццам яе зацікавіў намаляваны на палатне хутар: хата, крытая саломаю, і кладка праз невялікі ручай... Потым зорачка ўспыхнула, стала больш яркай і ўвайшла ў карціну. І адразу ж стаў знікаць той хутар...

На палатне з'явілася Вока, самае сапраўднае ясна-блакітнае Вока з блішчастаю чорнаю зрэнкаю. Яно запоўніла сабою ўсю карціну і было жывым. Жывое Вока. Яна адчувала на сабе позірк. Дрыжыкі пабеглі па скуры. Прыціснулася да мужа:

— Коля... Коля, там — Вока.

Ён адкінуў газету. Яна бачыла, як павольна згасае Вока. На карціне зноў праявўляўся хутар — хата, ручай, кладка...

— Коля, ды павярніся ж ты! Я толькі што бачыла вялікае Вока там, на карціне... Яно засталося ў ёй, хоць і згасла. Яно глядзіць на нас.

Ён павярнуўся, абняў яе і сказаў, нічога не ўдакладняючы:

— Спі. Заплюшчы вочы і спі. Ты стамілася.

Раніца пачалася з мітусні. Пазваніла сяброўка, сказала, што прафесар Даманеўская будзе чакаць яе а дванаццатай гадзіне. Трэба было адпрошвацца з працы, тэлефанаваць сыну, які жыў асобна, каб таксама адпрасіўся і завёз яе ў Бараўляны ў Навукова-даследчы інстытут анкалогіі і медыцынскай радыялогіі. Трэба было патэлефанаваць яшчэ і брату ў Магілёў, дзе ўсё заставалася без змен: колюць па кубіку морфій два разы на дзень, прапісалі вітаміны... Яна чула які прыгнечаны, разгублены і зусім слабы братаў голас:

— Ну ты, Ліна, сама ведаеш... Калі што, глядзі маму. Як бы там ні было, прыехаць на дзень-другі заўжды можна. Чуеш мяне?

А яна чула і не чула... Бы з туману, ужо з надта вялікай адлегласці, з таго, што называецца далёкім мінулым, выплыў сад, ахутаны водарам вільготнай прахалоды. У дальніх кутках саду рассыпаў мігатлівыя цені летні прыцемак. Ёй бачылася іхняя карова Галка, якую пасля пашы маці вырашыла яшчэ папасвіць у садзе. Вось зусім яшчэ маладзенькая маці стаіць з дубчыкам. Вось і бацька... Тут і яны, малыя: яна і брат. Бацька падскоквае, кіем збівае крамяныя з ружовымі бакамі яблыкі. Яны падаюць у густую траву...

— Шукайце іх, дзеці, — весела крычыць бацька. — Хто першы знойдзе — таму цукерка!

І яны бягуць з братам, рукамі разгортваюць высокую траву.

— Яблык! Яблык! — аж захліпаецца брат і падлазіць пад самую Галчыну мызу. Галка крутнула галавой, зачапілася рогам за шлеечку братавых кароткіх штонікаў і падкінула яго высока ўгору. Крычыць маці... А яна сама, зляканая, ужо з усіх ног бяжыць, каб падхапіць брата. І падхоплівае, ледзь утрымліваючы яго. Брат абхапіў пульхнымі ручкамі яе шыю, яна чуе, як спуджана тахкае, б'ецца яго маленькае сэрцайка.

Падбягае бацька, бярэ брата да сябе на рукі, а яна бы ўрасла ў зямлю, і яе перапаўняе радасць: «Я ўратавала брата! Я не дала яму ўпасці!»

Уратавала тады, а ці ўратуе цяпер? Каб не выдаць брату, што яна плача, пачала развітвацца. Пра тое, што збіраецца ехаць на сустрэчу з прафесаркай, яму нічога не сказала. Страшна было марна абнадзеіць, але надзея жыла ў ёй самой. Бываюць жа выпадкі, бываюць... Яна помніла, як з год таму на рынку нейкая гаваркая сялянка прапаноўвала ёй мёд: «Купі, купі, кабетка, не пашкадуеш. Ён у нас лекавы. У мужа было падазрэнне на рак, а як нашча па сталовай лыжцы вядро мёду з'еў, што куды і падзелася». Яна тады падумала: «Харошая ты

мая, каб у яго той самы рак быў, не дапамагло б і вядро мёду». І вось цяпер сама спадзяецца на цуд, за нітачку хапаецца, але пагаварыўшы з Тамарай Максімаўнай, калі яны з сынам прыехалі ў Бараўляны, зразумела, што спадзявання няма.

— У мяне не шмат часу, — сказала Даманеўская, як толькі яна пераступіла парог кабінета і села ў крэсла, на якое паказала прафесарка. — Таму, давайце, без лішніх слоў, адразу сутнасць, што вы ад мяне хочаце пачуць?

— Ці ёсць надзея? Год таму брату зрабілі аперацыю на страўніку. Пухліна была, але не злаякасная. І вось у канцы жніўня — страшэнны боль, з дому на насілках выносілі. Прайшоў абследаванне, жонцы сказалі, што выявілі метастазы ў забрушынных лімфавузлах. Доўга ў бальніцы не трымалі, дома колюць морфій... Можа, варта яму прыехаць сюды на абследаванне?

— А як вы яго давезяце, калі ўжо морфій колюць? Мала што ў дарозе?.. Машына сапсуецца, хто тады што ўколе. Да таго ж у Магілёве добрыя ўрачы, новы анкалагічны корпус выдатна абсталяваны. Там усё найноўшае. Магілёўшчыну ж зачапіў Чарнобыль... — Даманеўская на момант задумалася і спытала: — Хто ў яго быў доктар, прозвішча ведаеце? Мне трэба падрабязны дыягназ ведаць.

Ліна помніла прозвішча доктара, у яе быў і нумар яго бальнічнага тэлефона, неаднойчы даводзілася званіць, распытваць... Дастала з сумачкі запісную кніжку.

— Дайце яе сюды, — папрасіла Тамара Максімаўна. — Пакажыце, дзе тут нумар у вас запісаны. Я паспрабую пазваніць доктару...

Ён аказаўся на месцы. Але іхняя размова, з якой Ліна мала што зразумела, была кароткай. Даманеўская паклала трубку.

— Абпраменьвання ён ужо не вытрымае, можа на стале памерці. У яго метастазы большыя за два сантыметры ў дыяметры.

— Тамара Максімаўна, калі ласка, што гэта значыць? — устрывожылася Ліна.

— Да новага года наўрад ці...

— Што наўрад?

— Вы ж не маленькая... Я ад вас нічога не ўтойваю. Морфій колюць, болю ён не адчувае...

— А лячэнне?

— Дарагая вы мая, акром комплексу вітамінаў, ужо... На жаль, нічога.

Ліна выходзіла з кабінета прафесаркі як на ватных нагах. Зрабіла некалькі крокаў, і раптам дзверы... Расчыненыя дзверы ў бальнічную палату. І яна ўвайшла ў іх. Ложкаў было многа: сем ці восем пар жаночых вачэй павярнулася да яе. Яна ведала, пра што трэба запытацца, а мову бы адняло.

— Вы, можа, да Юркевіч, дык яе яшчэ ўчора выпісалі, — адазвалася адна з жанчын.

— Не, я да вас... Да вас усіх. — І далей яна загаварыла горача, як на апошняй споведзі перад расхінутай прорвай. — Жанчыначкі, даражэнькія, вы ж тут паміж сабою самыя розныя размовы ведзяце, і найчасцей пра хваробы свае... У мяне брат ужо безнадзейны, дык, можа, вы мне які нетрадыцыйны сродак падкажаце, людзі ж па-ўсялякаму ратуюцца.

Жанчыны пераззірнуліся, быццам пыталіся адна ў адной, а ці варта ёй што казаць? Ліна чакала.

— Я сама, праўда, не спрабавала, — няпэўным голасам сказала адна з жанчын, — але чула, што ў суседняй з нашай вёсцы нехта піў газу, а вось дапамагло ці не, не ведаю. Не магу нічога сказаць.

— Газа не дапамагае, — жыва адазвалася другая жанчына і паднялася з ложка. — Можна паспрабаваць вясёлку. Грыб такі ёсць. Яго трэба настойваць на спірце, потым у слоіку гэты настой на тры месяцы закапаць у зямлю і пасля ўжо піць. Па кроплях, вядома. Я спрабавала, мне трошкі нават лягчэла, але хвароба была ўжо запушчаная.

— А яшчэ нафталін ужываюць... На саменькі-саменькі кончык нажа бяруць. Ды вы сядайце во сюды на крэсла, чаго ж стаяць? — і давалі рухавая жанчына паднесла да яе крэсла. Ліна села, бачыла, як пасвятлелі ў жанчын вочы, як ажывіліся твары. Падумала: «Гэта ж трэба, во-о, якія людзі, і чаму ж з імі такое здарылася! Самі ў безвыходнай бядзе, а як праніклівa адгукнуліся на чужое гора».

А тым часам яшчэ адна жанчына згадала, як ёй раілі зрабіць настой балігалова, але яна не знайшла гэтай расліны, відаць, у іхняй мясцовасці ён не рос.

— Не, жанчынкі, — сказала чарнявая маладзіца, што сядзела на ложку найбліжэй да Ліны. — Усё, што вы тут нараілі, гэта ж атрута.

— Дык мо і добра, клеткі ракавыя патруціць, хоць газа, хоць нафталін. — Пачуўся голас з-пад коўдры на аддаленым ложку.

— Не-не, здаровыя таксама труціцца будуць, — і чарнявая кабетка падышла да Ліны з нейкаю паперкаю ў руках. — Вось вам ксеракопія метаду Шаўчэнкі. Тут усё распісана, што да чаго... Разбярэцеся. Спірт ці гарэлка патрэбна, ды алей нерафініраваны, змешваюцца ў пэўных дозах... Як-ніяк, натуральны прадукт, калі і не дапаможа, дык і не зашкодзіць.

Ліна ўзяла паперчыну, падзякавала, паднялася з крэсла і прыпынілася, бо адазвалася яшчэ адна жанчына.

— Метад Шаўчэнкі наўрад ці дапаможа. Гэта калі на самым пачатку, а ты ж чула, чалавек ужо безнадзейны. Ведаеце што, — цяпер ужо яна звярталася да Ліны. — Ёсць яшчэ адзін сродак. Прэпарат Дорагава. Некалі Хрушчоў загадаў вучоным вынайсці лякарства супраць раку. Вось Дорагаў і вынайшаў. Але чамусьці яго не зацвердзілі ў медыцыне, у ветэрынарыю спусцілі. Вам трэба да ветэрынараў звярнуцца.

Ліна яшчэ раз падзякавала, цяпер ужо ўсім, пажадала здароўя і развіталася. У калідоры тварам у твар сутыкнулася з прафесарам Даманеўскай, збянтэжылася:

— Я, бачыце, яшчэ тут...

Тамара Максімаўна толькі цяжка ўздыхнула:

— Здагадваюся, чаго вы заходзілі ў палату, але не труціце яго нічым. Паверце, за час маёй працы столькі людзей прайшло... Усё марна... Хай чалавек спакойна дажыве да свайго апошняга дня.

Ліна і не збіралася труціць. Слухаючы парады няшчасных кабецін, яна ў думках адмятала і балігалоў, і нафталін, і газу... Хіба што толькі грыб вясёлка? Але, даслухаўшы ўсіх да канца, спынілася на метадзе Шаўчэнкі і на прэпараце Дорагава. Яны ўсялялі надзею, а галоўнае, як сказала адна з тых жанчын, лічыліся бясшкоднымі. Можна

было паспрабаваць. Таму, як толькі сын прывёз яе дамоў, адразу ж ўзялася за тэлефон... У даведачнай дазналася нумар ветэрынарнай службы і нумары некалькіх ветэрынарных аптэк. Спачатку пазваніла ветэрынарам.

— Скажыце, калі ласка, у парадку кансультацыі, вы карыстаецеся ў сваёй практыцы прэпаратам Дарагава?

— Бывае...

— А супраць чаго ён выкарыстоўваецца? Мне для чалавека трэба.

— Хм-м... Ад раку.

Ліна падзякавала і хутка пачала набіраць нумар ветэрынарнай аптэкі. Толькі ў трэцяй ёй адказалі, што гэты прэпарат у іх ёсць. Не стала адкладваць на заўтрашні дзень, адразу ж сабралася і паехала ў аптэку. Там папрасіла дзесяць пляшачак. Калі аптэкарка адпускала іх, дык папярэдзіла:

— Хто будзе піць, хай нос затыкае. Смярдзючае надта, там жывая клетка ў стадыі гніення.

Але гэта ўжо для Ліны здалося дробяззю, абы памагло, хоць што можна выпіць. Дома яна нават не зняла плашч. Ад мужа, які запытаўся, дзе яна так доўга забавілася, толькі адмахнулася, пайшла да тэлефона і пачала набіраць братаў нумар. Ёй адказала братавая:

— Добра, што ты патэлефанавала. Мне ўдалося ўладкаваць Вадзіма ў стары анкалагічны корпус. Санітарка знаёмая дапамагла. Ён адразу і лёг пасля абеду.

— А я тут дазналася сёння... Бывае, людзі метадам Шаўчэнкі лечацца. Ёсць яшчэ і прэпарат Дарагава. Я купіла.

— Пра метад Шаўчэнкі мне казалі.

— Дык давай, запішы, у мяне рэцэпт гэты ёсць. Я прадыктую, у якіх дозах трэба браць спірт і алей, — яна выцягнула з сумачкі паперку, пачала дыктаваць, потым запыталася. — А як перадаць пляшкі з прэпаратам? Можа, праз вадзіцеля рэйсавага аўтобуса заўтра?

— Пачакай з прэпаратам, хай спачатку метад Шаўчэнкі паспрабуе.

— А ў бальніцы яму што-небудзь прызначылі?

— Ну, якія прызначэнні, Ліна?! Яму проста спакайней там, усё ж ляжыць у бальніцы. Дактары побач. Ён цяжка дыхаць пачаў, можа, метастазы ў лёгкія пайшлі? І ўвогуле... Калі, раптам, самае страшнае здарыцца, хай лепш у бальніцы, а не дома. Я мерцвякоў баюся.

— Што ты такое кажаш? — у яе пахаладзела ў грудзях. — Ён жа яшчэ не мёртвы, ён яшчэ твой муж! — і яна кінула трубку. Дыханне сцяла, перахапіла... Сцягнула і кінула на падлогу плашч, кінулася ў спальню, упала на ложак, даючы волю рыданню.

Зазірнуў муж:

— Можа, валяр'янкі накапаць?

— Не... Пакінь мяне.

Яна плакала і плакала... Ужо здавалася, і без слёз, а шкадаванне, адчуванне блізкае страты не выплаквалася. Адно былі слабасць і стома, знясіленасць душы, нерваў, і яна правалілася ў сон, у чорную бездань. Потым Ліна доўга гадала: сон гэта быў ці штосьці іншае? Наўкол яе была цемрадазь, але калі яна падняла позірк, дык высока-высока над сабою пабачыла неба, у якім свяціліся сузор'і, паблісквалі адзінокія зоркі. Цемра пачала рассейвацца, асвятляцца,

яна павяла позіркам убок і пабачыла Вока, вялізнае, ясна-блакітнае з цёмным гузікам-зрэнкаю. Вока паднімалася ўверх і ўверх, і ёй яно бачылася перагружаным, ацяжэлым... «Гэта ж трэба, колькі ўсяго набачылася! Як цяжка ляцець яму, быццам увабрала ў сябе ўсё тое, чым жыве людства на Зямлі, чым поўніцца жыццё чалавечае: усе пакуты, увесь боль, любоў і нянавісць, пошасць і падман, міласэрнасць, жорсткасць і лютасць, сквапнасць, пажаднасць, двурушнасць, адчай і хіжасць, беднасць і багацце, праведнасць і няправеднасць... Куды яно гэта ўсё нясе, каму пра ўсё раскажа, якое яно, жыццё зямное? На чый суд вынесе справы і ўчынкі кожнага, хто праходзіць свой зямны шлях?» Гэтак думалася ёй, а Вока ўсё паднімалася і паднімалася, усё вышэй і вышэй, куды не пранікае розум чалавечы, і ці пранікне?

Ліна ўздрыгнула, расплюшчыла вочы, напэўна, ужо была ноч. Побач спаў муж, за акном зрэдку праязджалі машыны. «Вока!» Яна згадала Вока, на імгненне ўявіла яго, але не стала нічога асэнсоўваць, падумала пра тое, што заўтра трэба будзе абавязкова пайсці ў царкву, каб звярнуцца са сваёю бядою да Маці Божай.

Тым днём у царкве чамусьці не служылі ютрані, а магчыма, ужо адслужылі, яна прыходзіла ў храм толькі па вялікіх святах. У царкве было нешматлюдна: хтосьці запальваў свечку, хтосьці шаптаў малітву. Яна таксама запаліла свечку і паставіла яе перад абразом Маці Божай, пасля чаго ўкленчыла. Слёзы каціліся па яе шчоках, губы варушыліся, але гэта была не малітва. «Я веру, Найсвятлейшая са Святлейшых, — шаптала Ліна, — што Ты ўсё можаш. Тваё Вока ўсё бачыць, пра ўсё ведае. Ці ж можаш ты дапусціць, каб ён, мой малодшы брат, адышоў раней за мяне, як жа тады будзе жыць мне, старэйшай сястры? У яго няма грахоў перад Табою, а калі і ёсць, даруй яму іх, злітуйся! Хай яшчэ пажыве на Зямлі, хай калісьці пасля з'явіцца перад судом Тваім. Адцягні гэты момант, дай магчымасць яшчэ падыхаць яму зямным паветрам, давесці дзіця сваё да самастойнага жыцця, хай яшчэ паходзіць зямнымі сцежкамі, не забірай, пазбаў яго гэтай хваробы, калі толькі такое магчыма. У Бібліі, у святой Кнізе, напісана, што кожнаму будзе аддана па справах яго... Малю цябе, Міласэрная, аддай яму цяпер, дай яшчэ зямнога жыцця»... Яна ўсё прамаўляла і прамаўляла словы, у якіх была і просьба, і споведзь. Потым пацалавала краёчак іконы, перажагналася і выйшла з царквы, поўная ціхай задумлівасці. Пад ногі зляцеў лісток, але дрэвы наўкол царквы яшчэ стаялі ў сваіх зялёных уборах, што толькі падкрэслівала: у ствалах бруіцца жыццё. Жыццё...

Праз некалькі дзён яна вярталася з працы. У двары перад пад'ездам заўважыла сынаву машыну, падумала: «А чаго гэта ён прыехаў да нас, як быццам не меўся? Можа, Коля куды хоча пад'ехаць з ім?» Паднялася на свой паверх, адамкнула дзверы і ўся затрапятала пякучым пачуццём: у пярэднім пакоі стаяў брат, штосьці вымаў з кішэні курткі.

— Вадзім? Ты? У нас? Як жа ты прыехаў? А ўколы? Морфій хто табе тут будзе калоць?

— Ніхто. Ніякіх уколаў не трэба.

Яны прайшлі ў гасцёўню, дзе муж з сынам ужо накрывалі стол.

— Нарэшце з'явілася, — сказаў сын. — Дзядзьку трэба карміць, ён галодны. Чатыры гадзіны ехаў у аўтобусе, а з вакзала ўжо я яго падкінуў.

Яна глядзела на брата, быццам шукала на твары нейкі адказ.

— Давай, Вадзім, расказвай, — села на канапу.

— А што расказваць, — ён прысеў побач. — Лёг у бальніцу, доктар адразу сказаў: «Ну, мужык, трывай... У нас стары корпус, гэта не раённая паліклініка, морфій нам з галоўнага корпуса скідваюць і не столькі, колькі трэба, таму абязбольваць будзем звычайным баралгінам. Толькі ўжо тады, калі боль зусім нясцерпны стане, нешта мацнейшае ўколем. «Назаўтра прыйшла медсястра калоць мне той баралгін, а я кажу: «Не каліце! Мне нічога не баліць». — «Як не баліць?» «Дзень прайшоў, другі... Ніякага болю. Павялі мяне на УЗІ, потым на дыягнастычны камп'ютэр... Цуд нейкі адбыўся! Аказваецца, здаровы я! Дактары паўторна нічога не знайшлі».

— А чаго да нас? — Ліна верыла і не верыла яго словам.

— Накіраванне ў Бараўляны далі, каб яшчэ і там абследаваўся. А што абследавацца? — Брат шчасліва засмяяўся. — Здаровы! Калі б сапраўды ў мяне была тая хвароба, дык ці прайшла б?! Нешта я не чуў пра такое. Памылка адбылася. Памыліліся з дыягназам.

Яна ўзяла братаву руку ў сваю... Сядзела суцішаная і задумлівая. Ёй бачылася ацяжэлае Вока. Яно паднімалася і паднімалася ўверх, — да сузор'яў, да зорак... Вока Сусвету...





## Вячаслаў ДАШКЕВІЧ

### ТРЫ СЭРЦЫ

Сустрэну бабулю,
Падобную на памерлую маці, —
Калоціцца сэрца сына.
Напаткаю маладую жанчыну, —
Падобную на загінуўшую дачку, —
Рыдае сэрца бацькі.
Убачу дзяўчынку-шчабятушку, —
Падобную на загінуўшую ўнучку, —
Млее сэрца дзеда.
Тры сэрцы. Будзе чацвёртае.
Маё ўласнае. Мёртвае.

* * *

То не жураўліныя радочкі
У смузе дрыготкай таюць.
Гэта ўнучанькі маёй слядочкі
Ў незваротны вырай адлятаюць...

* * *

Ніколі, браток, не пішы:
«На вуліцы — ні душы».
Падумай, як след, спярша, —
А што такое душа?
Можа, яна на дрэве сядзіць
І на цябе, сляпога, глядзіць?
Продкаў памяць жыве нездарма.
У Бога мёртвых няма.
Ніколі, браток, не пішы:
«На вуліцы — ні душы».

---

*__Дашкевіч Вячаслаў Іосіфавіч__ нарадзіўся 15 красавіка 1941 года ў вёсцы Дзякшыняны Маладзечанскага раёна Мінскай вобласці. Скончыў аддзяленне журналістыкі філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна (1965). Працаваў спартыўным журналістам, тэлевядучым. Быў навуковым супрацоўнікам Інстытута філасофіі Нацыянальнай Акадэміі навук Беларусі, галоўным рэдактарам газеты «Веды» і часопіса «Крыніца». Зараз працуе ў газеце «Беларуская ніва».*

*Аўтар калектыўнага зборніка «Нашчадкі» і кнігі паэзіі «Загадка Атлантыды».*

* * *

Чырванню сочыцца
Захад сонца на стромай сцяне.
Жыць хочацца.
Чапляцца за жыццё — не.

* * *

Тыя, што Езуса крыжавалі,
Не вельмі перажывалі.
Адно ім дужа карцела:
Убачыць мёртвае цела
Як доказ адсутнасці
Духа Святога.
Такіх недаверкаў пасёння многа.
Аднак іх калецтва
Яшчэ не праклён усяго чалавецтва.
Пакуль хоць адзін чалавек моліцца,
Зямля напалам не расколецца.

* * *

Камора мая — цёмная-цёмная.
Цішыня стаіць непрытомная.
Я сам дзеля Светлае Веры
Закрыў за сабою цяжкія дзверы.
Ні страху няма, ні болю.
Ні скаргаў на кепскую долю.
Стаю на каленях, пяю алілуя.
Крыжык нацельны цалую, цалую...
У кожнай цямніцы —
Свае таямніцы.

* * *

— Што ты робіш пад вечар ля рэчкі,
Можа, рыбу ці сена крадзеш?
— Я сачу, як анёлы запальваюць свечкі
На расе, па якой ты ідзеш...

## ПРАРОКІ

Чаго не сурочаць пракокі:
Судны дзень недалёкі,
Паводку палярных ільдоў.
Агонію гарадоў...
А ява смяецца з прарокаў.
Змятае іх з белых аблокаў.
Лятуць, як мяшкі салявыя,
Абраннікі ў «вечна жывыя»...

* * *

З часоў Элады,
Яшчэ раней,
Любоў да ўлады
За мёд смачней.

* * *

Сябры-мужчыны! Ёсць размова.
Забудзем пра узрост і чын.
І за парогам ані слова.
Ні слова пра жанчын.

Збяромся моцнай палавінай.
У крузе цесным памяркуем.
Чаму так часта пад асінай
Над лёсам мы сваім кукуем?

Няўжо мы ўсе сыходзім клінам,
Жывем без гонару, адвагі?
А мо і праўда, што жанчынам
Аддалі мушкецёры шпагі?

Сябры-мужчыны! Ёсць размова.
Забудзем пра узрост і чын.
І за парогам ані слова.
Ні слова пра жанчын.

## ПЕСНЯ

Не скончаюцца спрэчкі людскія
І звады.
Крыўду цяжка
Адправіць на дно.
Два бакі.
Два бакі ў барыкады,
А сумленне...
Сумленне — адно.
У газетах штодзённых
Зласлоўя тырады.
І ў эфіры яны
Ад відна да відна.

Два бакі.
Два бакі ў барыкады,
А вось праўда...
Праўда — адна.
Спеюць новыя бойкі.
І хто ў іх дасць рады?
Пераможную чашу
Хто вып'е да дна?
Два бакі.
Два бакі ў барыкады,
А Радзіма...
Радзіма — адна.

* * *

На пытанні, што мучаць нас —
Хто вінаваты і што рабіць? —
Ёсць адзіны на свеце адказ:
Бога любіць!
Бога любіць!
Бога любіць!





Віктар ПАТАПЕНКА

# АПАВЯДАННІ

## ГАРАЧЫ ЛЁД

Перад тым як пачаліся завеі, два дні запар церусіў мокры снег. Яго сяйво абляпіла стрэхі хат, ахінула маладыя яблынькі, пакідаючы голымі толькі крохка-хісткія вяршаліны.

А завіруха ўзнялася ноччу. Моцны вецер, бы гуляючы, хапаў і перакочваў цяпер ужо колкія крупіны снегу з сумёта на сумёт, узнімаў іх, утвараючы дымна-белы вэлюм па-над агародамі.

Валянцін Ладошчанка, студэнт педагагічнага інстытута, кінуў позіркам на белыя краявіды бранскай вёскі Мядзведзі, дзе тыдзень кватараваў у бабы Даркі, ступіў на вузкую, ледзь бачную сцежку двара і выйшаў на вуліцу. Каля брамкі стаяў запрэжаны ў лёгкі вазок-санкі конік, у перадку якога сядзеў вознік — Ляксей Зыкаў, ляснік.

За яго спінай на сене сядзела захутаная ў даматканую дзяружку дзеўчанё. З-пад тонка выгнутых, быццам ніцыя галінкі вярбы, чорных броў пазіралі такія ж чорныя, сумныя вочы.

Як толькі ад'ехалі ад хаты, Зыкаў зірнуў праз плячо на Ладошчанку і прамовіў:

— Сядай лацвей, дарога далёкая.

Пасля выцягнуў аднекуль з-пад сена вялізную ваўняную хустку, дадаў:

---

*Патапенка Віктар Уладзіміравіч нарадзіўся ў 1955 годзе на Магілёўшчыне ў вёсцы Калодзезкая Касцюковіцкага раёна (пахавана ў выніку радыяцыйнага забруджання).*

*Служыў у войску. Скончыў факультэт журналістыкі Белдзярж-універсітэта (1982). Працаваў у рэдакцыях газет «Чырвоная змена» і «На страже Октября».*

*З 1986 па 2003 год служыў у органах унутраных спраў, апошнія тры гады з іх — у Камітэце па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю і карупцыяй.*

*У 2003—2004 гг. — намеснік галоўнага рэдактара штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва».*

*Друкаваўся ў рэспубліканскіх і саюзных ведамасных выданнях. Аўтар публіцыстычнага зборніка «Арганізавана супраць арганізаванай» і зборніка апавяданняў «Я — оперупаўнаважаны...»*

— На, абхіні галаву, плечы, а то змерзнеш. Сіберны вецер дзьме.

Ён тузануў за лейцы, уздымаючы змейкай над галавой каня плецены бізун, ды некалькі разоў нукнуў. Конь прыўзняў галаву, таргануў санкі і пабег трушком.

Валянцін не стаў геройстваваць, узяў хустку. Яго лёгкае парусінавае паліто з аттапыраным каўняром прадзімала наскрозь. Хлопец ахінуў галаву і плечы хусткай, зручней абапёрся спінай аб мяккае плячо незнаёмкі. Адчуў, як пацяплела. Запытаўся ў дзеўчаня:

— Мусіць, даўно чакалі мяне? Не замерзлі?

— Мы ўжо абвыкліся да холаду. Раннем студзёна было, — чамусьці замест дзяўчынкі адказаў ляснік і, нахіліўшыся, выцягнуў з-пад ног абярэмак сена, якім ухутаў Валянцінавы ногі, ды сярдзіта дадаў: — Нельга ў дарогу абувацца ў такія чаравікі. Ета не горад.

Валянцін змоўчаў. Расказваць яму пра тое, што спяшаючыся дапісаць дыпломную, не падумаў пра вопратку — не стаў. Ды і цяжка было гаварыць, — бо вецер сцягаў па твары колкімі маразянымі крупінкамі, а возніку нязручна паварочвацца, каб пачуць яго словы.

Дарогі напрасткі ў памежную беларускую вёску Калодзезкую, куды ехаў Валянцін, каб знайсці дыялектызмы для дыпломнай работы, не было, таму даводзілася кружляць па лясных прасеках і ўмёрзлых балотах.

Праз нейкую гадзіну яны апынуліся ў бярозавым гаі. Пасля зацяжнога маўчання ляснік зноў павярнуўся, спачатку ўважліва зірнуў на дзеўчанё, потым на Валянціна, сказаў:

— Абапал гэтага бярэзніку грыбы растуць. Я яго абкалясіў уздоўж і ўпоперак. А во тутацька, — ён тыкнуў бізуном на поле па другі бок вазка, — аблога, пасвім жывёлу.

З гаворкі Валянцін зразумеў, што яны недалёка ад вёскі. Хацелася хутчэй залезці на печ, як у бабкі Даркі, што ў Мядзведзях. Але пакуль яго не сустрэне настаўніца пачатковай школы, з якой дамаўляўся кіраўнік дыпломнай работы прафесар Русакевіч, ён не ведаў, дзе давядзецца кватараваць.

Яны пад'ехалі да невялічкага хутара і спыніліся. Валянцін скокнуў з вазка, глянуў на сядзібу, абнесеную плотам са штыкетніку, абтрос з хусткі снег.

У двор з хаты выйшла лесьнічыха. Яна павіталася з Валянцінам, дапамагла дзяўчынцы злезці з вазка, спытала ў мужа:

— Што дохтыр сказаў?

— Ат, — махнуў рукой ляснік, — маўмыры нейкія, адно і тое ж бубняць сабе пад нос, афонія ды афонія. А лекаў, каб дзіцёнак адужаў гэтую афонію, — не даюць.

Жанчына прамаўчала, ражком хусткі ахінула шыю, зноў загаварыла:

— Прыходзіла ж настаўніца да нас раннем, неўзабаве як ты з'ехаў... Вызвалі яе ў раён... Дык прасіла, каб хлопца прыгледзелі які дзень-два.

— Добра, — згодна кіўнуў мужчына галавою, скідваючы аглоблю збоч каня.

Валянцін дапамог сабраць вупраж, удваіх зацягнулі вазок-санкі пад паветку. На ганку Зыкаў спыніўся, абабіў дзеркачом снег з валёнак, павярнуўся да Валянціна, папрасіў:

— Абтрухні етым галеньчыкам снег з майго кажуха.

Праз паўцёмныя сенцы яны ўвайшлі ў хату. Тут, каля парога, распрануліся, павесілі адзенне на прыбітыя да дошкі катушкі з-пад нітак. Гаспадар прысеў на невялічкі ўслончык, пачаў здымаць валёнкі.

Валянцін агледзеўся. У нязвыкла цёмным пакоі адразу ж ад ухода стаяў шырокі ўслон, а на ім вядро з вадой, даёнка. Далей — стол, канапа і лава. На покуце віселі два абразы, акрытыя доўгімі вышыванымі ручнікамі-набожнікамі. У канцы лавы месцілася ступа. За ёй — цагляная печ з шырокім прыпечкам. Адразу за печчу віднеўся палок і дзверы ў чыстую палову хаты.

Каля стала ўвіхалася гаспадыня. Вілкамі яна выцягнула з печы чыгунок, паставіла на прыпечак.

— Як жа, хлопец, цябе зваць? — пацікавілася яна.

— Валянцінам. А прозвішча маё — Ладошчанка.

— Во, глядзі ты, — здзівілася жанчына, — і ў нашай вёсцы такая хвамілія ё. А адкуль жа ты родым?

— З-пад Гомеля.

— Недалёка тутацька. Абагрэйся на печы. Змерз, мусіць?

— Не, дзякуй! — адказаўся ён.

— Тады абагрэй рукі, сунь іх у пячурку. Не саромся нашай Насці. На во на ногі насунь, — яна дастала з-пад палка буркі з бліскучымі чорнымі галёшамі.

Валянцін развязаў шнуркі на чаравіках, усунуў ногі ў цёплыя буркі. Адчуў, што за ім нехта цікуе. Зірнуў у прыцемак на печы і сустрэўся з праніклівым дзявочым позіркам.

Гаспадыня паставіла на стол міску з дранікамі, абсыпанымі зверху дробнымі падсмажанымі кавалачкамі сала і цыбулі. З гарлача наліла ў кубкі малака.

— Сёння бульбы не варыла, спякла драчы, — ставячы вілкі ў качарэжнік, прамовіла яна. — Хто захоча дабаўкі, во чугунок з капустай.

Леснічыха змахнула анучай з услончыка пыл, пацягнула яго да сябе.

— Сядай, Валянцін, на ўслон, абедаць будзем. Паспрабуй драчы, — прапанавала гаспадыня. — А ты, Ляксей, схадзі ў пограб, гуркоў прынясі.

— Я ўжо прынёс, — адгукнуўся той. — Цэлая міска ў сенях стаіць... халера б іх...

— Што ета ты гаворыш? — выпрасталася над сталом леснічыха.

— Я пра валёнкі... Не здымаюцца...

Жонка падышла да яго, сцягнула валёнкі.

Абедалі моўчкі. Гаспадар жаваў дранікі прыцмокваючы, гучна сёрбаў малако. Насця ж разразала аладку нажом, брала відэльцам кавалачак і павольна пераводжоўвала ежу. Зрэдку падымала вочы і цікавала за Валянцінам. Калі іх пагляды сустракаліся, яна гублялася, хіліла нізка галаву і сарамліва глядзела ў міску.

Гэта была худзенькая дзяўчынка-падлетак з невялічкай касой і грыўкай на лбе. Яе тоненькія белыя рукі, здавалася, наскрозь прасвечваюцца ад аконнага прабліску. Неяк не верылася, што яны могуць трымаць нават відэлец. Кім дзяўчо даводзілася гаспадарам — дачкой ці ўнучкай — было незразумела. Але ж па яе паводзінах за сталом Ва-

лянцін адчуў, што Насця жыла ў горадзе, бо вясковых дзяцей не прывучаюць есці з нажом і відэльцам.

Калі падняліся з-за стала, гаспадыня, прыбіраючы посуд, сказала:

— Трэба стаўчы бульбу. Скаціна мычыць. Някормлена. У студню схадзіць, бо крынічку снегам занясло. — Яна павярнулася да мужа. — А можа, панеўку на рацэ прасячэш, ваду бліжэй насіць будзе, ды і кацёл дзеўцы зробіш?

— Зраблю, — буркнуў ён і дадаў, — ты не забудзь сажу з чалесніка выскрабці ды прыбяры з жэрдкі ряссе.

Што такое кацёл, ряссе, Валянцін не ведаў. Пытацца ж няёмка, ды і ўвогуле, шмат чаго было незразумелага для яго ў гэтай хаце. Асабліва цікавіла Насця. Чаму яна маўчыць, ні з кім не размаўляе?

Спаць яго паклалі на палку. На печы хроп гаспадар, а гаспадыня з Насцяй адпачывалі ў другой палове хаты. Валянцін доўга не мог заснуць. Некалькі разоў прыслухоўваўся да радыё, якое вісела над дзвярыма, але пачуць перадачу не атрымлівалася: усё глушыў храп. І толькі калі да слыху данесліся ўрыўкі «Союз нерушимый...», Валянцін зразумеў, што наступіла поўнач. Ён яшчэ нейкі час паўглядаўся ў цёмна-сіні паўзмрок акна, прыслухаўся, як за сценамі шалёны вецер б'е ў шыбы сухімі жменямі снегу, і не заўважыў, як заснуў.

Раніцай снегу пабольшала. Над плотам там-сям навіслі брылі, закідала і сцежку да варотаў у хлеў. Валянцін узяў шуфель пад страхой сенцаў, расчысціў дворышча ад снегу, прынёс вады са студні. Гаспадары, убачыўшы яго за працай, палагоднелі, заўсміхаліся.

— Сёння мы, з табою, братка, адну справу абварганім, — прамовіў ляснік пасля таго, як дагледзеў хатнюю жывёлу. — Пагрэйся троху, а я зараз балонку ў раму ўстаўлю. Ноччу, мабыць, моцны вецер быў, што яна выпала.

Пакуль гаспадар хадзіў каля акенца, Валянцін назіраў за ім. Вось ён так-сяк прыладзіў шкло ў раму, заціснуў яго крыху цвікамі і пайшоў у клець. Неўзабаве вынес адтуль сякеру, малаток з цвікамі, намацаў у кішэнях запалкі. Гаспадыня вывела на двор Насцю.

Валянцін і Ляксей напрасткі па агародах пайшлі да рэчкі. Яе лядовая роўнядзь разразала дзве вясковыя вуліцы. Зыкаў адышоў крыху ад берага, недзе на метр рассунуў нагою снег, пазначыў круг дыяметрам з дваццацілітровы чыгунок і лязом сякеры пачаў дзяўбці лёд. Калі ж высек важкі кавалак лёду, то выцягнуў яго і выцер рукавом фуфайкі ўспацелы лоб:

— Вось і кацёл табе, Насця, — выдыхнуў Ляксей. — А то не было як коўзацца.

Валянцін глядзеў на кавалак лёду і не ўяўляў сабе, як можна на ім злятаць з гары. Але калі Зыкаў абчасаў яго, высек зверху невялічкую яміну, каб зручна было сядзець, пасля прасунуў гарачы цвік наўзбоч лядовага круга, каб зачапіць вяроўчыну, то зразумеў, што да чаго.

— Чаму, дзядзька, яго называюць катлом? — запытаўся.

Той крыху памаўчаў, зноў выцер пот з ілба і сказаў:

— Мабыць, з-за таго, што ента прылада як скаўзнецца з гары, дык становіцца гарачай, нібы кацёл, у якім грэюць ваду.

— Не можа быць, — не паверыў Валянцін.

— Можа, не сумнявайся, — Зыкаў усміхнуўся, хітравата падміргнуў Насці. — Давай паспрабуем. Я пайду з Насцяй на гару, а ты вунь там, — ён тыцнуў рукой на бераг ракі, — будзеш яе лавіць, каб не зацягнула на рэчку. Тады і памацаеш кацёл. Згода?

— Так, — адказаў хлопец і паглядзеў на неба. — Толькі вось, мусіць, снег пойдзе, надта ж чорныя хмары плывуць.

— Гэта не бяда, — адказаў Зыкаў і пацягнуў за сабою кацёл.

На гару яны ўздымаліся не спяшаючыся, з перадыхам. Валянцін час ад часу пазіраў на неба, якое засцілалі сіва-чорныя хмары, сачыў за лесніком з Насцяй. Нарэшце той ускараскаўся на гару, падняў руку і адпусціў Насцю на катле. Спачатку яна слізгала па каўзялю, а потым кацёл разам з ёй пацягнула ўбок, якраз на рэчку. Валянцін бег ёй насустрач не адчуваючы пад сабою ног. Здавалася, што засталося некалькі метраў, і ён схопіць дзеўчанё. Аднак якраз перад ім кацёл пранёсся з шалёнай хуткасцю, таму Валянцін не ўтрымаўся на нагах, зваліўся і ўслед за Насцяй слізгануў уніз. Пасля шматлікіх перакульванняў ён пачаў заграбаць рукамі снег і ўжо праз некалькі метраў спыніўся. Адчуў, як гараць рукі, і падумаў: «Вось табе і гарачы лёд».

У гэты момант бліскучая маланка разламала шэрае хмарнае неба і паўцёмнае наваколле шматразова страсянуў раскацісты гром. Грымоты рэхам пракаціліся паўз рэчку і сціхлі недзе ў канцы вёскі. А зводдаль пачуўся дзявочы плач. Валянцін падбег да Насці, якую зацягнула ў панеўку, схапіў за рукі і сцягнуў з катла. Дрыжачымі рукамі Насця абхапіла хлопца за шыю і яшчэ грамчэй заенчыла.

Падбег і Зыкаў. Ён упаў на калені перад Валянцінам з Насцяй, радасна закрычаў: — За-га-ва-ры-ла... Дзякуй Богу... За-га-ва-ры-ла...

...У той жа вечар Валянцін ішоў услед за настаўніцай па пратаптанай вясковай сцяжынцы. На двары, як здалося яму, пацішэла, адчувалася свежасць. Светла было і на душы. Перакідваючы з рукі ў руку сваю цяжкаватую сумку, ён час ад часу вяртаўся ў думках да Зыкавых. Адны суткі прабыў у іх, а колькі ўражанняў! Радасна было за Насцю. Перажыванні з-за развода маці з бацькам аднялі ў яе мову. Дзяўчынку аглядалі дактары-оталарынголагі розных паліклінік. Ставілі адзін і той жа дыягназ — афонія. «Нервовае ў дзяўчынкі, пройдзе, — казалі яны, — але з цягам часу».

Больш за два гады Насця пражыла ў вёсцы. Бацькі, спачатку паадным, потым, па рэкамендацыях дактароў, разам пачалі прыязджаць да яе амаль кожны тыдзень. Стараліся паказаць, што яны зноў адна сям'я, што выйшла недарэчнасць, якая больш не паўторыцца. Але ж Насця ім не верыла.

У адным з яе дзённікавых запісаў, які Валянцін выпадкова заўважыў на стале, былі такія радкі: «Для мяне самыя дарагія на зямлі людзі — бабулечка з дзедам...»

«А на якім месцы тады для яе маці з бацькам?» — падумаў Валянцін і сышоў са сцяжынкі, каб размінуцца з сустрэчным вазком.

— Мусіць, да Зыкавых... Насціны бацькі... — азірнулася настаўніца. — Будзе сёння радасці.

Рып снегу з-пад конскіх падкоў паступова сціх. Каля адной з хат яны спыніліся. У яе вокнах гарэлі свечкі. Іх было столькі, што здавалася, быццам там адбываецца нейкая ўхвала жывому агню.

— Сёння ж Грамніцы, — успомніла настаўніца. — Як гэта я забыла пра свята?

З хаты пачулася:

А ў нас сёння Стрэчанне, Стрэчанне,
Зіма з летам стрэлася, стрэлася,
І ножачку звіхнула, звіхнула.
Зіма пайшла плачучы, плачучы,
Лета пайшло скачучы, скачучы.

# НА ЛЕЦІШЧЫ

У драўляным дамку, памерам прыкладна чатыры на шэсць квадратных метраў, з мансардай, выразанымі ліштвамі на аканіцах, адпачывалі мужчына гадоў трыццаці, апрануты ў цёплы спартыўны касцюм ды шапачку з пупсікам, і чорнавалосая маладая жанчына з зялёнымі вачыма. Гаспадар, стоячы на коленцах, падкідваў настылыя ад марозу, але сухія бярозавыя паленцы ў грубку, дзе чырвона-жоўтым полымем шугаў агонь. Мужчына ўпотайкі пазіраў на госцю, якая ўвіхалася каля стала: рэзала каўбасу, хлеб, раскладвала ў талеркі салёныя агуркі і капусту. Яе ружовыя боцікі, дарэчы, такога ж колеру, як і вусны, шалік і брошка на фоне чорнай аксамітавай сукенкі вабілі вочы. Святло лямпачак насценнага бра адсвечвала белы, з ружовымі плямкамі на шчоках, твар. Час ад часу прыгажуня настальгічна пазірала ў акно, за якім праз некалькі дзесяткаў метраў быў відзён чыгуначны прыпынак.

Мужчына падняўся з падлогі, змахнуў пецярнёй са штаноў драўляныя трэскі і, выцершы далоні, падышоў да жанчыны. Вінавата ўсміхнуўшыся, ён прыгарнуў маладзічку да сябе і, мякка даткнуўшыся вуснамі да яе валасоў, прашаптаў:

— Ты як быццам некага чакаеш?

Яна не азірнулася. Па-ранейшаму глядзела ў акно тым жа самотна-застылым позіркам, а потым адказала:

— Чакаю. Але нечага.

— Не разумею, — мужчына лёгенька, але настойліва прытуліў яе да сябе.

Маладзічка паддалася, заплюшчыла вочы, паклала яму галаву на плячо.

— Што цябе хвалюе? — далікатна-гулліва прашаптаў ён на вушка.

— Я, мусіць, страціла галаву, Міхась. Сабралася і паехала да маці, ды забавілася недзе ў лесе на паўдарозе.

Мужчына ўсміхнуўся, лёгенька пакратаў пальцамі яе валасы, потым, прыўзняўшы галаву за падбародак, далікатна пацалаваў у нос. Зноў усміхнуўся і прамовіў:

— Дурнічка малая. Напярэдадні выхадныя, яшчэ паспееш адведаць маці. Мы ж дамовіліся. Павячэраем, пазабаўляемся, а раніцой, ледзь развіднее, станем на лыжы і пададзімся ў лес. Дзе, у якім месцы, скажы, ты яшчэ зможаш набрацца столькі бадзёрасці і натхнення, як не ў гэтым хараstве? — Міхась рукой паказаў на акно. — А з галавой, як

ты кажаш, дык і ў мяне не ў поўным парадку. Воз творчых задумак, калаўрот праблем...

— ... Ад бясконцых знаёмстваў з жанчынамі?

Ён адхіліўся ад яе. Хітравата прымружыў вочы, сказаў:

— Навошта ты так балюча?

— Прабач, Міхаська, але гэта так, — яна павярнулася да акна. — Я не маю права дакараць цябе. Амаль што кожная з тых, хто хоча ўскараскацца на літаратурны алімп, любой цаной дагаджае табе. Ты — рэдактар, выкарыстоўваеш шанц па-свойму. Гэта тваё права. Праўда, маральнае. Але мне не даспадобы. Мне патрэбна маё.

Ён адступіў да грубкі. Склаў рукі на грудзях, задумаўся. Бадай упершыню ў жыцці адчуў, што задурыць, затлуміць галаву гэтай маладзічцы яму не ўдасца. Надта ж сур'ёзная і разумная. А колькі іх тут, на лецішчы, перабыло — аднаму Богу ды яму самому толькі вядома. І пачынаючыя, і сталыя паэтэсы — усім ён быў патрэбен. Кожная, абы жаданне, рабіла ўсё, што яму захочацца. А тут — нейкая Галя. Праўда, не нейкая, а тая, якая не без яго рэдактарскай дапамогі ўвайшла ў літаратуру і вырашыла, што яму, так бы мовіць, генералу мастацкага слова, можна ў нечым пярэчыць, тварыць самастойна. Што ж, кожнаму сваё. Міхась хацеў падысці, сказаць, як заўсёды, калі яму нешта не падабалася ў жанчыне, «да сустрэчы», каб паглядзець, як зменяцца яе паводзіны, як пачне прасіць прабачэння, але не змог. Не змог увайсці ў ролю і абурыцца, пакрыўдзіцца на яе так, як гэта рабіў раней з іншымі. Імгненна вылецела фанабэрыстасць і славалюбства, сэрца неяк шчымліва сцялася. Уявіў, што заўтра Галі можа не быць побач. Яна не прыйдзе, нізавошта не папросіць адрэдагаваць твор, надрукаваць яго.

Ён рашуча павярнуўся, зноў падышоў да жанчыны. Абняў, ласкава прыціснуў да сябе. Галіна не супраціўлялася. Доўга і сур'ёзна глядзеў ёй у вочы, а потым папрасіў:

— Застанься. Вечар гэткі прыгожы.

— Прабач, але на душы непагадзь.

— Разумею. Я сапраўды быў знаёмы з рознымі жанчынамі, але сустрэць такую, як ты, яшчэ не здаралася.

— Гэтак ты гаварыў кожнай.

— Можа, і гаварыў, — прызнаўся ён, — але не так шчыра і праўдзіва, як цяпер. Не хачу губляць цябе…

…На вытаптанай сцежцы, па якой яны ідуць да прыпынку электрычкі, пад падэшвамі суха рыпіць рассыпчаты, крухмальны снег. На доўгіх лапках хвояў і елак, якія з двух бакоў ахінаюць сцежку, ляжаць белыя пуховыя падушачкі, дзе-нідзе на вяршалінах з шышкамі-гірляндамі.

Чуваць, як ад таго ж нябачнага, але марознага ветру дзынкаюць адна аб адну галінкі бярозы, як глухавата падае свой голас асіна.

Ён глядзіць на асмужаны твар жанчыны, моўчкі абцярушвае лёгкія пушынкі снегу з шапачкі і каўняра, хукае на яе халодныя рукі. Усё ж не выцерпеў, прытуліў да сябе, шурпатай, непаголенай шчакой дакрануўся да яе ружовага, але халаднавата-глянцавага твару, прашаптаў на вуха:

— Можа, вернемся. Такі вечар зглуміцца!

— Не. Зразумей, Міхась, мяне правільна.

— Разумею, — адказвае ён і глядзіць на электрычку, колы якой сцішана тахкаюць аб рэйкі.

— Там жа маці. Трэба ехаць. Ды і ўвогуле, не магу я жыць употайкі. Гэта тупік, прычым для кожнага. Паглядзі навокал. Тыя людзі, якім няма чаго баяцца, хавацца ад чужога вока, радуюцца кожнай хвіліне, любяць адно аднаго. А мы?.. Цішком сустракаемся на вуліцы, іншы раз у кіно. Едзем да цябе на лецішча, як на канспіратыўную кватэру — баімся, каб ніхто са знаёмых не ўбачыў...

— Лічыш — мне гэта падабаецца? Не. Пазнаёміўся з табой і адчуў, што сэрца хоча іншага.

— Сэрца? — здзіўлена перапытвае яна. — Вось ты, пісьменнік, знаўца чалавечых душ. Скажы, каханне — гэта стан душы?

— Так.

— А я лічу, што не толькі. Чалавек павінен прыслухоўвацца і да розуму. Я, напрыклад, адчуваю, што ты мне таксама дарагі і сэрца не хоча пагаджацца з розумам, які падказвае адваротнае. Але ж стрымлівае мяне яшчэ адна горкая кропля. Можа, спынімся?

— Не, — упэўнена адказвае ён. — Паедзем да тваёй маці.

Колы электрычкі прабуксавалі на сталёвых рэйках, потым счапіліся з імі і пацягнулі вагоны ў засмужаны сіне-белы свет узгоркаў і лясоў. Абодва, ён і яна, праз акно моўчкі цешыліся з гэтага хараства, разважалі кожны пра сваё. Ён — пра тое, што будзе гаварыць Галінай маці, яна — як захаваць гэту крохкую і надта жаданую шчаслівую хвіліну.





**Юля НОВІК**

# «ЗА КОЖНЫМ КРОКАМ — ГАЛАСЫ»

* * *

Горад,
Якому маё непатрэбна імя,
Стаў на калені,
Каб з гонарам потым узняць
Ноч
З ліхтарамі
Агніста шчаслівых вачэй.

**НАВАЛЬНІЦА**

Маўклівая злая маланка
Засвечвае плёнку неба.
І дзень на маім фотаздымку
Здаецца народжаным поўняй.

Мой сон разальецца паўшэптам —
Дажджом бессаромна халодным.
Сагрэю дыханнем дажджынкі,
А неба сагрэецца ў сэрцы.

* * *

У розных вымярэннях мы жывём,
Ды зорка нас адна праз свет вядзе.
Калі нарэшце прыйдзе судны дзень,
Я аб жыцці не буду шкадаваць,
Бо вечна будзе толькі пра цябе
Мая душа самотная спяваць.

---

*__Новік Юлія Анатольеўна__ нарадзілася 1 студзеня 1985 года ў горадзе Салігорску. З'яўляецца студэнткай II курса Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага універсітэта.*

*З вершамі выступала на старонках штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва», часопісаў «Маладосць» і «Вожык».*

* * *

Валуны вакол, камяні,
Торф, пясок — і нічога болей.
Дзе марской узяць глыбіні,
Дзе марскою падыхаць воляй?

* * *

Радок вырастае з цемры,
Нібыта яму наканавана
Нарадзіцца ў пекле,
Але не ў сэрцы.

Цемра паўзе ў радкі.
Можа, таму яны
Сонныя і бязважкія.

Распаліце печ.
Няхай вогненная цемра
Паглыне бясконцую ноч.
Можа, з шэрага дыму
Утворацца белыя воблакі?

* * *

За кожным крокам — галасы.
Спыняюся — няма нікога.
А цень не мой за мной застыў
І след чужы нясе дарога.
Чарнее спечаны асфальт,
І стук абцасаў застывае.
Мяне туды не адпускай,
Дзе цень мой воблакам лятае.

* * *

Няхай абудзіцца святло,
Няхай раскрые змову ночы,
Каб беспрытульным стала зло,
Якое наш падмурак точыць.

Гранітнай цемры не відаць —
Яе ўсмакталі акуляры,
Каб свету душ цяпла не даць,
Схаваць за шклом халодным твары.

Блішчыць раструшчанае шкло.
Я чую звонкія удары.
То, мабыць, білася святло,
Каб нішчыць цемры акуляры.

## СВАБОДА

Звычайная праява: у мяне
Жыццё — чатырохсценная свабода.
Замест шпалераў — сонечная медзь,
А ружы ў вазе пахнуць цёплым мёдам.

Не выскачыць, не выслізнуць з яе,
Бо кожны кут — жаданняў светлых нерат.
Настрой дыктуе колеры свае:
Вясёлку і звычайны сумна-шэры.

## ПОТЫМ

Мне бачыць чужыя слёзы
І звязваць пачуцці дротам,
А тое, што будзе потым,—
Не важна і не сур'ёзна.
З дзіравым сумленнем зжыцца
І крыўды збіраць употай,
А тое, што будзе потым,—
Далёка, гадоў праз трыццаць.
Хоць крышачку мысліць — млосна.
Пасуньцеся там, пад плотам!
А тое, што будзе потым, —
Тады, калі будзе позна.

* * *

Ноч надзьмулася:
Сухой наглыталася спёкі.
А на небе — нямы хмараход.

## ШПІЛЬКА САМОТЫ

Шпілька самоты
Трымае прычоску.
Не буду выцягваць—
Хай сны застаюцца
Падданымі шпількі
Самоты.

* * *

Не ў дарогах заблытацца,
А ў людской лютай хітрасці:
Прыхавацца за старасцю,
Пагадзіцца са слабасцю.

Выпінаюцца чэргамі
За сумлення данінаю,
А нутро пакалечана,
А душа пакамечана.

* * *

Прастора начнога колеру
Падзелена на квадраты вокнаў.
У кожным квадраце — свая зорка.
Мая — уцякае.
Лаўлю ў кватэры чужой.

* * *

Тэрыторыя поспеху
Засаджана дрэвамі
Маіх успамінаў.
Не рушыць наперад
Без камянёў,
Сабраных у полі мінулага.

* * *

Як Млечным Шляхам спакусілася Зямля —
Пакуту за пакутай церпіць,
Каб не пабачыць зболена здаля
Прывід уласнай смерці.

За правады чапляюцца гады,
За лёсу вечныя скрыжалі.
Згубіўся ў часе зорны павадыр
З запасам мудрасці і жалю.

А думкі гінуць у «сусветнай павуціне».

## ГУЗІКІ

Мой гузік, чорны, гладкі, важны,
Ляжыць, напэўна, побач з Вашым,
Зялёна-шэрым, вострым, тонкім,
Бо разам бегалі адтуль мы,
Дзе летам — холадна, няёмка,
Зімою — горача і ўтульна.

* * *

Час спыніўся. Глыбокі сон.
Вымяраецца ўсё Табою.
А пяшчота, нібы праклён,
На жыццё насылае мрою.

Рух спыніўся. Няма мяжы.
Не крануся: мяне трымаюць
Сотні ніцяў тваёй душы…
Пра астатняе — забываю.

* * *

За неспазнаную слодыч,
Неўтаймаваныя вусны
Злавала нават на словы,
Шукала ў іншых распусту.

А думкі мацалі прорву,
Забыць учынкі хацела,
Да раўнадушша сляпога
Нібы ў абдымкі ляцела.

## ВЯСНОВЫ НЕСПАКОЙ

Дзень святла, ноч абуджаных ценяў
Спакушаюць палонам свабоды.
Саграецца пяшчотай вясенняй
Цэлы горад чужынна-халодны.

Промні слепяць каменную шэрасць,
А вясна ў іх пакровах агністых
Ахінае надзеяй і верай.
Чалавек зноўку думкамі чысты.







МІХАСЬ ПАЗНЯКОЎ

# АБРАЗКІ

## ЗДРАДА

Кожны год улетку я абавязкова наведваю маё ціхае, чароўнае Заброддзе, дзе нарадзіўся і пражыў семнаццаць дзівосных і, пэўна, самых яркіх на ўражанні гадоў. І кожны раз, наведваючыся туды, згадваю першую ў маім жыцці пякельную здраду. Сустракаю, бывае, і таго аднакласніка, сяброўства з якім, абпаленае тою здрадаю, так і не аднавілася за ўсе наступныя гады...

Здарылася гэта ў першым класе. Якраз была вясна, прыгравала, лашчыла зямлю лагоднае сонейка. Да мяне прыбег мой найлепшы сябрук Лёшка і прапанаваў разам пайсці да раўчука і пакатацца на крыгах. Нагуляліся, наплюхаліся ўволю. Але і вады ў боты панабіралі, пара дадому — сушыцца. Ды Лёшка нечакана прапанаваў раскласці цяпельца і пагрэцца-высушыцца проста каля раўчука.

— А запалкі?! — развёў я рукамі. — Хто іх нам дасць?!

Лёшка па-змоўніцку заўсміхаўся, дастаючы з кішэні забаронны карабок. Хутка сабралі голля, палак, але агонь раскласці не ўдалося — усё сырое. Я падрадзіўся збегаць па смаловыя трэскі, бо раўчук знаходзіўся якраз за нашым садам-агародам. Ды Лёшка спыніў мяне, паказаўшы на стажок саломы, што жаўцеў на суседскіхградах. І мы пакіраваліся да стажка. Пачалі выскубаць зляжалую за зіму салому. Завіхаючыся, я і не прыкмеціў, як мой сябрук чыркнуў запалкай і запаліў салому тут жа, пад стажком.

— Ты што?! — заўважыўшы, а хутчэй, адчуўшы дым, падскочыў я да Лёшкі.

---

*__Пазнякоў Міхась (Міхаіл Паўлавіч)__. Нарадзіўся ў 1951 г. у вёсцы Заброддзе Быхаўскага раёна Магілёўскай вобласці. Скончыў філалагічны факультэт Белдзяржуніверсітэта. Працуе намеснікам галоўнага рэдактара часопіса «Нёман».*

*Аўтар кніг паэзіі «Колер радасці», «Час надзеі», «Ружовы верасень», «Крутит время свои жернова» (на рускай мове), «Слоўніка эпітэтаў беларускай літаратурнай мовы», а таксама вялікага шэрага кніг для дзяцей. Пераклаў на беларускую мову некалькі раманаў замежных пісьменнікаў і кніг для дзяцей. Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя П. Броўкі.*

Мы пачалі рукамі збіваць полымя з абсушанага на вясновым сонцы стажка, але патушыць яго не ўдавалася.

— Патрэбна вядро, вада ж побач, — зашаптаў спалоханы Лёшка.

Я стрымгалоў кінуўся па вядро. Задыхаўшыся, убег у хату, ухапіў першае, якое трапілася пад рукі, і кумельгам назад. Ды каля варотцаў на агарод мяне спыніла маці:

— Гэта ж даёнка! Куды бяжыш?..

— Мамачка, пусці, я хутка прынясу, — заплакаў я, — баючыся выдаць Лёшку.

— Ты ж мокры ўвесь, ану ў хату, на печ!

У гэты момант каля стажка, абвітага полымем, пачуліся крыкі, і маці, заўважыўшы пажар, кінулася з вядром туды. Па яе твары я зразумеў, што яна пра ўсё здагадалася. Больш таго, маці, напэўна, палічыла падпальшчыкам мяне.

Ужо калі я сагрэўся на печы, маці вярнулася ў хату. Яна плакала і прыгаворвала:

— Навошта запалкі браў? Навошта падпаліў? Ой, горачка маё!

Я таксама заплакаў, і плач, балючы, горкі, ад таго, што плача маці, плача праз мяне, ды яшчэ невінаватага, проста душыў.

Галосячы, маці палезла на печ, намацала мае ногі і мокрыя штаны, затым злезла, крыху супакоілася, мабыць, пераканаўшыся, што я з перапалоху не збег, не зашыўся дзе-небудзь.

А яшчэ праз колькі часу прыехаў з работы тата, якому, вядома, суседзі расказалі пра той падпал. Тата сцягнуў мяне з печы, і ягоная злосная папружка заскакала па маім целе.

— Навошта запалкі браў?! Што ты вытвараеш?! Ты ж мог усю вёску спаліць!.. — выгаворваў ён.

— Не браў! Не паліў, татачка! — захлынаўся я ад болю...

Маці прыбегла на дапамогу, вырвала з бацькавых рук папружку.

Тата павёў мяне да Лёшкі. Я ўзрадаваўся, спадзеючыся, што неўзабаве ўсё высветліцца, сябра пацвердзіць, што я зусім не вінаваты.

Ды Лёшка, які ўмінаў дома вішнёвае варэнне, спакойна і ўпэўнена заявіў, што стажок падпаліў Мішка (гэта значыць, я), што ён падняў крык і паклікаў людзей, дзякуючы чаму ўдалося ўратаваць пабудовы. Ад бязлітаснай хлусні майго лепшага сябрука я на нейкі момант, падалося, страціў мову і не ўсведамляў, што адбываецца са мною. Лёшкава здрада апякла ўсю маю істоту нашмат балючэй за татаву папружку.

Некалькі дзён я хадзіў, як з вады выцягнуты, не было сіл ні размаўляць, ні думаць, ні разумець. Здавалася, увесь свет абрынуўся супраць мяне...

З таго часу паміж мной і Лёшкам прамчаўся глыбокі раўчук адчужанасці. Я нават ніколі не прыгадваў Лёшку той выпадак, хоць дзесяць гадоў мы вучыліся ў адным класе. І толькі гадоў праз трыццаць, калі ў хаце гаспадара таго спаленага стажка ў прысутнасці Лёшкі мне зноў нагадалі, што я ледзь не спаліў усю сядзібу, а вось Лёшка выратаваў, я, спакойна і цвёрда глянуўшы ў Лёшкавы вочы, сказаў пры ўсіх:

— Можа, цяпер прызнаешся, як усё было? Столькі часу прайшло, дзеці ж былі... Скажы пры ўсіх, што ты падпаліў той стажок...

Аляксей сумеўся, але заявіў, што нават не памятае таго здарэння. Маўляў, шмат часу прайшло, і такая дробязь не запомнілася...

Зноў здрэйфіў, — паспачуваў я былому сябру. Бо не можа быць такога, каб не помніў учыненага ім...

Дарэчы, крыўда на Лёшку развеялася даўным-даўно. Таму, прыязджаючы ў водпуск на радзіму і выпадкова сустракаючы Аляксея, я не цураюся яго і заўсёды падаю руку. І тады мне становіцца шкада яго, бо па вачах разумею, што недзе на дне ягонай душы варушыцца кволае адчуванне віны. Шкада, што ён ніяк не здагадваецца пазбавіцца яго адным словам: «Прабач».

## ПЕРШЫ КАМСАМОЛЬСКІ ЭКЗАМЕН

У восьмым класе мяне і яшчэ некалькіх лепшых вучняў школьная арганізацыя рэкамендавала да паступлення ў камсамол. Быць камсамольцам — лічылася за вялікі гонар. Мы з нецярпеннем чакалі паездкі ў Быхаў, дзе ў райкоме камсамола павінны былі прайсці камісію і, калі ўсё добра, атрымаць членскія білеты. Нарэшце той дзень настаў. Паколькі маршрутны аўтобус тады не хадзіў, то да райцэнтра дабраліся на калгаснай папутцы. У строгім будынку райкома вельмі хваляваліся. Аднак камісію прайшлі паспяхова. Камсамольскія білеты нам павінны былі выпісаць пасля таго, як будзем мець фотакартачкі. Пабеглі фатаграфавацца. Вельмі ж хацелася вярнуцца дамоў з такім жаданым дакументам. Праз некалькі гадзін нашы фотакарткі былі ўжо ў райкоме. А яшчэ праз дзве гадзіны першы сакратар райкома камсамола ва ўрачыстай абстаноўцы ўручыў кожнаму камсамолькі білет. Радасці не было межаў. І была яна такая, нібы нас залічылі ў атрад касманаўтаў, не менш.

Доўгі майскі дзень паступова згасаў, патрэбна было неяк дабірацца дадому. Дружнай, шчаслівай гурмой пашыбавалі мы з гарадка на шлях. Патоўпіліся крыху на выездзе з горада, але, зразумеўшы, што пад'ехаць не ўдасца, спахмурнелі...

— А што, сябры, хіба мы не камсамольцы?! Пайшлі пехатой! Падумаеш — дзевятнаццаць кіламетраў. Лічыце, што гэта наш першы камсамольскі экзамен! — прамовіў я, і ўсе ажывіліся, падтрымалі мяне.

Вясёлыя, часам нават з бадзёрымі песнямі, мы лёгка адольвалі кіламетр за кіламетрам. Праз некалькі гадзін, стомленыя, галодныя, але задаволеныя і дарагімі білетамі ў руках, і завяршэннем нашага незвычайнага падарожжа, мы ўвайшлі ў родную вёску. Вечарэла, але развітвацца не хацелася, бо нас яднала нешта значна большае і вышэйшае, чым ранейшыя забавы і школьнае жыццё.

І сягоння адчуваю тую энергію, тую радасць першых крокаў нашага камсамольства, тую ўпэўненасць, з якой мы адольвалі нашу першую камсамольскую дарогу. Такую б упэўненасць і такую б радасць маім сягонняшнім юным землякам!..

## ЯК Я ПАЗБАВІЎСЯ «ПАСАДЫ»

У дзевятым класе, на пачатку навучальнага года, мяне, актыўнага камсамольца і прыкладнага вучня, які ўжо не першы год меў славу школьнага «паэта», нечакана абралі, а дакладней — прызначылі рэ-

дактарам «Камсамольскага пражэктара». Гэта мяне ўзрушыла і нада-ло ўпэўненасці, што справулюся з новай высокай грамадскай справай. У рэдкалегію, па маёй падказцы, абралі самых здольных камсамоль-цаў з дзевятых, дзесятых і адзінаццатых класаў. Работа была наладжа-на намі такім чынам, што падрыхтоўка і выпуск кожнага нумара на-сценгазеты ішлі спакойна, дзелавіта, творча, без падштурхоўвання і падказак настаўнікаў-куратараў. Першы наш выпуск «КП» зацікавіў як вучняў, так і настаўнікаў. Было нямала цікавых рубрык, допісаў, вершаў, малюнкаў. Былі гумар і крытыка... І ўсё вакол школьнага жыцця. Мы прыдумлялі кожны раз нешта новае, знаходзілі нечаканыя «журналісцкія» павароты. «Камсамольскі пражэктар» стаў такім змястоўным, баявым і «правільным», што нашы куратары з ліку педа-гогаў неўзабаве перасталі выконваць свае «цэнзарскія» абавязкі. Па-слабленне пільнасці з іх боку і прывяло да таго, што ў чарговым (і апошнім пад маім кіраўніцтвам) выпуску «КП» з'явіўся вялікі верш, які я напісаў сам. У вершы гэтым выказвалася абурэнне наконт ад-носінаў дырэктара школы да настаўнікаў. Справа ў тым, што на дош-цы аб'яў, якая вісела на першым паверсе каля лесвіцы, вельмі ўжо час-та з'яўляліся тэксты вымоў настаўнікам за самыя розныя «хібы» ў іх рабоце, накшталт: «за зніжэнне паспяховасці ў класе», «за несвоечасо-вае выкананне даручэнняў дырэктара», «за спазненні вучняў на ўрокі» і г.д. Прачытаўшы ў чарговай аб'яве-вымове прозвішчы маіх любімых настаўніц, я не ўстрымаўся і, як кажуць, адгукнуўся сатырычным вер-шам, які называўся «Прамова пра вымовы».

На трэці дзень пасля абнародавання новага выпуску «КП» мяне выклікаў да сябе дырэктар школы.

Ідучы па калідоры, я ламаў галаву, чаму выклікае сам кіраўнік школы, які звычайна рабіў гэта толькі тады, калі трэба было некага добра «прапясочыць», аб'явіць спагнанне, адным словам, пакараць. Калі ж, пасля дырэктаравага дазволу, увайшоў у кабінет, то адразу ўцяміў што тут да чаго: на дырэктаравым стале ляжаў свежы выпуск «Камсамольскага пражэктара».

Размова цягнулася даволі доўга, хвілін за сорак. Дырэктаравы павучанні зводзіліся да аднаго: маўляў, нельга крытыкаваць началь-ства, кіраўніцтва, што гэта можа ў будучым сапсаваць мне жыццё, кар'еру, што патрэбна быць абачлівым, асцярожным, нельга пісаць тое, што думаеш... Вядома, я не мог тады паспрачацца з дырэктарам, але пагадзіцца з ім таксама ніяк не мог. Адмовіўся прасіць прабачэн-ня прынародна, на агульным сходзе, як ён таго патрабаваў.

З рэдкалегіі «КП» мяне неўзабаве вывелі. Ніхто ніколі больш не прыпамінаў мне маёй «рэдактарскай» выхадкі. Адно толькі цяплей-шыя былі позіркі любімых настаўніц, і гэта акрыляла мяне, не давала магчымасці зняверыцца або закамплексаваць.

Пазней, пасля заканчэння школы я даведаўся, што дырэктара звольнілі за матэрыяльныя злоўжыванні. З палёгкай уздыхнуў, пара-даваўся за родную школу, настаўнікаў і вучняў. Значыць, невыпадко-ва мая дзіцячая душа асмелілася выказацца супраць чэрствасці гэтага чалавека, які хацеў бачыць вакол сябе толькі згодных, ліслівых, маўклівых... А нядаўна даведаўся, што мой крытычны верш, аказваец-ца, падштурхнуў тады аднаго з настаўнікаў паскардзіцца на дырэкта-ра ў адпаведныя органы, бо ведаў больш за вучня пра ягоныя выкрун-

тасы. Пакуль камісіі разбіраліся, хапіла і гэтаму настаўніку: «Маланкі б'юць па дубах», немаўклівым дастаецца заўсёды больш... Але шчаслівы чалавек — не маўчаннем і тым больш не абыякавасцю, а здольнасцю адчуваць, адстойваць і ўзвышаць Праўду, Справядлівасць, Годнасць... Хоць былы дырэктар і меў рацыю ў тым, што шчыраму і праўдзіваму чалавеку жыць вельмі цяжка, аднак альтэрнатывы гэтаму няма.

## РОЗА СЯМЁНАЎНА

У школьныя гады я пісаў вершы на рускай мове. Пэўна, калі б не настаўніца рускай мовы і літаратуры Роза Сямёнаўна Нікіфарава, то і не займацца б мне літаратурнай справай... На ўроку ў шостым класе аднаго разу яна аб'явіла, што заданне на ўвесь урок — напісаць верш. Нагадала аб рыфме, рытме і вершаваных памерах, супакоіла, што двоек і нават троек нікому не паставіць.

Верш дык верш. Падахвочаныя, мы ўсім класам пайшлі на штурм славы Пушкіна і Купалы. Памятаю, крэмзаў я шмат, але здаў ўсяго чатыры радкі:

Весна пришла,
Ручейки потекли,
Скворцы прилетели,
Грачи гнезда свили.

Ды гэтага хапіла, каб надалей я заўсёды імкнуўся выказацца вершамі. Сачыненні штораз пісаў на вольныя тэмы і, безумоўна, вершаванай мовай. Роза Сямёнаўна сачыла за маім «творчым ростам», падтрымлівала.

А як яна ўмела захапіць сваімі ўрокамі! Як цікава выкладала рускую літаратуру! Якія часам арыгінальныя і змястоўныя былі яе тлумачэнні! Яна выдатна дэкламавала вершы вядомых рускіх паэтаў, хораша спявала цыганскія песні, рамансы. Калі мы стамляліся, аналізуючы складаны твор, або ўнурваліся па нейкай прычыне ў парты, Роза Сямёнаўна зграбным рухам накідвала на плечы доўгі кваяцісты шалік і пачынала спяваць... Мы ўсе ажывалі, расквечваліся ўсмешкамі, вочы загараліся захапленнем і ўдзячнасцю. А любімая настаўніца, падтрыманая нашымі позіркамі і цёплымі ўсмешкамі, здавалася, плыла па класе, голас набываў новае непаўторнае гучанне, песня адкрывала перад намі чароўны, мілы свет...

Бывала Роза Сямёнаўна і сумнай, і стомленай, і строгай... Але запомнілася ўсё ж усмешлівай, узнёслай, жыццярадаснай, з чароўнай песняй на вуснах. Такой і бачыцца мне, калі надараецца выпадак пастаяць у паклоне каля яе магілкі, дзе ніколі не вянуць кветкі ўдзячнасці.

## ПРАСКОЎЯ ІЛЬІНІЧНА

Калі я прыехаў працаваць у Ягадскую васьмігадовую школу Бярэзінскага раёна, дырэктар вельмі ўзрадаваўся: яшчэ адзін мужчынапедагог — гэта выдатна. І кватэру ён мне ўжо напытаў. Пасля знаёмства адразу пакіравалі да месца майго будучага кватаравання. Ісці

патрэбна было ў суседнюю вёску Цярэсіна, а гэта зусім блізка. Вёскі падзяляла невялікая лугавіна з маленькай рачулкай. Хата гаспадыні стаяла ў самым канцы вуліцы, за сядзібай пачынаўся гушчар, праз які звілістая сцяжына вяла ў вёску Мяжонка суседняга Бялыніцкага раёна. Дворык спадабаўся чысцінёй, упарадкаванасцю. Хата выглядала ніштавата: на падмурку, ашаляваная, крытая шыферам, з вялікімі вокнамі, чаго я не чакаў, бо, як казаў дырэктар, жыла тут адна бабуля. Дачка і сын даўно аддзяліліся, маюць асобныя хаты. Дзверы адчыніла невысокая ласкавая жанчына гадоў сямідзесяці.

— Заходзьце, заходзьце, калі ласка, — прывітаўшы, запрасіла яна. — Будзьце як дома. Вось Ваша палавіна, — адчыніла яна пафарбаваныя дзверы ў вялікую святліцу, не зводзячы з мяне цікаўных вачэй. Мабыць, не чакала, што настаўнік зусім малады. Пакой вельмі спадабаўся. Пасярэдзіне — круглы стол і два крэслы, за імі сервант, справа канапа, злева, у глыбіні пакоя, стаяў металічны ложак з бялюткімі падушкамі. А ля ўвахода — грубка з шырокай ляжанкай. І ложак, і грубку адгароджвала квяцістая шырма. Я нават не спадзяваўся убачыць такія харомы.

Калі дырэктар пайшоў, пачаў раскладваць прывезеныя кнігі і рэчы, радуючыся пасля цеснага мінскага пакойчыка такой раскошы і волі.

Неўзабаве гаспадынька запрасіла за стол, на якім ужо стаялі мае любімыя дранікі, смачны борш і смажаная вясковая каўбаса.

Пазнаёміліся крыху бліжэй. Дабрынёй, лагоднасцю, шчырасцю Праскоўя Ільінічна нагадвала мне матулю.

Працавалася добра, цікава. У школе — з раніцы амаль да вечара. Гэта быў мой першы настаўніцкі год, таму імкнуўся ва ўсім быць асабліва стараннымм, актыўным — напрацоўваць аўтарытэт. Жылося ў бабулі Параскі (так называлі яе ў вёсцы) утульна, спакойна. У вольны час, калі не ад'язджаў да сваіх, не прамінаў магчымасці дапамагчы бабулі па яе невялічкай гаспадарцы: скасіць лужок, пакалоць дровы — не зломак жа, у вёсцы нарадзіўся і рос. А гаспадынька ажно ніякавела:

— Мінскі настаўнік і касіць добра ўмее нават!

Радаваўся, што ў мяне такая цудоўная гаспадыня. Неаднойчы мае вучні з далёкай вёскі па дамоўленасці з бацькамі пасля школьных вечароў заставаліся на ноч у Праскоўі Ільінічны.

Ды недзе праз паўгода, вярнуўшыся пасля выхадных з Мінска, я застаў у хаце заплаканую і надта засмучаную маю гаспадыню. На яе палавіне хаты быў нязвыклы беспарадак.

«Напэўна, сын п'яны наведваўся», — падумаў я, ведаючы, што той часам злоўжываў гарэлкай.

Не паспеў распытаць што да чаго, як той сапраўды п'яны ўваліўся ў хату:

— Дзе бутэльку схавала? У сене яе няма! — зароў ён з парога, але, убачыўшы мяне, асекся.

Я заступіўся за маці, стаў паміж імі і папрасіў яго выйсці. Той даволі спрытна выслізнуў з хаты. Ад майго спакойнага заступніцтва, увагі і цеплыні Праскоўя Ільінічна расплакалася яшчэ больш. Магчыма, і ад сораму, усведамляючы, што ад роднага сына яе бароніць чужы чалавек.

Раптам дэбашыр з лютай грымасай на твары ўварваўся ў хату. Над галавой у руцэ ён трымаў сякеру:

— Пазасякаю! — шчэрыўся ён. — Каб я цябе тут не бачыў! — працягваў раўці сын, а затым пайшоў прама на мяне.

Я паціху адступіў за стол і загарадзіўся ім. Гаспадыня тым часам схавалася на печ.

— Я тут камандую! — кінуўся ён да печы. — Бутэльку — хутка!

— Хопіць піць! Не чапай маці! — крыкнуў я.

Пятрок, так звалі сына маёй гаспадыні, рвануў у мой бок і з усяе сілы ўвагнаў сякеру ў падлогу перад сталом. На печы галасіла Праскоўя Ільінічна. Я трымаўся спакойна, упэўнена, гаварыў разважліва і гэта, напэўна, крыху ацверазіла дэбашыра.

— Не прынясеш гарэлку, горш будзе, — ужо нашмат мякчэй вымавіў Пятрок, павярнуўшыся да маці, затым выцягнуў з падлогі сякеру і моўчкі падаўся з хаты.

Як мог, я супакоіў Праскоўю Ільінічну. Заварыў чай, дастаў цукеркі і запрасіў яе да стала. І толькі наліваючы чай, адчуў, што ў мяне дрыжаць рукі. Пэўна, ад напружання, якое спала.

Назаўтра, калі я збіраўся ў школу, гаспадыня зазірнула на маю палавіну.

— Не заяўляй, сынок, на Пецю ў міліцыю, — вінавата папрасіла яна. — Ён жа сын мне ўсё-такі. Гарэлка вінаватая, не ў сваім розуме быў...

Я, вядома, супакоіў Праскоўю Ільінічну, запэўніўшы, што не паскарджуся. Ды мне і ў галаву не прыходзіла — звяртацца ў міліцыю.

Частуючы мяне сняданкам, мая добрая гаспадынька хавала вочы — няёмка ёй было. Як глыбока сумленны чалавек, яна, пэўна, адчувала сябе вінаватай за сына. Выходзячы з хаты, я паглядзеў на Праскоўю Ільінічну. Усміхнуўся і прачытаў у яе вачах і падзяку, і прабачэнне, і кволую ўсмешку, і просьбу не пакідаць яе. Я застаўся жыць на гэтай кватэры.

Праз некалькі дзён, сустрэўшы мяне на вуліцы, Пятрок папрасіў прабачэння. Я затрымаў яго руку і міралюбіва паглядзеў у вочы... Болей п'яны ён не заходзіў да маці. Паступова Праскоўя Ільінічна ажыла, да яе зноў вярнуліся лагодная, прамяністая ўсмешка і добры настрой.

## МІША ШАПУЛОЎ

У школе я выкладаў родную мову і літаратуру, а таксама нямецкую мову і этыку. Да таго ж, адразу быў прызначаны класным кіраўніком сёмага класа. А гэта — 16 падлеткаў, хлопчыкаў і дзяўчынак, у кожнага — свой характар, здольнасці, звычкі. Былі і выдатнікі, і моцныя «сераднячкі», і закаранелыя ляніўцы, і такія, якім вучоба ніяк не давалася. Але найбольш турбот і праблем у настаўнікаў узнікла чамусьці з Мішам Шапуловым. Старэйшы за сваіх аднакласнікаў на тры гады, бо не заўсёды пераходзіў з класа ў клас, падлетак не толькі не праяўляў інтарэсу да вучобы, але і часта прапускаў заняткі, парушаў дысцыпліну. Толькі не на маіх уроках. З першых хвілін у нас з ім усталяваліся якраз узаемапаважлівыя адносіны, чаго нельга было сказаць пра іншых настаўнікаў. Нават дырэктар школы, былы франтавік, афіцэр за-

пасу, педагог з вялікім стажам, і той зрываўся, не могучы адшукаць патрэбны ключык да Мішавай бунтоўна-непаслухмянай душы. Аднаго разу пасля свайго ўрока гісторыі ў сёмым класе дырэктар прывёў Мішу ў настаўніцкую і пачаў яго «пясочыць» за дрэнныя паводзіны. Хлопец трымаўся незалежна, годна. Гэта, мабыць, яшчэ больш «распаліла» кіраўніка школы і той падскочыў да вучня і пачаў лупцаваць яго ўказкай. Я імгненна апынуўся паміж імі, загарадзіў выхаванца. Хтосьці з настаўнікаў забраў з дырэктаравых рук указку. Яшчэ працягваючы «педагагічную тыраду», нібы апраўдваючыся перад усімі за сваю гарачлівую нястрыманасць, дырэктар сеў у крэсла.

Зняважаны і пакрыўджаны, Міша згорбіўся ў кутку настаўніцкай. З ягоных вачэй капалі слёзы адчаю і болю.

Празваніў званок на ўрок, дырэктар і настаўнікі выйшлі, а я з Мішам затрымаўся, у мяне якраз была нямецкая мова ў нашым сёмым класе і я даў Шапулову магчымасць супакоіцца, прыйсці ў нармальны стан, каб не заўважылі аднакласнікі.

Праз некалькі дзён я наведаў сям'ю Шапуловых, якія жылі ў суседняй вёсцы. Мішавы бацькі шчыравалі на калгаснай ферме. Дома вялікая сям'я: сямёра дзяцей. Міша быў старэйшы. Вядома, хлопцу часта было не да вучобы. То за дзецьмі меншымі прыглядзь, то вады панасі, то бацькам дапамажы на ферме ці ў лузе. Даводзілася хадзіць за плугам, касіць сена, пілаваць і калоць дровы. Работы ў вёсцы заўсёды хапае. Я здагадваўся і раней, што Міша шмат працуе, а цяпер задумаўся, як яму дапамагчы ў школе. Ягоныя выбрыкі і зацятасць, ягоная абыякавасць да вучобы — гэта і наша віна, настаўнікаў. Ёсць гонар у хлопца, хоча, каб яго паважалі як дарослага. Значыць, трэба і да яго прыслухоўвацца, і ў ім бачыць чалавека. Не ўсё ж урэшце вымяраецца школьнымі адзнакамі...

Паразмаўляў з Мішам сам-насам і адчуў, што ён зусім не такі, якім яго малююць калегі. Пагаварыў з настаўнікамі на педсавеце, папрасіў падтрымаць яго працавітасць, дарослаць, не надта акцэнтаваць увагу на недахопах, недапрацоўках, асабліва ў прысутнасці іншых вучняў. Ён жа за любую працу бярэцца, даручы толькі, а дома колькі шчыруе. Нам жа не трэба з яго выдатнай вучобы патрабаваць, галоўнае, якім ён чалавекам стане. Не гультай жа!..

Праз некалькі дзён мы з вучнямі правялі класную гадзіну на тэму: «Кім я хачу быць?», да якой спецыяльна і загадзя рыхтаваліся. Усе мае выхаванцы марылі паехаць вучыцца ў вялікі горад, каб стаць інжынерамі, урачамі, педагогамі, лётчыкамі... І толькі Міша сказаў, што ён плануе застацца дома і працаваць у калгасе. Я хваліў усіх за іх выбар, але больш за іншых Мішу Шапулова.

— Вы пакінеце родныя вёскі, — падкрэсліў я, — а Міша будзе рабіць усё, каб квітнеў родны кут, каб была тут добрая асфальтаваная дарога, каб на паляхраслі добрыя ўраджаі і каб вам было куды калі-нікалі прыязджаць з вялікіх гарадоў і адпачываць душой. Бо для кожнага чалавека месца, дзе ён нарадзіўся, — самае святое, дарагое і прыцягальнае...

Я ўсяляк імкнуўся падтрымліваць Мішу, прыдумваў і даваў яму самыя розныя даручэнні. Хлопец ніколі не падводзіў мяне. Мінула некалькі месяцаў, і мае калегі паступова пачалі адзначаць, як непазнавальна змяніўся Міша Шапулоў, стаў уважлівы, нават ветлівы.

Сёмы і восьмы класы Міша закончыў на цвёрдыя тройкі і некалькі чацвёрак. А па працоўным навучанні ў ягоным пасведчанні красавалася пяцёрка.

А потым Ягадская школа з-за нізкай запаўняльнасці класаў была закрыта, мяне перавялі ў іншую, прапрацаваўшы ў якой яшчэ год, я вярнуўся ў Мінск.

Мінула шмат гадоў. Ад сваіх былых выхаванцаў я даведаўся, што Міша сапраўды застаўся ў роднай вёсцы, працуе ў калгасе, пабудаваў прыгожы дом, ажаніўся... Шкадую, што так і не ўдалося мне больш пабываць у мясцінах майго настаўніцтва. Але я рады, што мае вучні ўпэўнена крочаць па сваіх жыццёвых дарогах. І калі яны прыязджаюць на радзіму, то іх гасцінна сустракае Міша Шапулоў.

## САШКА

У Ягадскай васьмігодцы, куды мяне накіравалі на працу, змяніўся ўвесь педагагічны калектыў. Таму, вядома, ніхто з нас не ведаў пра выбрыкі шасцікласніка Сашкі С. Аднойчы ў настаўніцкую ўбегла перапалоханая выкладчыца рускай мовы і літаратуры.

— Паставіла двойку Сашу С., дык ён пабег вешацца, — збянтэжана выпаліла яна, сустрэўшы нашы здзіўленыя позіркі.

Тут ужо і дырэктар школы пабялеў. Усе настаўнікі выбеглі на школьны двор, які з трох бакоў абступаў хваёвы лес. Некалькі старшакласнікаў па камандзе дырэктара кінуліся ў лес лавіць Сашку, які пацвельваўся на самым узлеску. Праз некалькі хвілін злавілі яго і прывялі ў школу.

— Усё роўна павешуся! Вось пабачыце, уцяку іншым разам і павешуся! — неяк незвычайна пафасна даводзіў той.

Паслалі некага па маці. Прыйшла змораная хударлявая жанчына. Яна да таго ж была нямая. Але, па ўсім было відаць, здагадалася ў чым справа. Ціха павяла сына дамоў.

Назаўтра, як быццам нічога і не здарылася, Сашка прыйшоў на заняткі. Наструненыя настаўнікі не пазнавалі яго. Хлопчык быў спакойны і ўважлівы.

З таго часу я пачаў пільна прыглядвацца і прыслухоўвацца да Сашкі. Чым ён жыве? Што адбываецца ў яго складанай душы? Што робіць дома? Ці дапамагае маці?.. Вучні расказалі, як ён «замучыў» сваімі пагрозамі папярэдні настаўніцкі калектыў, асабліва дырэктара школы. Я запрасіў падлетка ў спартыўную секцыю, у гурток мастацкай самадзейнасці. І зразумеў, што Сашка здольны, добры, хоць і лянаваты ды капрызны хлопчык. Ён актыўна адгукаўся на любое даручэнне, адказваў на ўсе пытанні па-свойму, не па-кніжнаму. І я пахваліў вучня перад усім класам. Аднаго разу я вырашыў правесці ўрок беларускай літаратуры ў лесе. Тэма яго была — «Восень у творчасці беларускіх паэтаў». Сашка быў прызначаны адказным за падрыхтоўку лясной палянкі да ўрока. Трэба было бачыць, з якім хваляваннем, з якой радасцю ўзяўся ён за справу. Абраў вельмі прыгожую, маляўнічую мясцінку ў лесе, зладаваў лаўкі і нават столік для настаўніка, вывучыў некалькі вершаў...

Пабываўшы ў Сашкі дома, пагутарыўшы з яго суседзямі і сваякамі, я зразумеў, як нялёгка жывецца яму, як няпроста быць зразуме-

тым, як лёгка яго пакрыўдзіць: і дома, і на вуліцы, і ў школе. Значыць, сваімі выбрыкамі ён пратэставаў супраць чэрствасці і абыякавасці, што былі вакол яго. Бязбацькавіч, адным словам, а бедная маці б'ецца як можа, каб неяк выжыць у нялёгкіх абставінах. Старэнькая хата разбураецца, дапамагчы няма каму, заробкі ў калгасе неважнецкія...

«Цеплыні б яму, павагі ці хоць увагі больш, — разважаў я, — а характар, душа ў яго ёсць...»

Аднаго разу, калі дырэктара ў школе не было, на перапынку ў настаўніцкую ўляцеў выкладчык матэматыкі:

— Сашка зноў пабег у лес вешацца! — спалохана паведаміў ён. — Псіхануў адразу пасля званка і памчаўся...

Я выйшаў з настаўніцкай на школьны двор. Каля лесу стаяў Сашка і крычаў, што павесіцца. Мяне абступілі занепакоеныя настаўнікі і вучні, чакаючы распараджэння.

— Усім разысціся па класах! — скамандаваў я. — Не хвалюйцеся. Вяроўкі ў яго няма...

Калі ўсе разышліся і празвінеў званок на ўрок, я зрабіў некалькі крокаў да лесу і спакойна сказаў:

— Кідай прыдурвацца, Саша! Ты ж не маленькі, не смяшы людзей. — І пайшоў на ўрок. У мяне была беларуская літаратура ў шостым класе.

За дваццаць хвілін да заканчэння ўрока ў дзверы ціхенька пастукалі.

— Калі ласка, заходзьце, — адгукнуўся я.

Дзверы адчыніліся, і ў клас увайшоў Сашка.

— Сядай хутчэй, Саша, — паклаў я яму на плячо руку і правёў да парты, нібы нічога не здарылася.

Пасля гэтага выпадку Сашкавы пагрозы-выбрыкі спыніліся.

## ПРАЗ СОРАК ГАДОЎ...

Творчая сустрэча ў роднай Глухскай школе была працяглай, хвалюючай. Землякі — вучні, настаўнікі, мясцовыя жыхары — лавілі кожнае слова, не зводзілі з мяне сваіх цікаўных вачэй амаль дзве гадзіны. Мне асабліва прыемна было выступаць у роднай школе, адкуль аднойчы адправіўся ў вялікае няпростае жыццё...

Расчулены, успамінаў найбольш яркае са школьнай пары, чытаў вершы, адказваў на пытанні. Але згадаў і адно прыкрае, што столькі часу пакутліва насіў у сэрцы.

Было гэта ў шостым класе. З-за мяне пакаралі невінаватага аднакласніка. Неяк на перапынку дурэлі, даганялі адзін аднаго. І ўсё гэта ў класе. Хтосьці з вучняў падсунуў з-за парты мне пад ногі дарагую геаметрычную лінейку. Я не паспеў пераскочыць ці затармазіць, і тая разляцелася на кавалкі.

Цэлы ўрок класны кіраўнік, завуч і дырэктар школы вялі «следства», аднак мяне ніхто не выдаў. Прамаўчаў і я. Не адважыўся прызнацца і тады, калі педагогі абвінавацілі ў псаванні «дзяржаўнай» маёмасці бязвіннага, таго, хто часцей за ўсіх парушаў дысцыпліну ў школе. Ён якраз і даганяў мяне. Аднакласнік мужна сустрэў «прыгавор». А ў мяне не хапіла смеласці сказаць праўду і адвесці пакаранне ад

невінаватага. Можа таму, што не хацеў падводзіць таго, хто падсунуў мне пад ногі тую злашчасную лінейку? Гэтая віна, як скабка ў сэрцы, час ад часу мучыла мяне ўсе сорак гадоў. І хоць настаўнікі мае ўжо памерлі, а былых аднакласнікаў на гэтай сустрэчы не было, я ўсё ж павініўся перад цяперашнімі вучнямі і настаўнікамі. І лягчэй зрабілася на душы, нібы скінуў з яе цяжкі камень.

## ВАЛОДЗЬКА

Гэта было даўно. Летам, дачакаўшыся чарговага адпачынку, я адразу паехаў са спякотнага горада ў вёску.

На вясковым прыпынку мяне сустрэў Максімка. Загарэлы, вясёлы, ён, падалося, за тры летнія тыдні тут, у бабулі, падрос, падужэў. Зусім па-даросламу падаў мне руку. Я не ўстрымаўся, падхапіў яго на рукі:

— Ты ў нас ужо амаль сталы, сынок!..

— А ты вуду мне прывёз, тата? — перавёў гаворку на другое сын.

— Прывёз, вядома.

— А мячык? А бінокль — купіў? А новыя кніжкі?.. — пытаўся ён.

— Прывёз, Максімка, нічога не забыўся, — супакоіў я сына. — Хваліся сваімі справамі, вядзі да бабулі.

— Валодзька! — раптам схамянуўся Максімка, — ідзі сюды.

Толькі цяпер я заўважыў белагаловага хлопчыка, крыху меншага за Максімку. Па ўсім было відаць, што ён з вясковых.

— Знаёмся, тата. Гэта Валодзька. Мы з ім сябруем. Ён жыве ў бабы Насты.

Максімка на момант сумеўся, потым, ступіўшы на крок бліжэй, спачувальным голасам шапнуў мне:

— У яго таткі няма, а мама ў горадзе недзе.

— Добры дзень, Валодзька, — падаў я руку хлопчыку. — Будзем разам рыбу лавіць?

— Ага, — ціхмяна згадзіўся той, пазіраючы на мяне вялікімі васільковымі вачыма.

— Ён малы яшчэ, толькі ў другі клас перайшоў, але і працавіты, — зазначыў Максімка.

— Малайцы! — пахваліў я сябрукоў. — Вось вам апельсіны, нясіце ўдвух. А каб лягчэй было — частуйцеся.

Хлопчыкі пайшлі паперадзе, ведучы сваю дзіцячую гамонку.

Адпачыўшы з дарогі, я сабраў вуды, Максімка з Валодзькам накапалі чарвякоў, і мы пайшлі на рыбалку.

— Татка, трэба было тры вуды везці, — заклапочана заўважыў Максімка.

— Нічога, сынок, — здагадаўся я, — Валодзька будзе лавіць маёй вудай, а я пагуляю каля ракі. Так, Валодзька? — прыгарнуў я да сябе хлопчыка.

Валодзькаў твар асвяціла шчаслівая ўсмешка.

Вось і рэчка. Сонца ўжо вісела над лесам, апусціўшы ў яго шырокія промні. Гарачыня спадала. Мы выбралі прыдатную мясцінку, закінулі вуды. Некалькі хвілін не клявала.

— Можа, лепшае месца пашукаць? — засумняваўся Максімка.

— Не спяшайцеся. І не размаўляйце, — шэптам сказаў я, — рыба не любіць шуму.

— Не паспеў я адысці ад рыбакоў і на дзесяць крокаў, як сын узрушана закрычаў:

— Татка! Татка! Клюе!..

— Падсякай!

Максімка рвануў вуду, і, паблісваючы срабрыстай луской, у паветры мільганула ладная плотка.

— І ў мяне, тата, клюе! — закрычаў Валодзька.

Я пабег да яго, і праз імгненне другая плотка бліснула над нашымі галовамі і затрапяталася ў траве.

— Гэта ж мой тата! — паправіў сябрука Максімка, пазіраючы на мяне.

— Распалохаеце ўсю рыбу, — перапыніў я сына, — Валодзька проста агаварыўся, а ты прысароміў яго.

Валодзька прысеў у траве, прымацоўваючы на кручок чарвяка. Але той ніяк не начэпліваўся.

Вечарам варылі юшку. Я чысціў рыбу, Максімка абіраў бульбу, Валодзька збіраў галлё для кастра. Я размаўляў з ім і і радаваўся яго дзіцячай непасрэднасці, кемлівасці.

Калі юшка была гатова, Валодзька пабег і прынёс слоік.

— Цяпер агонь трэба заліць вадой, каб пажару не было і торф не загарэўся, — разважліва сказаў ён.

З гэтага дня, ідучы на рыбалку, мы заўсёды клікалі Валодзьку.

Вельмі падабалася Валодзьку гуляць у футбол. За агародам, на пусташы, было невялікае футбольнае поле. Свайго маленькага сябрука я кожны раз браў у нашу «гарадскую» каманду. Ён вельмі радаваўся, калі, забіўшы гол у вароты другой каманды, я падбягаў да яго, браў на рукі і некалькі разоў падкідваў угору. Валодзька стаяў на варотах і вельмі перажываў прапушчаныя галы.

— Нічога, — супакойваў я тады хлопчыка, — адыграемся. А падрасцеш — ніводнага мяча не прапусціш.

Аднаго разу я не пайшоў гуляць у футбол з хлопчыкамі, і Валодзька адмовіўся стаяць на варотах.

— Прыйдзе Максімкаў тата, тады і я буду гуляць, — заявіў ён.

— А ты пакліч свайго, хопіць яму сабакам сена касіць, — здзекаваліся большыя.

Валодзька заплакаў і пабег дадому.

Два дні я не бачыў яго. Неяк пасля сняданку мы з сынам сабраліся ў лес — з'явіліся лісічкі. Па дарозе зайшлі да Валодзькі. Хлопчык вельмі ўзрадаваўся і папрасіўся з намі. Бачачы, што і я пайду ў лес з дзецьмі, баба Наста пусціла яго.

Па дарозе Валодзька расказваў нам аб сваіх грыбных знаходках у мінулае лета, аб тым, як аднойчы яму «вельмі ўжо ж пашэнціла», бо знайшоў ажно дваццаць пяць баравікоў.

Я запытаў, якія грыбы яшчэ траплялiся яму.

— Маслякі, падабабкі, сыраежкі, свінушкі, рыжыкі, грузды, ваўнянкі, зялёнкі, падсасонкі, — пералічыў Валодзька.

Ведаў ён і мясцінкі, якія асабліва падабаліся грыбам, бо прывёў нас адразу на невялічкую палянку, дзе густа высыпалі першыя лісічкі.

Збіраючы грыбы, я зайшоў у густы малады ельнік. Выбіраючыся назад, пачуў немы Валодзькаў крык:

— Га-а-ай! Та-та!

Я рвануўся на голас і праз некалькі секунд быў ля Валодзькі.

— Што? Ты чаго? Што з табой, мой хлопчык?..

— Там, там воўк пад кустом... — паказаў Валодзька на арэшнік. Я зазірнуў пад куст, але апрача струхлелага пня там нічога не было.

— Супакойся, Валодзька. Супакойся, сынок. Гэта гнілы пень, а воўк баіцца нас, яго тут і блізка няма. Вунь і Максімка так скажа.

Я ўзяў Валодзьку за руку, і цяпер мы збіралі грыбы разам. Хлопчык смяяўся, падсвістваў птушкам, нібы перад гэтым нічога і не здарылася.

## МАЁ ЗАБРОДДЗЕ

Маю родную вёску адсяліў не жахлівы Чарнобыль. «Неперспектыўная», яна аціхала, адсялялася паступова і пераважна сама. Паміралі, сыходзілі на могілкі, знаходзячы там вечны спачын, старыя забрадчане. Сярод мужчын, працавітых, дбайных, мне найбольш запалі ў душу дзед Іван, дзед Марка, дзядзька Аўрам і дзядзька Міша. Дзед Іван быў надта строгі і патрабавальны. Даставалася нам, вясковай дзятве, ад яго, калі залазілі ў ягоны багаты сад па шлапакі ды шампанаўку. Салдат Першай сусветнай вайны, ён некалькі гадоў правёў у нямецкім палоне. Аб сваім жыцці ў Германіі дзед Іван любіў расказваць у рэдкія хвіліны адпачынку. Трэба зазначыць, што тыя ягоныя аповеды здзіўлялі і нават бянтэжылі мой дзіцячы розум...

Дзед Марка вылучаўся сваёй разважлівасцю, стрыманасцю, нават нейкай сялянскай інтэлігентнасцю, а яшчэ тым, як ён умеў укладваць стагі на калгасных сенажацях, дзе мы на канікулах шчыравалі разам. Мяне заўсёды здзіўляла тое, як сямідзесяціпяцігадовы дзед проста і спрытна спускаўся на грэшную зямлю, завяршыўшы ўкладку высачэзнага стога...

Дзядзька Аўрам, па-першае, хрысціў мяне ў Глухскай царкве, якую праз некалькі гадоў разбурылі ваяўнічыя атэісты. Дарэчы, тая карціна гвалту над святыняй настолькі балюча-няўцямна ўвайшла ў маё сэрца (я, чатырохгадовы, назіраў тое разбурэнне), што пазней вайна мне снілася і ўяўлялася ў вобразе знявечанай царквы. Па-другое, дзядзька Аўрам быў кавалём, які мог выкаваць, здавалася, і нават месяц залаты, і папараць-кветку.

А дзядзька Міша — Міхаіл Сілавіч Пазнякоў — запомніўся найбольш гасціннасцю і тым, што на свята Перамогі 9 Мая салютаваў з ружжа ў гонар тых, хто не вярнуўся з вайны. Франтавік, дзядзька Міша, прызываўся радавым, вярнуўся ў 1945 годзе капітанам. Дарэчы, загінуў у полымі вайны амаль кожны трэці дарослы забрадчанін. Смерцю храбрых палі і мае родны дзядзька Давыд і стрыечны дзядзька Якаў.

З жанчын, вечных пчолак, шчырых і чулых, мне найбольш запомніліся мая родная цётачка па татавай лініі Марыля, якая пражыла з усмешкай на твары амаль 110 гадоў, і наша суседка цётка Ульяна. Апошняя, жонка дзеда Маркі, была адметным пчаляром. Гэта яна выратавала мяне, дванаццацігадовага падлетка, калі на мяне напаў

пчаліны рой: паваліла на пясок, збіла пчол пяском і травою, затуліла сабой.

Вядома, хацелася б згадаць і сваіх бацькоў, незабыўных, мудрых, працавітых — матулю Марыю Еўдакімаўну і тату — Паўла Кузьміча, майстра на ўсе рукі, дасціпнага і строгага. Але раскажу пра іх, мажліва, іншым разам, не спехам.

У 60-я, 70-я, 80-я гады забродская моладзь літаральна ўся пакідала вёску, раз'язджалася па ўсёй краіне. Хто — працаваць, хто вучыцца. А ў 90-я выязджаць ужо не было каму. З 32 хат сягоння захаваліся толькі дзесяць, а жывуць толькі ў чатырох. І вёска, дзе ў мае школьныя гады ўсё звінела, квітнела, жыло, ператварылася ў ціхі зялёны астравок сярод жытнёвых палёў. Бацькаўская хата, з якой у свой час вылецелі ў «вырай» дзесяць чалавек, доўгі час пуставала. Да таго ж, апошнія гады жыцця бацькі правялі на мамінай радзіме ў вёсцы Ямнае, што на Быхаўшчыне. Ды ўжо сёмы год з вясны да позняй восені тут, у роднай хаце, на бацькоўскай сядзібе гаспадарыць старэйшая наша сястра Валянціна. Як глыток жывой вады для яе кожная хвілінка на радзіме. І ажыло ўсё ў родным кутку, зацвіла бульба. Побач з нашай хатай і агародам — цётчына сядзіба. Ужо другі год з нашай роднай цётачкай Зінай — малодшай татавай сястрой, жыве яе сярэдні сын Мікалай, мой стрыечны брат. Адмысловы працаўнік, ардэнаносец, які доўгі час працаваў на магілёўскім лаўсанавым заводзе-камбінаце, ён выйшаў на пенсію і прыехаў жыць да маці, у горад наязджае толькі па справах, часова. Дзякуючы стараннямі Валянціны і Мікалая, наша Заброддзе зноў набыло абрысы культурнай, прыгожай вёсачкі, асабліва той канец вуліцы, дзе знаходзяцца нашы падворкі. Любіць Мікалай зямлю, развёў пчол, трусоў, пабудаваў новую лазню, аздобіў сядзібу, выхадзіў крынічку, якая гоіць кожнага, хто паклоніцца ёй...

І гучаць цёплымі вечарамі над вёскай знаёмыя песні, калі мы збіраемся разам пад старымі магутнымі клёнамі, якія яшчэ молада шалясцяць сваім лісцем, радуючыся жыццю разам з людзьмі.







# ЗМІТРОК АСТАПЕНКА

Лёс яго падобны да легенды. Але канцоўка ў той легендзе трагічная, а мо і гераічная. Гэта гледзячы, як меркаваць. Хутчэй за ўсё і першае, і другое азначэнні будуць правільныя.

...У літаратуры трыццатых гадоў мінулага стагоддзя іх імёны часта гучалі разам: Юлій Таўбін, Змітрок Астапенка, Аркадзь Куляшоў. Іх лучыла шмат: і шчырае юнацкае сяброўства, і смелы, нечаканы творчы пошук, і самае галоўнае, — добры зарад таленту. Аднагодкі часта згадвалі вечар трох паэтаў 5 лютага 1931 года. Хоць сустракалі траіх не толькі воплескамі, а і крытыкай, на іх глядзелі як на надзею нашай паэзіі. Яны і сапраўды былі той надзеяй. Машына сталінскіх рэпрэсій шчасліва не закранула толькі трэцяга, і ён пазней у сваім «Маналогу» паспавядаецца за тых двух. Пра другога, Змітрака Астапенку, напіша так:

Другі на фронт з таежнага барака
Шчасліва ўцёк. За валам агнявым
Яго салдацкі штык вяла атака,
Там ён на смерць пад прозвішчам сваім
Хадзіў і пахаваны разам з ім.

*А. Куляшоў*

У бібліяграфічным даведніку вельмі скупа паведамляецца, што «з 1942 года паэт знаходзіўся на фронце. У 1944 годзе ён загінуў». А сама легенда, як вядома, пачыналася яшчэ задоўга да фронту.

Ужо з 1926 года (а нарадзіўся З. Астапенка ў 1910 г. на Смаленшчыне) малады паэт сістэматычна друкуецца ў рэспубліканскіх газетах і часопісах. А ў пачатку трыццатых гадоў адзін за другім выходзяць з друку тры зборнікі яго паэзіі: «На ўсход сонца», «Краіне» (1931), «Абураныя» (1932). Ён не толькі пісаў пра «кранаў жалезныя плечы», яго непакоіў і лёс простага люду, раз'яднанасць рэспублікі на заходнюю і ўсходнюю. Але думка паэта сягала вышэй і шырэй: сэрцам сваім ён адчуваў і не мог прыняць раз'яднанасць усяго свету. Таму ў вершы «Ноч на станцыі Негарэлае» напіша:

Ах, не ў гэтым жа справа, што ёсць Беларусь
На Усходзе й на Захадзе!..
Справа не ў гэтым!
Гэта станцыя ставіць глухую мяжу
Для ўсяго невыказна вялікага свету!

І калі уяўляю, што там, за мяжой,
Вісне чорная ночка у колеры сажы,
Мне шкада не адной Беларусі маёй,
А падзелены свет неабсяжны.

Тады, у пачатку трыццатых, ён напіша яшчэ навукова-фантастычны раман пра расшчапленне атама. Усе падзеі твора адбываюцца ў Германіі, дзе на той час уздымаў свае крылы фашызм.

А далей пачынаецца страшнае: яго двойчы арыштоўваюць нкусаўцы. Пасля другога арышту ў 1936 годзе асуджаны на восем гадоў зняволення. Бунтоўная натура паэта не магла змірыцца з такім паваротам лёсу, і ў пачатку вайны ён уцякае з лагера. Уцякае толькі з адной мэтай, каб даказаць, што ён патрыёт сваёй Радзімы і гатовы аддаць за яе жыццё. Станіслаў Шушкевіч, які разам з паэтам прайшоў праз засценкі ГУЛАГа, згадваў: «Адбылося па тым часе нешта зусім неверагоднае, нечая добрая душа паверыла ўцекачу. Астапенка быў узяты ў армію, а пасля быў накіраваны са спецыяльным заданнем у варожы тыл».

Як сведчаць архіўныя матэрыялы, у 1942 і 1943 гадах З. Астапенка быў яшчэ не на фронце, а ў Маскве, дзе рыхтаваўся да выканання таго спецзадання. Тады і напісаны ім аповесць у вершах «Ганна» і эпічная паэма «Эдэм», а таксама шматлікія лірычныя вершы.

У сваіх успамінах Янка Скрыган згадвае адну з сустрэч са Змітраком Астапенкам у пачатку трыццатых, на якой гаворка зайшла пра раман «Вызваленне сіл». Пісьменніка здзівіла, што герой твора дастаткова дасканала, да драбніц, ведае Берлін, кожную яго вуліцу, плошчу, помнікі і нават глухія куткі, хоць сам аўтар ніколі не быў у Берліне. На што З. Астапенка, усміхнуўшыся, адказаў: «Калі б мяне скінулі з неба ўночы ў любым пункце і сказалі, што трэба пайсці ў нейкі другі любы пункт, я зрабіў бы гэта лёгка, ні ў кога не пытаючыся. Берлін я ведаю як самы прававерны берлінец, ніколі там не бываўшы».

Паэт як напрарочыў сабе. Яму выпала тая начная дарога. Вось радкі з пісьма З. Астапенкі родным, датаваныя 29 верасня 1944 года: «Увечары мы вылятаем. Зараз каля 4-5 гадзін вечара. Пажадайце ў душы мне ўдачы і шчасця. Зрэшты, калі вы атрымаеце гэтае пісьмо, я буду ўжо далёка, на месцы».

А вось радкі ўжо з таго «далёка», куды ён адлятаў у тую вераснёўскую ноч. Пісьмо датавана 7 кастрычніка 1944 года: «Вакол мяне крутыя горы. Схілы гор парaслі елкамі і букам. Цяпер сонца. Учора, пазаўчора хмары чапляліся за нашы палаткі. Ішлі дажджы...

Сколькі цікавага раскажу я вам, калі вярнуся. Сколькі хваляванняў! Напрыклад — пералёт праз лінію фронту, парашутны скачок ноччу ў горныя лясы і многае іншае...

Ну, — пара канчаць. Зараз адыходжу — пешкі, у горы, насустрач небяспецы, у агонь барацьбы. Я ніколі не баюся небяспекі, ненавіджу ворага, люблю вас, мае родныя. Чакайце!»

Пісьмо было апошнім. Як да яго стасуюцца радкі паэта:

Той, хто вырас на гэтай зямлі,
Хто ўсмактаў яе цяжкія сокі, —

Ведай:
час і пара надышлі
На геройства,
на подзвіг высокі.

Франтавая дарога не давядзе паэта да Берліна. На невядомай вярсце яго ходу абарве варожая куля.

Абарвалася жыццё, і скончылася паэтава легенда. А можа, і не скончылася. Яна будзе працягвацца, пакуль мы не даведаемся, як і дзе загінуў ён сам. Ёсць меркаванне, што гэта здарылася ў Славакіі. І тут варта пагадзіцца са словамі Янкі Скрыгана: «...Здзівіла не смеласць яго ўчынку, а веліч. Ён дамогся, каб папасці на той бок фронту, у варожы тыл, і загінуў, выконваючы спецзаданне!»

*Прадмова і падрыхтоўка тэкстаў*
*Казіміра Камейшы.*

## РУСАЛКА

Ля крыніцы ў бары я сустрэўся з дзяўчынай,
Дзе забытых руін абамшэлая цэгла.
Колькі часу прайшло, а забыць немагчыма.
Колькі спраў і падзей паміж намі прабегла.

Колькі майскіх начэй мы прабавілі з ёю
Ля крыніцы ў бары, над забытай руінай.
Яна гэткай была веснавой, маладою!
Яе звалі русалкай — лясною дзяўчынай.

Размятала вайна нашых ясеняў лісце
Ля забытых руін, на сасновых прагалках.
Беларускія хлопцы на ўсход падаліся,
Ў беларускіх лясах засталася русалка.

Зноў гараць беларускія нівы і хаты.
Над руінамі ўкленчыла ў путах краіна.
У няволі ў нямцах сохнуць нашы дзяўчаты.
Беражы цябе Божа, русалка-дзяўчына!

І лятуць і грымяць па краі ураганы,
Гэта помсты народнае вокліч лунае.
Ля забытай руіны ідуць партызаны,
Іх вядзе цераз пушчу дзяўчына лясная.

Яе лічаць русалкай за доўгія косы,
За прадонныя вочы, за дзіўную ўдачу.
Яе немцы няўлоўнаю лічаць якойсьці,
Па ёй кулі і шаблі нямецкія плачуць.

Воз чырвонцаў гестапа дае за спайманку,
Ды русалку жывою спаймаць немагчыма.
Яна дзеўчына з пушчы, яна партызанка,
Яе клічуць русалкай — лясною дзяўчынай.

*1943 г.*

## СПАЛЕНАЯ ВЁСКА

1

Над сажалкаю тужаць ліпы,
Па ветры гойдаючы шаты.
Ім сняцца шумныя сялібы,
Вясковы ранак і дзяўчаты.

За бугаём каровы самі
Ідуць на пасціва з рыканнем.
Дым пахне хлебам і блінамі,
І добрым сном, і хатнім раннем.

Ідуць у жоўты жнівень людзі
З касамі, з песняю бяспечнай...
Здавалася, што так і будзе,
Здавалася, што так навечна,

Што вечна будзе — ранак, вечар,
І ноч з салодкім адпачынкам,
І голас песні чалавечай
Над плодным здобраным суглінкам.

2

Яны прыйшлі... З якой планеты?
З якога краю і сяла?
Знянацку рушылі ў багнеты,
Як пудкі злодзей — з-за вугла,
Як воўк, згалелы да шкілета,
На цягавітага вала.

Здаецца б, людзі? Не, не людзі.
Звяры? Не бачылі такіх.
Ў крыві па пояс, сэрцы ў брудзе,
Жывая смерць дзяцей, старых.
Зямля, свае парваўшы грудзі,
Нямцамі ахрысціла іх.

І дымам, дымам сталі хаты,
І пусткай сталі гарады.
І бег народ, з дамоў прагнаты,
Ў лясы, у пушчы, хто куды —
Усе байцы, усе салдаты,
Сябры адзінай грамады.

Па цёмных пушчах вокліч рынуў:
«Да зброі ўсе! Да слаўных дзей!
За волю, шчасце, за Айчыну!..»
І людзі рушылі хутчэй
Ў атрады — паляваць звярыну,
Што з хаты выгнала людзей.

О, любы край! Твае законы —
З сівое мудрасці вякоў.
Іх зноў пацвердзілі загоны
І гнеўны роздум мужыкоў,
Дзяцей замучаных праклёны:
«Бі! Смерць за смерць і кроў за кроў!»

3

Дзе тая вёска, тая хата?
Дзе добры кут касцоў і жней,
Што жыў ні бедна, ні багата,
А да багатага бліжэй?

Дзе тыя мілыя нам душы?
Дзе імі выпешчаны сад —
Вясковы сад, дзе спелі грушы
І сыпаў лісце лістапад?

Няма той вёскі, той сялібы.
І хаты ў пяць акон няма.
Пажарышча вартуе ліпа,
Паўабгарэлая сама.

Пажарышчы ў пустым завуллі.
І толькі коміны пячэй
На папялішчах — як бабулі
Над трупамі сваіх дзяцей.

Тут былі справы нелюдскія.
Тут за бацькоў — за партызан —
Гарэлі дзеці і старыя,
Сядзібы вечныя сялян.

Пажарышча ляжыць, як дата,
Як сургучовая пячаць
На тым прыказе каменданта:
«Спаліць. Тубыльцаў расстраляць».

Яшчэ чуваць той крык смяротны,
Шчэ носіць вецер стогн пакут.
А цёмны лес шуміць гаротна:
«Хай пухам вам зямля. Мы тут...»

«Мы тут!..» І ў золкі ранак хмуры
Кусалі вусны ў кроў бацькі,
Як шлі на штурм камендатуры,
Як рвалі фрыцаў на шматкі.

О, любы край! Твае законы —
З сівое мудрасці вякоў.

Яны у кожным з нас — да скону:
«Мсці! Смерць за смерць
і кроў за кроў!»

4

Над цёмным прудам тужаць ліпы
Тугою вешчаю крылатай —
Па жоўтых нівах, па сялібах,
Па дыме над сялянскай хатай,

Па ручаі, па буйным жыце,
Па песні ў вераснёвы вечар,
Па непахісным дабрабыце,
Па ціхім шчасці чалавечым.

Чакайце, ліпы, — шчасце будзе!
Ледзь сціхне бою адгалосак —
Ізноў збудуюць вёску людзі
І сотні новых лепшых вёсак.

І будзе чутны спеў знаёмы —
Запеў дзяўчат і лісцяў шорах,
І будзе гніць у чарназёме
Пракляты і забіты вораг.

І будзе лес шумець дрымучы —
Таксама, як шумеў спрадвеку.
І будзе вечным, неўміручым,
Нязломным шчасце чалавека.

*1943 г.*

* * *

Паклянёмся любіць наш край!..
Паклянёмся,
што ў нашыя сэрцы
Не ўкрадзецца ні страх, ні адчай,
Ні спалох немінучае смерці.

Мы у гэтым кляліся калісь —
У гады залатога юнацтва.
Гэты час і пара надышлі —
Клятвы нашыя мусяць спагнацца.

Той, хто вырас на гэтай зямлі,
Хто ўсмактаў яе цяжкія сокі, —
Ведай:
час і пара надышлі
На геройства,
на подзвіг высокі.

І цяпер, калі грому гармат
Кулямёт падпявае па-брацку,
Ўспомні брата забітага, брат,
Ўспомні, сын, скатаванага бацьку!

Будзем помніць, як цяжкі кашмар,
Як баёў і нягоды выснову, —
Ненавіснага ворага твар,
Ненавісную ворага мову.

Паклянёмся Радзіму любіць!
Яна з верай на нас пaглядае.
Ў нашых сэрцах жыве й будзе жыць
Наша даўняя клятва святая!

*1943 г.*




# ПОЛЫМЯ

## НАЦЫЯНАЛЬНАЯ АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСІ



**Уладзімір НІКАЛАЕЎСКІ,**

намеснік начальніка Цэнтра інвестыцыйнай і прадпрымальніцкай рызыкі Інстытута эканомікі НАН Беларусі

# ДЗЯРЖАВА, ЧАЛАВЕК І ПЕНСІЁННАЯ СІСТЭМА

Рэспубліка Беларусь як суверэнная дзяржава ўсё інтэнсіўней уключаецца ў сусветныя сацыяльна-эканамічныя працэсы, дзе вядучымі глабальнымі тэндэнцыямі з'яўляюцца інтэграцыя на ўзроўні дзяржаў, гуманізацыя, экалагізацыя, пераход да супертэхналогій і пераход на прынцыпы постіндустрыяльнага (наасфернага) грамадства як у эканамічнай, так і сацыяльнай сферах. Падобныя тэндэнцыі ў канчатковым выніку прыводзяць да неабходнасці змянення сацыяльна-эканамічнай парадыгмы развіцця грамадства, калі яе мэтай становіцца чалавек як фактар і сродак эканамічнага росту.

Праблемы сацыяльнай абароны з'яўляліся актуальнымі для ўсіх перыядаў развіцця чалавецтва. Спробы ўсведамлення, асэнсавання і ўсебаковага вывучэння гэтых праблем і іх элементаў ва ўзаемасувязі з праблемамі не толькі эканамічнага, духоўнага развіцця грамадства, але і дзяржаўнага будаўніцтва вядомы здаўна. Напрыклад, для хрысціянства, якое стала ў далейшым адным з ідэалагічных элементаў дзяржаўнай палітыкі для многіх краін, першым «дакументам», які афіцыйна прапагандаваў памяркоўныя адносіны паміж людзьмі і аказанне імі ўзаемнай дапамогі, а таксама дапамогі немаёмнаму, з'яўляецца Біблія, якая патрабуе шанавання сваіх бацькоў і павагі да іх, а значыць, апекі і догляду за імі ў старасці, міласэрнасці да бедных і рабоў, справядлівасці і г. д. Як адзначаюць даследчыкі, канфуцыянства, якое выпрацавала суму маральных законаў, дало Кітаю разуменне таго, што сапраўдныя асновы грамадства сацыяльныя. Сацыяльнае інтэрпрэтавалася як этычнае. Грамадства кіравалася «этычнымі законамі» — нормамі, правіламі паводзін, маральнымі перакананнямі. Цыцэрон, разважаючы аб паняцці дабра, прыходзіць да сацыяльнага вываду — «выкуп палонных з рабства і дапамога бедным карысныя і дзяржаве», пры гэтым, разважаючы аб справядлівасці, ён адзначае, што дабрадзейства часта суадносіцца з учынкамі людзей, а не з іх маёмасным становішчам, маючы на ўвазе, што дапамога больш патрэбная бедняку, чым заможнаму грамадзяніну. У Плутарха пры разважанні аб звычаі рымлян не прыбіраць рэшткі страў са стала ўзнікае думка пра тое, што гэта неабходна для дапамогі рабам і іх дзецям.

У Еўропе ўжо ў XVI—XVII стагоддзях пачало фарміравацца разуменне значэння тэхнічных і гаспадарчых фактараў, якія ўздзейнічаюць на грамадскае развіццё. У прыватнасці, у працах А. Конта падкрэслівалася тая важная акалічнасць, што прагрэс навукі і тэхнікі абумоўлены не толькі развіццём чалавечага розуму, але і прагрэсам сацыяльных адносін. Пастулпове развіццё грамадства магчыма толькі ў стабільных сацыяльных умовах,

якія матывуюць развіццё свядомага стваральнага патэнцыялу грамадства. На неабходнасць выкарыстання ненасільных мер падтрымання сацыяльнай стабільнасці грамадства, «дзякуючы якім пралетарыі будуць мацней зацікаўлены ў грамадскім спакоі», звяртаў увагу А. Сен-Сімон. У сучаснай інтэрпрэтацыі можна сцвярджаць, што яго рэкамендацыі аб выкарыстанні сацыяльна-эканамічных, але не гвалтоўных стымулаў грамадскага спакою знайшлі адлюстраванне ў функцыях сучасных сістэм сацыяльнай абароны, праз якія яны рэалізуюцца: пераадоленне жабрацтва і беднасці, матывацыя актыўных працоўных паводзін і падтрыманне сацыяльнай стабільнасці грамадства, як гэта робіцца, напрыклад, у дзейнасці Сусветнага банка.

Пераход ад рабаўладальніцкага да феадальнага ладу, безумоўна, павысіў узровень сацыяльнай абароненасці вялікай колькасці людзей-рабоў. Той факт, што ў развіцці сацыяльнай сферы чалавецтва, састаўной часткай якой з'яўляецца сістэма сацыяльнай абароны, закладзены вялікі стваральны патэнцыял, здольны нават да змены грамадска-эканамічных фармацый, падкрэсліваў Дж. Міль, кажучы, што пераход ад феадальнай сістэмы да капіталізму абумоўлены не недахопамі феадалізму, а яго дасягненнямі, у выніку чаго «чалавецтва стала жадаць і зрабілася здольным ажыццявіць лепшую сацыяльную форму, чым тая, якую даваў феадалізм».

Падыход Дж. Міля да ацэнкі ўзроўню развіцця сацыяльнай свядомасці грамадства і фармулявання асноўных палажэнняў сацыяльнай палітыкі ў напрамку выкаранення негатыўных сацыяльных з'яў — развіцця сістэмы сацыяльнай абароны — і для цяперашняга часу з'яўляецца актуальным. «Калі ёсць людзі, якія церпяць фізічныя мукі або дэградуюць маральна, калі іх надзённыя патрэбнасці не задавальняюцца або задавальняюцца спосабам, прыдатным толькі для жывёлы, — піша ён, — то гэта з'яўляецца паказчыкам недасканаласці іх сацыяльнага асяроддзя»[1]. Заўважым, што ў прыведзеным урыўку Дж. Міль дакладна выдзяляе крытэрыі, па якіх можна акрэсліць кола асоб, якім патрэбны, на яго думку, дапамога (сацыяльная абарона) і асаблівыя адносіны грамадства. Гэтыя крытэрыі прыдатныя і ў сучасных умовах. Можна сказаць таксама і аб увядзенні ім паняцця некаторых стандартаў сацыяльнай абароны, якія забяспечваюць «чалавечы лад жыцця».

Разам з тым ён адзначае, што заганы і несправядлівасці сучаснай Дж. Мілю сістэмы значныя, але яны не маюць уласцівасці ўзрастаць: наадварот, асноўная тэндэнцыя накіравана на іх паступовае пераадоленне. Гаворачы пра тэндэнцыю пераадолення заган і несправядлівасцей, можна зрабіць дапушчэнне аб наяўнасці прыкмет нейкай сістэмы, дзеянне якой абумоўлівае гэтую становучую тэндэнцыю. Метадалагічна пастаўленая задача вырашаецца праз рост ступені свабоды ўсіх членаў грамадства, што выяўляецца ў прадастаўленні ім роўных магчымасцей, якія забяспечваюцца сістэмай сацыяльнай абароны.

## Грамадска-хрысціянская мадэль

Гісторыя зараджэння элементаў сістэмы сацыяльнай абароны сваімі каранямі пранікае ў глыбокую старажытнасць. Інтэлектуальнае развіццё цывілізацыі суправаджалася развіццём сацыяльна-эканамічных адносін. Сведчаннем таму сталі распрацаваныя ў Вавілоне, Кітаі, Грэцыі, Англіі і Францыі кодэксы справядлівасці. Па сваёй сутнасці гэта палітычныя дакументы (элементы сацыяльнай палітыкі), якія заклікаюць любіць блізкага, клапаціцца пра бедных і старых, — фактычна зараджалася класіфікацыя асоб, падлеглых сацыяльнай абароне. Форма рэалізацыі сацыяльнай абаро-

[1] Милль Дж. Ст. О свободе. – Лейпциг, 1861. – С. 154 – 155.

ны — асабісты ўдзел і грамадская думка — дабрачыннасць. Форма фінансавання — міласціна як у матэрыяльнай, так і ў грашовай форме.

Біблія як першы «нарматыўны» дакумент, які прыводзіў у сістэму разрозненыя элементы сістэмы сацыяльнай абароны, дала штуршок развіццю яе інфраструктуры і структуры фінансавання. У гэтым сэнсе асобныя палажэнні Бібліі можна разглядаць як першыя элементы афіцыйнай сацыяльнай палітыкі. Запаведзь аб любові да блізкага, якая прымалася як абавязак праявіць міласэрнасць, даць прытулак, накарміць галоднага і напаіць сасмаглага, ідэалагічна накіроўвала сацыяльнае развіццё грамадства, а цэрквы, манастыры, храмы з'яўляліся інфраструктурнымі аб'ектамі сістэмы сацыяльнай абароны, яе фінансавымі цэнтрамі. Асабліва трэба адзначыць ідэалагічную функцыю рэлігіі ў практыцы развіцця фінансавання сацыяльнай абароны як за кошт дабрачыннасці, так і за кошт сістэмных паступленняў сродкаў. Як элемент дзяржаўнай ідэалогіі рэлігія вызначала асноўныя напрамкі дзяржаўнай сацыяльнай палітыкі таго перыяду.

Да прыкладу, грамадская апека пасля хрышчэння Русі ў адпаведнасці з княжымі ўказамі даручаецца апекаванню і нагляду духавенства, а фінансаванне саміх цэркваў і дабрачынных устаноў, якія ствараліся пры іх, абумоўлівалася «дзесяцінай» або дзесятай часткай даходу людзей (атрыманага ўраджаю, выгадаванай жывёлы, а таксама судовых пошлін), што накіроўваліся царкве. Разглядаючы з сучасных пазіцый такую арганізацыю грамадскага апекавання, можна дакладна вылучыць шэраг прыкмет бюракратычнай арганізацыйнай сістэмы з уласцівымі ёй атрыбутамі: нарматыўны акт — указ; орган кіравання, які выконвае функцыі арганізацыі (апекавання) і кантролю (нагляду); сістэма фінансавання — квазідзяржаўная, устаноўленая ўказам і прадугледжаная нарматыўным вызначэннем аб'ёму адлічэнняў (падатку), — дзесяціна. Пры гэтым вызначаюцца і катэгорыі асоб, якія падлягаюць апекаванню: састарэлыя і нямоглыя, хворыя і інваліды, дзеці. Фактычна былі вызначаны тыя катэгорыі людзей, якім з пазіцыі нашых дзён патрабуецца сацыяльная дапамога.

Далейшае развіццё структуры сістэмы сацыяльнай абароны і арганізацыі яе фінансавання прынцыпова не змянялася, а змяняліся толькі падыходы да арганізацыйных форм і структур, крыніц фінансавання і іх арганізацыі. Таксама трэба адзначыць, што ўся сістэма сацыяльнай абароны гэтага перыяду насіла характар сацыяльнай дапамогі — матэрыяльная дапамога ў розных яе формах ад міласціны да ўтрымання ў прытулках, багадзельнях.

Па меры павышэння ўзроўню сацыяльна-эканамічнага развіцця ў грамадстве наспявае ідэя неабходнасці рэфармавання сістэмы сацыяльнай абароны, таму што вырашэнне пытання аказання дапамогі ўсё большай і большай колькасці людзей сіламі дабрачыннасці і царкоўнага апекавання не ўяўлялася магчымым.

На неабходнасць узвядзення задач сацыяльнай палітыкі ў ранг дзяржаўных указвалася ў 1551 годзе на сходзе вышэйшага духавенства Расіі (Праваслаўнай царквы) — Стогаловым Саборы, дзе канстатаваўся факт нябывалага развіцця жабрацтва і недастатковасці мер, што прымаліся для яго прадухілення. Тагачасная сістэма фінансавання сацыяльнай сферы давала збоі з-за недахопу сродкаў і недасканаласці форм арганізацыі работы. Прынятае Саборам рашэнне з'явілася чарговым значным крокам на шляху развіцця сістэмы сацыяльнай абароны і прызнання неабходнасці дзяржаўнага рэгулявання ў спалучэнні з грамадскай дзейнасцю ў галіне вырашэння сацыяльных пытанняў. Афіцыйна ўводзяцца катэгорыі асоб, якія падлягаюць апекаванню, і вызначаюцца яго формы. Заўважым і размежаванне па крыніцах фінансавання: пракажоныя і састарэлыя павінны атрымліваць прытулак, ежу і адзенне, а «здаровыя» — харчавацца па дварах. Пачынае

фарміравацца дзяржаўная інфраструктура сістэмы сацыяльнай абароны праз будаўніцтва і ўтрыманне бальніц, сірочых дамоў, багадзельняў, прытулкаў для незаконнанароджаных дзяцей. З'яўляецца новая функцыя сістэмы сацыяльнай абароны — стварэнне ўціхамірвальных і прадзільных дамоў для незанятых працай бяздомных людзей і да іх падобных. У сучаснай інтэрпрэтацыі гэта можна ахарактарызаваць як зачаткі стварэння сістэмы занятасці і прафесійнай падрыхтоўкі кадраў.

Адзначым яшчэ адзін важны элемент у падыходзе да фінансавання сацыяльнай сферы — дзяржаўнае рэгуляванне грамадскай ініцыятывы: дабрачынная дзейнасць і яе мэтазгоднасць прызнаюцца дзяржавай, аднак яе рэкамендуюць накіроўваць непасрэдна на фінансаванне багадзельняў і прытулкаў, што характарызуецца як жаданне дзяржавы кіраваць і каардынаваць дзейнасць грамадскасці па вырашэнні дзяржаўных задач.

Дзяржава ўсвядоміла неабходнасць кіравання развіццём сістэмы сацыяльнай абароны, якая паступова становіцца элементам дзяржаўнай палітыкі. Наступным крокам у развіцці дзяржаўнага ўдзелу ў стварэнні эфектыўнай інфраструктуры сацыяльнай абароны і яе дзяржаўнага фінансавання з'явілася фарміраванне пры Кацярыне II вертыкальна інтэграванай дзяржаўнай структуры кіравання сістэмай сацыяльнай абароны, якая складалася з прыказаў грамадскага апекавання пад старшынствам губернатараў.

Агульная для ўсіх перыядаў развіцця сістэмы сацыяльнай абароны праблема — недахоп дзяржаўных фінансавых рэсурсаў на грамадскае апекаванне — у другой палове XIX стагоддзя вымусіла дзяржаву зноў звярнуць увагу на неабходнасць большага прыцягнення грамадскасці да арганізацыі функцыянавання сацыяльнай сферы дзяржавы. Пасля земскай (1864 г.) і гарадской (1880 г.) рэформ асноўная нагрузка па развіцці сістэмы сацыяльнай абароны легла на гарадское і земскае самакіраванне, у веданне якіх перайшлі справы прыказаў грамадскага апекавання. Пытанні арганізацыі сацыяльнай дапамогі і кіравання ёй перамясціліся на ніжэйшы ўзровень. Ды ў гэтым былі свае станоўчыя бакі — больш глыбокае разуменне праблем, шляхоў, метадаў і механізмаў рэалізацыі сацыяльнай абароны. Найбольш важнымі дасягненнямі гэтага часу, на нашу думку, з'яўляюцца адыход ад загаднага фармалізму і пераход на прынцыпы адраснасці сацыяльнай дапамогі. Фактычна зараджаліся элементы сацыяльнай дапамогі на базе праверкі патрэбнасці ў ёй.

У Беларусі, як адзначае А. Д. Грыгор'еў, сістэма сацыяльнай абароны развівалася паралельна з Расіяй з той толькі асаблівасцю, што праваслаўная царква, зацікаўленая ва ўмацаванні сваіх пазіцый у вачах католікаў, больш актыўна займалася сацыяльнай работай праз сістэму царкоўна-прыходскіх папячыцельстваў.

Такая ўсталяваная сістэма сацыяльнай абароны захавалася да канца XIX — пачатку XX стагоддзя. Арганізацыйную прававую структуру сістэмы сацыяльнай абароны прадстаўлялі элементы трох тыпаў: грамадскія, грамадска-дзяржаўныя і прыватныя. Аналагічнай была і структура фінансавання, а таксама яе крыніцы: дзяржаўныя сродкі, сродкі грамадскіх арганізацый і ахвяраванні, сродкі прыватных асоб на ўтрыманне інфраструктурных аб'ектаў сістэмы сацыяльнай абароны.

Значнымі дасягненнямі сістэмы сацыяльнай абароны, пабудаванай у Расіі ў XIX стагоддзі, былі яе практычная накіраванасць, маштабы, а таксама тэарэтычнае асэнсаванне перспектыўных напрамкаў развіцця і разумення неабходнасці і значэння функцыі прэвентыўных мерапрыемстваў для павышэння ўзроўню сацыяльнай абароненасці: па-першае, кожны чалавек, які апынуўся ў выніку якіх-небудзь пастаянных ці выпадковых прычын у становішчы, што пагражае закончыцца беднасцю, і не мае спосабаў выйсці

з гэтага становішча, павінен падлягаць грамадскаму апекаванню; па-другое, грамадскае апекаванне павінна мець на ўвазе не толькі непасрэдную дапамогу састарэлым, хворым, сіротам, але і ўсім тым, хто пазбаўлены магчымасці папярэдзіць надыходзячую бяду, яно павінна стаць «важнай функцыяй грамадскага і дзяржаўнага кіравання, выкананне якой накіравана на змякчэнне многіх жыццёвых бед, прадастаўленне палёгкі ад значных пакут і выратаванне мноства чалавечых жыццяў»[1].

Яшчэ адным важным элементам у сістэме сацыяльнай абароны, на які варта звярнуць увагу, з'яўляецца яе фінансаванне, у многім заснаванае на развіцці дабрачыннай дзейнасці: дзейнасці грамадскіх дабрачынных арганізацый і дабрачыннай дзейнасці прыватных асоб.

Заўважым, што ў пашырэнні функцый сістэмы сацыяльнай дапамогі, якая існавала ў той час, пераключэнні ўвагі з канстатацыі факта на прафілактычную работу, а таксама ў развіцці недзяржаўных форм фінансавання сацыяльнай сферы быў закладзены вялікі патэнцыял, які ў поўнай меры не рэалізаваны і ў цяперашні час — больш чым праз сто гадоў.

У канцы XIX і пачатку XX стагоддзя сістэма сацыяльнай абароны Расійскай імперыі ўяўляла сабой, па вызначэнні У. А. Гагена, змешаны арганізацыйны тып, дзе прысутнічалі цэнтралізаваныя метады арганізацыі сацыяльнай абароны, якія характарызуюцца сканцэнтраваннем адміністрацыйных функцый у руках дзяржавы, і дэцэнтралізаваныя, калі апекаванне бедных ускладалася на абшчыну, а апекаваннем з'яўлялася сацыяльная дапамога або «дапамога з чужых рук, што аказвалася тым людзям, якія не маюць сродкаў, патрэбных для атрымання самага неабходнага для падтрымання жыцця, без чаго яны рызыкуюць памерці з голаду»[2].

Асноўнымі элементамі сацыяльнай дапамогі з'яўляліся: апекаванне дома (адкрытае апекаванне) або ў спецыяльных установах (закрытае апекаванне); у выпадках, калі фінансаванне сацыяльнай дапамогі ажыццяўлялася за кошт прыватных сродкаў, — прыватная дабрачыннасць, а калі ахвяраванні на карысць бедных прымаліся, а затым размяркоўваліся царквой, — царкоўнае апекаванне. Да гэтага яшчэ трэба дадаць і заканадаўча ўстаноўленыя абавязковыя формы апекавання (сацыяльнай дапамогі), калі той, хто мае патрэбу, па законе мог патрабаваць дапамогі, а крыніцай сродкаў на сацыяльную дапамогу з'яўляліся спецыяльныя падаткі. Праўда, як адзначаюць даследчыкі, пры гэтым публічнае (дзяржаўнае) апекаванне бедных было пазбаўлена юрыдычнага забеспячэння і на баку органаў улады былі правы, а на баку падданых — адны абавязкі, а ўсё дзяржаўнае жыццё, увесь публічна-прававы лад былі толькі адлюстраваннем прыватных адносін.

Разам з тым мы падзяляем пазіцыю У. А. Гагена, згодна з якой сістэма сацыяльнай абароны і адзін з яе элементаў — абавязковае апекаванне бедных — адыгралі значную ролю ў правільнай пастаноўцы адносін дзяржавы да індывідуума, ва ўмацаванні дзяржаўнай улады, забеспячэнні самога яе існавання і ў мірным вырашэнні вострых канфліктаў, якія зараджаліся ў дзяржавах на эканамічнай глебе. Акрамя таго, арганізацыя гэтага абавязковага апекавання з'яўлялася паказчыкам жыццёвасці і ўстойлівасці дзяржаўнага арганізма.

Такім чынам, сістэма сацыяльнай абароны ў Расіі і Беларусі на пачатку XX стагоддзя ўяўляла сабой у асноўным сацыяльную дапамогу — дапа-

---

[1] Максимов Е. Земская деятельность в области общественного призрения // Журн. юрид. общества при Императорском СПб. ун-те. — 1895, кн. 6. — С. 94.

[2] Гагенъ В. А. Право беднаго на призрение: В 2 т. — С.-Петербургъ, 1907. — Т. 1: История и современное положение законодательства объ обязательном призрении бедныхъ въ Германии, Франции и Англии. — С. 1.

могу асобам, якія не маюць магчымасці паклапаціцца пра сябе самастойна. У арганізацыйным плане сістэма сацыяльнай абароны абапіралася на дзяржаву, якая прызнавала неабходнасць аказання дапамогі нямоглым і беднякам, але асноўная нагрузка сацыяльнай работы прыпадала на грамадскія арганізацыі. Па сваім змесце ў гэты перыяд развіцця сістэма сацыяльнай абароны ўяўляла ў сучасным разуменні элемент сацыяльнай дапамогі з уключэннем у яе сацыяльнай работы і розных сацыяльных праграм. Па сутнасці, сістэма сацыяльнай абароны адпавядала хрысціянскім прынцыпам і кіравалася імі, паколькі апекаванне непрацаздольных дыктавалася як этычнай асновай арганізацыі апекавання, так і дырэктывай тагачаснай культурнай дзяржавы, і таму мы называем такую мадэль сістэмы сацыяльнай абароны *грамадска-хрысціянскай*.

### *Сацыяльнае страхаванне ў дарэвалюцыйны перыяд*

У канцы XIX — пачатку XX стагоддзя ў Беларусі і ў царскай Расіі не было заканадаўства, якое рэгулявала на сістэмнай аснове адносіны па сацыяльным забеспячэнні і страхаванні работнікаў. Пэўным крокам да развіцця сацыяльнага забеспячэння пралетарыяту з'явілася прыняцце 23 чэрвеня 1912 года Закона «Аб страхаванні ад няшчасных выпадкаў». В. С. Андрэеў лічыць, што перыядычныя выплаты ў сувязі з калецтвам на вытворчасці, прадугледжаныя згаданым законам, па сваёй юрыдычнай прыродзе павінны разглядацца ў якасці пенсій — аднаго з асноўных элементаў сістэмы сацыяльнай абароны. Аднак, на нашу думку, такія выплаты, як дапамогі па інваліднасці на вытворчасці, з выпадку хваробы, пажару або страты маёмасці, носяць больш характар сацыяльнага страхавання і ў многім падобныя да падыходаў, вызначаных дзеючым заканадаўствам. Выплаты з выпадку родаў, на пахаванне маюць характар сацыяльнай дапамогі. Разам з тым у частцы выплат з выпадку страты карміцеля ў сувязі з вытворчым калецтвам прасочваецца сувязь з пенсіямі, падкрэсленая В. С. Андрэевым.

Трэба таксама адзначыць, што ў параўнанні з развітымі замежнымі дзяржавамі ўзровень сацыяльнай абароненасці рабочых у сэнсе памераў выплат па страхавых выпадках у Расіі быў значна ніжэйшы, чым, скажам, у Германіі або Вялікабрытаніі. Так, сярэднія выплаты ў 1912 годзе па сацыяльным страхаванні з выпадку хваробы на душу насельніцтва ў Расіі склалі 36 капеек, Германіі — 350 і ў Англіі — 450 капеек. Аналізуючы кошт забеспячэння ў выпадку захворвання, можна бачыць, што ўзровень сацыяльнай абароненасці рабочых па гэтым паказчыку ў Германіі практычна ў дзесяць разоў, а ў Англіі амаль у пятнаццаць разоў перавышае аналагічны ўзровень у Расіі. Можна дапусціць, што нізкі ўзровень сацыяльнай забяспечанасці рабочых у Расіі ў пачатку XX стагоддзя, які прыводзіў да росту колькасці інвалідаў па вытворчых прычынах, кінутых на волю лёсу, унёс свой уклад у стварэнне рэвалюцыйнай сітуацыі ў Расіі.

Пры гэтым асноўны цяжар фінансавання сістэмы сацыяльнага страхавання ў Расіі клаўся на плечы рабочых. Тым не менш у Расіі пачынала фарміравацца сістэма сацыяльнага страхавання ад няшчасных выпадкаў на вытворчасці, існавала сістэма абавязковай сацыяльнай дапамогі і дзейнічалі шматлікія дабрачынныя арганізацыі, а прыватная дабрачынная дзейнасць атрымлівала ўсеагульнае прызнанне. Сучаснікі разумелі неабходнасць і значэнне развіцця сацыяльнага сектара, але і разумелі складанасць той задачы, за якую яны браліся, падкрэсліваючы, што ў «гэтым напрамку заканадаўцаў чакае вялізная работа і да таго ж у пытанні вялікага дзяржаўнага значэння»[1].

[1] Гагенъ В. А. Право беднаго на призрение. — С. 25.

## Біпалярная мадэль кіравання сістэмай сацыяльнай абароны

Такая назва мадэлі, на нашу думку, падкрэслівае тую выключную ролю, якую іграла дзяржава пры фарміраванні сістэмы сацыяльнай абароны і кіраванні ёю на пачатковым этапе станаўлення савецкай улады. Класавы характар адносін рабочых і сялян развёў іх на розныя полюсы арганізацыі і фінансавання сістэмы сацыяльнай абароны.

### *Цэнтралізаваная, дзяржаўная мадэль — прамысловы полюс*

Кастрычніцкая рэвалюцыя 7 лістапада 1917 года карэнным чынам змяніла шлях развіцця Расійскай імперыі, а сацыяльнае забеспячэнне рабочых атрымала прынцыпова новы напрамак развіцця. Першым крокам у гэтым напрамку было надрукаванае «Урадавае паведамленне аб сацыяльным страхаванні», дзе дэкларавалася поўнае сацыяльнае страхаванне наёмных рабочых, а таксама гарадской і сельскай беднаты. Наступным крокам — Савет Народных Камісараў (СНК) прымае шэраг дэкрэтаў, у якіх закладваліся асновы і метады адміністрацыйнай мадэлі савецкага сацыяльнага страхавання. Так, напрыклад, Дэкрэтам ад 8 лістапада 1917 года «Аб павелічэнні пенсій рабочым, якія пацярпелі ад няшчасных выпадкаў» пенсіі па інваліднасці ад няшчасных выпадкаў на вытворчасці валявым рашэннем павялічваліся ўдвая. Адміністрацыйнай папулісцкай пастановы было дастаткова, каб без уліку эканамічных магчымасцей і вынікаў прымаць неабгрунтаваныя рашэнні. У станаўленні беларускага пенсіённага забеспячэння важнейшым арганізацыйным мерапрыемствам стала стварэнне ў 1919 годзе Народнага камісарыята сацыяльнага забеспячэння. Гэта дало магчымасць з першых дзён існавання БССР арганізаваць работу па матэрыяльным забеспячэнні непрацаздольных грамадзян. Ужо ў 1921 годзе ў Беларусі ад дзяржавы атрымалі пенсіі 276 тысяч чалавек, што складала ў той час каля 10 працэнтаў яе насельніцтва. А ўсяго ў перыяд з 1917 года па 1922 год савецкім урадам было выдадзена каля ста дэкрэтаў і распараджэнняў па пытаннях сацыяльнага забеспячэння.

Пачыналі вымалёўвацца контуры сучаснай сістэмы сацыяльнай абароны і яе элементаў. Так, Палажэннем аб сацыяльным забеспячэнні працоўных, зацверджаным дэкрэтам СНК ад 31 кастрычніка 1918 года, прадугледжваліся: дапамогі па часовай непрацаздольнасці, цяжарнасці і родах, на нараджэнне дзіцяці — элементы сацыяльнай дапамогі; дапамога па беспрацоўю, пенсіі па інваліднасці — элементы сацыяльнага страхавання.

Разам з тым адзначым, што ў палажэнні ад 31 кастрычніка 1918 года ў тэрміналагічным аспекце сацыяльнай абароны вярнуліся да паняцця сацыяльнае забеспячэнне. Ёсць думка пра тое, што хоць у гэтым дакуменце і гаварылася аб сацыяльным забеспячэнні працоўных, сістэма, якая прадугледжвалася ім, першапачаткова складалася з элементаў, характарызуючых у сукупнасці сацыяльнае страхаванне. У прыватнасці, адной з асноўных крыніц утварэння фондаў матэрыяльнага забеспячэння працоўных з'яўляліся ўзносы прадпрыемстваў і ўстаноў. Другая пазіцыя заключаецца ў тым, што тэрмінам «сацыяльнае забеспячэнне» падкрэслівалася распаўсюджанне страхавання не толькі на рабочых і служачых, але і на ўсіх іншых асоб, крыніцай існавання якіх з'яўлялася толькі ўласная праца, без эксплуатацыі чужой. У далейшым Дэкрэтам СНК ад 15 лістапада 1921 года «Аб сацыяльным страхаванні асоб, занятых наёмнай працай» зноў была ўведзена сістэма матэрыяльнага забеспячэння працоўных, якая грунтавалася на абавязковых узносах прадпрыемстваў, устаноў, гаспадарак і называлася сацы-

яльным страхаваннем, якое выкарыстоўваецца і да гэтага часу. Матывацыя такога рашэння была выкладзена ў прынятых ЦК партыі 4 верасня 1922 года Тэзісах аб сацыяльным страхаванні, у якіх гаварылася наступнае: «Наяўнасць прыватнай прамысловасці і пераход прадпрыемстваў на гаспадарчы разлік вылучылі шэраг новых задач у галіне сацыяльнага забеспячэння. Калі ў мінулы перыяд сацыяльнае забеспячэнне ажыццяўлялася выключна за кошт дзяржавы, то з сучасных адносін вынікае неабходнасць замены дзяржаўнага сацыяльнага забеспячэння асоб, занятых наёмнай працай, сацыяльным страхаваннем іх за кошт прадпрыемстваў, на якіх яны працуюць». Пры характарыстыцы тэрміналагічных падыходаў у сістэме сацыяльнай абароны мы падзяляем пазіцыю і выказванні некаторых вядомых страхавых дзеячаў таго часу. Яны лічылі, што старая назва «страхаванне» не адлюстроўвала карэнных змяненняў у матэрыяльным забеспячэнні пры сацыялізме, з прычыны чаго яна, на іх думку, падлягала замене больш правільным тэрмінам «сацыяльнае забеспячэнне».

Дэкрэтам СНК № 18 ад 17 красавіка 1919 года ў Палажэнне аб сацыяльным забеспячэнні працоўных былі ўнесены прынцыповыя змяненні ў часткі, якая датычылася фінансавай сістэмы сацыяльнага забеспячэння: фінансаванне расходаў павінна было праводзіцца з дзяржаўнага казначэйства ў каштарысным парадку; дзяржаўныя прадпрыемствы і савецкія ўстановы вызваляліся ад платы ўзносаў на сацыяльнае забеспячэнне. Гэта рашэнне пацвярджае тэзіс аб валюнтарысцкіх падыходах да кіравання сістэмай сацыяльнай абароны — жорсткай цэнтралізацыі кіравання.

Дэкрэтам СНК ад 15 лістапада 1921 года ўводзіліся пэўныя правілы і працэдуры страхавання: сацыяльнае страхаванне асоб, занятых наёмнай працай на дзяржаўных, карпаратыўных, грамадскіх, арэндных і прыватных прадпрыемствах. Страхаваннем ахопліваліся ўсе выпадкі страты працаздольнасці, страты карміцеля, беспрацоўя, а ў мэтах дасягнення максімальнага кантролю за правільнасцю атрымання страхавога ўзнагароджання прадугледжвалася сканцэнтраваць у органах сацыяльнага забеспячэння СНК усе кантрольныя функцыі за вызначэннем права на сацыяльнае забеспячэнне, а таксама за ўстанаўленнем наяўнасці працаздольнасці, беспрацоўя і за выкананнем застрахаванымі адпаведных правіл. Такім чынам, ствараўся цэнтральны орган у сістэме кіравання сацыяльнай абаронай і пачынала фарміравацца арганізацыйная структура кіравання, а таксама фарміраваліся працэдуры сацыяльнай абароны і вызначаліся катэгорыі асоб, якія маюць права на сацыяльную абарону.

Паступова пашыраецца кола асоб, ахопленых сістэмай сацыяльнай абароны. Дэкрэтам СНК ад 16 ліпеня 1920 года ўводзяцца персанальныя пенсіі для асоб, якія маюць асаблівыя заслугі перад рэвалюцыяй. Яны назначаліся ў выпадку інваліднасці, а сем'ям — з выпадку страты карміцеля. Прыкладна ў гэты час пачаў фарміравацца інстытут пенсіі за выслугу гадоў. У 1924 годзе ў краіне ўведзена пенсіённае забеспячэнне для навуковых работнікаў, а ў 1925 годзе — настаўнікаў гарадскіх і сельскіх школ і некаторых іншых спецыялістаў.

З пазіцыі фінансавання сістэмы сацыяльнай абароны і яе тэндэнцый адзначым, што з сярэдзіны 1920-х гадоў назіраецца рост удзельнай вагі расходаў на сацыяльнае забеспячэнне ў бюджэце Беларусі. Калі ў 1922 годзе гэтыя расходы складалі 1,6 працэнта і ў перыяд 1925 — 1926 гадоў узраслі да 3 працэнтаў, то пры гэтым колькасць пенсіянераў практычна падвоілася і ўзрасла з 5756 чалавек (1924 — 1925 гг.) да 10 131 чалавека (1926 — 1927 гг.).

Прыведзеныя вышэй пазітыўныя тэндэнцыі развіцця сацыяльнага забеспячэння датычыліся прамысловага сектара эканомікі і не распаўсюджваліся на сялянства, якое з пазіцыі сацыяльнай абароненасці доўгі час заста-

валася «забытым» на ўзроўні XIX стагоддзя. Трэба таксама вярнуцца да палітэканамічнага характару пенсіённага забеспячэння таго часу, калі права на пенсію мела класавы характар, прызнавалася толькі за працоўнымі, памер забеспячэння часта залежаў ад матэрыяльнага становішча асобы, якая стала інвалідам, ад мясцовасці пражывання і г. д.

Вылучанае з агульнай сістэмы дзяржаўнага пенсіённага забеспячэння сялянства ў 20-я гады мінулага стагоддзя пачало самастойна развіваць сістэму сялянскай узаемадапамогі — асноўную форму матэрыяльнай дапамогі сялянскім сем'ям чырвонаармейцаў, інвалідаў і іншым катэгорыям немаёмных. У 1927 годзе ў рэспубліцы налічвалася амаль 1800 сельскіх камітэтаў узаемадапамогі. У іх было каля 1,5 мільёна чалавек. Камітэты аказвалі ў асноўным натуральную дапамогу насеннем, цяглавай сілай, кормам для жывёлы.

Класавы характар адносін рабочага класа і сялянства не дазволіў кіраўніцтву дзяржавы таго часу разгледзець магутны струмень прыватнай ініцыятывы знізу, падтрымка і кіраванне якой давалі магчымасць у той час стварыць моцную ўсёахопную сістэму сацыяльнай абароны. Для гэтага неабходна было ўзаконіць магчымасць «клапаціцца самім пра сябе» і зняць з дзяржавы частку фінансавай нагрузкі ў гэтай сферы.

Важнейшым этапам у развіцці сістэмы сацыяльнай абароны стала пастанова саюзнага савета сацыяльнага страхавання пры Народным камісарыяце працы СССР ад 5 студзеня 1928 года, якой уводзілася пенсіённае забеспячэнне па старасці для рабочых тэкстыльнай прамысловасці і якая стала базавай у сістэме пенсіённага забеспячэння пасля распаўсюджання яго дзеяння на ўсіх асоб, што працавалі па найме. Заўважым, раней старасць разглядалася як умова для назначэння пенсіі толькі ў тым выпадку, калі ёй спадарожнічала страта працаздольнасці, раўназначнай інваліднасці.

23 ліпеня 1931 года ЦВК і СНК СССР прынялі пастанову «Аб сацыяльным страхаванні», якой прадугледжвалася ўстанаўленне залежнасці памераў дапамогі ад агульнага і бесперапыннага стажу работы, галіны народнай гаспадаркі, удзелу ў сацыялістычным спаборніцтве, прафсаюзнага членства, працягласці перыяду захворвання і г. д. Так, у адпаведнасці з гэтай пастановай дапамога па часовай непрацаздольнасці падлягала выплаце з першага дня непрацаздольнасці ў памеры поўнага заработку тым рабочым і служачым, занятым на прамысловых прадпрыемствах, у будаўніцтве і ў шэрагу іншых галін народнай гаспадаркі, якія прапрацавалі бесперапынна звыш двух гадоў на гэтым прадпрыемстве і мелі агульны стаж работы на вытворчасці больш за тры гады. Важным дасягненнем гэтага перыяду, на нашу думку, з'явілася ўстанаўленне залежнасці памераў пенсій ад пераменных параметраў, якія характарызуюць персанальны ўдзел работнікаў у працоўнай дзейнасці. Мы не будзем гаварыць аб правільнасці выбару крытэрыяў, іх эфектыўнасці, вартасцях і недахопах. Сутнасць прынятага рашэння — прапанаваны падыход дазваляў адысці ад раўнамернага размеркавання сродкаў і ствараў перадумовы матэрыяльнай зацікаўленасці работнікаў, што з'яўлялася прагрэсіўным крокам у развіцці сістэмы сацыяльнай абароны.

Наступным этапам станаўлення сістэмы сацыяльнай абароны стала замацаванне права на пенсію ў Канстытуцыі СССР 1936 года. З гэтага часу яно стала адным з галоўных сацыяльна-эканамічных правоў грамадзян СССР аж да яго развалу, што істотна павысіла ўзровень сацыяльнай абароненасці насельніцтва. Права на матэрыяльнае забеспячэнне ў старасці, у выпадку хваробы і страты працаздольнасці забяспечвалася, як дэкларавалася ў Канстытуцыі, шырокім развіццём сацыяльнага страхавання рабочых і служачых за кошт дзяржавы. На падставе абвешчанай Канстытуцыяй роўнасці правоў усіх грамадзян пенсіі па старасці і інваліднасці служачым сталі назначацца на тых жа ўмовах, што і рабочым.

Канстытуцыя СССР, такім чынам, узаконіла аднаапорную (з пазіцыі фінансавання) адміністрацыйную мадэль пенсіённай сістэмы для рабочых. Аднак, як і ў 1920-я гады, вялікая маса грамадзян краіны — сялянства — па-ранейшаму была пазбаўлена права на пенсіённае забеспячэнне.

### *Дэцэнтралізаваная, прыватная мадэль — сялянскі полюс*

Прыцясненні сялянства ў сацыяльным плане, а таксама працэс калектывізацыі пазітыўна сказаліся на выпрацоўцы новых падыходаў да «сістэмы сялянскай сацыяльнай абароны», што грунтуецца на сістэме сялянскай узаемадапамогі. Асноўным напрамкам дзейнасці сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі становіцца стварэнне адэкватных сістэме сацыяльнага страхавання ўмоў абароны сялянства: аказанне дапамогі калгаснікам у выпадку хваробы, страты працаздольнасці, страты карміцеля і г. д. Фінансавай асновай гэтай дзейнасці сталі касы ўзаемадапамогі калгаснікаў, заканадаўчай асновай — Пастанова Прэзідыума ЦВК ад 1 лютага 1932 года, якая зацвердзіла палажэнне аб такіх касах (статут). У Рэспубліцы Беларусь тыпавы статут касы ўзаемадапамогі калгаса зацверджаны толькі ў 1940 годзе.

Такім чынам, дзяржаўная падтрымка прыватнай ініцыятывы ў галіне развіцця сістэмы сацыяльнай абароны прывяла да стварэння ў 30-я гады мінулага стагоддзя ў СССР прыватных элементаў гэтай сістэмы, якія ахопліваюць вялікую колькасць насельніцтва краіны — сялянскі сектар. Фінансаванне гэтага сектара сацыяльнай абароны ажыццяўлялася на 100 працэнтаў за кошт сродкаў сельскага насельніцтва, што ў значнай ступені зніжала сацыяльны цяжар дзяржавы.

Наступнай знакавай падзеяй у галіне стварэння элементаў сістэмы сацыяльнай абароны насельніцтва, якія фінансуюцца за кошт уласных (недзяржаўных) сродкаў, быў Прыкладны статут сельскагаспадарчай арцелі, зацверджаны СНК СССР і ЦК ВКП(б) 17 лютага 1935 года. У адпаведнасці са статутам кожны калгас меў права ствараць спецыяльны фонд фінансавых сродкаў, напрамкамі расходавання якога з'яўляліся: дапамога састарэлым членам калгаса, затраты на ўтрыманне дзяцей-сірот, ясляў і г. д.

З пазіцыі сённяшняга дня можна казаць пра тое, што ў 1935 годзе калгасам было прадастаўлена права ствараць пенсіённыя фонды арганізацый (прафесійныя пенсіённыя фонды), якія фінансуюцца на 100 працэнтаў за кошт сродкаў арганізацый (калгасаў).

Такім чынам, у Савецкім Саюзе і ў Рэспубліцы Беларусь, у прыватнасці, напярэдадні Вялікай Айчыннай вайны існавалі дзве паралельныя сістэмы сацыяльнай абароны насельніцтва: дзяржаўная, якая фінансавалася на 100 працэнтаў за кошт дзяржавы і ахоплівала ў асноўным гарадское насельніцтва і прамысловы сектар эканомікі, і прыватная, якая фінансавалася на 100 працэнтаў за кошт сродкаў калгасаў (сельскагаспадарчых арцеляў) і ахоплівала ў асноўным сельскае насельніцтва і сельскагаспадарчы сектар эканомікі.

Прымаючы да ўвагі той факт, што насельніцтва Савецкага Саюза і Рэспублікі Беларусь у 1940 годзе на 65 працэнтаў было сельскім, можна зрабіць вывад, што ў перадваенны перыяд асноўную нагрузку па сацыяльнай абароне насельніцтва несла прыватная сістэма сацыяльнай абароны, якая фінансавалася за кошт сродкаў сельскагаспадарчых арцеляў (калгасаў).

Магчыма дапушчэнне, што далейшае паралельнае развіццё альтэрнатыўных па крыніцах фінансавання сістэм сацыяльнай абароны магло ў перспектыве прывесці да ўсведамлення неабходнасці распаўсюджання «сялянскай мадэлі сацыяльнай абароны» на прамысловую сферу эканомікі і ўвядзення ў дзеянне мадэлі сістэмы сацыяльнай абароны, якая фінансуецца за кошт прамысловых прадпрыемстваў, арганізацый, сельскагаспадарчых ар-

целяў і іх работнікаў. Але гэта толькі дапушчэнне, а ў рэальнасці другая сусветная вайна ўнесла свае карэктывы ў працэс «удасканалення» сістэмы сацыяльнай абароны не на карысць грамадзянскіх асоб.

Такім чынам, напярэдадні Вялікай Айчыннай вайны ў Савецкім Саюзе склалася, з пазіцыі кіравання, жорсткая цэнтралізаваная мадэль сістэмы сацыяльнай абароны, якая мела класавы характар. Пры гэтым больш за палову насельніцтва — сялянства — выпадала з цэнтралізаванай сістэмы сацыяльнай абароны і было вымушана ствараць уласную сістэму.

## Адміністрацыйная мадэль кіравання сістэмай сацыяльнай абароны

Відавочна, што пры павышэнні ўзроўню сацыяльна-эканамічнага развіцця і ўвядзенні абавязковых норм сацыяльнай абароны насельніцтва роля дзяржавы ў кіраванні гэтым працэсам узрастае. Разам з тым празмернае ўмяшанне дзяржавы ў рэгуляванне сацыяльных працэсаў — жорсткая цэнтралізацыя і адміністраванне — пры ігнараванні ролі грамадскіх арганізацый у фарміраванні інструментаў, механізмаў і нарматываў сацыяльнай абароненасці прыводзіць у далейшым да сацыяльнай неадукаванасці і пасіўнасці насельніцтва.

### *Умацаванне адміністравання ў кіраванні сацыяльнай абаронай*

У пасляваенны перыяд задачы аднаўлення разбуранай эканомікі запатрабавалі мабілізацыі каласальных фінансавых рэсурсаў і на час прыпынілі развіццё сістэмы сацыяльнай абароны. Але ўжо ў 1949 годзе ўрад вяртаецца да праблемы развіцця сістэмы сацыяльнай абароны, разумеючы яе ролю і значэнне для ўмацавання эканомікі. У мэтах стымулявання развіцця навукі і тэхнікі пастановай Савета Міністраў зацвярджаецца Палажэнне аб пенсіённым забеспячэнні работнікаў навукі.

З павышэннем тэмпаў росту прамысловай вытворчасці ў сярэдзіне 1950-х гадоў у СССР склаліся эканамічныя перадумовы для павышэння ўзроўню матэрыяльнага дабрабыту грамадзян, у тым ліку павышэння ўзроўню пенсіённага забеспячэння, і ў 1956 годзе прымаецца Закон СССР «Аб дзяржаўных пенсіях». Гэты закон не толькі вырашаў пытанне стымулявання лепшых дасягненняў і заслуг, але і прыводзіў у сістэму пенсіённае заканадаўства, а таксама пашыраў катэгорыі асоб, падлеглых сацыяльнай абароне. Вынікам прыняцця гэтага закона для Беларускай ССР стала тое, што з 1 кастрычніка 1956 года па 1 чэрвеня 1957 года магчымасць атрымліваць пенсіі ў адпаведнасці з новым заканадаўствам з'явілася ў 57 тысяч грамадзян.

Разам з тым у 1956 годзе ў Фонд дзяржаўнага сацыяльнага страхавання ўпершыню былі накіраваны асігнаванні з дзяржаўнага бюджэту (пенсіённыя трансферты), паколькі ўзрослыя расходы пенсіённай сістэмы не пакрываліся за кошт узносаў прадпрыемстваў, устаноў, арганізацый. Датацыя пенсіённай сістэмы выклікалася неабходнасцю пакрыць істотна ўзрослыя расходы на выплату пенсій непрацуючым пенсіянерам з ліку рабочых і служачых і членаў іх сем'яў у сувязі з увядзеннем у дзеянне Закона аб дзяржаўных пенсіях ад 14 ліпеня 1956 года. Сістэматычнае павышэнне расходаў на пенсіённае забеспячэнне працоўных, павелічэнне колькасці пенсіянераў абумовілі і ў далейшым узрастанне аб'ёмаў бюджэтных трансфертаў у Фонд дзяржаўнага сацыяльнага страхавання.

Гэты факт сведчыць аб незбалансаванасці эканомікі пенсіённай сістэмы і дзяржаўнай эканомікі і праяўляецца ў неадпаведнасці ўзроўню заработнай платы, пенсіённых тарыфаў і памераў пенсій. Ускосна гэты факт пацвяр-

джае і адсутнасць фундаментальных распрацовак у галіне эканомікі пенсіённага забеспячэння таго перыяду.

Знакавай падзеяй у гісторыі развіцця сістэмы сацыяльнай абароны насельніцтва стала прыняцце ў 1964 годзе Закона СССР «Аб пенсіях і дапамогах членам калгасаў». Нягледзячы на тое, што гэты закон устанавіў пенсіі членам калгасаў па старасці, інваліднасці, а іх сем'ям — з выпадку страты карміцеля, на нашу думку, ён насіў у адносінах да сельскага насельніцтва дыскрымінацыйны характар і ўтрымліваў многія адрозненні ва ўмовах назначэння і выплаты пенсій рабочым і калгаснікам не на карысць апошніх: розны парадак вылічэння пенсій; розныя ўзроўні мінімальнага памеру пенсіі членаў калгаса; адсутнасць для членаў калгаса надбавак за стаж; уводзілася залежнасць памеру пенсіі ад наяўнасці зямельнага ўчастка (сувязь з сельскай гаспадаркай) і інш.

Разам з тым закон 1964 года замацаваў на заканадаўчым узроўні права на сацыяльную абарону калгаснікаў і гарантыі дзяржавы на матэрыяльнае забеспячэнне па дасягненні пенсіённага ўзросту, інваліднасці, а іх сем'ям — пенсіі з выпадку страты карміцеля. Такім чынам, з прыняццем Закона аб пенсіях і дапамогах членам калгасаў у краіне была сфарміравана адзіная сістэма пенсіённага забеспячэння — адміністрацыйная мадэль, якая называецца заходнімі даследчыкамі PAYG. Матывуючыя складальнікі пенсіённага забеспячэння і сацыяльнай дапамогі, якія давалі слабыя расткі і былі заснаваны на недзяржаўным фінансаванні сістэмы сацыяльнага забеспячэння, аказаліся не заслужана, на нашу думку, адкінутымі.

Пачынаючы з гэтага часу ўсё насельніцтва краіны ў галіне фінансавання пенсіённай сістэмы стала заложнікам палітычнай рызыкі, уласцівай адміністрацыйнай мадэлі. У гэты перыяд, на нашу думку, рашэнні аб змяненнях у сістэме сацыяльнай абароны прымаліся без уліку і аналізу айчыннай практыкі і міжнароднага вопыту ў гэтай галіне.

### *Адміністраванне як сістэма кіравання*

У пачатку 1980-х гадоў у СССР адчувалася незбалансаванасць узроўню жыцця пенсіянераў і занятага насельніцтва, у сувязі з чым у 1981 годзе і ў 1985 годзе прымаюцца рашэнні аб павелічэнні памераў пенсій, якія не пераглядаліся на працягу больш як дзесяць гадоў. Да сярэдзіны 1980-х гадоў у краіне склалася развітая сістэма сацыяльнай абароны насельніцтва, якая ахапіла шырокія слаі. Гэтая мадэль праіснавала да развалу Савецкага Саюза, і яе атрымалі ў спадчыну ўсе дзяржавы СНД. Асаблівасцю мадэлі з'яўлялася тое, што ўлада імкнулася ўсю дзейнасць па сацыяльным забеспячэнні сканцэнтраваць выключна ў сваіх руках, згарнуўшы дзейнасць дабрачынных арганізацый, гэта прывяло да таго, што ў краіне хуткімі тэмпамі сфарміравалася адміністрацыйная (патэрналісцкая — з пазіцыі размеркавання даброт) мадэль кіравання сістэмай сацыяльнай абароны чалавека і яе фінансавання, заснаваная на ўсебаковай адказнасці дзяржавы за прадастаўленне сацыяльных паслуг і амаль поўнай адсутнасці адказнасці грамадзян за ўласны ўзровень сацыяльнай абароненасці.

На думку некаторых даследчыкаў, шчодрыя меры сацыяльнай абароны, якія фінансаваліся выключна за кошт дзяржавы, сфарміравалі адпаведныя погляды і сацыяльна-ўтрыманскую ідэалогію грамадзян, адсутнасць ініцыятыўнасці ў вырашэнні сацыяльных праблем.

У выніку фактычна знікла сацыяльная актыўнасць людзей у частцы ўсведамлення неабходнасці павышэння ўзроўню сацыяльнай абароненасці і склалася абывацельская філасофія: «дзяржава абавязана, дзяржава павінна, дзяржава забяспечыць...». Пры гэтым сацыяльная абарона зводзілася практычна да выплаты пенсій, дапамог, матэрыяльнай падтрымкі, медыцынскай дапамогі.

Закрытасць інфармацыі, жорсткае рэгуляванне дзейнасці ў сацыяльнай сферы, усеагульнасць і адзінства падыходаў, адсутнасць альтэрнатыўных магчымасцей для насельніцтва пагаршалі становішча і прыводзілі да ўсеагульнага разумення абавязкаў дзяржавы ў адносінах да насельніцтва і прытуплення пачуцця персанальнай адказнасці за ўзровень сацыяльнай абароненасці.

Адсутнасць рэальных метадалагічных спосабаў ацэнкі эканамічных і сацыялагічных падыходаў да развіцця сістэмы сацыяльнай абароны і яе элементаў (напрыклад, у вучэбных дапаможніках і літаратуры па пытаннях сацыяльнага забеспячэння ў спісах выкарыстанай літаратуры значацца толькі нарматыўныя дакументы і матэрыялы з'ездаў КПСС і выступленняў кіраўнікоў партыі, выключэнне складаюць толькі пытанні права сацыяльнага забеспячэння) прыводзіла да фарміравання ў навуковай грамадскасці негатыўных адносін да прадмета сацыяльнай абароны як да аб'екта сацыяльных і эканамічных даследаванняў, што ў рэшце рэшт прывяло да вымывання кваліфікаваных эканамічных кадраў з гэтай галіны і яе навукова-метадалагічнай дэградацыі.

## Станаўленне сістэмы сацыяльнай абароны Рэспублікі Беларусь

У пачатку 1990-х гадоў ва ўмовах сацыяльна-эканамічных і палітычных пераўтварэнняў грамадства недзеяздольнасць былой сістэмы сацыяльнай абароны пачала праяўляцца больш заўважна і ў краіне ўсё больш стала ўсведамляцца неабходнасць яе рэфармавання, першыя параметрычныя спробы якога былі зроблены ў перыяд перабудовы.

У мэтах стымулявання росту вытворчасці працы і актыўных працоўных паводзін насельніцтва ў 1990 годзе Законам СССР «Аб пенсіённым забеспячэнні грамадзян у СССР» уводзілася паняцце працоўных і сацыяльных пенсій. Калі сацыяльныя пенсіі прадастаўлялі мінімум дзяржаўных гарантый па пенсіённым забеспячэнні, то памер працоўных пенсій арыентаваўся на сумарны аб'ём заработку чалавека, тым самым была зроблена спроба матывацыі актыўных паводзін насельніцтва шляхам больш поўнага ўліку працы пры вызначэнні памеру пенсіі і выключэння ўраўняльнага падыходу ў пенсіённым забеспячэнні. Законам устанаўліваўся адзіны падыход да вызначэння ўмоў і нормаў пенсіённага забеспячэння ўсіх катэгорый працоўных. Акрамя таго, саюзным рэспублікам прадастаўлялася права за кошт сродкаў рэспубліканскіх бюджэтаў устанаўліваць: даплаты да мінімальных памераў пенсій; даплаты да ўсіх відаў пенсій у сувязі са змяненнем кошту жыцця і ростам заработнай платы; надбаўкі да пенсій адзінокіх пенсіянераў па іх догляду; больш ільготныя ўмовы (у параўнанні з саюзным законам) выплаты пенсій працуючым пенсіянерам; пенсіі за асаблівыя заслугі і інш. Упершыню ў межах заканадаўства сацыялістычнай дзяржавы з'явіўся рыначны механізм кіравання ўзроўнем жыцця пенсіянераў — магчымасць індэксацыі або, другімі словамі, рэгулярнага пераразліку памераў пенсій.

Гэты новы закон разам з аднаапорнай адміністрацыйнай мадэллю ў сэнсе фінансавання сістэмы сацыяльнай абароны і патэрналісцкай мадэллю ў сэнсе размеркавання пенсіённых рэсурсаў застаўся ў спадчыну і Рэспубліцы Беларусь ад СССР. На базе гэтага закона пачынаецца гісторыя развіцця суверэннай сістэмы сацыяльнай абароны незалежнай, суверэннай дзяржавы.

### *Пачатковы перыяд*

Закон Рэспублікі Беларусь ад 17 красавіка 1992 года «Аб пенсіённым забеспячэнні», які ўступіў у сілу з 1 студзеня 1993 года, стаў першым нарматыўным прававым актам па пенсіённым забеспячэнні грамадзян у Беларусі, які абвясціў арыентацыю на ўкараненне прагрэсіўных страхавых прынцы-

паў пенсіённага забеспячэння з адзіным органам фінансавання працоўных пенсій — Фондам сацыяльнай абароны.

Аднак, на практыцы, рэалізацыя закона вылілася ў стварэнне сістэмы шматлікіх ільгот і надбавак за кошт мноства выдадзеных Урадам і падпарадкаванымі яму органамі прававых актаў, якія ўводзілі нормы, што прадугледжвалі рэгуляванне ўмоў назначэння пенсій за выслугу гадоў асобным катэгорыям работнікаў, прымяненне льготных спісаў, устанаўленне парадку прадстаўлення і афармлення дакументаў для назначэння пенсіі, парадку пераразліку пенсій і інш.

Разам з тым трэба адзначыць надзвычай важны элемент, які атрымаў развіццё ў новым заканадаўстве, — рэгулярнае індэксаванне пенсій.

Аднак рэзкі спад вытворчасці і эканамічная дэстабілізацыя негатыўна сказаліся на ўзроўні жыцця малазабяспечаных слаёў насельніцтва ў рэспубліцы і захаваць памеры пенсій на ўзроўні мінімальнага спажывецкага бюджэту традыцыйнымі метадамі не атрымлівалася.

Праблемы пенсіённага забеспячэння былі абумоўлены ў асноўным зніжэннем аб'ёмаў прамысловай вытворчасці і, адпаведна, зніжэннем узроўню паступленняў сродкаў у пенсіённы фонд, таму што «ўзровень аплаты працы рабочых, служачых і калгаснікаў у грашовых даходах насельніцтва знізіўся з 73,1 працэнта ў 1990 годзе да 50,6 працэнта ў 1996 годзе... Акрамя таго, узмацняецца працэс ухілення ад выплаты... страхавых узносаў»[1]. Пры павелічэнні за гэты перыяд колькасці пенсіянераў на 12,4 працэнта колькасць занятага насельніцтва скарацілася на 17,8 працэнта. Гэта азначала, што калі ў 1990 годзе больш чым два працуючыя члены грамадства абслугоўвалі аднаго пенсіянера, то ў 1996 годзе аднаго пенсіянера павінны былі абслугоўваць толькі 1,5 чалавека. Вынікам гэтага стала ўзрастанне сацыяльнай нагрузкі, якое магло быць рэалізавана толькі праз павышэнне падатковага цяжару. Аднак памер страхавых тарыфаў у Рэспубліцы Беларусь быў і так надзвычай высокім — 35 працэнтаў налічэнняў на фонд заработнай платы — і далейшае яго павелічэнне магло негатыўна сказацца на эканамічным развіцці дзяржавы. Акрамя таго, становішча пагаршалася яшчэ тым, што заканадаўствам было вызначана больш за 20 падстаў для назначэння датэрміновых пенсій і з 2 544 500 пенсіянераў значная частка атрымлівала пенсіі датэрмінова на пяць — дзесяць гадоў. Такім чынам, дзесяткі тысяч чалавек датэрмінова пераставалі быць донарамі пенсіённай сістэмы і пераходзілі ў лік атрымальнікаў пенсіі.

Пераасэнсоўвалася роля сістэмы сацыяльнай абароны насельніцтва, якая забяспечвала сацыяльную бяспеку дзяржавы, зніжала ўзровень сацыяльнай напружанасці ў грамадстве, а таксама яе роля і значэнне ва ўмовах пераходу да рыначных адносін. Традыцыі, якія складваліся дзесяцігоддзямі, не адпавядалі патрабаванням часу і стваралі пагрозу тэндэнцыям эканамічнага росту.

Неабходна было прымаць меры па рэфармаванні сістэмы пенсіённага забеспячэння з улікам назапашанага айчыннага і замежнага вопыту, каб забяспечыць належны ўзровень жыцця асобам, якія сумленна адпрацавалі неабходны час на вытворчасці, — гэта з аднаго боку. А з другога — неабходна было стварыць умовы для новых пакаленняў, каб яны змаглі сваёй працай забяспечыць сваё будучае і зарабіць пенсію, якая адпавядае асабістаму ўкладу кожнага грамадзяніна ў будаўніцтва суверэннай дзяржавы, пры захаванні тэмпаў эканамічнага развіцця Рэспублікі Беларусь.

---

[1] О Концепции реформы системы пенсионного обеспечения в Республике Беларусь и плане первоочередных мер по реализации ее основных положений: постановление Совета Министров Респ. Беларусь, 17 апреля 2001 г. № 349.

### *Канцэпцыя развіцця пенсіённага забеспячэння*

Канцэпцыя рэформы сістэмы пенсіённага забеспячэння, распрацаваная і зацверджаная пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 17 красавіка 1997 года № 349, стала важным крокам на шляху вырашэння ўзніклых праблем і ўключала ў сябе шэраг палажэнняў, запазычаных з сусветнага вопыту і накіраваных на ўключэнне грамадзян у фінансаванне пенсіённай сістэмы.

Галоўнымі задачамі ўдасканалення пенсіённай сістэмы, акрэсленымі канцэпцыяй, з'яўляюцца яе рацыяналізацыя і аптымізацыя ў мэтах увязвання ўзроўню працоўных пенсій з персанальным аб'ёмам удзелу кожнага застрахаванага ў фінансаванні пенсіённай сістэмы.

У адпаведнасці з асноўнымі мэтамі пенсіённай рэформы прадугледжвалася: забяспечыць фінансавую стабільнасць пенсіённай сістэмы; адаптаваць пенсіённую сістэму да зменлівых эканамічных умоў на аснове яе дзяржаўнага, недзяржаўнага і бюджэтнага фінансавання; удасканальваць сістэму кіравання пенсіённым забеспячэннем і інш.

Важнейшымі прынцыпамі пенсіённага забеспячэння з'яўляліся: фінансаванне дзяржаўнага пенсіённага забеспячэння на прынцыпах салідарнасці пакаленняў (інтэр- і інтра-ўзроўні) і абавязковасці платы ўзносаў; акумуляванне ўзносаў па сацыяльным страхаванні ў страхавым фондзе, які фінансуе выплату працоўных (страхавых) пенсій; увязванне памераў працоўных пенсій з працягласцю страхавання і памерам заработку, з якога выплачваліся ўзносы; адказнасць дзяржавы за стан і развіццё дзяржаўнай пенсіённай сістэмы і інш.

На аснове мэт, задач і прынцыпаў, вызначаных канцэпцыяй, арганізацыя пенсіённага забеспячэння выглядала даволі прыцягальна і, нягледзячы на шэраг супярэчнасцей, у цэлым знаходзілася на ўзроўні передавых сусветных распрацовак. Канцэпцыяй прадугледжвалася ўвядзенне трох відаў пенсій: сацыяльная пенсія — для непрацуючых, непрацаздольных грамадзян незалежна ад наяўнасці ў іх працоўнага стажу (мінімальная пенсія, увязаная з бюджэтам пражытачнага мінімуму); працоўная (страхавая) пенсія — як аснова пенсіённай сістэмы, якая ўлічвае працягласць платы і аб'ём страхавых узносаў пры ўстанаўленні максімальнага памеру пенсіі (мінімальны памер увязваецца з бюджэтам пражытачнага мінімуму); дадатковая недзяржаўная пенсіённая пенсія — як вынік накаплення сродкаў грамадзянамі для свайго дадатковага пенсіённага забеспячэння.

У 1997 годзе прыняцце Канцэпцыі рэфармавання сістэмы пенсіённага забеспячэння было прагрэсіўным крокам у напрамку павышэння доўгатэрміновай фінансавай стабільнасці пенсіённай сістэмы і сістэмы сацыяльнай абароны ў цэлым і інавацыйным падыходам на постсавецкай прасторы. Фактычна канцэпцыяй прадугледжвалася параметрычная рэформа сістэмы пенсіённага забеспячэння ў Рэспубліцы Беларусь з паступовым увядзеннем накапляльных элементаў для зніжэння фінансавага ціску на бюджэт дзяржавы. З пазіцыі сённяшняга дня бачна прынцыповая магчымасць паступовага ўвядзення ў Беларусі абавязковага накапляльнага пенсіённага элемента і пабудовы ў перспектыве трохкампанентнай сістэмы пенсіённага забеспячэння: базавая пенсія для ўсіх работнікаў, якая грунтуецца на размеркавальным прынцыпе; працоўная накапляльная пенсія; дадатковая добраахвотная накапляльная пенсія.

Для рэалізацыі гэтай магчымасці патрэбна было распрацаваць неабходную нарматыўную базу, якая б прадугледжвала ўвядзенне абавязковага накапляльнага элемента. Аднак магчымасць такога рэфармавання была толькі прадэкларавана, але не атрымала належнага практычнага ўвасаблення.

Бясспрэчным дасягненнем канцэпцыі з'яўляецца прагрэсіўнае палажэнне аб неабходнасці прыняцця практычных мер па прафесійнай рэабілітацыі

інвалідаў, таму што магчымасць працаваць з'яўляецца для інваліда не толькі сродкам матэрыяльнага забеспячэння, але і спосабам сацыяльнай адаптацыі і інтэграцыі ў грамадства, якое дало, як адзначаюць даследчыкі, сур'ёзны імпульс для развіцця сацыяльнай работы ў Беларусі і рэінтэграцыі рабочай сілы ў рынак працы.

Прынцыпова важнымі недахопамі сістэмы сацыяльнай абароны гэтага перыяду, паводле меркавання шэрага аўтараў, з'яўляліся яе пасіўны характар і рэагаванне па факце падзей, а не дзейнасць, накіраваная на прадухіленне негатыўных з'яў. Пасіўнасць і закрытасць сацыяльных службаў на абмежаваных задачах, якія не патрабуюць высокіх прафесійных навыкаў, адсутнасць спецыяльных навучальных устаноў па падрыхтоўцы сацыяльных работнікаў спрыялі кадраваму забеспячэнню сацыяльных службаў па астаткавым прынцыпе. Як вынік гэтага, многія сацыяльныя праблемы, з якімі судакраналіся людзі, або не вырашаліся належным чынам, або наогул ігнараваліся. Грамадства раздзялілася на адносна ізаляваныя кластэры — моладзь, занятае насельніцтва, пенсіянеры, інваліды, — якія практычна не ўзаемадзейнічалі адзін з другім.

Новыя сацыяльныя праблемы, што з'явіліся ў Беларусі ў працэсе мадэрнізацыі грамадскага развіцця, і сусветны вопыт станаўлення сістэм сацыяльнай падтрымкі насельніцтва аб'ектыўна пацягнулі за сабой неабходнасць перамен у змесце, формах і метадах сацыяльнай абароны розных слаёў насельніцтва, у арганізацыйна-кіруючых структурах, кадравым забеспячэнні сістэмы сацыяльнай абароны. На змену традыцыйнаму разуменню сацыяльнай абароны як фінансавай падтрымкі слаёў насельніцтва, якія маюць у ёй патрэбу, прыходзіць уяўленне аб сацыяльнай абароне як сістэмнай сацыяльнай з'яве. Пры гэтым сістэма сацыяльнай абароны з'яўляецца адным з элементаў стымулявання сацыяльна-эканамічнага развіцця грамадства, які мае актыўны характар, накіраваны на фарміраванне здаровага, дзейнага ладу жыцця, прадастаўленне людзям магчымасці для развіцця жаданняў і ўмення самастойна вырашаць значную частку сваіх сацыяльных праблем.

Разам з тым распрацоўка Канцэпцыі рэфармавання пенсіённага забеспячэння і адпаведнай мадэлі сістэмы сацыяльнай абароны з'явілася новым крокам на шляху пошуку рашэнняў па павышэнні ўзроўню сацыяльнай абароненасці насельніцтва рэспублікі і павышэнні яе фінансавай устойлівасці, аднак спроба іх практычнай рэалізацыі выявіла нямала праблем і цяжкасцей разнапланавага характару.

Прыняцце канцэпцыі ўяўляла сабой пачатак работы па падрыхтоўцы пакета заканадаўчых актаў, якія вызначаць механізмы ўвядзення новых элементаў сістэмы пенсіённага забеспячэння, стварэння сістэмы альтэрнатыўных пенсіённых фондаў і органаў кантролю за іх дзейнасцю. Але пенсіённая рэформа стала «прабуксоўваць» з моманту прыняцця канцэпцыі. Нягледзячы на доказы адных даследчыкаў аб нарастанні аб'ектыўных праблем і тэндэнцый у галіне пенсіённага забеспячэння, што вызначаюць непазбежнасць пенсіённых рэформ, пазіцыя другіх спецыялістаў была супакойваючай, яны заклікалі не драматызаваць сітуацыю і дэкларавалі магчымасць пенсіённых рэформ. Толькі ў 2001 годзе ў публікацыі В. Б. Даргель, Міністра сацыяльнай абароны Рэспублікі Беларусь, была дадзена ацэнка дэмаграфічным, эканамічным і сацыяльным фактарам, якія аказваюць негатыўны ўплыў на пенсіённую сістэму, што абазначыла наспелыя праблемы ў пенсіённай сістэме Рэспублікі Беларусь.

У сакавіку 2002 года Урадам Рэспублікі Беларусь было прынята рашэнне аб рэфармаванні пенсіённага заканадаўства ў мэтах удасканалення і аптымізацыі пенсіённай сістэмы, яе адаптацыі да зменлівых сацыяльна-эканамічных умоў, фарміравання шматузроўневай пенсіённай сістэмы, якая б

прадастаўляла магчымасць дадатковых гарантый належнага ўзроўню жыцця грамадзян пры выхадзе на пенсію, аднак, як і ў выпадку з канцэпцыяй, практычных крокаў па рэфармаванні пенсіённай сістэмы зроблена не было.

## Сучасны стан сістэмы сацыяльнай абароны ў Беларусі

Пры разглядзе сучаснага стану сістэмы сацыяльнай абароны будзем зыходзіць з таго, што ў аснове палітыкі сацыяльнай прававой дзяржавы ляжыць, перш за ўсё, клопат пра чалавека, які рэалізуецца праз механізмы забеспячэння эканамічных, палітычных, сацыяльных і іншых яго правоў і свабод.

Вядома, што ўзровень сацыяльнай абароненасці насельніцтва прама звязаны з узроўнем развіцця эканомікі як асноўнай крыніцы не толькі фінансавання сацыяльнай сферы, але і паступовага развіцця ўсяго грамадства. У сувязі з гэтым аналіз сучаснага стану пенсіённай сістэмы будзем ацэньваць ва ўзаемасувязі з развіццём сацыяльна-эканамічнай сітуацыі ў краіне.

Пенсіённая сістэма Беларусі аж да цяперашняга часу функцыянавала адносна стабільна, забяспечваючы і павышаючы ўзровень жыцця каля 2,5 мільёна пенсіянераў. Асноўнай задачай дзеючай пенсіённай сістэмы з'яўляецца рэалізацыя прынцыпу салідарнасці пакаленняў, які ўключае два паралельныя працэсы: працэс фінансавага забеспячэння асоб, якія дасягнулі пенсіённага ўзросту, у адпаведнасці з іх персанальна накопленымі пенсіённымі правамі (кагорта пенсіянераў) і працэс накаплення персанальных пенсіённых правоў працаўнікамі (кагорта работнікаў), якія адначасова ажыццяўляюць фінансаванне ўжо накопленых пенсіённых правоў.

Характарызуючы сучасны арганізацыйны стан або структуру фінансавання сацыяльнай сферы, даследчыкі адзначаюць, што «ў цяперашні час сістэма сацыяльнай абароны ў Беларусі прадстаўлена трыма відамі сацыяльных праграм: сацыяльнае страхаванне, сацыяльная дапамога і сацыяльнае абслугоўванне»[1] з наступнай унутранай структурай:

праграмы сацыяльнага страхавання часткова пакрываюць страты заробткаў, звязаныя з выхадам на пенсію, часовай непрацаздольнасцю і беспрацоўем. Пры гэтым дапамогі па беспрацоўі, аплата бальнічных лістоў, пенсіі лічацца заробленым правам і не нясуць адбітку дабрачыннасці;

праграмы сацыяльнай дапамогі, да якіх адносіцца дапамога тым, хто не можа зарабіць на сябе сам, напрыклад, дапамога па інваліднасці з дзяцінства, дапамога па догляду за дзіцем;

праграмы сацыяльнага абслугоўвання, да якіх адносяцца сацыяльна-медыцынскія, сацыяльна-прававыя, псіхолага-педагагічныя паслугі па сацыяльнай адаптацыі і рэабілітацыі.

Пры далейшым разглядзе сістэмы сацыяльнай абароны Рэспублікі Беларусь мы выдзяляем тры блокі сацыяльнай абароны: пенсіённае забеспячэнне; сацыяльная дапамога, уключаючы сацыяльную работу як практычны інструмент яе рэалізацыі; сацыяльнае страхаванне як самастойны элемент сацыяльнай абароны, якое атрымлівае сваё практычнае ўвасабленне з 2004 года.

### *Дзяржаўнае пенсіённае забеспячэнне*

Права на пенсію з'яўляецца адным з асноўных правоў грамадзян у сістэме сацыяльнай абароны. Зыходзячы з нормы артыкула 47 Асноўнага Закона, яго можна сфармуляваць як права на сацыяльнае забеспячэнне

---

[1] Морова А. П. Социальная политика в свете трудовых отношений. — Мн., 2000. — 174 с.

ў старасці, у выпадку хваробы, інваліднасці, страты працаздольнасці, страты карміцеля.

Аб'ём фінансавых рэсурсаў, якія выдаткоўваюцца на дзяржаўнае пенсіённае забеспячэнне ў Рэспубліцы Беларусь, з'яўляецца самым вялікім у структуры фінансавання сацыяльнай сферы і складае каля 9,6 працэнта валавога ўнутранага прадукту. Так, за перыяд з 1995 года па 2002 год удзельная вага выдаткаў на пенсіённае забеспячэнне ў агульным аб'ёме выдаткаў на сацыяльнае забеспячэнне складала каля 80 працэнтаў.

Фінансаванне сістэмы сацыяльнай абароны ў Рэспубліцы Беларусь і яе асноўнага элемента — сістэмы пенсіённага забеспячэння — пабудавана на прынцыпах бягучага фінансавання (салідарнасці), калі працоўныя пенсіі выплачваюцца за кошт бягучых страхавых адлічэнняў ад фонду заработнай платы, якія з'яўляюцца крыніцай фінансавых рэсурсаў. Такая мадэль пенсіённага забеспячэння вядома як PAYG-мадэль.

Паводле справаздачных даных Міністэрства працы і сацыяльнай абароны, на пачатак 2002 года колькасць пенсіянераў, якія атрымліваюць пенсіі ў органах сацыяльнай абароны, склала 2 490 722 чалавекі. З іх больш чым 1,9 мільёна чалавек — пенсіянеры па ўзросце. Акрамя таго, у рэспубліцы 310 тысяч пенсіянераў па інваліднасці, 150 тысяч — з выпадку страты карміцеля, 20 тысяч атрымальнікаў пенсій за выслугу гадоў, за асаблівыя заслугі, каля 16 тысяч ваенных пенсіянераў і 51 тысяча чалавек атрымліваюць сацыяльныя пенсіі.

У адпаведнасці з агульнымі сусветнымі дэмаграфічнымі тэндэнцыямі ў Рэспубліцы Беларусь «адбываецца вельмі адчувальнае скарачэнне колькасці працаўнікоў, з чыіх заработкаў выплачваюцца страхавыя ўзносы, пры павелічэнні колькасці пенсіянераў, калі ў 1990 годзе на 100 працаўнікоў прыпадала 46 пенсіянераў, то ў цяперашні час — ужо 60. Дэмаграфічны прагноз да 2050 года паказвае, што гэтыя тэндэнцыі будуць нарастаць»[1]. Па інфармацыі, падрыхтаванай экспертамі Сусветнага банка, гэтыя даныя некалькі адрозніваюцца ад прыведзеных даных і складаюць у 1990 годзе — 48, а ў 1997 годзе — адпаведна 67.

Пры гэтым трэба адзначыць той факт, што колькасць асоб, якія маюць старэйшы за пенсіённы ўзрост (мужчыны — 60 гадоў, жанчыны — 55 гадоў), за перыяд з 1960 да 1996 года павялічылася з 13,6 працэнта да 21 працэнта адпаведна, і па прагнозах міжнародных арганізацый гэта тэндэнцыя будзе ўзрастаць.

У пенсіённым заканадаўстве існуе мноства льгот для зніжэння страхавога тарыфу па ўзносах, якія выплачваюцца ў пенсіённую сістэму, аднак пры налічэнні пенсіі гэтыя льготы не ўплываюць на яе памер. Так, пры агульным тарыфе ўзносаў у памеры 29 працэнтаў ад фонду аплаты працы для членаў сялянскіх (фермерскіх) гаспадарак гэты тарыф складае 25 працэнтаў; для прадпрыемстваў сельскагаспадарчага прызначэння — 24 працэнты; для калегіі адвакатаў — 8 працэнтаў.

Пры гэтым пенсіённая сістэма Беларусі характарызуецца высокім узроўнем пераразмеркавання пенсіённых сродкаў. Так, пры сярэднім узроўні каэфіцыента замяшчэння па ўсіх відах пенсій у памеры 42 працэнтаў (па працоўных пенсіях каэфіцыент замяшчэння 44 працэнты) індывідуальны каэфіцыент замяшчэння вагаецца ад 14 працэнтаў (для асоб з высокім узроўнем заработку ў мінулым) да 286 працэнтаў (для асоб з нізкім узроўнем заработку). Гэтыя факты сведчаць аб несправядлівым размеркаванні пенсіённых сродкаў і памерах пенсій, якія не маюць ніякіх адносін да накопленых індывідуальных пенсіённых правоў. Яны цалкам вызначаюцца фінансавымі магчымасцямі пенсіённай сістэмы.

---

[1] Морова А. П. Перегруппировка сил на приоритетные направления // Охрана труда и социальная защита. — 2002, № 5. — С. 4.

Пры гэтым адзначым, што, зыходзячы з аналізу дзейнасці размеркавальнай сістэмы пенсіённага забеспячэння, пры пенсіённым тарыфе ў 29 працэнтаў ад фонду заработнай платы, дэмаграфічным каэфіцыенце сістэмнай залежнасці — 58 працэнтаў і справядлівым размеркаванні пенсіённых сродкаў каэфіцыент замяшчэння (памер пенсіі) павінен быць на ўзроўні 50 працэнтаў страчанага заработку.

Да галоўных недахопаў дзеючай сістэмы пенсіённага забеспячэння можна аднесці неадпрацаванасць метадалогіі разліку і нізкі ўзровень пенсій; вялікую ўдзельную вагу ў структуры пенсій розных даплат; неабгрунтаваныя льготы і прывілеі; ураўняльныя тэндэнцыі; нізкую абарону ад інфляцыі; складанае фінансавае становішча Фонду сацыяльнай абароны; адсутнасць сістэмы недзяржаўнага дадатковага пенсіённага забеспячэння.

Як адзначаецца ў шэрагу работ замежных даследчыкаў, падобная сітуацыя звязана з празмерна шчодрымі расходамі пенсіённай сістэмы, значнымі льготамі для асобных катэгорый работнікаў і інш. Яна характэрна для большасці краін пераходнай эканомікі ў розных рэгіёнах свету.

Разам з тым пераход з 1 студзеня 2003 года на персаніфікаваны ўлік пенсіённых узносаў работнікаў у адпаведнасці з Законам аб індывідуальным уліку ў сістэме сацыяльнага страхавання з'яўляецца прагрэсіўным крокам у напрамку ўдасканалення не толькі пенсіённай сістэмы, але і ўсёй сістэмы сацыяльнай абароны Рэспублікі Беларусь у цэлым.

Персаніфікаваны ўлік дае магчымасць увесці ў практыку сацыяльнай абароны сацыяльныя нарматывы і забяспечыць маніторынг сітуацыі аб узроўні сацыяльнай абароненасці асобных грамадзян, што забяспечвае максімальную эфектыўнасць расходавання фінансавых сродкаў і матэрыяльных рэсурсаў і адраснае накіроўванне іх членам грамадства, якія маюць у гэтым патрэбу.

### *Сацыяльная дапамога*

Характарызуючы развіццё сацыяльнай дапамогі ў Рэспубліцы Беларусь, адзначым вастрыню і маштабнасць сацыяльных праблем, што ўзніклі ў ходзе рэфармавання эканомікі і датычацца розных груп, якія жывуць у нястачы, і асабліва малазабяспечаных сем'яў, жанчын, дзяцей-сірот, інвалідаў, і падкрэслім, што іх вырашэнню перашкаджае не толькі недахоп фінансавання, але і вялікая колькасць праблем арганізацыйнага парадку. Разам з тым у цяперашні час адбываюцца пазітыўныя пераўтварэнні ў сферы аказання сацыяльнай дапамогі насельніцтву: укараняецца сістэма адраснай дапамогі; дакладна вызначаны групы людзей, якія маюць патрэбу ў сацыяльнай падтрымцы; з'яўляюцца інавацыйныя формы сацыяльнай работы; рэалізуюцца сацыяльныя праграмы і праекты.

Дзейнасць Міністэрства працы і сацыяльнай абароны ў Рэспубліцы Беларусь у галіне сацыяльнай дапамогі сканцэнтравана ў асноўным на рэалізацыі дзяржаўных праграм і праектаў. Найбольш буйнымі з іх з'яўляюцца Дзяржаўная праграма занятасці насельніцтва Рэспублікі Беларусь, Дзяржаўная праграма па папярэджанні інваліднасці і рэабілітацыі інвалідаў на 2001 — 2005 гады, Рэспубліканская комплексная праграма па праблемах пажылых людзей на 2001 — 2005 гады і іншыя.

Для параўнання, праграмны падыход да фарміравання сістэмы сацыяльнай абароны характэрны для ЗША і дэтальна адпрацаваны не толькі з пункту погляду арганізацыі кіравання, але і фінансавання. Так, на 20 верасня 2003 года, па даных Каталога федэральных праграм дапамогі, рэалізоўвалася 1568 праграм, што фінасуюцца за кошт федэральных сродкаў, у тым ліку больш за 350 праграм у галіне сацыяльнай дапамогі, сярод якіх праграма школьных снеданняў, спецыяльная малочная праграма для дзяцей,

праграма летняга харчавання для дзяцей, праграма размеркавання харчавання ў індзейскіх рэзервацыях, праграма рэінтэграцыі для бяздомных ветэранаў, праграма часовага пражывання для бяздомнай моладзі і г. д.

### *Сацыяльнае страхаванне*

Прынцыпова новым крокам у плане развіцця рэальнай сістэмы сацыяльнай абароны ў Рэспубліцы Беларусь стала прыняцце рашэння аб павышэнні ўзроўню сацыяльнай абароненасці работнікаў за кошт страхавання сацыяльных рызык, звязаных з іх прафесійнай дзейнасцю. Такім чынам, у сістэме сацыяльнай абароны насельніцтва фарміруецца яе новы складальнік — сацыяльнае страхаванне, метадалагічнай асновай якога з'яўляецца страхавая справа, арганізацыйнай — прафесійная страхавая кампанія, нарматыўна-прававой — дэкрэт Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, фінансавай — узносы наймальнікаў. Адзначым абавязковасць гэтай формы сацыяльнай абароненасці работнікаў для ўсіх наймальнікаў.

З 1 студзеня 2004 года дэкрэтам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь уводзіцца сістэма абавязковага страхавання ад няшчасных выпадкаў на вытворчасці і прафесійных захворванняў. Дэкрэтам вызначаны парадак і ўмовы страхавання, а таксама крыніцы фінансавання: страхавыя ўзносы страхавальнікаў-работадаўцаў; штрафы; капіталізаваныя пачасовыя плацяжы; сродкі, кампенсаваныя страхоўшчыку па рэгрэсных патрабаваннях. Страхавыя тарыфы дыферэнцыраваны па групах галін эканомікі, зыходзячы з класа прафесійнай рызыкі.

Дэтальна ўсе пытанні і ўмовы страхавання выкладзены ў Палажэнні аб парадку і ўмовах правядзення абавязковага страхавання ад няшчасных выпадкаў на вытворчасці і прафесійных захворванняў. Аб'ектам страхавання вызначаны маёмасныя інтарэсы застрахаваных і іншых фізічных асоб, звязаныя са стратай імі здароўя, прафесійнай працаздольнасці ці з іх смерцю з прычыны няшчаснага выпадку на вытворчасці або прафесійнага захворвання.

Надзвычай важным элементам у сістэме сацыяльнага страхавання з'яўляецца прывязка страхавога ўзносу да ўмоў арганізацыі рабочага месца, якая ажыццяўляецца праз асноўны тарыф страхавання і сістэму скідак і надбавак да яго, якія залежаць ад верагоднасці прычынення шкоды здароўю. Такім чынам, пры іншых роўных умовах работадавец, умовы працы ў якога будуць больш рызыкоўнымі, будзе вымушаны выплачваць большы памер страхавых узносаў. Гэты падыход, стымулюючы прэвентыўнае стварэнне бяспечных умоў працы, якія засцерагаюць работнікаў ад неабгрунтаванай рызыкі, замацаваны ў прынцыпах страхавання, якімі прадугледжваюцца:

гарантаванне застрахаваным права на страхавое забеспячэнне;

матывацыя эканамічнай зацікаўленасці суб'ектаў страхавання (наймальнікаў) у забеспячэнні здаровых і бяспечных умоў працы, прафілактыкі няшчасных выпадкаў;

дыферэнцыяцыя страхавых тарыфаў паводле класа прафесійнай рызыкі;

абавязковасць рэгістрацыі страхавальнікаў у страхоўшчыкаў, платы ім узносаў;

фарміраванне і расходаванне сродкаў на абавязковае страхаванне ад няшчасных выпадкаў на вытворчасці на салідарнай аснове;

мэтавае выкарыстанне сродкаў на сацыяльнае страхаванне.

Нягледзячы на тое, што страхаванне будзе ажыццяўляцца на салідарнай аснове, гэта значыць на аснове пераразмеркавання сродкаў сярод застрахаваных, тым не менш памер страхавых выплат будзе залежаць ад памеру заработку, ступені страты працаздольнасці і іншых фактараў, пры гэтым «штомесячныя страхавыя выплаты асобам... праводзяцца незалежна ад

пенсіі, якая атрымліваецца па інваліднасці або з выпадку страты карміцеля з прычыны працоўнага калецтва»[1].

Такім чынам, з увядзеннем у дзеянне сістэмы сацыяльнага страхавання ад няшчасных выпадкаў узровень сацыяльнай абароненасці работнікаў на вытворчасці істотна павысіцца.

### *Дадатковае пенсіённае забеспячэнне*

Распрацоўшчыкі Канцэпцыі рэфармавання пенсіённага забеспячэння ў Рэспубліцы Беларусь у частцы развіцця яго дадатковай кампаненты маглі абапірацца на практычны вопыт функцыянавання недзяржаўных пенсіённых структур. Недзяржаўныя структуры, якія працуюць у галіне дадатковага пенсіённага забеспячэння і імкнуцца адаптаваць да ўмоў Беларусі накопалены за мяжой (у краінах з устойлівай эканомікай) вопыт па ўмацаванні сацыяльнай абароненасці насельніцтва, пачалі ствараццa ў рэспубліцы з 1994 года. У 1995 — 1997 гадах у Рэспубліцы Беларусь развіваліся два напрамкі такой дзейнасці: па-першае, гэта арганізацыя пенсіённага страхавання ў межах заканадаўства аб дзейнасці страхавых арганізацый на аснове іх планаў страхавання жыцця (беларускі народны страхавы пенсіённы фонд, страхавы пенсіённы фонд «Вест — АСКО»); па-другое, гэта арганізацыя пенсіённага забеспячэння ў межах дзейнасці спецыялізаваных пенсіённых фондаў, дзеючых на аснове нарматыўнай базы нябанкаўскіх фінансавых інстытутаў (першы Незалежны пенсіённы фонд, «Нацыянальны пенсіённы саюз»).

Развіццё дзейнасці недзяржаўных пенсіённых арганізацый пачыналася ва ўмовах адсутнасці спецыяльнай заканадаўчай базы, але тым не менш сумарная колькасць добраахвотных удзельнікаў гэтых арганізацый у 1997 годзе набліжалася да 20 тысяч чалавек.

«Аб'ектыўныя законы развіцця грамадства рыначнага тыпу патрабуюць ад нас уважлівых і клапатлівых адносін да з'яўлення на «эканамічным небасхіле» рэспублікі правераных на практыцы многіх дзяржаў элементаў фінансавага рынку, здольных вырашаць пытанні задавальнення патрэбнасцей грамадства...» — пісаў прафесар М. І. Плотніцкі, падкрэсліваючы неабходнасць дзяржаўнай падтрымкі новага пачынання ў рэспубліцы, арыетаванага на задавальненне сацыяльных і эканамічных патрэбнасцей грамадства.

Аднак, нягледзячы на тое, што пенсіённы фонд «Нацыянальны пенсіённы саюз» з'яўляўся лідэрам па колькасці ўдзельнікаў, у 1998 годзе ён спыніў сваё існаванне з прычыны адмовы ў рэгістрацыі як нябанкаўскай фінансавай арганізацыі, пры гэтым ім былі выкананы ўсе абавязацельствы і зроблены поўныя фінансавыя разлікі з яго ўдзельнікамі. У пенсіённым сегменце фінансавага рынку Рэспублікі Беларусь засталіся толькі страхавыя арганізацыі.

У цяперашні час, па даных дэпартамента страхавога нагляду Міністэрства фінансаў, у Рэспубліцы Беларусь дзейнічаюць шэсць страхавых арганізацый, якія займаюцца добраахвотным страхаваннем дадатковай пенсіі. На 1 ліпеня 2003 года сума страхавых узносаў, сабраных гэтымі арганізацыямі, склала 2,1 мільярда рублёў, пры гэтым удзельная вага пенсіённых узносаў у агульнай структуры страхавых узносаў склала каля 2,15 працэнта. У параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года прырост узносаў склаў 32,7 працэнта, што можа сведчыць аб павышэнні зацікаўленасці да такога віду страхавання. Гэта можна суаднесці яшчэ з тым фактам, што страхавыя пенсіённыя фонды пачалі паўнацэнную дзейнасць толькі ў 2002 годзе, таму што хоць Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь і дазволіў у 1997 годзе ад-

---

[1] Об обязательном страховании от несчастных случаев на производстве и профессиональных заболеваний: Декрет Президента Республики Беларусь от 30 июля 2003 г. № 18.

носіць на сабекошт узносы па дадатковым пенсіённым страхаванні, але льгота па падаходным падатку з пенсіянераў заканадаўча была зацверджана ў 2002 годзе, і з гэтага часу пенсіённыя схемы сталі больш прыцягальнымі. Аднак у 2003 годзе аднясенне на сабекошт расходаў суб'ектаў гаспадарання на мэты пенсіённага страхавання было прыпынена, што стварыла дадатковыя цяжкасці ў развіцці дзейнасці гэтага сегмента фінансавага рынку.

Разам з уяўнай паспяховасцю функцыянавання страхавых пенсіённых фондаў у іх застаецца вялікая колькасць нявырашаных праблем.

Па-першае, нарматыў мінімальнага памеру статутнага фонду для страхавых арганізацый, якія займаюцца страхаваннем жыцця (менавіта да іх адносяцца пенсіённыя страхавыя фонды), павялічаны ў 2002 годзе да 400 тысяч еўра, у той час калі першасны нарматыў у памеры 200 тысяч еўра змаглі дасягнуць толькі 15 працэнтаў кампаній. Пры гэтым укладзеныя ў статутны фонд сродкі нельга выдаткоўваць на мэты развіцця інфраструктуры кампаніі, што практычна падвойвае затраты інвестараў і падаўжае тэрміны акупнасці інвестыцый.

Па-другое, не вырашаны пытанні стварэння механізма абароны пенсіённых рэзерваў ад інфляцыі, напрыклад, за кошт інвесціравання ў доўгатэрміновыя валютанамініраваныя каштоўныя паперы (дзяржаўныя або карпаратыўныя) ці аказання пенсіённых паслуг у валюце; не вырашаны пытанні нарматыўнага фарміравання структуры (партфеля) доўгатэрміновых інвестыцый і інш.

Па-трэцяе, не вырашаны многія пытанні падаткаабкладання пенсіённых фондаў і рэгулявання іх дзейнасці як спецыфічных фінансавых пасрэднікаў на фінансавым рынку Рэспублікі Беларусь. Мноства нявырашаных праблем, якія тармозяць актывізацыю дзейнасці такіх сацыяльна і эканамічна значных для эканомікі фінансавых інстытутаў, як пенсіённыя фонды, можа аказаць даволі негатыўны ўплыў на развіццё дадатковага пенсіённага забеспячэння.

Але найбольш важнай задачай, якую неабходна вырашыць і якая ў многім абумоўлівае вышэйпералічаныя праблемы, з'яўляецца перабудова свядомасці на разуменне таго факта, што ўстарэлыя стэрэатыпы, механізмы і інструменты пабудовы сістэмы сацыяльнай абароны ў новых сучасных умовах не могуць быць эфектыўнымі і перашкаджаюць сацыяльна-эканамічнаму развіццю грамадства.

Новыя ўмовы развіцця грамадства патрабуюць новых адэкватных сітуацыі падыходаў да вырашэння назапашаных праблем, і адным са спосабаў вырашэння задачы павышэння ўзроўню сацыяльнай абароненасці грамадзян на сучасным этапе з'яўляюцца сістэма дадатковага пенсіённага забеспячэння і яе інструменты — пенсіённыя фонды.

## Рэспубліка Беларусь у кантэксце глабальных праблем сістэмы сацыяльнай абароны

Стварэнне сістэмы пенсіённага забеспячэння як аднаго з асноўных элементаў сістэмы сацыяльнай абароны ў краінах СНД у агульным і ў Рэспубліцы Беларусь у прыватнасці ў цяперашні час уяўляе найбольш вострую сацыяльна-эканамічную праблему. Па дэмаграфічных прагнозах да сярэдзіны новага тысячагоддзя значнасць гэтай праблемы будзе павышацца, перарастаючы ў адно з ключавых пытанняў сацыяльна-эканамічнай стабілізацыі грамадства. На пачатак 2000 года колькасць пенсіянераў, якія стаялі на ўліку ў органах сацыяльнай абароны насельніцтва краін Садружнасці, складала ў сярэднім каля адной чвэрці агульнай колькасці насельніцтва.

Крызіс дзяржаўнай пенсіённай сістэмы на ўсёй постсавецкай прасторы ў пачатку 1990-х гадоў у значнай меры быў справакаваны рэзкім зніжэннем узроўню вытворчасці і звязаным з гэтым скачком цэн у 1992 годзе. «Ніхто не чакаў скарачэння валавога ўнутранага прадукту ў такіх маштабах, — піша Б. Мілановіч, — прынятыя загадзя планы пенсіённых расходаў аказаліся больш шчодрымі, чым было б апраўдана з улікам фактычных змяненняў валавога ўнутранага прадукту»[1]. Другім фактарам, які аказаў негатыўны ўплыў на сістэму сацыяльнай абароны ў цэлым, з'явілася неразуменне сутнасці і маштабаў узніклай праблемы і ў сувязі з гэтым аднясенне яе да разраду нізкапрыярытэтных.

Будаўніцтва рыначнай эканомікі патрабавала вялікай увагі пытанням стабілізацыі абменнага курсу, кантролю над інфляцыяй, рэформе банкаўскага сектара, прыватызацыі і фарміраванню фінансавых рынкаў, а рэформа сістэмы сацыяльнай абароны заняла «ганаровае» апошняе месца. Рэформу сістэмы сацыяльнай абароны на пачатковым этапе сацыяльна-эканамічных рэформ напаткаў лёс дзяцей у час вялікай сацыяльнай рэформы ў Францыі, калі на пытанне, чаму рэформа не закранула дапамогі на дзяцей, Леон Блюм (кіраўнік кабінета міністраў) адкрыта прызнаўся: «Мы забыліся пра іх».

Адсутнасць у той час належнага вопыту і ўвагі да пытанняў стабілізацыі пакупной здольнасці насельніцтва і своечасовага прыняцця адэкватных сітуацыі мер прывяла да таго, што да цяперашняга часу рэальны змест сацыяльных выплат, у тым ліку і пенсіённых, практычна не павялічваецца.

Сацыяльная значнасць пенсіённага забеспячэння для рэспублікі вызначаецца фактарам яго непасрэднага ўплыву на жыццёва важныя інтарэсы больш трох мільёнаў жыхароў рэспублікі, што складае каля 25 працэнтаў колькасці ўсяго насельніцтва. У цяперашні час звыш 2,5 мільёна грамадзян рэспублікі з'яўляюцца пенсіянерамі і яшчэ каля 0,5 мільёна чалавек знаходзяцца ў перадпенсіённым узросце і ў бліжэйшы час папоўняць армію пенсіянераў.

Сучаснаму стану пенсіённай сістэмы ўласцівы дзве характэрныя асаблівасці, якія ўяўляюць сабой сур'ёзныя праблемы для эканомікі рэспублікі і сістэмы сацыяльнай абароны насельніцтва. Па-першае, высокі тарыф адлічэнняў ад фонду аплаты працы на патрэбы сацыяльнага забеспячэння — 36 працэнтаў, з якіх ільвіная доля — 29,2 працэнта — прыпадае на фінансаванне непасрэдна пенсіённага забеспячэння. Па-другое, нізкі ўзровень як адносных, так і абсалютных памераў пенсій. Гэта выяўляецца ў тым, што памеры пенсій каля 90 працэнтаў пенсіянераў не дасягаюць мяжы малазабяспечанасці. Нягледзячы на тое, што сярэдні памер пенсіі ў месяц, які ў 1995 годзе складаў каля 25 — 27 долараў ЗША, у 2003 годзе ў абсалютным выражэнні вырас да ўзроўню 110 тысяч рублёў, або каля 55 долараў ЗША, рэальная пакупная здольнасць пенсіянера практычна не павялічылася. Пастаноўка Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь задачы па павышэнні памераў пенсій і давядзенні іх да ўзроўню мінімальнага спажывецкага бюджэту дазволіць падняць узровень жыцця многіх пенсіянераў.

Разам з тым аналіз і мадэліраванне доўгатэрміновай фінансавай устойлівасці паказваюць нестабільнасць дзеючай пенсіённай сістэмы ў адносінах да дэмаграфічных фактараў. Гэта азначае, што пры рэзкім павелічэнні колькасці пенсіянераў з 2010 года (на пенсію пачне выходзіць вялікая кагорта насельніцтва так званага «дзіцячага пасляваеннага буму»)

---

1 Миланович Б. Бедность, неравенство и социальная политика в странах с переходной экономикой. Рабочий доклад по фундаментальным исследованиям. — Вашингтон, 1995. — С. 34.

дзеючая пенсіённая сістэма будзе не ў стане захоўваць існуючыя ў цяперашні час умовы пенсіённага забеспячэння без змянення асноўных параметраў пенсіённай сістэмы (памеру пенсіённага тарыфу, памеру пенсій, каэфіцыента замяшчэння страчанага заработку, пенсіённага ўзросту).

Гэта і зразумела. Пры скарачэнні з-за зніжэння колькасці плацельшчыкаў паступлення сродкаў у пенсіённы фонд або нават пры стабільным іх паступленні павелічэнне колькасці атрымальнікаў пенсій несумненна прыводзіць да зніжэння іх памеру (адносна страчанага заработку). Гэта значыць, каэфіцыент замяшчэння будзе зніжацца.

Аднак разлікі паказваюць, што ўвядзенне не пазней чым з сярэдзіны 2005 года накапляльнага кампанента ў дзеючую пенсіённую сістэму і правядзенне мерапрыемстваў па аптымізацыі яе параметраў дазваляюць не толькі стабілізаваць пенсіённую сістэму, але і ў перспектыве павысіць узровень пенсіённага забеспячэння грамадзян.

Час для прыняцця рашучых мер у галіне рэфармавання пенсіённай сістэмы ў нас ёсць, праўда, яго не вельмі многа.

## Прынцып салідарнасці пакаленняў: сутнасць і змест

У сістэме сацыяльнай абароны насельніцтва прынцып салідарнасці выкарыстоўваўся ўжо даўно, напрыклад, у Францыі ў канцы XIX — пачатку XX стагоддзя пры падрыхтоўцы заканадаўства аб абавязковым апекаванні і абавязковым медыцынскім забеспячэнні бедных (адпаведныя законы ад 15 ліпеня 1893 г. і ад 15 ліпеня 1905 г.).

У наш час паняцце салідарнасці пакаленняў шырока выкарыстоўваецца пры апісанні сістэм пенсіённага забеспячэння размеркавальнага тыпу і асацыіруецца толькі з абавязкам выплачваць сацыяльныя падаткі (тарыф па сацыяльным страхаванні). Па сваёй сутнасці паняцце «салідарнасць» мае значна больш глыбокую аснову і, на нашу думку, вечнае значэнне для чалавецтва, пра што, на жаль, забываюць.

Эміль Бутруа пры разглядзе ідэй салідарызму, якія развіваліся ў Францыі, паказаў, што яны з'яўляліся рэакцыяй супраць прынцыпаў ліберальнага індывідуалізму, які абвяшчаў недатыкальнасць свабоды і тэзіс аб тым, што свабода адных можа быць абмежавана законна толькі свабодай другіх; пад свабодай разумелася магчымасць для індывіда рабіць учынкі ў адпаведнасці толькі са сваімі жаданнямі. У. А. Гаген адзначаў, што практычнае ажыццяўленне такога падыходу да вызначэння свабоды ў канчатковым выніку прыводзіла да таго, што сіла станавілася зброяй абароны свабоды і, як вынік, моцны станавіўся яшчэ больш свабодным і моцным, а ўдзел слабых слабець яшчэ больш за кошт ушчамлення іх свабоды.

Такому падыходу да тлумачэння свабоды супрацьпастаўляецца канцэпцыя салідарнасці, развітая ў працы Леона Буржуа «Салідарнасць». Паводле гэтай канцэпцыі паміж кожным індывідам і ўсімі іншымі членамі грамадства існуе сувязь салідарнасці і толькі дакладнае вывучэнне прычын, умоў і меж гэтай сувязі можа вызначыць меру для правоў і абавязкаў кожнага ў адносінах да ўсіх і ўсіх у адносінах да кожнага. Пануючаму ў XIX стагоддзі ў прыродазнаўчых навуках і эканоміцы погляду «барацьбы за выжыванне», які апраўдваў знішчэнне слабых больш моцнымі ў ланцугу эвалюцыі да вышэйшай формы, Л. Буржуа супрацьпаставіў новую тэорыю — салідарнасць істот, якая заключаецца ў ідэі братэрства і справядлівасці.

Асноўным момантам у ідэі салідарнасці, на нашу думку, з'яўляецца разгляд прыроды і сутнасці чалавека і чалавецтва, які заключаецца ў тым,

што чалавек як разумная істота па сваёй прыродзе не з'яўляецца абстрактным стварэннем, якое з'явілася на зямлі з ніадкуль, у поўным развіцці свайго розуму, волі і цела. Ён не з'яўляецца канчатковай мэтай развіцця прыроды і жыцця. Але ён падпарадкоўваецца адносінам узаемазалежнасці і ўзаемаабумоўленасці, якія звязваюць яго з іншымі падобнымі істотамі, напрыклад, з бацькам і маці, а таксама грамадствам, у рэшце рэшт з зямным і касмічным асяроддзем. Гэтая залежнасць — салідарнасць — злучае яго з усімі і з усім у прасторы і часе; ён жа злучае цяперашняе з мінулым. Гэтая сувязь, узаемазалежнасць і ўзаемаабумоўленасць лёгка прасочваюцца на ўзроўні некалькіх пакаленняў адной сям'і: дзеці — бацька і маці — дзядулі і бабулі — прадзядулі і прабабулі...

«Чалавецтва больш складаецца з памерлых, чым з тых, хто жыве», — адзначае У. А. Гаген, маючы на ўвазе, што наша мова, наша цела, творы мастацтва, думкі і навукова-тэхнічныя дасягненні ёсць не што іншае, як састаўная частка той каштоўнасці, якая збіралася па кроплі нашымі продкамі. Разам з тым свабоднае развіццё асобы не супярэчыць прынцыпу ўзаемазалежнасці, паколькі зносіны людзей, аб'яднанне людзей у розныя сацыяльныя групы садзейнічаюць развіццю не толькі арганізацыі ў цэлым, але і кожнага яе члена — чалавека.

Дарэчы, гэтыя падыходы больш чым стогадовай гісторыі пацвярджаюцца і ў даследаваннях сучасных спецыялістаў сацыялогіі кіравання. Напрыклад, В. А. Сімховіч, апісваючы феномен карпаратыўнага чалавека, робіць вывад аб яго ідэнтыфікацыі праз прыналежнасць да пэўнай сацыяльнай групы. Але, з другога боку, яна паказвае ўплыў сацыяльнага асяроддзя (гістарычныя традыцыі, мараль, філасофія), у якім знаходзіцца індывід, на яго выхаванне і навучанне, а таксама фарміраванне ў работніка групы пэўных прафесійных і асобасных характарыстык.

Зыходзячы з ідэі салідарнасці, змяняецца і паняцце ўзаемаадносін дзяржавы і чалавека — супрацьпастаўленне чалавеку дзяржавы як вышэйшай улады, якой падпарадкоўваецца чалавек. Згодна з ідэяй салідарызму «праблема права і абавязкаў ставіцца не перад чалавекам і дзяржавай (палітычнай формай чалавечай групоўкі) або грамадствам (самой групоўкай), а паміж самімі людзьмі, якія разумеюцца ў выглядзе людзей, што аб'ядналіся для агульнай справы і абавязаны адзін перад другім неабходнасцю, агульнай мэтай. Грамадства не мае права на людзей, а існуюць толькі ўзаемныя правы і абавязкі, якія ствараюцца людзьмі... толькі людзі — рэальныя істоты — з'яўляюцца магчымымі суб'ектамі права і абавязку»[1].

Калі чалавек жыве ў грамадстве, карыстаецца паслугамі іншых людзей і дабротамі цывілізацыі, ён увесь час з'яўляецца даўжніком перад ім (грамадствам), а дакладней перад кожным членам грамадства, гэта значыць перад кожным чалавекам. Гэты доўг чалавека кожнаму члену грамадства з'яўляецца падставай для яго абавязкаў у адносінах да грамадства — абцяжаранне яго свабоды. Разам з тым трэба разумець, што абцяжаранне свабоды кожнага чалавека абавязкамі ў адносінах да ўсіх членаў грамадства ўзнагароджваецца тымі выгодамі, якія атрымлівае кожны чалавек са свайго становішча як члена грамадства і з даступнасці да грамадскіх даброт. Свядомае падпарадкаванне абавязку перад грамадствам (сацыяльнаму абавязку) з'яўляецца не толькі падпарадкаваннем у абмен за выгоду, але і прызнаннем абавязку. Ідэя абавязку чалавека ў адносінах да іншых людзей з'яўляецца асновай сацыяльнага абавязку.

---

[1] Гагенъ В. А. Право беднаго на призрение. — С. 295.

Вяртаючыся да ідэі феномена карпаратыўнага чалавека ў Японіі, які прадугледжвае поўную падтрымку групы ў абмен на безагаворачную адданасць чалавека, можна казаць пра тое, што ў яе аснове ляжыць усечаны прынцып салідарнасці. Іншымі словамі, гэты феномен адлюстроўвае адну з форм сацыяльных абавязкаў у адносінах да малой групы людзей і сацыяльнага дагавора з гэтай групай. Усё ж ідэя салідарнасці значна глыбейшая, паколькі чалавек з'яўляецца абавязаным не толькі перад пэўнай групай людзей, сваіх калег па працы, але ён становіцца абавязаным, у тым ліку і ім, з моманту свайго нараджэння.

Чалавек усюды і ва ўсім адчувае найцяснейшую сувязь з чалавечай супольнасцю і салідарнасць з навакольнымі людзьмі: «З ранняга ўзросту чалавек не робіць ні аднаго кроку, не задавальняе ні адной патрэбнасці, не трэніруе ні адну са сваіх здольнасцей без таго, каб не чэрпаць з вялізнага рэзервуара дасягненняў, назапашаных чалавецтвам. Яго ежа з'яўляецца плодам доўгай культуры, якая на працягу тысячагоддзяў узнаўляла, паляпшала і павялічвала раслінныя і жывёльныя віды... Сваю мову ён успрымае ад бацькоў і настаўнікаў, і кожнае яго слова ўтрымлівае і выяўляе суму ідэй, на выпрацоўку якіх патрабаваліся намаганні многіх пакаленняў. Таму ж чалавецтву ён абавязаны і кнігай, якая неабходна для яго развіцця, і прыладай працы... Цяжка ўявіць, якая маса намаганняў спатрэбілася на яе выпрацоўку, якое мноства няўклюдных чалавечых рук варочала гэтай прыладай працы перш, чым яна ператварылася ў цяперашні лёгкі і зручны інструмент, колькі зроблена намаганняў, колькі чалавечых жыццяў пакладзена на тое, каб данесці да яго пад выглядам маленькіх кавалачкаў свінцу літары, пры дапамозе якіх ён так лёгка і зручна можа распаўсюджваць свае думкі і знаёміцца з чужымі...»[1] — піша Л. Буржуа.

Прыведзеная развага наглядна паказвае абавязак кожнага чалавека ў адносінах да іншых людзей і іншых пакаленняў, бо «што б чалавек ні рабіў, куды б ні звяртаўся, за што б ні браўся, — усюды ён павінен чэрпаць з вялікай скарбніцы, завешчанай яму чалавецтвам», а на пытанне, каму павінен выплачвацца гэты доўг, ёсць адзін адказ — «усім, хто жыве, тым, хто памёр, стварыўшы капітал ідэй, сіл і карыснасці, і тым, хто павінен з'явіцца на свет»[2].

Сацыяльны абавязак павінен разглядацца не як простае абавязацельства свядомасці, але як абавязацельства, якое мае пад сабой і юрыдычную аснову, што грунтуецца на праве, ад выканання якога нельга ўхіліцца, не парушыўшы дакладнага правіла справядлівасці.

Грунтуючыся на прынцыпе салідарнасці і вяртаючыся ў нашу прагматычную рэальнасць, можна зрабіць выснову пра тое, што заканадаўча ўстаноўленае патрабаванне аб выплаце сацыяльнага падатку з'яўляецца патрабаваннем, якое забяспечвае выкананне сацыяльнага абавязку і грамадзянскага доўгу ў адносінах да членаў супольнасці, што па розных прычынах аказаліся непрацаздольнымі або ў цяжкім матэрыяльным становішчы. Кожны член чалавечага супольніцтва павінен усведамляць сваю ролю і адказнасць як чалавека-даўжніка перад усімі, калі ён хоча жыць у справядлівым грамадстве.

Крытэрый справядлівасці з'яўляецца адным з асноўных прынцыпаў пабудовы сучаснай сістэмы сацыяльнай абароны. Ідэя салідарнасці, сацыяльны абавязак і сацыяльны доўг, абавязак чалавека перад іншымі людзьмі і сацыяльная салідарнасць — гэтыя паняцці выкрышталізаваліся з філасофіі

[1] Bourgeois L. La Solidarite. — 4-me edition. — Paris, 1904. — P. 118.
[2] Гагенъ В. А. Право беднаго на призрение. — С. 296.

XVIII стагоддзя і ўпершыню былі сфармуляваны Вялікай французскай рэвалюцыяй у трох словах: братэрства, роўнасць і свабода.

Кожнаму члену грамадства неабходна ўсведамляць, што выплата ўстаноўленага сацыяльнага падатку, ад якога так імкнуцца ўхіліцца, ёсць толькі маленькая часцінка таго сацыяльнага доўгу, які мы абавязаны безагаворачна плаціць. Гэта доўг кожнага чалавека продкам за створаную імі на працягу многіх стагоддзяў навуковую, тэхнічную, культурную і духоўную базу чалавецтва і перададзеную па спадчыне дзецям; за магчымасць з'явіцца на свет, жыць, вучыцца, любіць і працаваць на карысць прадаўжэння вялікай місіі чалавечага роду, развіцця і павелічэння яго дасягненняў. Гэта доўг перад сучаснікамі за іх дапамогу і сумесную дзейнасць у павелічэнні і развіцці дасягненняў папярэдніх пакаленняў; за магчымасць зносін і атрымання новых ведаў, навыкаў, уменняў; за любоў, адданасць і дружбу, якія робяць наша жыццё цудоўным і дзівосным. Адначасова, гэта і доўг перад новымі пакаленнямі, яшчэ не народжанымі членамі чалавечай супольнасці за тую дзейнасць, якую ім давядзецца выканаць па захаванні і беражлівым выкарыстанні здабыткаў чалавецтва, якія пакідаюцца намі ім у спадчыну, за развіццё новых ідэй і напрамкаў навукі, тэхнікі, мастацтваў і захаванне традыцый, за выкананне сваёй вялікай місіі чалавека-творцы, чалавека-стваральніка, і ад таго, як мы выканаем свой доўг у адносінах да іх, у многім залежыць шлях развіцця цывілізацыі.

*Пераклад з рускай мовы М. Міхайлава.*







**Таіса Бондар**

# ШЭСЦЬДЗЕСЯТ МІНУС ДВАЦЦАЦЬ ДВА

*З «Дзённікаў»*

## 3. ГОД 1985-ты

**3 студзеня**

Ад Святланы — ні слова. Пакрыўдзілася? Не магла, не магла я на другі дзень заехаць да яе. Фізічна не магла: не пераношу гэту вечную атмасферу застолля і п'яных гаворак. Змалку не пераношу: яна выклікае ў мяне агіду і млосць — я пасля тыдзень хаджу хворая. І расказвала ж я Святлане пра гэту сваю якасць, нават неаднойчы, — толькі б з чаго яна раптам мяняла з-за мяне сваё жыццё, свае звычкі? Разумею — і не пагаджаюся... Я ж і не прасіла, каб памяняла... Але зразумець прычыны такой маёй адасобленасці яна нібыта і павінна...

Дзіўныя ў мяне адносіны да Святланы: люблю яе і не магу быць побач больш як дзве-тры гадзіны, абагаўляю яе паэзію, яе — у паэзіі, і не магу прыняць яе заканамерны (як у кожнага таленавітага чалавека) эгаізм. Не прымаю, хоць мной часцей за ўсё кіруе ўсё той жа эгаізм...

О, ужо гэты эгаізм! Ён і велізарная рухаючая сіла (што б я зрабіла, калі б не яго сіла?), ён і тормаз (колькі зрухаў душы загінула яшчэ пры нараджэнні!) — і як да яго ні стаўся, змяніць штосьці ні ў сабе, ні ў яго прыродзе немагчыма. Разумею, а пачуццё віны не знікае... Перад Святланаю. Перад іншымі, каго абмінула з пачуцця самазахавання, каго не падпускаю бліжэй, чым на крок, цяпер...

Думкі — старыя. Вярнула іх вернутая нездароўем хандра: не магу працаваць, вандрую з ложка на ложак, нават музыку не ўспрымаю — не адгукаюся ні на музыку, ні на словы. Усё можна лёгка растлумачыць, ды нашто? Н а ш т о ?

**6 студзеня**

Усё пацiху становіцца на свае месцы. З хандрой неяк управілася. Святлана напісала. Даслала верш. Вось ён:

### ПОСВЯЩЕНИЕ СНА

*Таисии Бондарь*

Там, где крест называется крыжем,
За неверье кляня и казня,
Словно ворон с готической крыши,
Черный падает сон на меня.

Черный ворон стремится к вороне,
Разбивается в кровь о стекло.
Что мне думать сейчас об уроне,
Если в комнате темной светло?

Что мне думать о смысле полона,
О добре размышлять и о зле,
Коль блестит серебро медальона
Под луною на черном столе?

Кроны граба и красного тиса
Замыкаются над головой,
Чтобы ты мне приснилась, Таиса,
В черной шали моей грозовой.

Чтоб о краткости встречи жалея,
Не пытаясь судьбу прояснить,
От забытой свободы шалея,
До рассвета с тобой говорить.

Верш — цудоўны. Сумотны — і цудоўны. «Не спрабючы лёс праясніць» — гэта так дакладна, што мароз па скуры... Ды і не толькі гэты радок, не толькі гэта... Кароткі ліст, гэты верш... Вярнуўся спакой, спакойная ўпэўненасць у сваёй сіле, у сваёй працы. І адразу — прыйшлі словы, якія распачалі новую песню «Агарак ночы»: «Ноч пасля смерці, адмененай рап- там...» Зразумела: я не магла не прыйсці да «Песень...» Вельмі гэта маё. Глыбінна — маё. Сёння гэта неяк востра адчуваю. У «песнях» маё «я» — больш поўнае, чым нават у самай інтымнай лірыцы. У лірыцы — адзін бок (зусім не галоўны) маёй натуры, хутчэй нават — маёй прыроды, тут — усё астатняе: збудаваны ў сабе чалавек, узгадаваная ў душы песня, адчуты, убачаны ў песні (за ёй) народ. М о й народ — частачкай яго сябе адчула менавіта ў рабоце над песнямі. Адчуўшы ж гэта, нібыта вырасла ў сваіх вачах — сілы дадалося, упэўненасці.

Канешне, надараюцца дні, калі белы свет не мілы, калі рукі апускаюцца. Не без таго. Ну, ды іначай і не бывае. Жыць, як спяваць, — адно на высокім дыханні, відаць, нельга. Галоўнае, што дыханне такое вяртаецца і ўздымае, агучвае словы, — і я аддаю, аддаю, пакуль магу, і сваю сілу, і сваю веру, словам гэтым. Маім — і адразу ж! — не маім... Гэта — галоўнае.

**9 студзеня**

Закончыла песню «Агарак ночы». Паставіла кропку, а ў пальцах усё яшчэ паколванне: атрымалася! Патрэбная нота знойдзена і — я ніводнага разу не сфальшывіла. Дастаеўскі, якім яго ведае свет, пачаўся з гэтае ночы — з ночы пасля смерці, пасля адмененай напярэдадні смерці. У гэтым — перакanana, пра гэта сведчаць дакументы. Цэлы год не магла падступіцца нават да песні...

Учора Рая (прачытаўшы карэктуру майго зборніка, які вось-вось выйдзе) з недаўменнем запытала, чаму ў кнізе так мала вершаў пра каханне — я ж друкавала і адно, і другое, і трэцяе... Друкавала. А ёсць жа і больш за арkуш вершаў, якіх не друкавала. Пэўна ж, выдам некалі і кнігу лірыкі. Толькі лірыкі. Сёння ж важней іншае. Важней тое, што раблю. Што абавязкова зраблю. Кніга Песень. Гэтыя песні — мой доўг мінуламу і будучыні, якая з яго, з мінулага народа, вырастае. Гэта — Раі не растлумачыш. Гэта і сабе не растлумачыш. Увесь час адчуваю штосьці — над сабой. Н а д. Голас, не голас — цяжар! Што тут растлумачыш?

**12 студзеня**

Розум жанчыне не патрэбен і нават шкодзіць... Нічога не змянілася з семнаццатага стагоддзя, калі прагучалі гэтыя словы. Учора яны зноў прагучалі — па-свойму нават паспачуваўшы, іх сказаў мне Валодзя Н. Я — не прыняла спачування, таму што не хацела б быць іншай, а вось горыч гэтых слоў глынула, яны і сёння гарчаць у душы. Дакуль? Дакуль яшчэ? Чаму мне

шкодзіць — павінен, па іх разуменні шкодзіць! — розум? Чаму я павінна быць ці прытварацца гэткай «мілашкаю», гэткай «дурочкой»? Каб усе былі задаволены? Каб можна было ў любым выпадку паставіць мяне на сваё месца? Не, і яшчэ сто разоў не!

Сваё месца я вызначаю сама, і гуляць у «мілашку» нават па маладосці не гуляла. Хтосьці разумнейшы побач? Няхай будзе ім! Не? Няхай адыдзе, каб не параніць сваё самалюбства. Я — на сваім месцы, была б на сваім месцы і значна вышэй. Штурхацца, каб узняцца вышэй, не буду, але і прытварацца, прыніжаць сябе перад кім бы там ні было, не буду таксама. У тым і годнасць чалавечая. А тое, што я жанчына...

Цяпер бы, на сённяшні розум, я не пісала б «Дзённік жанчыны» — да гэтай думкі прыйшла, працуючы над аповесцю, уносячы праўкі, якіх вымагаюць законы мовы і рэдактура часопіса: кардонным мячом размахваю! Колькі пылінак з засмечаных паліц стагоддзяў, магчыма, і здзьмухну, але не больш таго. Хто будзе прыслухоўвацца? У лепшым выпадку — з разуменнем усміхнуцца.

Ну, але што напісана, тое напісана. На сённяшні розум, магчыма, і не пісала б, але і адмаўляцца ад сказанага не хачу. Не адмаўляюся! Урэшце, гэта — адна з прыступак да мяне сённяшняй, да мяне заўтрашняй. Навошта ж, збудаваўшы яе, рушыць? Лагічна? Трэба будаваць, высякаць наступную...

**13 студзеня**

Напісаць уступнае слова да кнігі перакладаў Віеру аказалася не так проста: працавала над перакладамі даўно (колькі гадоў ужо мінула), давялося аднаўляць і ў памяці, і ў сэрцы не адно інтанацыю, але і самую сутнасць зробленага ім (і потым мной), каб знайсці, сказаць гэта слова. На працягу некалькіх дзён працавала...

У вольныя хвіліны чытаю пісьмы Флабера (выйшаў цудоўны двухтомнік). Колькі ўпэўненасці — самаўпэўненасці! — а прымаеш. Прымаю. Мо якраз з-за гэтай гарачай, глыбока спавядальнай ноты, якая гучыць то мацней, то цішэй, але — гучыць, з'яўляючыся прыкметаю высокага розуму і высокай чалавечай годнасці. З нечым не пагаджаюся, нешта аспрэчвала б, а ўсё цалкам — прымаю. Мне б яго ўпэўненасць з малых гадоў! Хоць бы сваю сённяшнюю ўпэўненасць — раней на дваццаць гадоў! Ды тады мне трэба было выдзірацца з беднасці і бруду, з бруднага чалавечага акружэння... Тады абражала нават выпадковая ўсмешка...

Як дакладна (і жорстка якраз з-за гэтай дакладнасці) сказаў Флабер пра аднаго са сваіх знаёмых, пра настаўніка: таленавіты, вельмі таленавіты паэт, але не адбудзецца як паэт, бо не мае хлеба і вольнага часу! Здабываючы ў поце свой хлеб і колькі гадзін вольнага часу, нельга знайсці дарогу ў свет Прыгожага... Горкая ісціна. Я ведаю яе смак, таму што дасюль душуся гэтай горыччу. Не прывілеі патрэбны, а разуменне, што м а я праца не лягчэйшая — цяжэйшая, чым любая іншая, што м а я праца заслугоўвае павагі і адпаведных, неабходных для яе ўмоў. На жаль, я нічога не магу змяніць ці адмяніць — ні для ўсіх, ні нават толькі для сябе. Магу толькі зрэдчас сплёўваць абрыдлую горыч. Сабе ж пад ногі...

**14 студзеня**

Цікава, ці запыніўся б пагляд на маіх радках сярод бясконцай плыні вершаў, вершаў?.. Ці вылучылі б іх пагляд і сэрца? Тут любое маё меркаванне аказалася б глыбока суб'ектыўным, а цікава...

Гартаю часопісы, затрымліваюся на старонках паэзіі — і адступаюся з недаўменнем: ніводзін, нічый верш не хвалюе. Уражанне, што ўсе вершы — мёртванароджаныя. Страшнае ўражанне! М ё р т в а н а р о д ж а н ы я в е р ш ы ... Бр-р! Анатаміраваць іх можа кожны, любы. А ці прачытае з хваляваннем хоць хто? Хоць хтосьці адзін?

**16 студзеня**

Працую над стылем «Дзённіка...» — проста фізічна адчуваю, як не стае словам свабоды, раскаванасці. Мажліва, дасягнуць гэтага і ёсць — знайсці свой стыль. А знайсці яго трэба, калі ўжо ўзялася за прозу. М о й  с т ы л ь ... Якім ён павінен быць, калі адмовіцца ў прозе ад мовы паэтычнай? Ці мо якраз адмаўляцца і неварта? Пытанні завісаюць у паветры... Ні да чаго не прыйшла і пакуль што вымушана рабіць адно — выкарчоўваю са старонак любую фальш, любую фальшывую ноту, спрабуючы захаваць спавядальнасць. Гэтага, напэўна, мала. Большага не магу. Не бачу. Не адчуваю. Наперадзе — проста-такі катаржная праца, калі хачу чаго-небудзь дасягнуць. Чаго-небудзь — гэта не славы, не вядомасці, гэта — выразнасці, важкасці выказаных у любым творы.

Разумею, што калі знайду сябе ў прозе — страчу паэзію, страчу паэтычную мову (адбылося ж гэта з Караткевічам!), і таму— на раздарожжы. Таму — не магу вызначыць, чаго ўрэшце хачу. Паэзія ж не проста зраслася з душою — стала душою...

Разважаю спакойна, а ад бяссонніц не адбіцца — яны быццам высмоктваюць усё ўнутры штоноч, і раніцой доўга збіраю думкі, пачуцці ў адно — у адчуванне, што я — гэта я, ранейшая і новая. У нечым кожны раз новая... Таму праца амаль не рухаецца.

**19 студзеня**

Няўжо адзіна магчымае ўзрушэнне надалей — раздражнёнасць? З цяжкасцю стрымліваю сябе, нейкія чужыя, не задаволеныя аднастайнасцю будняў словы. Здаецца, адпусці я павадок, на які сама сябе навязала, — і хлынуць гэтыя словы, хлынуць на таго, хто апынецца паблізу, на таго, хто ў гэты момант побач. І таму ўсё накручваю павадок і накручваю: яшчэ дзеньдругі — і хрусне горла, ім пераціснутае...

Вобраз хоць і абстрактны, але стан мой перадае: уласную волю, уласную стрыманасць адчуваю фізічна — гэткай пятлёю ўкруг шыі часам, якая зацягваецца ўсё тужэй на кожны мой рух, на кожны зрух. І лягчэй зацягнуць гэтую пятлю да канца, чым скінуць...

Зноў і зноў тузаюць пытанні: чаму талент павінен аплачваць бяздарнасць, чаму нахабства перамагае сумленнасць? Чаму? Ці справа ў тым, што я — жанчына?

**26 студзеня**

Вярнулася з камандзіроўкі. Спадарожнікі — у захапленні ад таго, як я выступала перад людзьмі, як гаварыла з імі. Засмяялася на іх словы — сказалі: наіўная... Чула б я, маўляў, як іншыя (у большасці сваёй) выступаюць... Сяго-таго чула. І — Божа мой, якое здрабненне інтэлекту! Якая безадказнасць за слова вымаўленае і напісанае! І самае страшнае — сораму за гэта людзі не адчуваюць: адно і тое ж, для заробку, далдоняць перад любой аўдыторыяй...

І я еду на такія сустрэчы не адно ад душэўнае патрэбы (сумная праўда, аднак, праўда), часам перад выступленнем млосць падступае — рот не расшчапіць, але ўстанеш перад людзьмі, убачыш дзесяткі воч, даверлівых, шырока адкрытых, а то і насцярожаных, — і адгукаецца душа, і прыходзяць патрэбныя словы, і зноў веру, што мае словы патрэбны і ім, людзям, якія, магчыма, і зборніка майго ніводнага не разгортвалі. І так яно, напэўна, і ёсць. Патрэбны. Бо слухаюць, цягнуцца да маіх слоў — і то святлеюць, то цямнеюць позіркі, у залежнасці ад таго, што кажу, што чытаю. Цяжкая праца! Цяжка — чэрпаць і чэрпаць з сябе, з душы, аддаваць, не ведаючы, ці адгукнецца тваё слова, ці западзе хоць у адну душу, ці натоліць хоць на колькі імгненняў. І таму цяпер — палёгка. Быццам маленькая частачка доўгу сплачана і ад таго дыхаецца крыху лягчэй, вальней.

**31 студзеня**

Званіў Генадзь Б., дзякаваў за слова пра яго, за артыкул пра ягоную творчасць у «Литературной газете», ды так усхвалявана, што зноў міжволі падумалася: нешта нядобра ў нашым асяродку, калі тое, што павінна быць нормаю ў адносінах паміж літаратарамі, успрымаецца як адступленне ад яе. Пісала шчыра, сказала тое, што магла сказаць, — і не таму, што хацела кагосьці ўлагодзіць, кагосьці з высокапастаўленых, — ці ж мне не ведаць, чаго каштуе наша праца! якая праца — за кожнай кнігай! Перада мной была кніга — кнігі! — і я пісала пра іх аўтара, пра паэта, якім ён паўставаў з кніг...

Хоць каму я гэта тлумачу? І мяне ж крыху ўсхваляваў яго званок, бо зразумела б — калі б і не пазваніў. Быкаў не пазваніў. Адчувала ж тады па нотках у яго голасе, па інтанацыі, што чытаў, што прыняў маё слова, а дзякаваць не стаў. І чым бы гэта ні было выклікана (прыняў як належнае? не гэткія пісалі?), я прымаю і адно і другое. Гэта і ўзгадалася адно таму, што Генадзь пазваніў... Па асацыяцыі...

**9 лютага**

Хачу зноў — каторы раз! — вярнуцца да раманаў Матутэ і Базена. Перш чым думаць над сваім — зноў да іх...

Сіла ўздзеяння — гэта эмацыянальная сіла. Слова — нішто без гэтай сілы: водгуку, ніякага водгуку яно мець не будзе. Ні ў кім. Праявы пачуцця, эмацыянальнай яго сілы могуць быць самыя розныя — вага, сапраўднасць яе вызначаюць вагу, сапраўднасць твора! Адкрываю для сябе даўно — і шмат кім — адкрытае, і ўсё ж, да гэтага «адкрыцця» мне трэба было дарасці. Да гэтага адкрыцця — да гэтага дня...

Магчыма, каб адчуць, зразумець да канца прыроду эмацыянальнай сілы, прыроду пачуцця, мала быць апаленай гэтым пачуццём, мала прагна жадаць яго зноў і зноў — жадаць яго вяртання і новага выбуху. Трэба знайсці прывабнасць — яшчэ большую прывабнасць! — у ціхамірнасці, у душэўным спакоі, калі адно ўяўленне ўзводзіць, рушыць і зноў узводзіць усё новыя і новыя светы. Знайсці — і прагна пажадаць яе, ціхамірнасці, каб аддаць кнізе, героям яе самае лепшае сваё, і самае балючае сваё, і самае пачуццёвае сваё — пачуццё!

Як гэта няпроста, я ўжо адчула. Далёка не ўсім задаволена ў напісаных аповесцях. У абедзвюх — даволі размыты сюжэт (нездарма ж у самым апошнім варыянце я ўводзіла ў «Дзённік...» лінію Глеба!), даволі замаруджанае, нават зацягнутае месцамі развіццё, дзеянне. Месцамі — даволі бляклы, беспачуццёвы радок. Проза... Гэта — не такі просты занятак, як уяўлялася раней. Уседлівасцю, зацятасцю і тут не ўсё возьмеш: душу трэба вывернуць, усё аддаць — да галоднага пасмоктвання пад сэрцам, да ашаламляльнай пустаты ў сабе, да балючага выдыху: усё!

**10 лютага**

Каб вольна было думцы, трэба, каб вольна было словам, каб лёгка ліліся яны з душы, з падсвядомасці, з падсвядомае памяці. Неабходна менавіта такое веданне мовы, адчуванне яе...

Зазначаю гэта з сумам. Заўсёдная трывога мая не перабольшана...

**11 лютага**

З абавязковых работ засталіся толькі пераклады Сэкстан. Але і з імі не варта спяшацца: у план наступнага года кніга не трапіла, магчыма, гэта і да лепшага — занадта гняло мяне адчуванне абавязковасці і неадкладнасці.

Неяк нясмела (нібыта і не падобна на мяне!) думаю над магчымай прозай. Было б лягчэй, калі б знайшлася сюжэтная ніць! А так — разрозненыя нейкія малюнкі, нават дыялогі, а працягу няма, не бачу. Хачу ж не проста кавалак чыйгосьці (свайго?) жыцця паказаць, нават не проста прамежак

пэўнага (пасляваеннага?) часу — хачу, каб за сказаным, за паказаным паўставаў народ.

(Учора зусім выразна «чула» дыялог сваіх юных герояў: — «Народ — гэта пра ўсіх? Разам? А калі прыгледзецца — блізка-блізка стаць і зірнуць: хто — народ? Дуська Павучыха, што нават лісце з кустоў паабрывае і прадасць? Валацуга Пашка, якога нават сонца не разбудзіць, калі п'яны пад плотам Марусьчыным качаецца...»)

Лёгка сказаць: каб народ паказаць... Бо і Дуська, і Пашка-валацуга, і Маруська з выводкам дзяцей нямаведама ад каго, і юныя героі з аднаго на-рода выйшлі. Але ж народ — гэта значна шырэй, гэта не проста пералік імёнаў або лёсаў... І не героі мае, а я пытаюся, хто — народ? На чыім лёсе, на чыіх лёсах можна паказаць лёс народа? У адносна спакойны час?

Пытанняў — значна больш, чым подступаў да адказу. Вось і «варуся» пакуль што ў пытаннях: найперш трэба у с е пытанні знайсці, вызначыць, выбудаваць — сюжэт імі намацаць, тую нітачку яго, на якую ўсё наніжацца...

Усё не тое што не акрэслена — нават эскізна не праглядваецца. Хачу на які тыдзень-другі закапацца ў кнігі. У кнігі і ў думкі — вакол прачытанага, вакол прыгаданага. З'явілася прага насычэння.

**13 лютага**

«Калі Вяргілію і Гарацыю яшчэ здавалася, што імперыя ёсць аднаўлення рэспубліка і служыць ёй можна, адраджаючы старыя грамадзянскія каштоўнасці, то ў эпоху Сенэкі ўжо было ясна, што жыццё ідзе па-новаму і патрабуе асэнсаваць змены і знайсці каштоўнасці новыя. Адсюль — вядучая роля г і с т а р ы ч н а й і ф і л а с о ф с к а й прозы». Гэта — з даследавання творчасці Сенэкі. Думаю ж пра свой час.

Не сённяшнім днём датуецца разуменне таго, што жыццё ідзе па-новаму. І змены, якія адбыліся і адбываюцца, было і ёсць каму асэнсоўваць. І каштоўнасці... Не, з каштоўнасцямі больш складана. Бо калі задумацца, то каштоўнасці, вартасці чалавека — спрадвек адны і тыя ж, у адным і тым жа. Ні адна эпоха не змагла адмяніць, раструшчыць у чалавеку чалавечнасць, прагу дабра, сорам, які часцей называюць сумленнем, захапленне прыгожым... Не змагла, хоць і ўзносіла, падымала часам і супрацьлеглае. Ды і ўзносіла, падымала не эпоха, а людзі, якія мелі сілу, вагу ў тую або іншую эпоху.

Відаць, трэба шукаць не новыя каштоўнасці, трэба шукаць адказ на пытанне: што, якія каштоўнасці (ці каштоўнасці?) ўзносіць, падымае н о в ы час і за кошт чаго? Магчыма, гэтае «з а к о ш т ч а г о ?» — галоўнае... Бо ламаецца, трушчыцца ў чалавеку ўнутраны свет яго, не сам па сабе — п р ы ч ы н а, к о ш т заўсёды ёсць. Ці суадносіцца тое, што страчана, што страчваецца, з тым, што набываецца? — вось пытанне, вось праблема для даследавання пісьменнікам. Ці філосафам...

Любое жыццё ўзяць, любога чалавека, яго сталенне — кошт гэтага сталення і ёсць самая вызначальная прыкмета часу. Трэба б паставіць у канцы сказа (думкі) не кропку, а пытальнік, бо выказана хутчэй сумненне, чым перакананне... Ды гэта — з тых сумненняў, якія могуць стаць перакананнем, часцей за ўсё і становяцца...

«Што можа розум?» — у гэтым воклічы ўся глыбіня прагалу паміж дактрынаю рацыяналізму, які маралізуе, і жыццёвай рэальнасцю». Гэта — з таго ж даследавання творчасці Сенэкі, а якое сучаснае пытанне! Якая сучасная трывога! Ш т о можа розум? Ш т о можа чалавек сёння? — не ўвогуле чалавек, а кожны асобны чалавек, кожны — сам-насам са сваімі страсцямі, страхамі, спадзяваннямі?

**14 лютага**

Р. Кашаускас (літоўскі празаік) на пытанне: «Навошта было расказваць пра жыццё простай вясковай жанчыны, у якім нічога асаблівага не ад-

былося?» — «А таму, што на зямлі н і в о д н а е чалавечае жыццё не павінна застацца невядомым. Ніводная слязіна, ніводная ўсмешка шчасця не павінны згінуць без следу. Таму што калі будзе па-іншаму, то нікому не патрэбнымі стануць т ы с я ч ы, м і л ь ё н ы чалавечых жыццяў».

Па сутнасці, гэта — дакладна і ў адносінах да маёй гераіні, да маёй аповесці. Нічога не здарылася і — здарыўся цэлы дзень жыцця, кошт якога нікому не дадзена вызначыць. Магчыма, задача пісьменніка вышэйшая, большая, ды і гэткая — апраўданая.

**23 лютага**

Чытаю «Алімпіяду» Пташнікава, чарговы раз адкрываю для сябе цудоўнага празаіка. Такога д а к л а д н а г а слова апошнім часам сярод прачытанага мной не помню — дакладнага да знаёмага адчування, да пазнавання толькі пазначанага, намаляванага, да пахаў, родных з маленства... Бачу і гэту вёску, і Вілію, і дарогу, і з н а ё м ы х людзей. Так, так, знаёмых — я т а к і х ведала, ведаю!

Гэта «з н а ё м а с ц ь», гэта лёгкасць пазнавання нават бянтэжыць злёгку. Пасля, як адкладваю часопіс. Пасля, як пачынаю думаць, што — не тое што прыпыняе, што не-не і трапляе на вока... Не хапае — м н е не хапае! — хоць крышачку прыўзнятасці, хоць месцамі, хоць зрэдку! Разумею: гэта м о й рамантызм ува мне шкрабецца, гэта м а я душа прагне паэзіі — і ўсё ж, гэта і ёсць тое «чуть-чуть», якога мне бракуе ў гэтым рамане. Не раману бракуе (гэта я не асмелілася б сцвярджаць), а мне ў рамане ...

Вялікі пісьменнік тым, мажліва, і вялікі, што, апісваючы жыццё, жыццёвыя падзеі і чалавечыя лёсы, штоміг помніць пра чалавечую душу — пра д у ш у ! Якая ва ўсім — усё, чаго кранаецца чалавек, адухоўлена ім, яго душою, і перадаць гэта на словах не проста, амаль немагчыма. Магчыма — в я л і к і м.

Калі ё с ц ь душа, значыцца, няма, не можа быць безвыходнасці: нават трагедыі, якія дыктавала сама, здавалася б, смерць, не неслі ў сабе чалавечае безвыходнасці, безвыходнай тугі — паміралі героі, жыць заставаўся іх дух, з намі (у нас) заставаліся іх мукі, сумненні, спадзяванні. Калі н я м а душы, значыцца, няма, не можа быць душэўнае мукі, душэўных сумненняў і спадзяванняў... Занадта проста кажу пра гэткае складанае, але я ўсё часцей думаю, што з таго часу, як мы сталі пазбягаць (саромецца?) гаворак пра душу чалавека (пра чалавека!), літаратура становіцца пацíху проста апісальнай. Больш таленавіта, менш таленавіта выбудаванай па добра вядомых жыццёвых мерках.

Да прозы Пташнікава гэта адносіцца ў самай малой ступені — а ўсё ж і тут чую ў сабе зрэдку гэткае балючае паколванне: што, дзе, як трэба было крышачку-крышачку заглыбіць? Што? На гэту думку не адкажаш. І трывога ж ледзь-ледзь пазначаецца...

О, ужо гэтыя дэманы душы, якія разрываюць яе на часткі! Цяжка з сабой — цяжка з цэлым светам.

**28 лютага**

Радасці, хоць кароткага бліску яе, не стае: душа працуе, а не крыляе. Тое, што працуе, — някепска, толькі ж хочацца большага, ярчэйшага! Н е с п р а в я д л і в а с ц ь гэтага мучае — павінна ж і ў мяне, хоць зрэдку, надарацца радасць! А я яе не тое што не шукаю — не чакаю.

**1 сакавіка**

Мне здаецца, што калі б я знайшла першую фразу, знайшла і запісала, я распачала б работу над сваім раманам. І хто ведае...

Але фраза не знаходзіцца — у мяне нейкі свяшчэнны страх у душы. Страх нават не перад тым, што гэтым я звергну сябе ў бездань,аграмадную, бяздонную, страшна зрабіць няправільны выбар. Першая ж фраза вызна-

чыць стыль, вызначыць форму новага твора — і тут нельга памыліцца. Памылка будзе каштаваць занадта дорага. Гэта разуменне, гэты страх душаць ужо гатовыя выліцца на паперу словы — і я проста хворая сваёй раздвоенасцю, нерашучасцю, жаданнем і нежаданнем ступіць насустрач агромністай працы, што расцягнецца на некалькі гадоў.

Задума... Задума пацiху акрэсліваецца. Ды гэта, па праўдзе, і не задума, а тое, што даўно — з маленства! — мучыць мяне. Што — «што»? Ж ы ц ц ё! Для нечага дадзенае мне — і кожнаму, — яно д ы к т у е думкі, рашэнні, учынкі і нічога нікому не тлумачыць. Мне — ніколі нічога не тлумачыла...

Колькі помню сябе, скрозь я жыла між любоўю і нянавісцю. Нянавісць, напэўна, была нават мацнейшаю, бо часцей я скаралася ёй, — і любоў адпомсціла. Знайшла, чым адпомсціць, — так ніколі і не пасялілася ў душы... Нянавісць, якая адточвае розум, любоў, якая падмяняецца разуменнем і дабрынёю? Мажліва. Але ж яны ніколі не бываюць самі па сабе. Яны заўсёды ўвасоблены ў людзях і вызначаюць іх лёсы. І мой лёс... Гэта не назавеш задумаю — канвой рамана, і ўсё ж больш дакладна вызначыць тое, што хачу пісаць, не магу.

Я ўжо бачу першыя старонкі кнігі — першую карціну, з якой пачнецца аповед: ноч — летняя задуха — незразумелая, ненавісная дарослая страсць — вялікі гадзіннік на сцяне — час, які вымяраецца бяссонніцаю... Абсалютна дакладная карціна з перажытага ў маленстве, толькі зараз я знаходжу ў ёй і іншы сэнс, і іншую сімволіку. Гэта той стары гадзіннік, які дасюль вызвоньвае не гадзіны, а прамежкі майго жыцця. Звон гадзінніка, удары, якімі ён адбівае прамежкі часу, прамежкі жыцця, — чым не нітачка, чым не ручаінка, па абодва канцы якой — маленства і сталасць?

Дзяўчынка — дзяўчына — жанчына... Лёс ва ўладзе любові і нянавісці. І ва ўладзе часу. Таму што ч а с не можа быць л ю б ы м , час — такі, на які прыпала тваё жыццё, вельмі канкрэтны, вельмі асязальны. Да самай дробнай дэталі асязальны, пазнавальны! Задача — не з лёгкіх. Дык я ж і не хачу лёгкай задачы, галоўнае, каб задача была м а я. Мая — і вось гэтага, сённяшняга дня! Што якраз пакуль і не ясна.

Зноў — да кніг Базена і Матутэ! Х а ч у іхняга ўплыву...

**3 сакавіка**

Адштурхнулася ад берага спакойных (цяпер — занадта спакойных) будняў і — з галавою ў прозу. Раман гэта будзе ці не раман — будзе кніга майго жыцця, такога, якім яно мне ўяўляецца сёння, з вышыні сённяшняга ўзросту і вопыту. Напісала першыя дзве старонкі, спрабую азірнуцца, зразумець, ці здолею ўтрымацца, ці ўтрымаюся на абранай ноце доўга — да канца. Добра было б... Галоўнае — не ісці, не пайсці за рэальнымі прыпамінамі, спасцігаць, будаваць кнігу не ў адпаведнасці з жыццёвай праўдай, а ў адпаведнасці з мастацкай праўдай — м а с т а ц к а й.

Прыпамінаў, дэталей, слоў так багата, што ёсць рэальная пагроза захлынуцца ў іх, так і не наблізіўшыся да вырашэння галоўнае задачы. Для нечага дадзенае мне — і кожнаму — жыццё патрабуе даследавання, але даследавання не падзейнага, а душэўнага — духоўнага: хто я? для чаго нарадзілася? што павінна здзейсніць на зямлі? каму перадаць тое, што здзейсню? які ён, час, на які выпала маё жыццё? Нават калі б і ведала я адказы на ўсе гэтыя пытанні, трэба было б усё роўна шукаць форму, у якой яны прагучалі б шчыра і пераканаўча.

Ф о р м а... Упершыню яна мучыць мяне, падняўшыся да ўзроўню самой працы, самой творчасці. Ці гэта я дарасла да пошуку с в а ё й формы? Не стылю (ён які-ніякі, а склаўся), а формы, найбольш адпаведнай у дадзеным выпадку...

**9 сакавіка**

Як ні адварочвайся ад людзей, між людзей — з людзьмі! — жывеш. Чакаючы іх суда. Чакаючы іх ухвалы і ўсмешкі. І гонар тут не перашкода,

і абыякавасць надуманая: кожнаму — і мне! — патрэбна не толькі разуменне людзей, але і ацэнка імі мной зробленага, здзейсненага. Прычына тужлівай непрацаздольнасці — вось яна! Можна рабіць выгляд, што не прымаю гэтай прычыны, — прычына ад таго не зменіцца...

З цягам часу я заўсёды пераадольвала свой настрой, сваю тугу — прагу справядлівасці для ўсіх і для сябе, ды штосьці, як нябачная плёнка смугі, заўсёды заставалася — застаецца. Унутры. У душы.

Сумна ў гэтым прызнавацца, ды што зробіш! Не-не і ўліпаю ў бясплодныя шкадаванні: вось каб хто па галоўцы пагладзіў, пасюсюкаў нада мной! Сарамацішча. Грэшная, грэшная...

Што ж, выхаваць у сабе выключнасць немагчыма — можна толькі навучыцца збочваць з пратаптаных сцежак, стрыножваць свой гнеў або сваю крыўду, даравадь людзям іх слабасць і не даравадь слабасць самой сабе. Гэта можна. Вось і збочваю, вось і стрыножваю новую крыўду, вось і даравала... Прага справядлівасці змяняецца прагай работы... І гэта як узнагарода!

**10 сакавіка**

Разбудзіў усход сонца. Адхінула шторы — аграмаднае, вогненнае, яно ўсплывала непадалёку, праз двор, фарбуючы ў цёплыя водбліскі снег. Адно імгненне, другое... І вось ужо цуд знік — наступіў новы дзень, прасцяг заліло яркае, звыклае для вока сонечнае ззянне.

Паставіла Пяты канцэрт Бетховена — п'ю гукі, як п'ю святло, наталяючы душу, уваскрасаючы для гэтага новага дня — для жыцця! У сне ж не жывеш — адпачываеш ад жыцця, для жыцця... Для музыкі! Для музыкі, якая ва ўсім: у рухах, у чаканні думкі, у самой думцы пра пакінутага ўчора на старонках рукапісу героя, у звыклых карцінах на сцяне, у кнігах, якія гутараць са мной нават не разгорнутыя, — ва ўсім!

Разбудзіў усход сонца. Душа адгукнулася на велічную радасць яго, і я знаю, што цэлы дзень цяпер не парушу радаснае прыняцце дня, работы, радасці. Беспрычыннай радасці. Ад таго, што жыву — жывая! Ад таго, што перамагла і новую крыўду, не даўшы ёй разрасціся і пахаваць у сваім цені збалелую душу. Вітанні мае, вясна! Хай гучыць твая музыка для мяне і для ўсіх!

**11 сакавіка**

Добра пісалася. Знайшла дакладны тон — танальнасць. Дэталі пазней можна будзе выверыць, узбагаціць нейкімі новымі фарбамі, важней — не парушаць танальнасць. І яшчэ — своечасова выбрацца з разважанняў, з апісання, якое ўсё роўна ўспрымаецца як уступ.

Добра пісалася. Думаю над тым, што ўсе мы — у адным рэчышчы аднаго і таго ж часу — б'ёмся над праблемамі свайго росту, свайго ўзросту, усе мы — дзеці адной і той жа эвалюцыі. Праз бунт — да разумення сваёй прыроды, праз адасобленасць, адчужанасць — да поўнага адзіноцтва і адчайных спробаў пераламаць сябе, «зробленую» па лепшых узорах свайго часу... Незайздросны лёс! Добра бачны (цяпер!) шлях страт, бясконцых страт! А што можна прапанаваць — хоць бы і самой сабе — яшчэ, звыш? Нават цяпер, усё, ці амаль усё, разумеючы?

Дакладна, балюча пра гэта — у румынкі Аны Бландзіяны (прачытала колькі яе апавяданняў). Проза-паэзія... Гэтак бы я вызначыла прачытанае: асацыятыўнасць на мяжы фантастычнасці, самыя балючыя пытанні часу, вымаўленыя ў поўную сілу лёгкіх на мове паэзіі... Як шмат можна сказаць у трох невялічкіх апавяданнях! А Ана ж старэйшая за мяне ўсяго на тры гады...

**12 сакавіка**

Са спазненнем атрымала паштоўку (даслана была на стары адрас): «Дарагая Таіса Мікалаеўна! Жадаю вам здароўя, шчасця, радасці, поспехаў у жыцці і творчасці — у Міжнародны жаночы дзень! Не кляніце позні снег

і мутнае неба, бо нехта ж сказаў правільна: «У природы нет плохой погоды». Вясна ўжо блізка, і адразу ў нас палепшыцца настрой. А ў старых прыхільнікаў жанчын — і сёння светлы настрой. Пімен Панчанка».

Звычайная паштоўка — а як скалыхнулася ва мне радасць: Саюз (нават чыста адміністрацыйна) не павіншаваў, людзі, пра якіх пісала, якім не аднойчы выказвала свае добрыя адносіны, не ўспомнілі, а народны паэт знайшоў хвілінку — сказаў мне гэтыя цёплыя словы. Упершыню...

Не спешчаная я ўвагаю, цёплымі словамі — неабходныя яны і мне, калі так светла стала ад іх, калі такой удзячнасцю поўніцца сэрца.

**13 сакавіка**

І сягоння — ва ўладзе абурэння, выкліканага ўчарашнім спектаклем. Ленінградскі тэатр драмы і камедыі паставіў спектакль «Знак бяды», як кажуць, па п'есе самога Быкава, напісанай ім па сваім творы. Не ведаю п'есы — не чытала, але горшага спектакля зрабіць было нельга. Падалося: гэта здзек не адно над быкаўскім творам, — над народам нашым. Героі нават не абарваныя — абдрыпаныя, не ведаюць не толькі звычаяў нашых — жыцця тых часоў наогул, не паважаюць ні звычаяў народных, ні жыццёвай праўды. Ва ўсім — фальш, ва ўсім — зняўвага і мінулага, і людзей, і нас, сённяшніх. Чамусьці адразу прыгадаліся словы аднаго з тых, хто ад'язджаў некалі назаўсёды: «Ды калі б не мы, то ў вас дасюль бы яшчэ каровы па праспекце хадзілі...»

Поскудзі! Усё робяць, каб не так, дык гэтак зняважыць, прынізіць годнасць чалавека, годнасць народа. Няўжо г э т а г а не бачыў Быкаў? Няўжо б а ч ы ў і згадзіўся з гэтай пастаноўкаю?

**15 сакавіка**

Сумна прыгадваю тысячы і тысячы слоў, пачутых учора на пленуме, — яны нібыта адкрылі нейкую бездань, прорву, у якую абрынуўся ўчарашні дзень, пацягнуўшы за сабой не толькі абрыўкі ілюзій і рэшту даверу і разумення, але і такі неабходны мне цяпер душэўны спакой. Штосьці кепскае адбываецца ў нашым «каралеўстве», калі кожная падобная сустрэча, гаворка, нагадвае істэрычную тузаніну матэрыялізаваных (у таго або іншага прамоўцы) амбіцый, калі клопат пра літаратуру ператвараецца ў клопат пра сваю долю, пра свой кавалак славы. Чаго толькі ні высыпалі ўчора адзін аднаму на галовы! — ад «жалезных хлопчыкаў» да разбойнікаў з вялікай дарогі, ад узнагародаў, якія чапляюць на таго-сяго, як на елку, да заклікаў асцярожней абыходзіцца са словам «філасафічнасць», ад «неадпаведнасці» да «ўсе мы невукі», ад «недацягнутых» здзяйсненняў да банкетнае хваробы...

Сумна. Тужліва. Балюча.

Не магу не тое што працаваць — падступіцца да распачатае работы: рукі не падымаюцца, душа не можа ачысціцца ад наліплае гразі, ад нейкай безвыходнай тугі. У час, калі пачынаюцца гаворкі пра «дэ-нацыяналізацыю» (Н. Гілевіч), — гэткая раз'яднанасць, гэткае адчужэнне!

Тужліва. Балюча.

**18 сакавіка**

Стаю перад праблемай: аповесць або раман? Раман ад «я», ад імя лірычнай гераіні наўрад ці выцягну: духу, як у Базена, не хопіць... Вось чаго баюся... Яшчэ адна аповесць?

Жанр, вядома, больш дакладна вызначыць ужо напісаная рэч — не дзеля ж чысціні жанру задумала яе! І ўсё ж сумненні тузаюць, зноў і зноў змушаюць перачытваць першыя напісаныя старонкі, шукаць нейкія новыя хады, новыя павароты думкі.

Жыццё гераіні... Як, чым высвеціць яго, каб завязалася драма — драма падзей, драма характараў? Чаму, калі так драматычна распалася сям'я, самым балючым зломам прайшоўшы праз сэрца гераіні — праз лёс яе брата Яна?

А мо не з гадоў маленства пачаць? Мо яна — я! — згадвае, аднаўляе падзеі з жыцця сям'і пасля суда ці ў часе суда над братам? Мо ўся кніга — гэта спроба разабрацца, знайсці прычыну вялікага злачынства і яшчэ большага няшчасця, спроба зразумець свой час, велічны здзяйсненнямі і нізкі сваімі страсцямі, сваёй прагаю ўсё большага і большага багацця?

Жанчына — дарослы чалавек — суддзя — азіраецца на пражытае жыццё... Ёсць над чым падумаць! Як інакш сказаць пра свой час? Праз якія падзеі? Праз якога героя? Па знойдзенай сюжэтнай лініі можна і п р а з с я б е .

Гераіня, якая змалку ненавідзіць стары драўляны гадзіннік на сцяне роднага дома, для якой уцячы з дому, з жыцця, з гадоў, як ёй здаецца, без любві, без павагі, без разумення сваіх блізкіх, — гэта ўцячы ад учэпістых, нястомна-таропкіх стрэлак гадзінніка, нечакана — адзінае, што возьме з апусцелай хаты пасля смерці маці, — гэты гадзіннік. Задумаецца над сваім учынкам (канец кнігі) і зразумее: гэта — немагчымасць адарвацца ад часу, у якім давялося жыць... Добрага ці кепскага часу — які выпаў...

Так, нарэшце сюжэтная лінія, вартая задумы, знайшлася — яе можна весці, выразней акрэсліваць, узбагачаць. Расце маштаб задумы. І маштаб работы. І гэта не палохае, а радуе. Патрэбны кнігі, патрэбны дакументы!

**20 сакавіка**

Як ні цяжка адкідаць цэлыя кавалкі з напісанага і перапісанага — трэба адкідаць. Трэба навучыцца паважаць форму, давяраць інтуітыўнаму адчуванню слова, яго сапраўднасці і адпаведнасці абранай форме, знойдзенаму характару. Незадаволенасць — самае дакладнае пачуццё. Самае патрабавальнае.

**28 сакавіка**

Нейкая «смута» на душы. Не магу сабраць у адно думкі. Ведаю, што і як пісаць, а не пішацца. Учора ўзніклі радкі дзіўнага верша:

Мая любоў... Твая любоў...
Між імі — гэта бездань неба,
Што ўцягвае, як галубоў,
Надзеі нашы ў вір свой срэбны.
Адна... Другая... Усё цяжэй
Апраўдвацца выпадкам, лёсам,
Які сылгаў, які ілжэ
Пра нас, пра час, урослы ў восень.
Час не ўрастае ў дождж і золь,
Ён абмінае нас — мінае,
Пакінуўшы любоў і боль
Гарэць, або старэць, між намі.
І што — вянок журботных слоў?
Твая любоў... Мая любоў...

Вясна дзейнічае ці па радасці затужыла? Хоць якая вясна! За акном шэра. Цяжкі халодны туман не могуць зрушыць нават вятры, якія шкуматаюць маю бяссонніцу. Дзіўна: нічога не прагну, не хачу ад жыцця, ні аб чым не шкадую, а няўцямнае шкадаванне атручвае гадзіны, дні... Твая любоў... Чыя?!

Ну, як тут усцеражэш душу, калі яна — часцей за ўсё — асобна ад мяне, убаку: то ў абліччы суддзі, то ў абліччы падсуднага? Тое, што пішу, над чым думаю, перамешваецца з маім уласным, «дзеліць» мяне на некалькіх, чужых адна адной жанчын — і кожная з іх патрабуе нечага свайго, патрабуе ад мяне ж... Калі б можна было збегчы ад сябе самой — такой вось! — кінулася б куды заўгодна. На дзень. На два. На тыдзень! Ды тое і яно, што «калі б можна». На жаль, нельга.

**4 красавіка**

Задума твора: не проста паказаць складаны характар і пэўную жыццёвую сітуацыю — хачу паказаць ч а с. Уплыў ч а с у — дыктат яго! — і залежнасць ад яго чалавека. Залежнасць, з якой ён павінен імкнуцца вырвацца, вызваліцца, таму што часам нічога потым н е а п р а ў д а е ш. У гэтым — і асноўны канфлікт. Унутраны канфлікт. Душэўны. У перажыванні яго чалавек — гераіня! — або ачышчаецца, або гіне.

Разумею, што абрала ледзь не самы цяжкі шлях — праз «я» гераіні. Магчыма, збоку, з-за выразна праведзенай мяжы паміж аўтарам і гераіняю, было б выказвацца лягчэй. І шырэй захапіла б час, жыццёвыя падзеі. Але штосьці ж вось не дазволіла пайсці гэтым, «лягчэйшым» шляхам! Штосьці не дазволіла...

**6 красавіка**

Напісала сцэнку з маленства — сама смяялася. Пісала пра спробу паставіць спектакль і смяялася, быццам у той міг, проста на вачах усё і адбывалася. Як гэта сцэна ляжа ў асноўны кантэкст, пакуль што не вызначылася, але гэта вырашыцца.

Прыгадваюцца словы Януша Корчака: «Гэта адзінота дзіцяці надзяліла ляльку душой». І яшчэ: «Дзіця звяртаецца да гульні міжволі, ратуючыся ад злоснай дакукі, хаваючыся ад жахлівай пустаты, адпрэчваючы халодны абавязак... Дзіця гуляе ў што заўгодна, абы змарнаваць час, не ведаючы, што з сабой рабіць, не маючы іншага выбару.... Мы жывём з дзецьмі ў розных светах. Мы, дарослыя, тысячы гадоў назад, кінулі сваіх дзяцей. Мы ад іх адмовіліся. Мы не ведалі, што з імі рабіць. Мы самі адышлі ад дзяцей і адыходзім усё далей».

Кожны з нас — і я! — выраслі з дзіцяці і, каб зразумець характар, трэба зазірнуць глыбока ў памяць — у маленства. Не так далёка мы адышлі ад сябе тых, нас падзяляе толькі здрада. Здрада адчуванню свайго абранніцтва, сваёй значнасці. Здрада адчуванню шляху — доўгага шляху наперадзе...

Рада, што прыйшла да кнігі «Час, калі нас любілі» — даўно адчувала неабходнасць азірнуцца, угледзецца ў сябе дзяўчынку, зразумець, што страчана, што засталося са мной і спрыяе росту. Мне здаецца: калі я напішу гэту кнігу — я зразумею сябе лепш.

**14 красавіка**

Творчы спад... Адчуванне такое, быццам душа — мая ўласная душа! — стаіць непадалёку, узіраецца ў мяне і паўтарае, бясконца паўтарае: «Што ж ты з сабою робіш? Што ж ты?..» А я і слоў для абароны не знаходжу. Няма ў мяне чым бараніцца, асабліва калі не магу закапацца ў працу, жыць ёй. Цяпер — сам-насам з сабой і пытаннем, якое балюча дзяўбе свядомасць: «дроцікі» разыходзяцца па ўсім целе, і марна — немагчыма! — іх лавіць. Так і будзе балець, пакуль не перабаліць.

**22 красавіка**

Гаворкі, гаворкі! Думаю пра тое, чаму ўва мне ніколі не прачыналася «амбіцыйнасць» — абыякава выслухаю пра ўсіх, каго заўважаюць, пасылаюць у замежныя камандзіроўкі, даюць слова на розных урачыстых пасяджэннях. Можа, абыякава — не тое слова, але мне і напраўду не баліць гэтае адвечнае «чаму не я?» Няхай я зрабіла не меней, чым іншыя, а магчыма, і больш, не гэтым жа ўрэшце вымяраецца зробленае. Мне баліць, што м а л а зроблена, баліць н е м а г ч ы м а с ц ь рабіць, пісаць больш. Але тут дапамагчы ніхто не ў сілах. Ніхто.

Даслаў віншаванне Максім Танк — пасля таго, як прачытаў мой зборнік «Чырвоны месяц года»: «З цікавасцю прачытаў і парадаваўся за вас, бо многія вершы і фрагменты паэм вылучаюцца з агульнага, аднастай-

нага патоку нашай сучаснай паэзіі сваім драматызмам, лірызмам і адметным стылем». Кранута да глыбіні душы, удзячнасць большая, чым магу выказаць: хворы паэт — напісаў, павіншаваў! Сябры, думаю, нават не прачыталі...

Што ж, і гэта — адна з прыкмет нашага «імклівага» часу. Быццам бывае час не і м к л і в ы!

**24 красавіка**

Радасць! Якая не падрыхтаваная я была да яе, калі яна звалілася на мяне цяжарам... Так, так, цяжарам. Не тое, што я не магла б у яе паверыць, — я не змагла яе ў першыя імгненні асэнсаваць. Ні тады, калі слухала думку Міколы Кусянкова пра сваю аповесць (вельмі высокую думку!), ні потым, калі радаснага ўзрушэння не ўтойваў нават сам Пташнікаў. Прызнанне? «Вам трэба абавязкова пісаць прозу!» — абавязкова?

Амаль няма заўваг. Апроч назвы. Назву не прыняў ніхто з аддзела, хоць і зразумела, чаму я назвала твор «Жыццё ва ўсіх аднолькавае». Што ж, буду думаць. «Асабліва не зацягвайце з дапрацоўкаю!» — а ўсіх заўваг па дробязі... Пташнікаў верыць — паверыў у мяне. Вось найбольшая радасць. А сказаць у адказ амаль нічога не здолела. Як захрасла ў горле ўсё пачутае. Чамусьці хацелася заплакаць...

**5 мая**

Божа мой, толькі-толькі распачата работа над кнігаю свайго жыцця «Час, калі нас любілі» — яна і на чвэрць не напісана, а думкі імкнуць далей, да наступнае кнігі, і тая, наступная, кніга здаецца не менш цікавай. А можа, і больш цікавай, чым тая, над якой працую. Ненасытнасць нейкая! Быццам абудзілася ўсё, што ўва мне драмала пад тоўшчаю гадоў, — абудзілася а д н а ч а с о в а ! І ўсё — а д н а ч а с о в а — патрабуе свайго ўвасаблення, нейкім чынам ужываючыся побач. І я баюся здрабніць і адно і другое.

Не, не! Няхай новая задума пачакае, паляжыць: распачатая работа патрабуе завяршэння — глыбокага роздуму і вартага яе завяршэння. Толькі так...

**13 мая**

Аповесць з назваю «Жывыя жывуць» — пайшла, што называецца. Калі сёння Пташнікаў сказаў, што яна ўхвалена рэдкалегіяй і здаецца ў восьмы-дзевяты нумары сёлетняга года, я анямела: у тыя нумары, якія здаюцца с ё н н я ! Гэткае разуменне, гэткая адкрытая падтрымка — упершыню. Таму і не магу падоўгу выйсці з разгубленасці: і не верыць нельга, і паверыць — неяк не верыцца...

Хоць бы не сурочыць радасць, што стала не-не і зазіраць да мяне!

**21 мая**

Адзінота, работа паглынаюць... Нікому не званю. Нікуды не выходжу. Разумею, што ў выніку — застануся адна, сам-насам са сваімі героямі, і ўсміхаюся: прыйшоў час, калі мне ніхто не патрэбен, — час здзяйсненняў. Так шмат трэба зрабіць, так шмат сказаць!

Пачынаю адчуваць, што такое натхненне празаіка, і ўдзячна лёсу за гэты падарунак, за новы дар. Гэта — мой паратунак. Паратунак — ад самой сябе. Лёс няма ў чым папракнуць. Нягледзячы на ўсё перажытае і ўсё тое, што яшчэ давядзецца перажыць. І я стану — павінна стаць! — вартай свайго лёсу.

**23 мая**

Як лёгка страціць душэўны спакой, душэўную раўнавагу! Аднаго нахабнага позірку стае, колькіх злосных слоў...

Убачыла сёння Паўла М. і ў тое ж імгненне адчула: здагадка мая пацвярджаецца — гэта ён і пісаў рэцэнзію на маю кнігу прозы: менавіта яго-ныя злосць і жанчынаненавісніцтва прарваліся ў гаворцы пра «Дзённік жанчыны». І ў гаворку нашу з Іванам Трафімавічам умяшаўся нечакана і нахабна — не знайшлася, чым адказаць, і цяпер не магу пазбавіцца ад разгубленасці, папікаючы сябе за яе.

Ведаю, што такія ч а л а в е к і не вартыя і хвіліны майго душэўнага спакою (прайшоў жа і «вярхі», нахапаў, што мог, і, страціўшы пасаду, сыходзіць злосцю), а вось жа — штосьці ўсё-ткі наліпла, штосьці атручвае гэты дзень. Ніяк не абмінуць у жыцці падобных мастадонтаў! Ну, ды чорт з імі! Шкада, што не заўсёды льга размінуцца, што позірк гэты, словы гэтыя не магу адкінуць, забыць...

**25 мая**

Ідуць гаворкі вакол надрукаванага ў Маскве артыкула А. Адамовіча «Станаўленне жанру» (пра кнігі С.Алексіевіч і не толькі пра іх). Я не ўблыталася б (прачытала, усміхнулася, паставіла на палях колькі пытальнікаў), калі б не такое агульнае абурэнне з усіх бакоў. Абурэнне нават не тым, што зноў — пра Алексіевіч і пра сябе. Нават не тым, што ён «ничтоже сумняшеся» ставіць яе ў адзін шэраг з Сіманавым, Быкавым, Гранінам (і сабой, разумеецца!) — ды чаго там! паралелі ж праводзяцца з самім Дастаеўскім! Абурае «заігрыванне» з братамі-пісьменнікамі, гэтыя скачкі ад «геніяльнасці» да: «имея под руками не всего лишь пробы и образцы, но целые горы глубинного материала народной жизни, человеческой психологии (горы — психологии?!) — тут уже и обыкновенный литературный талант сумеет многое, способен потрясти сознание читательское так, как прежде удавалось лишь великим», ад свайго «ваша работа о б р е ч е н а на успех!» да высновы, якая, мякка кажучы, выклікае сумненне: «Кому не хочется если не стать, так хотя бы временно побыть гениальным?»

Што ж, калі на думку Адамовіча, геніяльным можна с т а ц ь, а то і не стаць, а часова п а б ы ц ь, то каментарыі, як кажуць, залішнія.

**27 мая**

Аповесць рухаецца марудна. Мне, як і гераіні, цяжка несці боль, балючы цяжар думак: ад іх нельга вызваліцца, іх можна толькі выказаць — словамі, узгадкамі, слязьмі. Стараюся пазбегнуць залішняй трагічнасці, залішніх змрочных нотак — і ўсё ж атрымліваецца занадта сур'ёзна. Трэба помніць, што задача: напісаць «час, калі нас любілі». Л ю б і л і ! — хоць і страшэнна цяжкі, жорсткі гэта быў час.

Балючую трапяткую ноту перадаць лягчэй. Заўсёды лягчэй. Але ж жыццё — у сутнасці сваёй — светлае! Інакш за яго гэтак не чапляліся б, інакш — яго праклінал б. Здараюцца хвіліны, калі з губ зрываецца праклццё жыццю, але гэта хвіліны, імгненні нават, не больш. Чалавек слабы. Ён можа адмовіцца ад жыцця. Жыццё ніколі не адмаўляецца ад чалавека. Нават у слабасці яго. Нават на краі гібелі яго. Нават пасля смерці...

Толькі адчай засланяе ад вачэй хараство свету, толькі ад болю адміраюць карэньчыкі радасці. І на тое воля чалавека (пакуль ён змагаецца), каб перамагчы адчай, перамагчы боль. Гэта — пра гэта! — хачу я напісаць. Галоўнае: не адпускаць ад пагляду сцяжыну...

**28 мая**

Настолькі жорстка трымаюць мяне ўведзеныя мной жа абмежаванні ў аповесці (мажліва, і не «пацягнула» б пакуль што больш, але ўсё ж...), што ў думках прыспешваю работу, думаючы пра новую кнігу, пра новы — больш — маштаб яе, пра большую свабоду ў падачы матэрыялу. Хутчэй за ўсё, з восені засяду ў архіве: хочацца «счапіць» сённяшні час з далёкім мінулым,

магчыма, з часамі вялікага Усяслава Чарадзея, — менавіта звязаць іх, сашчапіць, знайшоўшы тыя повязі, што як карані праходзяць праз усе напластаванні стагоддзяў у мінуўшчыну і ў будучыню. Гэта — нябачныя повязі, і знайсці іх, душою адчуць, будзе няпроста, але гэта такая ж неабходная работа, якой была для мяне работа над песнямі. Думаць, падступацца да яе буду няспешна, работу ў архівах пачну з восені.

**31 мая**

Думаю пра мора, пра яго цёплае пакалыхванне... Слухаю музыку. Каб не ўслухоўвацца ў сябе. Каб затапіць, змыць празрыстымі гукамі ўсё дробнае, дрогкае, ліпкае, што не дае душы дыхаць.

Што б я рабіла, калі б у мяне забралі музыку? Найбольшая крыўда майго паўгалоднага маленства: мне не было дзе, не было ў каго вучыцца музыцы. Ужо ў інстытуце я паспрабавала вучыцца іграць на фартэпіяна... Позна было. І тая мізэрная магчымасць, якая з'явілася, знікла, і позна было...

Дыскі, запісы, канцэрты — і гэта нямала. Мала! І ўсё ж, у тыя хвіліны, калі душа просіць малітвы (малілася б, каб магла), для мяне — ува мне! — гучыць музыка. Пакуль жывая — яна будзе гучаць.

**2 чэрвеня**

Цэлы дзень правяла ў Загорску. З Галяй Грыбоўскай. Уражанне цяжка выказаць словамі: уразіла не так тое, што павінна было б уразіць, як д у х гэтага месца, так выразна, так велічна перададзены ў архітэктуры. Архітэктуры, што мкне, л я ц і ц ь угору разам з пагоркам. Разам з горадам — разам з табой. Вось гэтае «разам са мной» — найбольш закранула...

Калі б я была з гэтым усім сам-насам, адна, я не вытрымала б... Напэўна.

Людзі, якія сноўдаліся ўзад-уперад, гучна размаўлялі, маліліся, прыпадалі да рукі «служкі Бога» (не адно старыя прыпадалі) ці проста ўперад, каб лепш убачыць (што?), увесь час перашкаджалі засяродзіцца, пераключалі маю ўвагу... Я ўсміхалася на пачутае, пераходзіла з аднаго месца на другое, падоўгу стаяла моўчкі, слухаючы перамовы званоў, спрабавала атрэсці адчуванне, што трапіла ў іншае стагоддзе, у старую Расію з яе калекамі-гаротнікамі (паўз сцены Троіцкага сабора), манахамі, шматгалосым «Госпадзе, памілуй!», якое падоўгу калыхалася над купалам, з яе царскімі магіламі і святымі крыніцамі, з яе трагічнымі, трагічна-тварымі анёламі і звонкімі, пявучымі сценамі храмаў... Я ўзіралася ў сваю душу. Ці гэта яна ўзіралася ў мяне?

**6 чэрвеня**

І сёння не магу падступіцца да рукапісу.

Рэдакцыі ўсіх выданняў запрасілі на пасяджэнне прэзідыума Саюза пісьменнікаў (слухалі «Полымя»). Усё тыя ж размовы, усё тыя ж сумныя думкі пасля...

Можна назваць цэлае пакаленне «жалезнымі хлопчыкамі» і «разбойнікамі з вялікай дарогі» і цягнуць у «часовыя геніі» ўчарашнюю дзяўчынку, як Алесь Адамовіч. Можна слухаць «салоўку Белай Русі», знайшоўшы яго не на прасцягах нашае літаратуры, нашай паэзіі, з іх багатай гісторыяй і сусветна вядомымі імёнамі, а між выданняў і перавыданняў аднаго паэта, як Васіль Быкаў. Можна ўзводзіць і ўзвесці сябе на кепска-добра змайстраваны пастамент і цыкаць адтуль на шумных, не вельмі «пачцівых» маладзейшых калег (бач, разышліся! бач, незадаволены!), як Іван Чыгрынаў. Можна забрацца ў гушчар літаратуразнаўства і не адгукацца ні на адзін жывы голас, адбіваючыся ад праблем, ад літаратурных будняў усім знаёмай і даўно збрыдлай абоймаў імёнаў, як нашы вядучыя крытыкі (куды і каго яны вядуць, схаваўшыся за тоўстымі сценамі Інстытута літаратуры, высветляць будучыя даследчыкі).

Можна. Усё можна. Толькі ж ад гэтага не менее праблем. Ні творчых (іх яшчэ можна спісаць на ўласцівасці характараў саміх творцаў), ні ар-

ганізацыйных (тут ужо цяжэй спісаць, бо ўшанаванне памяці класікаў нашае літаратуры, да прыкладу, перавыданне, выданне — дакладней, не-выданне іх твораў на рускай мове і мовах іншых народаў не паставіш у віну класікам).

Пастаменты пастаментамі. Каго на іх узвесці, народ вырашае. Хто на іх, на тых пастаментах, устаіць, з часам стане відаць. А нам — кожнаму і ўсім разам! — шчыраваць на палетку слова роднага, каб не адмерлі занядбанымі, затаптанымі карэньчыкі памяці народнай, каб на месцы, дзе каласілася і каласіцца (няхай няроўна: дзе высокая і густая, дзе бяднейшая) ніва нашых здабыткаў, зазелянела і новая рунь. Зазелянела. І зелянела. І заўтра. І паслязаўтра. І праз стагоддзі. Гэты — галоўны клопат. Гэты, а не іншы. А не той, што дзеліць на абласканых увагаю і не абласканых...

Літаратура страчвае прыхільнікаў, а мы кожны пра сябе. Кнігі страчваюць чытачоў, а мы кожны пра сябе, пра сваё. Мова страчвае правы, а мы — пра сябе! Што адбываецца? Слепнем? Глухнем? Перасталі разумець, адчуваць, у чым — абавязак, пісьменніцкі і грамадзянскі?

Неяк атрымалася, што ўсё, што раней — заўсёды! — лічылася абавязкам, які патрабаваў дзейнасці, зацікаўленасці, работы, урэшце! — стала проста ганаровым. Ганарова — заняць пэўную пасаду, ганарова — увайсці ў склад рэдкалегіі, у склад праўлення, у склад прэзідыума. Ганарова — быць абраным у склад дэлегацыі на партканферэнцыю, на ўсесаюзны пісьменніцкі з'езд... Так, гэта ганарова. Але ж гэта той гонар, які трэба не толькі заслужыць, яго трэба апраўдваць, адпрацоўваць! Гэта ж усё не ганаровыя органы, а рабочыя. Рабочыя! Мы пра гэта амаль і не ўзгадваем.

«Я адсядзеў чатырнаццаць год у рэдакцыі і не выступаў...» А чаму — не выступаў? Каб наступнікам, крый Божа, лягчэй пасля не стала працаваць? «Любую ініцыятыву знізу мы падтрымаем...» Як? Паляпаеце па плячы?

Бясконцыя пасяджэнні, шматлікія службы... Аніводнае пытанне ні з кім вырашыць немагчыма. І ўсё пішуцца, пішуцца і прымаюцца нейкія бясколерныя, «нематэрыяльныя» пастановы, якія нікому і ў галаву не прыйдзе выконваць. Сумна. І балюча — пра ўсё памянёнае...

**16 чэрвеня**

Усе гэтыя дні пісала. «Дні» — калі не лічыць гадзіны, праведзеныя ў рэдакцыі, дзе клопату па горла. Добра, што за апошнія два гады навучылася спакойна, без мітусні вырашаць дзесяткі спраў. Што магу — вырашаю, што не атрымліваецца ў каго з супрацоўнікаў — раблю сама. Гледзячы на мяне, не мітусяцца і іншыя. Карысці, бясспрэчна, больш.

Ну, ды гэта служба. Па шчырасці: калі б магла сабе гэта дазволіць, абышлася б без яе.

Пісала. Напісала некалькі карцін у некалькіх частках, здзіўляючыся таму, што мае героі паспелі стаць самастойнымі. У Лёксы — больш непрыемных рысаў, чым прыемных (а «вяду» ж у ёй — праз яе — лінію свайго жыцця!), на «пабочную» лінію адыходзіць Вадзім, усё больш месца ў аповедзе займае Юзік. Ссоўваюцца, мяняюцца і далейшыя падзеі... Кепска гэта ці добра? Пакуль што не ведаю. Дыктаваць жа ўжо нічога нікому не магу. Хутчэй яны дыктуюць мне. І даўно.

Часцей стала думаць над будучай кнігаю... Хочацца пісаць вялікае палатно, знайсці герояў, вартых майго часу.

**20 чэрвеня**

Маё выступленне на пленуме прагучала як выклік — так яго некаторыя ўспрынялі. Алесь Адамовіч выбег з залы, за ім падбегам кінуўся Бугаёў, праўда, вярнуўшыся хвілін праз пяць. Залу пакінула ўся фракцыя Барадуліна, а дзесяць хвілін счакаўшы, пайшоў і ён. Гілевіч у сваім выступленні потым, хоць і абмінуўшы імёны, пацвердзіў усё, што прагучала ў маім вы-

ступленні. Адчувала падтрымку сваіх аднагодкаў, усёй залы. Лавіла на сабе здзіўленыя позіркі старых...

Але ж, Божа мой, што я сказала?! Боль свой выказала, недаўменна пыталася: што адбываецца? «По касательной», як кажуць, вельмі мякка кранула тых, хто так дзьмецца і пнецца, што з-за сваёй «велічы» ўжо нічога вакол не бачыць — і гэта выклік? І гэта выбух?

Разумею: мае словы прагучалі нечакана для ўсіх (прыгадваецца: «А кароль жа — голы!»), хоць думалі і гаварылі ў кулуарах многія, калі не ўсе. Нечаканасць — у адкрытасці, у балючасці (а было ж — ледзь не адмовілася ад часткі выступлення — не магла пераадолець хвалявання і раптоўнага страху). Мне моўленыя словы даліся не лягчэй, чым тым, каго яны закраналі. Але ж калі я змаўчу і кожны змаўчыць — з каго ж справы пытацца?

Размоў пасля пленума багата, і да мяне падыходзяць, і дадому звоняць, і ў новыя (будучыя) бойкі ўцягнуць хочуць, а я — проста хворая. Сэрца не магу суцішыць — якія бойкі? Ды і не б о й к і я хачу, а ўзаемаразумення — разумення, што літаратура — гэта не хтосьці адзін, гэта ўсе мы разам, мы і намаганні нашы... Набалела — вось і сказала, не змагла змаўчаць, адмаўчацца. Аказваецца — разбудзіла іншых...

**30 чэрвеня**

Надвор'е як сказілася: шэрань душыць лета, халодная імжа зрэдку пераходзіць у дождж і зноў вяне пад парывам ветру. Вецер то свішча, то завывае — ні ў пакоі, ні тым больш на вуліцы няўтульна. Холадна. Я не выходжу з прастуды, і гэта таксама надае думкам халаднаватае шэрае адценне.

Які герой мог бы стаць героем часу, часу сённяшняга? «Экалагічны» герой, як яго пачынаюць называць? Герой, які змагаецца за навукова-тэхнічны прагрэс супраць мяшчанства? Рамантык эпохі нейкага новага сучаснага рамантызму? Чалавек з пароды разумных функцыянераў? Адказаць не так проста. Занадта размытыя зараз межы між рознымі групамі людзей, між рознымі пластамі насельніцтва (гэтыя «пласты» і пазначыць дакладней немагчыма ў нашым бяскласавым грамадстве), быццам і сапраўды знікае (ці знікла) тыповасць — той ці іншы тыпаж, і ні ў адным чалавеку нельга знайсці пэўнай, яркай адметнасці. Акадэмік «заігрывае» з публікай зусім як правінцыйны акцёр, філосаф патрабуе для сябе ўвагі і захаплення зусім як салонная дама, паэт падлічвае свае і чужыя ганарары, не саромеючыся, зусім як гандляр чужую маёмасць, юрыст гэтак жа смела, з размахам, карыстаецца «блатам», як і спекулянт, калгаснік гандлюе на рынку не толькі пладамі працы сваёй...

Не, не, я зусім не імкнуся абагульняць. Любое жыццё ўяўляе цікавасць і можа быць апісаным. Любое. І ўсё ж, азіраючыся, разумею, чаму найбольшага дасягнулі тыя пісьменнікі, якія пішуць пра вайну. Там — межы не толькі дакладныя, але і рэзкія, кантрастныя: паміж жыццём і смерцю. Сёння — усе мы крышачку (хто ў большай ступені, хто ў меншай ступені) функцыянеры, прыстасаванцы. Крыўдна, але праўда. І праўда — незайздросная, бо «насіцель» гэтае праўды — не герой. Літаратурным героем яго яшчэ можна зрабіць, а ў жыцці ён героем не будзе — не з'яўляецца... Прызнавай за ім гэткае права або не прызнавай...

Які ён, мой герой, герой майго часу, не бачу. Выразна — не бачу. А без гэтага і думаць пра будучую кнігу — пра раман — нельга. Хачу ж напісаць пра свой час, і крышачку пра мінулы, і крышачку пра будучы.

**1 ліпеня**

«Ты што, «святлейшага» хочаш пераплюнуць?» — запытаў учора Лёша, дазнаўшыся, што пішу прозу. Запытаў жартам, а штосьці непрыемнае ад слоў засталося. Быццам усе пішуць толькі таму, што хочуць адзін аднаго пераплюнуць! Лухта! Хочацца напісаць тое, што, на мой розум, варта напісан-

ня. І яшчэ — крышачку — каб напісанае потым прачыталі, чыталі. Ужо ж — не мерацца бясконца з кімсьці ростам!

Жыць, расці з думкаю, што свет табе штосьці павінен, па меншай меры неразумна. Ён мне нічога не павінен. Я атрымаю толькі тое, што даю — аддаю. У гэтым я пераканана і — не памыляюся

Той-сёй не пярэчыць супраць «пазыкі», супраць шчодрых авансаў грамадскасці — і вельмі хутка становіцца ясна, што аўтар «неплатежеспособный», што ён не толькі чакае, а патрабуе новай пазыкі (добра, калі не скоціцца да ролі жабрака ад літаратуры!). Не адразу, з гадамі я зразумела, што мне пашанцавала (дзякуй Богу, як кажуць!) не займець у свой час «пакравіцеля», не атрымаць ніводнага авансу, нажыць некалькі ўплывовых «ворагаў» («Няхай жывуць нашы ворагі!»). Так, так, пашанцавала! Бо з першых крокаў я вучылася разлічваць адно на сваю ўласную сілу, адно на свае намаганні. І — не чакаць імгненнай аплаты, узнагароды. І — не думаць пра магчымыя авансы. Работа — павінна быць цяжкай (на тое і работа!), шлях павінен пераадольваць перашкоды і адлегласці (на тое і шлях!). Вось і няма ўва мне шкадавання, вось і не чакаю я манны нябеснае. Маё — адно тое, што зраблю, што аддам.

Мне добра з гэтымі думкамі. Гэта рабочыя думкі. І хоць збіраюся ў Кактэбель, мару пра цёплае мора і гарачыя камяні, галоўнае жаданне — пісаць. Закончыць аповесць. Распачаць новы твор.

**3 ліпеня**

Гісторыя мастацтва — гэта гісторыя духоўнага развіцця грамадства. Па сутнасці, усе філасофскія плыні, усе філасофскія пошукі (да самых апошніх) знайшлі сваё адлюстраванне ў мастацтве (не кажу ўжо пра літаратуру!). А сёння? У тым і мера адказнасці, што перш чым пісаць, трэба адчуць — зразумець квінтэсэнцыю часу, сённяшняга дня. Не сённяшніх задач (хоць і гэта не лішне), а сённяшняга д н я , сённяшняга ўзроўню духоўнасці грамадства — чалавецтва. Словы гучныя, магчыма, не зусім дакладныя, але турботу, трывогу маю перадаюць. І не адно маю турботу і трывогу. Вось жа напісаў Бакланаў: «...Огромного количества книг вообще не существует, хотя они изданы, заполняют полки библиотек, прочитаны многими. Так, может быть, они хотя бы безвредны, если не думать о погубленных лесах? Да, мол, этот литератор ничего особенного не сделал в литературе... Ничего особенного? А он опустил читателя до своего уровня. Разве этого мало? И размывается грань между искусством, художественной литературой и поделками».

Узровень... Пісьменнік не мае права быць ніжэй узроўню свайго часу — тады яго папросту н я м а, ёсць чалавек, які штосьці піша, выдае напісанае за літаратуру, а пісьменніка няма. Чытача яшчэ можна апусціць да свайго ўзроўню (калі ён дачытае кнігу), час, грамадства — не.

Беднасць мыслення, вузкасць інтарэсаў (а то і адсутнасць іх), вяласць і абыякавасць сучаснай інтэлігенцыі, яе схільнасць паддавацца мяшчанскім настроям, мяшчанскім патрабаванням палохае мяне. Адкуль гэта? Не стае адукаванасці, культуры? Выпадковы выхад — праз прафесію — да пэўнай катэгорыі людзей, якія спрадвеку былі носьбітамі духоўнасці? Няўпэўненасць? Бязволле? Хутаранская псіхалогія (як цяпер модна пісаць)? Знайсці тлумачэнне — гэта знайсці прычыну...

Раптам з'явілася думка напісаць артыкул пра гэту небяспрэчную «г р а н ь» паміж мастацтвам і рамесніцкай работай — паміж высокай праявай духоўнасці чалавека і простай жыццёвай патрэбаю.

**4 ліпеня**

Шмат на якія думкі знайшла адказы ў пісьмах і роздумах Флабера (добра выдадзены двухтомнік яго стаіць на маёй паліцы). «Каб быць дужым, трэба быць сумленным». Адзін з ягоных прынцыпаў. І з маіх. Стаць «дзелавым» чалавекам, у сённяшнім разуменні слова, гэта стаць «лавачнікам». Гэта, на

жаль, даўно ўжо не проста сумная перспектыва чалавецтва, а ўсеагульная. І гэту ўсеагульнасць прадчуваў, прадказваў Флабер...

Як супраць яе змагацца, калі і двух чалавек не набярэцца ў маім акружэнні, хто б ні насіў у сабе гэту заразу, хто б працаваў не на патрэбу дня (і свайго жывата), а на перспектыву? Выплёўваць сваё абурэнне, свой пратэст у артыкулы або з трыбуны? Канчаткова адасобіцца ад усіх у «вежы са слановай косці»? Шукаць аднадумцаў?

Разумею: найлепшае — і адзінае, па сутнасці! — выйсце ў дзейнасці, у рабоце, у творчасці. А гэтага для мяне мала. Хацелася б штосьці зрушыць у людскіх душах, хацелася б быць не адзінокай...

**5 ліпеня**

«Духоўнае малакроўе» літаратуры — дакладны тэрмін Слуцкіса. Адно што не толькі літаратуры: духоўнае малакроўе грамадства, чалавецтва — сімптомы гэтага занадта часта становяцца яўнымі, літаратура толькі адлюстроўвае іх, хварэючы на тую ж хваробу, што і грамадства.

Вельмі дакладнае вызначэнне, метафарычнае, але дакладнае! Што героі жыцця, што героі літаратуры — ва ўсіх гэта духоўнае малакроўе, кожны і ўсе разам — перад пагрозаю поўнай бездухоўнасці. Можна, канешне, прааналізаваць гэта становішча, знайсці прычыны. Ды мне думаецца, што трэба шукаць не прычыны (тут мы знойдзем усё, чаго хочам!), трэба шукаць метады «лячэння», лекі. Каб ўратаваць у чалавеку чалавека. Каб ўратаваць будучыню.

Усё скручана ў адзін балючы, крывавы вузел: палітыка, эканоміка, маральнасць, прырода, культура... Вось і я не паставіла культуру наперадзе (як уелася агульшчына!), хоць разумею ж, што культура — адзінае, што звязвае паміж сабой стагоддзі, тысячагоддзі развіцця чалавецтва. Усё скручана ў адзін балючы вузел, і яго, гэты вузел, не рассекчы — яго трэба развязваць, здзіраючы пазногці, здзіраючы скуру на пальцах, развязваць... Гэта я таксама разумею.

**7 ліпеня**

Перачытваю Караткевіча. Які магут! Які беларускі! Так, так, мы, сённяшнія, ужо страцілі гэткае адчуванне мовы, ды і не толькі мовы — сваёй прыналежнасці да зямлі, да яе культуры, да яе гісторыі. Паэт, мысляр, майстар слова, Караткевіч быў сынам Беларусі — не беларусам па нацыянальнасці, не жыхаром гэтых мясцін, а сынам. Далёка не пра кожнага гэтак можна сказаць, далёка нават не пра кожнага слыннага...

Заўсёды думаю пра Караткевіча з гордасцю і болем. Заўсёды.

**18 ліпеня**

Больш думаю пра наступную кнігу, пра свой раман. Тое, што чытаю, дапамагае гэтым думкам. Свой — гэта глыбока з сябе, праз самае сутнаснае сваё — не выходзячы за рамкі жанру і выходзячы з іх. Сучаснасць — шырокае паняцце: часам здаецца, што я ведаю пра яе ўсё, бо належу ёй, як яна належыць мне, часам адчуваю, што паняцця гэткага ўвогуле быць не можа... Патрэбен герой. Шукаю героя і, знайшоўшы яго, матэрыялізую сучаснасць. Гэтак разумею. А ў якім часе будзе — і застанецца — жыць герой, не вельмі і важна. Важна новае адчуванне старых, як свет, ісцін, новае бачанне спрадвеку дадзенага чалавеку асяроддзя. Новае — маё! І, каб выказаць яго, патрэбна свабода. Свабода ўнутраная, якая адзіна і надае сказанаму адметную танальнасць, свабода, якую я хачу спасцігнуць, як і кожны, хто адчуў у сабе неабходную для гэтага сілу. І мужнасць...

**20 ліпеня**

Мора, яго неспакой, яго ўпэўненая сіла будзяць у душы прагу паэзіі, прагу слоў, якімі можна крануцца вечнасці. Адчуваю гэта глыбокае бражэн-

не, пах солі і ёду, пах прасторы — ветру, які перагортвае хвалі і дні. Здаецца, калі б засталася я адна, сам-насам з сабой, словы хлынулі б, змываючы каляровыя адбіткі сноў і нейкую няўцямную трывогу. Але застацца адной немагчыма, ніводнае хвіліны не бываю ў адзіноце, і трывога паціху змяняецца шкадаваннем... Шкада гэтых ветраных, поўных цяпла і абяцанняў дзён, шкада перабрадзіўшых і не выплеснутых слоў. Ледзь абудзіцца штосьці ў душы, штосьці светлае і журботнае, — і тут жа гіне.

Пах солі, ёду і прасторы... У гэткую спёку застойваюцца думкі. І нават усёмагутнае мора, варочаючы са сваёй вадой мае шкадаванні, нічым не можа дапамагчы. Астудзіць цела, змые з яго гарачыя сонечныя промні і адкоціцца. Адступіцца.

**29 ліпеня**

Завяршыла ўчора васемнаццатую частку аповесці. Баюся, што не ўсё ў ёй аднароднае, нават стылёва, бо занадта доўга, з перапынкамі над ёй працавала... Завяршаецца адпачынак, і я рада. Адпачыць, пэўна ж, адпачыла, а задавальнення няма. Хоць шмат чытала, шмат думала над будучаю кнігай, вывучала раман як ж а н р — стары раман і новы, на тых узорах, якія сама выбрала. І ўсё ж мне — не стае адзіноты. Не магу я ўвесь час быць на людзях, штосьці ўва мне было ўзвінчана і не адпускала ні на хвіліну. Нават у снах, цяжкіх, няўклюдных, ад якіх ніяк нельга было адпіхнуцца...

Як не стае свабоды! — не знешняй, не кімсьці дадзенай, а ўнутранай, д у х о ў н а й . Здаецца — ды не здаецца, я ўпэўнена, што скаванасць мовы ідзе ад гэтай вечнай скаванасці маёй, калі ўсё дзесяткі раз узважваецца, вымяраецца, прымяраецца да так званай грамадскай думкі. Працэс амаль падсвядомы, толькі зрэдку ўлоўліваю я трымценне нейкіх нябачных нітачак-повязей, але, разважаючы пра вынік, добра бачу прычыны (тыя нітачкі-повязі!), і пратэст выліваецца ў шкадаванне. Трэба імкнуцца да свабоды, трэба вучыцца ва ўсім і заўсёды заставацца сабой (здорава пра раздваенне асобы — душы — у Макса Фрыша!) — ва ўсім і заўсёды! І ў жыцці, і ў кнігах.

**1 верасня**

Што, калі будаваць раман, узяўшы супрацьлегла рознае ў аснову, — прыбегнуўшы да к а н т р а п у н к т а ? Кантрапунктная пабудова... Дзве абсалютна самастойныя лініі — не толькі псіхалагічныя, а і сюжэтныя, і часавыя: Ефрасіння Полацкая — Ефрасіння-маці, жанчына, якая выбрала служэнне Богу, — і жанчына, якая жыве вераю... Такая пабудова дасць мне магчымасць паставіць пытанне: у чым — прадвызначэнне жанчыны, як — яна ўплывае на свет. Цікава. Работа (пошукі псіхалагічнай дакладнасці) аграмадная, але гэта цікавая работа. І — яшчэ адно з самых балючых маіх пытанняў можа быць пастаўлена, можа быць разгледжана з такой пільнасцю, на якую ў мяне хопіць таленту. Што ж, буду думаць у гэтым накірунку: мажліва, у падобным супрацьпастаўленні хтосьці знойдзе надуманасць, а мне думаецца, што гэта два бакі аднаго пытання, дзве магчымасці аднаго лёсу, — часавая размежаванасць азначае роўна столькі, колькі заслугоўвае. У іх (гераінь) — роўная сіла імкнення, толькі гэта сіла скіравана на рознае. Гордая Ефрасіння Полацкая вучыла пакоры, пакорная лёсу Ефрасіння-маці вучыць гордасці, і яшчэ любові...

**3 верасня**

«Людзі жывуць у рэальным свеце, і ўсе іх сілы ідуць на тое, каб проста жыць.» Гэта — з развагаў Фолкнера і ўяўляецца дакладным. Жыццю і сапраўды няма справы да дабра і зла, бо яно, жыццё, — «гэта рух, і важна адно тое, што змушае чалавека дзейнічаць: амбіцыя, улада, асалода». І любоў! — дадала б я. І ў кожным выпадку чалавек вымушаны жыць з самім сабой.

Жыць з с а м і м  с а б о й... Як — калі і на табе грэх? Як — калі за табой няма граху?

Раман — гэта цэлы свет, гэта ў нечым новы свет, свет — у рэальным свеце. Я разумею. Таму і павінна ўсе бакі, усе далягляды ўраўнаважыць, і яшчэ — памятаць пра тое, што край далягляду можна ўсё-ткі прыўзняць, калі ў гэтым узнікла патрэба. І гэта — немалаважна.

**6 верасня**

Ефрасіння Полацкая, яе пошук Бога ў кожным чалавеку — і не толькі пошук, а жаданне, імкненне «вылепіць» Яго, Бога, у кожным сэрцы, і Ефрасіння-маці, якая падсвядома адчувае, што «боскім» з'яўляецца не сам Бог, а сведчанне пра Яго, і такое сведчанне ёсць яна сама, жанчына, з усімі марамі і памкненнямі. Яна пераканана, што адказная за ўсе свае справы і ўчынкі, і няма іншай сілы на зямлі і ў нябёсах, апроч яе самой, хто мог бы ствараць дабро і зло, няма сілы, апроч яе ўласнага сумлення, перад якой яна несла б высокую адказнасць.

Урэшце, асабістае рашэнне кожнага, яго выбар вызначаюць месца ў свеце, у барацьбе дабра са злом, і вызначаюць не адно вартасць яго асобы, але і вартасць таго ідэалу, якому ён служыць, за які змагаецца. І мае разважанні павінны абярнуцца шырокімі палотнамі, на якіх мне трэба н а п і с а ц ь жыццё, карціны жыцця, — гэта пакуль што ўтрымлівае ад першага кроку. Веру: і жыццё, і ўяўленне дапамогуць мне ў рабоце, калі я падрыхтуюся да яе, душу на яе настрою.

Любіць Бога (высокае, духоўнае) у чалавеку, любіць чалавека (не далёкага, не абстрактнага, а таго, хто побач, хто, як і ты, змагаецца з сабой і з абставінамі і спакусамі жыцця) — у чым гэта любоў? Пытанне, якое я толькі пазначыла ў аповесці «Час, калі нас любілі», хачу вырашыць на старонках рамана (магчыма, назва «Спакуса» больш дакладна пазначае задуму, чым ранейшая — мо таму, што спакуса і як слова, і як пачуццё больш старое, больш уласцівае кожнаму). Не варта прыспешваць сябе сёння...

**9 верасня**

Разбіраючы хрысціянскае вучэнне, адно і прыйшла да талстоўскага: дзе любоў, там і Бог... Гэта адпавядае таму, што хачу пісаць, што хачу сцвердзіць. Толькі пакутай, толькі мукамі нараджаецца духоўны свет — духоўны свет любога чалавека. І вось гэтая пакута, гэтыя мукі і ёсць жыццё, вартае «пяра», — пакута, мукі не напаказ, не як заслуга ці адзнака найвысокага лёсу, а як свядомае разуменне абавязку і абранасці. Не кожны, не ўсе — абраннікі любові, і калі нясеш ты ў сабе гэты дар, то павінен высока несці — высока трымаць яго агонь перад людзьмі, каб яны бачылі яго. Каб цягнуліся да яго — не паглядамі, а душамі, не толькі для таго, каб адагрэцца, а і кранууцца ісціны. Не дарэмна ж ісціна маральная і рэлігійная заўсёды і ўсюды адна і тая ж.

Два вялікія прынцыпы Хрыста: любоў да Бога, гэта значыць да абсалютнай дасканаласці, і любоў да бліжняга, гэта значыць да ўсіх людзей, прапаведаваліся ўсімі мудрацамі свету — ад Крышны і Будды да Талстога. Яны ўваходзяць ва ўсе вучэнні, нават самыя прагрэсіўныя, і не могуць брацца пад сумненне. І што ёсць жыццё, калі не вечны рух да дасканаласці? І што ёсць літаратура, калі не вечная спроба выграніць, вычарціць гэты рух у сэрцах і ў памяці?

Расці, духоўна расці, удасканальваючы, выхоўваючы сваю душу, можна толькі паасобку, кожнаму сам-насам з сабой! Адсюль і цяжкасць у паказе, у апісанні падобнага росту (пісаць можна толькі сваё?), адсюль і ўсе паражэнні пісьменнікаў, мастакоў...

**12 верасня**

Праседжваю ў акадэмічнай бібліятэцы. Не пакідае адчуванне: нават тое, што ў нас ёсць (а ёсць, захавалася не так ужо і мала), зусім не выкарыс-

тоўвае літаратура. Горкае адчуванне: збядняем жа сябе самі! Самі запісваем сябе ў «галоту», у дзяцей без роду без племені — у той час, як і род наш стаpainted ражытны і багаты, і духоўная спадчына немалая. Здавалася б, толькі чэрпай, аж не. Самі шчэмімся ў куток, прымаючы і пагаджаючыся на ролю правінцыйных літаратараў, самі круцімся на «выдзеленым» пятачку...

Так, так, пачуццё пераходзіць у пачуццё абурэння. І не так становішчам спраў, становішчам літаратуры, як абыякавасцю, дробязнасцю тых, хто ёй займаецца. І не ўсе ж займаюцца з разліку, ёсць — і нямала! — што пішуць па прызванні. Ах, як часта ў гэтыя дні ўзгадваю я пушкінскае: «Мы ўсе гультаяватыя і нецікаўныя». З горыччу ўзгадваю.

Кнігі, кнігі... У старых пераплётах, з крохкімі старонкамі... Баюся, што патану ў гісторыі, што не змагу спыніцца і захлынуся ў імёнах, бітвах за стол, царкоўных выкладках. Цікава — і страшна. Адначасова. І ўсё вяртаюся да сваёй задумы, як за тоненькую, апошнюю жывую нітачку, трымаючыся за яе, каб не згубіць, не страціць. Каб не выпасці з рэчаіснасці.

**18 верасня**

Час, мары, любоў, смерць... Кожны служыць (выбірае служэнне) адной якойсьці страсці — адной, якая (у ім) перамагае ўсе астатнія. Перамагае ў барацьбе. Часам у трагічнай барацьбе. Вось што трэба здолець паказаць.

**20 верасня**

Чаго я баюся? Што простая жанчына, маці, не ўраўнаважвае на шалях гісторыі жанчыну-асветніцу? Што яе клопаты ў параўнанні з клопатам Ефрасінні Полацкай будуць успрымацца занадта будзённымі? Што быць маці — вызначана самой прыродаю, а імкнуцца да высокага, да духоўнага змушае талент? Што духоўнасць першай іншага, больш высокага кшталту? Але тады — я заведама прымаю гэту ўстаноўку (не так сваю, як агульнапрынятую) і не варта агарод гарадзіць...

Не, не! Тут жа сам падыход павінен быць іншы: не знакам роўнасці трэба спалучыць розныя лініі ў рамане, а знакам множання (толькі мінулае, памножанае на цяперашняе, дасць будучае — прыкладна так?). Часы ж нельга разарваць у сапраўднасці, як разрываеш іх у думках, ва ўспрыманні сваім. Вось і ў рамане важна не разарваць іх, як яно і ёсць у непарыўным бегу гадоў, стагоддзяў. Нічога не вырастае на пустым месцы, ні ў кім не вырастае пустата. Чалавек вырастае са свайго мінулага, і гэта м і н у л а е ўключае мінулае цэлага роду, народа. Як гэта паказаць, як здолець напісаць вобразна, жыццёва, цяпер і шукаю...

**25 верасня**

Лёгка сказаць: звязваючы... Як — звязваючы? Чым? Сваім пошукам? Не знаходзіцца чыста сюжэтны ход. І лінія Ефрасінні Полацкай, і лінія маці маглі б ужо будавацца, святлінка за святлінкаю, сумненне за сумненнем, — а вось звязак, масткоў усё яшчэ няма. Яны і патрэбны — лёгкія, амаль незаўважныя, сэнсавыя, а вось адкідаю прыдумкі адна за адной: не тое! Глеб жа (мастацтва!) — не галоўная лінія, мастацтва не можа ўзвысіцца над жыццём — яно толькі «раствор», які мацуе гады, стагоддзі. І чалавечыя мары...

Мо і пакутую ад таго, што не магу (пры тым, што аддаю і сваё жыццё мастацтву) узвысіць мастацтва, паставіць яго н а д. Н а д — яно нікому не патрэбнае. У яго свая праўда, хай так, але праўда — патрэбная жыццю, ж ы в ы м! Гэта звязвае рукі, адсюль — пакута, пакутнае імкненне спалучыць неспалучальнае, змірыць дух з неабходнасцю. Як?

«Падняцца на кропку, з якой бачыш сябе. Усё ў гэтым». Ці знайшоў — пасля гэткага пакутнага пошуку — тую кропку Талстой? Гэтага дасюль не могуць высветліць даследчыкі. Хоць высвятляць, магчыма, і не варта... Га-

лоўнае — сам пошук, сам пакутны пошук, які ішоў у ім. Як павінен ісці ў кожным, хто задумваецца над сваёй асобаю, над сваім прызначэннем.

**27 верасня**

Напісаліся першыя дзве старонкі рамана. Зусім нечакана. Рука сама пачала запісваць, як я ні ўтрымлівала яе. Баюся, што ўсе мае знойдзеныя ў думках хады і лініі саступяць таму патоку слоў, патоку свядомасці, які хлыне на старонкі. Баюся загадваць наперад, нават на ход наперад — цяпер спатрэбіцца іншае. Цяпер трэба, каб не згасала тое паліва, не закончылася тое паліва, якое ўспыхнула само па сабе, якога павінна хапіць на доўгія месяцы работы.

**14 кастрычніка**

«Я очень хорошо знаю это чувство — даже теперь последнее время его испытываю: все как будто готово для того, чтобы писать — исполнять свою земную обязанность, а недостает толчка веры в себя, в важность дела, недостает энергии заблуждения — земной стихийной энергии, которую выдумать нельзя. И нельзя начинать». Гэта — Талстой. Якая дакладнасць! А я — пра страх, пра тупік...

Адключыўшы тэлефон, ад свету не адключышся. І ад сваіх думак таксама, якімі б бяссільнымі яны ні былі. І першы крок, і наступны — трэба рабіць самой. Няўпэўненасць — ад таго, што шмат чаго хачу сказаць, заглыбіўшы напісанае раней, знайшоўшы тыя словы, пра якія сама яшчэ не ведаю, якія прыйдуць у выніку даследавання сябе і свету. Так, так, найперш — сябе, потым — праз сябе — свету. Інакш не бывае. Інакш немагчыма. Якую эпоху ні вазьмі, у якога творцу ні ўзірайся — усё праз адну душу ішло. Адну. Вялікую. Канкрэтную (як ні дзіўна гэта гучыць у адносінах да душы). І нічым — ніякім сабраным матэрыялам — гэтага не заменіш.

Колькі б і хто ні казаў сёння пра «мантаж» як пра новы ўзровень творчай думкі, мантаж і ёсць мантаж: не дарэмна ж у першую чаргу гэта адносіцца да складвання, сашчэплівання гатовых, стандартных блокаў, дэталей. Мастацтва можа выкарыстаць і мантаж — чаму ж? — але толькі калі яно — у ж о мастацтва. Вось чаго той-сёй заведама не хоча ўразумець.

**19 кастрычніка**

Б'юся над пытаннем: хто — сённяшні герой? Хто нясе веру, на кім трымаецца маральнасць? На старой Ефрасінні? Тады я проста «прадоўжу традыцыю» і выведу яшчэ адну «бабулю», не вырашыўшы галоўнага: хто нясе, хто панясе ў заўтра нашу новую веру. Глеб? Але ж у ім увасоблены творчы пошук, творчыя сумненні сучаснага інтэлігента — у жыцці ж ён « такі, як усе», як большасць, ужо заражаны вірусам мяшчанства. На чым я будую сённяшні канфлікт? На тым, што дзеці любяць сваю маці і пакідаюць яе? Мала.

Мо супрацьстаўляць не веру, а віну і адсутнасць віны?

Уся класічная літаратура будавалася на тым, што чалавек — рана ці перад самай смерцю — адчуваў сваю віну: ці то перад Усявышнім, ці то перад бліжнім сваім, ці то перад самім сабой. На гэтым адчуванні віны (свядомым або падсвядомым) трымалася мараль (не што іншае, дарэчы, як віна, і адпушчаныя царквой грахі). Мо тое, што сёння гэткі нізкі ўзровень маралі і нават літаратура ўгразла ў побыце і спажывецкіх памкненнях, нейкім чынам вытлумачвае а д с у т н а с ц ь в і н ы : нават закаранелыя зладзеі не раскайваюцца, нават паэтам не баліць... Жахлівая выснова, нават калі яна памылковая!

І ўсё ж, чым больш думаю, тым больш перакананая: няцвёрдая вера або адсутнасць яе (як часцей і здараецца цяпер) здымае вінаватасць, адказнасць за зло, якое чыніцца ў свеце і зусім блізка, побач — нічога ж новага (я гавару не пра рэлігійную веру і яе страту: верыць можна і ў чалавека) чалавецтва ўзамен не прыдумала. А без веры, без пэўнай святыні шлях адзін — да рас-

пусты, да ўсякага роду «извращений», без адчування віны, балючай віны за кожны ганебны ўчынак ці душэўны зрух — няма руху да дасканаласці...

Сумна. З падобнымі думкамі — сумна. Бо хоць і вытлумачваюць яны што якое ў сучасным чалавеку — рашэння не прапануюць. Мне ж трэба прыўзняць чалавека над часам, каб ён — і я! — убачылі шлях, убачылі далеч наперадзе. Мне не патрэбна канстатацыя, няхай нават і дакладная. Не, не! Задача мастацтва (для мяне, ва ўсякім выпадку) у іншым.

**31 кастрычніка**

Такое ўражанне, што я не пішу пакуль што, а толькі будую, выбудоўваю каркас рамана: усё павінна яшчэ абрасці плоццю, абрасці неабходнымі дэталямі, падрабязнасцямі, рысамі і рысачкамі, непадробнымі, адзіна неабходнымі жэстамі. Каркас — гэтаксама важна, і ўсё ж, і ўсё ж... Мо давядзецца ўсё пачынаць спачатку, і неаднойчы.

**12 лістапада**

Прапанавалі творчы вечар у Саюзе. Два дні вагалася, але прапанову прыняла. Трэба рызыкнуць: «разумная ж дзеўка», як сказаў Вашчанка, няўжо не здолею? Работа падрыхтоўчая вялікая, але калі ж я баялася работы? І для сябе, і для іншых сёе-тое высветліцца.

Канешне, можа не сабрацца (пры нашай арганізацыі) аўдыторыя, могуць паспрабаваць справакаваць якім-небудзь пытаннем знянацку. Канешне, ёсць магчымасць папросту не справіцца з напружаннем, псіхалагічна не справіцца, і ўсё ж... Я павінна зрабіць усё магчымае і немагчымае, каб справіцца, каб адолець і гэту прыступку. Свядомасць — годнасць — гонар... Гэта ўсё ўзаемазвязана і ўсё ў характары, трэба пераадолець характар, сабрацца на гэтыя паўтары-дзве гадзіны, знайсці кантакт з залаю, перадаць ёй сваё хваляванне, сваю трывогу. І — сваю канцэпцыю мастацтва, сваё разуменне паэзіі і боль за яе. Ці змагу, пакажа вечар, які стане пэўнай вяхою (павінен!) і падвядзе вынікі тых пятнаццаці гадоў, што я працую ў літаратуры.

**13 лістапада**

Сучаснікі... Кожны з тых, хто жыве сёння, мой сучаснік. Але як жа не сказаць і пра іншае? — мае сучаснікі і Пятрусь Броўка, які (прыгадваецца) на здымках у Батанічным садзе некалі, здымаючыся ў дакументальным фільме, яму прысвечаным, і размаўляючы з маладзейшымі (Г.Бураўкіным і мной), усё гаварыў, усміхаючыся, апературам: «Ну, што вы з мяне камер не зводзіце? Вы жанчыну, маладую прыгожую жанчыну здымайце!» Я добра помню ўсмешку Аркадзя Куляшова, асветлены ўсмешкаю твар яго ў часе гаворак ці выступленняў, і яшчэ той дзень, калі ў зале Дома афіцэраў была наладжана сустрэча з вядомымі пісьменнікамі краіны і на авансцэну выйшаў Канстанцін Сіманаў і сказаў: «Першым, каго трэба было назваць тут, у гэтай зале, — вялікага савецкага паэта Аркадзя Куляшова». І зала — усе, як адзін, — устала і знерухомела...

Як не ўзгадаць вечар Аляксея Пысіна ў Саюзе пісьменнікаў, калі мы — Жэня Янішчыц, Рая Баравікова і я — з васількамі ў руках дрогкімі галасамі чыталі вершы паэта, а ён, усхваляваны, падняўся насустрач нам, насустрач кветкам... А Уладзімір Караткевіч!

А хіба Кандрат Крапіва, якому вясной споўніцца дзевяноста, — не наш сучаснік? Ён жа з неаслабнаю ўвагаю сочыць за творчасцю маладых і цяпер... Нельга без хвалявання гаварыць пра Пімена Панчанку і Максіма Танка, якія, прачытаўшы кнігу, абавязкова адгукнуцца, павіншуюць, скажуць колькі добрых слоў... Усе яны — мае сучаснікі!

Наогул, занадта часта мы, гаворачы пра сучаснікаў, згадваем прайдзісветаў, зладзеяў ці проста бяздушных людзей і чамусьці не задумваемся,

што жывём у час вялікіх здзяйсненняў, побач з людзьмі сапраўды вялікімі і сваімі справамі, і сваімі душамі.

**16 лістапада**

Заўтра еду ў Полацк. Хачу пахадзіць па яго вуліцах, пастаяць над Дзвіной і Палатой. Хачу ўбачыць горад даўнейшы і сённяшні, убачыць землі, якія льга ўбачыць, падняўшыся на вышыню Сафійскага сабора — Сафійкі... Не ведаю, што і як удасца ўбачыць і адчуць, — для далейшай работы паездка проста неабходная.

**27 лістапада**

Пайшоў снег, і адразу стала па-зімоваму светла (о, калі б у душу гэта святло!), і адразу неадчэпным стала адчуванне, што заканчваецца яшчэ адзін год жыцця. Яшчэ адзін... Колькі іх наперадзе? Многа? Мала? Шкада, наперад не палічыш. Інакш можна было б лепш размеркаваць сілы.

Зусім аддалілася (унутрана) ад людзей, часам толькі намаганнямі памяці пазнаю добрых знаёмцаў. Устрывожылася б, калі б не разумела прычын (у такім душэўным стане некалі пакідалі свет дзеля манастыра ці скіта), калі б не прагнула яшчэ большай адзіноты і адгароджанасці. Палохае толькі адно: слабне, змяншаецца цікавасць да распачатага рамана, і чым гэта ні вытлумачвай (бальніцы, хвароба мужа, бязрадаснасць сустрэч з сябрамі), усё роўна прыкра. І страшна. Бо героі ж ужо зрасліся са мной, сталі часткай мяне, і загубі я зараз іх — сябе загублю.

Сумныя думкі, а ніяк з іх не выцерабіцца.

**20 снежня**

Якая ўсё-ткі мука — жыць побач з хваробаю, з болем іншага і не ўмець, не здолець як-небудзь гэты боль аблегчыць! Сэрца змаглося, рукі ні на што не падымаюцца. А тут яшчэ аўтарскі вечар наперадзе... Мне здаецца, што я ўсё гэта папросту не пераажыву. Здэцца, стала б пасярод горада і загукала — гораду, людзям, небу: за што?! за што гэта ўсё на мяне? Не паспяваю з аднаго выкараскацца, навальваецца іншае...

**29 снежня**

Вось і застаўся ў былым аўтарскі вечар. І год... Цяжкі гэта быў год. Адзінае спадзяванне (праўда, слабое) на тое, што мо якая палёгка будзе налета. Ці будзе?

Вечар... Вечар прайшоў, па сутнасці, так, як задумвалася, хоць Саюз зрабіў, здэцца, ўсё, каб ён праваліўся, — нічога не зрабіў, апроч таго, што былі падключаны мікрафоны і на століку стаялі пяць кветчын і бутэлька вады. І ўсё ж, усё ж вечар стаў святам — і для мяне, і, у нейкай ступені, для залы, не набітай бітком, але і не паўпустой, як сёй-той спадзяваўся. Кантакт з залаю ўжо хвілін праз дзесяць быў наладжаны, перамога — усё ж за мной. Аляксей — малайчына. Наогул, юпіцеры, скіраваныя на сцэну, высвецілі якраз сёе-тое ў глыбіні пражытых мною ў Мінску гадоў, у натоўпе людзей, якія ўсе гэтыя гады былі дзесьці побач, ці нават сярод сяброў. Цудоўная штука — святло!

## 4. ГОД 1986-ты

**4 студзеня**

Думкі — дзякуй Богу! — вярнуліся да рамана, і адразу лепш сябе адчуваю: быццам энергіі дадалося. Цяпер галоўнае: напружваць, нацягваць сюжэтную ніць, каб яна стала спружынаю ўсяго дзеяння і не разгіналася павольна і абыякава, а стрэліла ў патрэбны момант і ўзняла, прыўзняла падзеі над будзённасцю. Падзеі і герояў...

У роздуме пра аповесці апошніх гадоў Паўла Дзюбайлы нямала радкоў і пра аповесць «Жывыя жывуць». З аднаго боку ён адзначае: «новы, цікавы паварот у раскрыцці памяці вайны ў нашай літаратуры. Не толькі адчуванне незваротнасці таго, што адбылося, цяжкая памяць удоў і сірот аб ахвярах, але і неабходнасць пераадолення трагізму, неабходнасць жыць у імя сучаснасці і будучыні». З другога боку: «шмат прэтэнцыёзнага, фармальна-штучнага», дзе «залішне паэтызмаў». І яшчэ: «аповесці бракуе аналітызму».

З «аналітызмам» яшчэ пагадзіцца можна, што ж да «прэтэнцыёзнасці і фармальна-штучнага» — дудкі ім, усім крытыкам! Гэтак засушылі прозу, што не прачытаць, не пракаўтнуць кнігу сяго-таго з хвалёных... Не, не! Проза павінна быць паэтычнаю, інакш гэта казёншчына ці апісанне — па чарзе — падзей і людзей. У гэтым я цвёрда перакапана, і ніводнаму крытыку не збіць мяне з панталыку.

Мне — працаваць, ім — потым — разважаць пра зробленае.

**10 студзеня**

Чарговая авантура вакол майго імя, зноў — сяброўка. Гэта ўсё — і назаўсёды — вызначыла ў нашых адносінах надалей. Ніякіх кантактаў. Ніякіх! Дробненькая подласць пацучыная (якая па ліку ўжо!), але ўсе далейшыя яе подленькія «прыцмокі» будуць у мяне за спінай — як за сцяной. Для мяне яе больш няма, душа ачысцілася, і назаўжды. Два дні выбіралася з гразі, два дні страчана для работы...

Што ж, менш яшчэ на адну ілюзію, і яшчэ больш шчытна ахінае мяне адзінота. Ах, якая праўда была ў словах Руксанды! Якое шчасце, што ў мяне ёсць мая справа, што неба адарыла мяне сілай несці яе груз! Інакш даўно трэба было б накласці на сябе рукі...

У жыцця нічога не папросіш — такія, як я, не просяць.

Колькі разоў давала сабе слова абмінаць гэта балота, плюнуць на гэтых мярзотнікаў, а атрымліваецца — не магу. На мярзотнікаў плюнула б — як плюнуць на справядлівасць, якую яны топчуць, на паэзію, якую яны забруджваюць? Ліха б іх усіх узяло з іх гнілымі амбіцыямі! На што трачу сілу? На каго?!

**16 студзеня**

Не магу працаваць. Відаць, зашмат варожых, брудных слоў і касых паглядаў у мой бок — душа не можа абараніцца. Знешне: нават усміхаюся ў іх твары, калі лаўлю насцярожаны, злосны позірк, у душы — плачу. Неяк вельмі ціха і вельмі горка. Хоць загадзя знала, што буду «выбіта» з работы, што буду хапацца за таблеткі, а заява практычна нічога не зменіць...

**19 студзеня**

Хочацца нейкай радасці — чыстай радасці, выпадковай, падобнай на цуд! Душа ссумавалася па святле — у вечных сваіх клопатах, у штодзённай працы цяжкой не знаходжу адхлання, часам здаецца: не знаходжу ніводнае святлінкі. Няшчырасць сяброў, двурушніцтва «дужых свету гэтага», цягамотнасць службы, дыета мужа... Не заўсёды ўяўленне можа перамагчы гэту абрыдлую прозу, гэту будзённасць, азмрочаную тымі ці іншымі дробненькімі падзеямі, тымі ці іншымі брудненькімі словамі. А трэба б, каб заўсёды. Як? Якім намаганнем?

Дзякуй Богу, адпрэчыла гнуснасць апошніх дзён. Усе наступныя дні — для работы. Пачатак ёсць.

**24 студзеня**

Пасля гнусненькай ухмылкі Ніла, якую ён ніяк не мог зглынуць, седзячы перада мной, трэба было бачыць яго скрыўлены твар на партсходзе: выступіла рэзка, у нечым нават бязлітасна — супраць яго, супраць яго сты-

лю кіраўніцтва. У зале была мёртвая цішыня — пры начальстве ж! Ён палез абараняцца — гонар сваёй «пратэжэ» адстойваць, хоць і дваццатай часткі майго выступлення не склаў той абзац з ліста, дзе тычылася непасрэдна яе.

Горкі-горкі прысмак у гэтай маёй «перамогі», але я сама сабе не пакінула выбару: мяне ніхто не абараніў на прэзідыуме, добра, што на сходзе В. заняў сумленную пазіцыю, — што ж, як кажуць, кожны праглынуў сваю пілюлю.

Паклялася сабе ўчора, што гэта маё апошняе публічнае выступленне — досыць! Міжволі рукі запэцкваеш, дакранаючыся... А галоўнае: нічога не зменіцца, нічога гэта не зменіць! Дык навошта душу атручваю?

Работа, работа і толькі работа! — нікуды больш ні нагой. Нават тэлефон трэба адключаць ад гэтай балбатні вакол ды навокал. Ах, як горка ад усяго гэтага, як балюча!

**29 студзеня**

Вышэй абставін... Колькі разоў я імкнулася і магла быць вышэй абставін, а зараз баюся, што яны мяне змогуць. І якой дробнай, не вартай сілы і ўвагі здаецца ўся гэтая «саюзаўская валтузня» побач з жудаснай пакутаю чалавека, блізкага чалавека, якому нельга дапамагчы. Медыцына адступаецца (о, гэтыя дзьмутыя амбіцыі замест душы!), пакідаючы чалавека самнасам са сваёй мукай, а мне — мне! — што рабіць? Не магу працаваць, не магу спаць, не магу — жыць.

**16 лютага**

Было цікава паразважаць над жывапіснымі палотнамі Валодзі Тоўсціка — над бачаннем чалавека і прыроды маім сучаснікам, маім аднагодкам (каторы ўжо раз заўважаю, як актывізуецца думка ў часе цікавай гаворкі ці работы над артыкулам). Гэта ж зусім асаблівы і зусім не даследаваны мастацкай крытыкай пласт — свет! — дзе ледзь не навобмацак рухаешся, стараючыся спасцігнуць новыя законы (новыя — у падачы), новыя ўяўленні. Не так ужо шмат дасягнута пакуль што Уладзімірам, а шлях — надзвычай цікавы. Надзвычай своеасаблівы. (Зірнуць бы, як ён вырашыць мой партрэт, распачаты нядаўна?)

**20 лютага**

Дапісала нататку пра Еўдакію Лось, сяджу з думкамі пра сябе (сёння споўнілася... ат, што падлічваць гады!): мала працую, злачынна мала! І ніякія абставіны мяне не апраўдваюць — не апраўдаюць. І стома, перагрузкі тут ні пры чым. Гэта ад уласнай несабранасці, ад бязволля і ляноты, якія — ледзь расслаблюся — тут як тут: угаворваюць адпачыць, нашэптваюць пра марнасць намаганняў і нейкае «сапраўднае», яркае жыццё. Во да чаго даходзіць! Добра, што ўсё-ткі часта праціўлюся, уступаю ў барацьбу і зноў — і зноў! — абкладваюся кнігамі. Сябры мае кнігі! — што б я рабіла без іх, без іх падтрымкі і разумення? З людзьмі так не бывае... З людзьмі... Не перастала любіць іх, не магу прымаць іх з ранейшым захапленнем — і адсюль загарадкі, цяпер ужо бясконцыя загарадкі паміж мной і ўсімі... Так нельга. Так нельга! — паўтараю сабе ўсё часцей, і нічога не магу з сабой зрабіць. Любоў стала нагадваць шкадаванне. Шкадаванне...

Павіншаваць сябе з днём нараджэння, ці што?

**23 лютага**

«Воблікі ці вобразы?» — назвала сваю нататку пра Міколу Селешчука, самой назваю падкрэсліваючы кірунак разважанняў (пад такой назвай можна было б весці дыскусію пра задачы мастацтва і кожнага з нас). Упершыню шкадавала, што звязана памерам артыкула: разважаць было цікава. Магчыма, як-небудзь вярнуся да распачатай гаворкі.

Пазнавальныя воблікі жыцця, сучаснікаў... Паказаць іх важна, у гэтым ёсць пэўная неабходнасць. І ўсё ж задача мастацтва — большая. Значна большая. Таму і не дацягваюцца да яе (вельмі часта) сучаснае мастацтва, сучасная літаратура, што не здольныя пераплавіць воблікі ў вобразы. Вось і вандруюць з кнігі ў кнігу, з палатна на палатно лёгка пазнавальныя твары, рэчы, краявіды, і марна шукаць у іх вобраз сучасніка, сучаснасць — твары не запамінаюцца, названы, паказаны чалавек не становіцца героем.

«Трэба быць бліжэй да жыцця! Трэба ісці вывучаць жыццё!» — толькі і чуем на працягу многіх дзесяцігоддзяў, і вось робяцца і робяцца ўсё новыя калькі з убачанага (павярхоўна, канешне ж!), «вывучанага» — і ўсё гэта мёртванароджаныя творы, бо каб удыхнуць у іх жыццё, мастаку трэба мець чыстае дыханне — у я ў л е н н е . А ўяўленне (яго можна назваць і паэзіяй) быццам праганяецца, быццам знарок прыніжаецца і — не падключанае да напружанай работы — адмірае... І мы — згаджаемся?! Бог знае што!

Воблікі ці вобразы? Канешне ж, вобразы!

**24 лютага**

«Касандра» Крысты Вольф — мая Ефрасіння? Супрацьлегласць яе? Ефрасіння — Касандра, якая перамагла ці хоць бы магла перамагчы? Якая не дазволіла сабе страціць веру? Якая не слязьмі — справаю! — упісала сваё імя ў гісторыю? Касандра — пераможаная! — таямніца Ефрасінні?

Пытанні ўзнікаюць міжволі. Задача ў мяне тая ж, што і ў Вольф, падыход да яе — іншы. У маёй Ефрасінні б ы ў шлях! — гэты шлях мог бы быць маім, па сутнасці, і стаў маім. Вядзе ж — справа! Справа, і яшчэ — воля. Вядзе не да «таго месца, якога няма на зямлі: да вар'яцтва», а — ад яго. Да надзеі. Да цьмянай, ледзь бачнай у свеце, апанаваным страхам, — і ўсё ж бачнай, жывой! Не «да», а «ад», хоць і праз тыя ж кругі болю, пакуты, адчаю і шкадавання. Праз тыя ж... Таму, прачытаўшы «Касандру», усхвалявана. Нават тое, што не мае, што чужое мне, хвалюе. Быццам закранута ўва мне — і ва мне! — штосьці глыбокае, нікім ніколі не кранутае дагэтуль. Я — змагу так глыбока, так адкрыта?! Так глыбока — праз сябе? Ці і не трэба так зашмат праўды?

**2 сакавіка**

Побач з Ефрасінняй з'яўляецца новая гераіня Еўка, тая светлавалосая дзяўчынка з буды скамарохаў, якая сустрэлася на яе шляху ў манастыр. Праз яе — шаляніцу — змагу паказаць няпросты лёс жанчыны ў тыя часы (як і ў любыя!), лёс, які адценіць лёс самой Ефрасінні. Еўка спазнае каханне — моцнае, усёпаглынальнае, а яе каханы, вой з княжай дружыны, акажацца не проста здрадцам — мярзотнікам, ён «прагоніць» Еўку па руках усіх, хто схоча, калі яна збяжыць ад бацькі, каб сустрэцца з ім, і загубіць яе. Як і яе бацьку, які кінуўся следам...

Шаляніца Еўка — побач з разумнай, знешне халоднай, спакойнай Ефрасінняй, якая ў снах паўтарае дарогу той... Гэта магутная апора ўсяму сюжэту, адна з такіх. Вырысавалася амаль адразу. Нечакана. Сцэну побач з дзядзінцам ужо пішу. Спатрэбіцца песенька, якую будзе мармытаць Еўка, — гараджане ўгледзяць у ёй заклік да бунту, Ефрасіння — водсвет таленту, загубленай таленавітай душы.

**19 сакавіка**

Раман забірае ўсе думкі, увесь час. Лаўлю сябе на тым, што ў рэдакцыі стала проста адбываць час. Нешта раблю, нешта чытаю, а сама — адсутнічаю. Занадта вялікая псіхалагічная перагрузка — душа нічога, апроч лёсаў маіх герояў, не прымае. Нагадваю часам абалонку сваіх думак: гэткая знешняя абыякавасць і неўспрымальнасць...

**21 сакавіка**

«Няма ў табе чалавек нічога, апроч душы!» — вельмі ўдалы эпіграф да майго твора.

Вялікі пісьменнік тым, мажліва, і вялікі, што, апісваючы жыццё, жыццёвыя падзеі і чалавечыя лёсы, штоміг помніць пра чалавечую душу — пра душу! Якая ва ўсім — усё, чаго кранаецца чалавек, адухоўлена ім, яго душой, і перадаць гэта на словах няпроста, амаль немагчыма. Магчыма — вялікім.

Калі ёсць душа, значыцца, няма, не можа быць безвыходнасці і нават трагедыі, якія дыктавала, здавалася б, сама смерць, — паміралі героі, жыць заставаўся іх дух, з намі (у нас) заставаліся іх душэўныя мукі, спадзяванні. Калі няма душы, значыцца, няма, не можа быць душэўнае мукі, душэўных сумненняў і спадзяванняў... Занадта проста выказваюся, але я ўсё часцей думаю, што з таго часу, як мы сталі пазбягаць (ці саромецца?) гаворак пра душу чалавека (пра чалавека!), літаратура паціху робіцца нейкай бездухоўнай, духоўна малакроўнай. Апісальнай. Больш таленавіта, менш таленавіта выбудаванай па добра вядомых жыццёвых мерках.

Можа, адсюль цікавасць да гісторыі, да асобаў у гісторыі, чый дух лунае і над нашым часам?

**26 сакавіка**

Сонца па-вясноваму ненасытна п'е з ручаёў і ручаінак, па-вясноваму прагна ўзіраецца ў кожную сухую зёлку, у кожнае кінутае шкельца, саграючы ці расквечваючы іх, і душа міжволі цягнецца да яго, таксама цягнецца, каб адагрэцца, каб адчуць абнаўленне, як адчувае яго ўся прырода, каб адчуць прыліў новае сілы. Ці адчуе? Ці адагрэецца?

Дзіўна: даўно не адчуваю холаду і — прагну цяпла! даўно адагнала тугу па вясне, па вясновым абнаўленні і — па-дзіцячы радуюся вясне, вясноваму сонцу! І калі раней увесь час чакала чагосьці кепскага, непрыемнага (невядома чаго!), то зараз жыву чаканнем чагосьці светлага, радаснага (чаго?). Дзіўна. Незразумела. Невытлумачальна.

**4 красавіка**

Цяжка даецца кожны артыкул: думка, па нейчым трапным выказванні, хоча паляжаць на канапе... А трэба ж тузаць яе, трэба шукаць дакладныя словы і не адступацца. Пакуль не пачне выбудоўвацца канцэпцыя, кампазіцыя. Здэцца, паслала б усё да д'яблавай бабкі, а не-е... Пішу. Выцягваю з сябе новыя і новыя словы — балюча, як жылы, выцягваю. Цьфу! Незайздросная гэта работа — разважаць пра творчасць каго іншага. Нават калі гэты «іншы» — цудоўны пісьменнік, адзін з т в а і х пісьменнікаў. Нават калі бачыш, знаходзіш карысць у падобных разважаннях. Уяўленне змушана адключацць...

Ну, усё! Засталася якая драбяза: старонка, паўтары старонкі... Можна не лічыць. І, нарэшце, узяць у рукі адкладзены рукапіс, учытацца ў напісанае, увайсці ў задуму. Нарэшце!

**10 красавіка**

«Дакументаў эпоха пакідае шмат. Літаратура ж — гэта мысленне, асэнсаванне таго, што ў гэту эпоху адбываецца», — з выступлення Л. Лявонава (запіс 1979 года трансліраваўся толькі ўчора), якое слухала з цікавасцю: умелі яны мысліць і выказвацца арыгінальна! Відаць, яны ніколі не разменьваліся на дзесяткі неабавязковых спраў і (галоўнае) размоў — не адно з адказнасцю ставіліся да слова, да сваёй работы, а з душэўным трымценнем і з любасцю. І верылі. Верылі, што літаратура шмат што можа, смее і павінна смець. Я ўвесь час пыталася ў сябе: а ў мяне ёсць такая вера? А я спрабую асэнсаваць эпоху (не сённяшні дзень — эпоху!)? Я — за што змагаюся?

Зачапілі душу словы старэйшага пісьменніка. Глыбока зачапілі. Безумоўна, я стараюся ставіцца да свайго прызвання сумленна (як і да работы), а ці досыць гэтага? Ці ёсць у душы тое, што патрабуе вось гэтага «смецъ»? Дзеля чаго — мусім «смець»? Сёння не адкажу, не ведаю...

**22 красавіка**

Заўтра і паслязаўтра будзе працаваць пісьменніцкі з'езд. Здзіўляюся сваёй абыякавасці. Мяркуючы па гаворках, пасяджэннях і публікацыях у друку, усё зноў звядзецца да высвятлення кожным адносін да сваёй асобы. Крышачку ж завостраная падача... Яшчэ тры-чатыры гады таму я выступала нават з больш вострымі пытаннямі, ды хто прыгадае?

Штосьці ўва мне адмерла — быццам абарваліся ўсе жывыя нітачкі, што звязвалі з маім асяроддзем, усе да адной. Недзе адразу за крок ад стала — пустата... Не, я хаджу на абавязковыя пасяджэнні, адказваю на тэлефонныя званкі, абмяркоўваю нейкія праблемы і праблемкі ў рэдакцыі, калі заходзіць хто з пісьменнікаў, але ўсё гэта больш не хвалюе. Зусім (нават страшна) не хвалюе. Пуста — ні душы вакол (гэта пры той штурханіне, што не спыняецца?!.).

Ніколі не «ваявала» я за месца (ці месцайка) пад сонцам. Ніколі. Прагнула — і дамагалася — справядлівасці для ўсіх, спрабавала бараніць паэзію ад дзяляцтва і хіжасці, і ўсюды натыкалася на сцены. Не тое што вырашыла адступіцца — зразумела ўсю марнасць намаганняў...

**21 мая**

Шмат думаю над раманам. Пакутую ад думкі, што ён атрымліваецца расплывісты і амаль бесканфліктны. Ну, не лічыць жа за канфлікт тое, што не прымаецца сцэнарый фільма ў тым выглядзе, у якім прапанаваны. Ці адарванасць Барыса і Глеба ад маці, ад вёскі, якая сама па сабе — адно прыкмета часу...

Бесканфліктнасць якраз і не дае нікому ў рамане вырасці да героя. Ёсць персанажы (адны больш удалыя, другія менш), а героя няма. Мажліва, таму і буксуе дзеянне: яшчэ адна сустрэча, яшчэ адна гаворка, яшчэ адна сцэна — а далей? А ў выніку?!Чаму зварот Глеба да гісторыі вызначае яго жыццё, яго думкі? У чым вінавата Ефрасіння перад сваімі дзецьмі — і ці вінавата? Які ён, час, і чаму не могуць падзеі прарваць яго абалонку? У чым роднасць і рознасць двух такіх далёкіх стагоддзяў?

Мне цяжка ўбачыць цэласнае палатно (напісана ж усяго трэць), і незадаволенасць, няўпэўненасць растуць, перашкаджаюць працаваць. Яшчэ раз вярнуцца да завязкі? Яшчэ раз пачаць усё спачатку, наноў? Ці кінуць, не прайшоўшы і паўдарогі? Пытанні, пытанні... Пакутую ад гэтай сваёй няўпэўненасці — ад здрады сваім героям. Так, так, здрады! Удыхнула ў іх жыццё і кідаю...

**23 мая**

З'явіўся артыкул у «ЛіМе» «Суровай прозы прыцягненне», напісаны Т. Грамадчанка. Дзіўны ў яе падыход: падабаецца — не падабаецца... Пераказвае змест і робіць высновы: «Вобраз гераіні адштурхвае, хоць, відаць, павінен прыцягваць ці па крайняй меры выклікаць спачуванне, бо аўтар, думаецца, ставіла за мэту паказаць не адмоўную, а станоўчую гераіню». Мусіць... думаецца... О, ужо гэты вечны падзел на адмоўных і станоўчых герояў! Або — або. Нават аўтарытэт Талстога не ўплывае, што ўжо мой! І хто дзе бачыў гэтых станоўчых герояў? Ды і наогул, аповесць — зусім пра іншае (я ставіла іншую мэту!), герой зусім іншага дамагаецца. Я хацела, каб у чытачоў узнікла трывога. Трывога! Трывога за сучасную жанчыну (вось жа і крытык прызнае, што «вобраз гераіні досыць тыповы»), за душэўны, маральны стан яе, за яе будучыню (а гэта ж у нечым —

і будучыня грамадства). Я хацела, каб усе мы задумаліся: што важней — быць шчаслівай ці не прынесці няшчасце іншаму?

А. Грамадчанка не зразумела нават самага простага: гэта не гераіня адштурхвае, гэта крытык (жанчына!) адштурхваецца ад яе, баіцца паралелі (я не такая, я лепшая!). Вось яна піша: «Пакуты ад няшчырасці, сваёй і чужой, адстойванне даўно аджытых для іншых прынцыпаў, маральны максімалізм, нізкі балявы парог — усё гэта мала стасуецца з воблікам гераіні. Такой яна бачыць сябе (такой бачыць яе і аўтар), але на самай справе яна іншая — халодна-рацыяналістычная, жорсткая, эгаістычная. Таму яе душэўныя пошукі, комплекс віны, незадаволенасць жыццём нагадваюць больш гульню ў высокія пачуцці, чым чалавечую драму». Але ж, мілая ты мая, хіба вось гэта «гульня» ў высокія пачуцці — не драма?! Хіба тое, што вымірае ў душы (амаль што вымерла) пачуццё — пачуцці — не самая страшная драма? Хіба не боль за чалавека, за жанчыну, за яе душу, за яе чалавечнасць вадзіў маёй рукой?

Гераіня адштурхвае? Дык гэта ж добра: значыцца, узнікае разуменне таго, што жыць так, як яна, тым, чым яна, калі прагнеш чалавечнасці, нельга. Гульня ў высокія чалавечыя пачуцці? Дык калі ёсць (узнікае) гэта разуменне і яно, гэта разуменне, выклікае ў душы абурэнне, хіба гэта не азначае, што аповесць (і гераіня!) знаходзяць «водгук у душы»?

Дзіўныя высновы робіць крытык. Нават заканчваючы артыкул, знаходзіць права папракнуць мяне «ў аднатэмнасці» апавяданняў (аповесці таксама даюць падставу для гэтага): «Чамусьці Т.Бондар цікавіць адзін бок жыцця герояў, яны ўбачаны амаль выключна ў тыя моманты, калі да іх прыйшло ці прыходзіць каханне». А што, запытацца ў яе, важней (апроч выбару паміж жыццём і смерцю), чым выбар паміж любоўю і здрадай? Як можна пісаць жыццё, адпрэчыўшы адзін з галоўных стымулаў яго?

Ну, ды не спрачацца ж мне з аўтаркай артыкула! Я сказала напісаным сваё, яна — сваё. Што больш важкае, не нам мераць.

**26 мая**

Званіла, абуралася «лімаўскім» артыкулам Рая. Гэта стаўленне да цябе, казала. Гэта стаўленне да ўсіх нас, абразлівае і нядобрасумленнае. І як вынік: трэба станавіцца ў апазіцыю... Дзівачка! Я з самага пачатку — у апазіцыі, калі лічыць за пазіцыю — кругавую паруку ў барацьбе за нябачныя лаўры. Лаўры, якія папахваюць гразёй? Аўтарытэт, які трымаецца воляю пакравіцеля? Вышыня, прыступкаю да якой з'яўляецца пасцель, што сагрэла імпатэнта? Вядомасць, якая выпляталася з інтрыг і подласці? Аддаю ўсё гэта каму заўгодна і не адно сённяшнім днём. Я ніколі сабе не дазваляла і не дазволю гэтага: няхай няма больш святыняў, літаратура для мяне — святыня. Як і зямля, на якой жыву. Як і народ, чыёй духоўнасцю я жывая.

Што ж да стаўлення, да неабходнасці неяк супрацьстаяць націску, ёсць толькі адно — работа. Працаваць трэба! Працаваць, не зважаючы ні на што. Занадта доўга складвалася і так і не склалася наша пакаленне, каб спадзявацца, што можна што якое — хоць адну з праблем — вырашаць, абапіраючыся на яго падтрымку. Няма падтрымкі ні ў кім, апроч самой сябе. Можна шкадаваць, можна скардзіцца, можна абурацца — будзе так, як ёсць. Калі не горш. І я не хачу больш махаць рукамі перад сляпымі, не хачу больш паіць сваёй крывёй словы, якія губляюцца ў гулкай цішыні халоднай, настылай залы. Трэба працаваць. Пакуль магу. Пакуль змагу.

**30 мая**

Як усё-ткі ўмее высвеціць крытыка тое, што схоча! Чытаю «Печальный детектив», чытаю цудоўныя кавалкі, карціны (майстра ж пісаў!), а цалкам... Ствараецца дваякае, траякае ўражанне, але тое, што эпізоды быццам нанізваюцца адзін на адзін, што аўтар хацеў (мо не тое слова) здавацца

вельмі сучасным і недзе патрафляе густам «сучаснікаў», відочна. І гэта (мяне, ва ўсякім выпадку) утрымлівае ад таго, каб далучацца да шматгалосага хору алілуйшчыкаў. Зашмат сёння спісваецца быццам бы ва ўгоду праўдзе, праўдзе адкрытай, аголенай нават, але ж разважанні пра рускую душу і тут жа патрабаванне амаль садысцкай расправы з «уркамі» і п'янтосамі не стасуюцца, не ўпісваюцца ў адзін характар, не ўпісваюцца ў разуменне маралі (маё, ва ўсякім выпадку). Нідзе— ні словам — пра прычыны, ніяк (пакуль што) не адчуваецца сацыяльны фон, а пісьменнік жа абагульняе, ці хоча (мо не тое слова), каб абагульнялі чытачы...

Цікавасць да твора не перамагае незадаволенасці, а незадаволенасць (дзіўна) — тая ж, што ў адносінах да сябе, да свайго.

**5 чэрвеня**

Прачытала новую аповесць Быкава «Кар'ер». Не «Знак бяды», канешне, але напісана па-быкаўску густа, аголена дакладна (вобраз «кар'ера» засланяе нават вобраз героя), адзінае, што (для мяне!) не вымалёўваецца — Марыя. Калі б ёй трошачкі больш жыццёвасці, жыцця! Ну, ды гэта ўжо чыста маё ўспрыманне — без прэтэнзій да аўтара. Быкаў — гэта Быкаў. Ва ўсім. Ва ўсім, што напісана. Быццам жыццё сваё вывярае тым, што пражыта — ім і ўсімі, быццам судзіць сябе і нас тым, за што аддавалі жыцці яго героі, — вайной... І пры ўсім тым, што ты можаш яго, гэты суд, не прыняць, — ён справядлівы. У самай высокай ступені справядлівы, і ад гэтага нікуды не дзенешся.

Сіла быкаўскіх твораў — якраз у гэтым. Так часам думаецца.

**9 чэрвеня**

Чытаю публіцыстыку Фёдара Абрамава: на зямлі стаяў — і стаяў цвёрда, адчуваючы кожны балючы зрух ці згук, хацеў сваё чуццё, сваё разуменне аддаць, перадаць іншым — усім. Вельмі відочная (праз яго) гэта спрадвечная годнасць ратая, яго ўсведамленне сваёй значнасці і незаменнасці: нідзе ні на міг не адрываецца Абрамаў ад роднай глебы, спрадвек, нутром, знае: у тым і сіла ягоная.

У жанчын (і ў жанчын-пісьменніц) іншае: усё жыццё яны мкнуцца хоць на міг, хоць на вяршок адарвацца ад рэальнасці, ад рэальнай глебы — і сіла гэта іх ці слабасць, хто знае? Толькі і адмаўляцца ад гэтага, думаецца, не варта: сіла, слабасць — а свая! Наследаванне, перайманне (а ў гэтым выпадку — чыста знешнія!) ніколі не дарэчы, калі гаворка ідзе пра творчасць, ніколі. А тут жа — прырода! Тут жа — пол! Як бы мала гэта ні азначала, а між адным і другім полам часцей — бездань, мо і не непераадольная, і ўсё ж бездань. Ведаючы тое, няма чаго палохацца, але і заплюшчвацца не трэба...

Дзіўныя асацыяцыі выклікалі развагі (зусім іншага плана!) Абрамава. Хутчэй гэта — ад полюснага несупадзення, так, ад полюсна супрацьлеглага ўспрымання жыцця, яго рэальнасці.

**16 чэрвеня**

Чарнобыль, Чарнобыль... Скаргі змяняюцца анекдотамі, анекдоты — трывогаю... Галоўнае, што ты бяссілая, як і ўсе іншыя, не ўяўляеш ні маштабу, ні ўсёй глыбіні трагедыі. Не ўяўляеш, а штосьці ўвесь час абмяркоўваеш, нечым абураешся. О Госпадзе! Ідзеш да сябра, бо табе патрэбна падтрымка, а вымушана падбадзёрваць яго... І сябе заадно... Бо што ж рабіць?

Як ні дзіўна, прыйшла да высновы: шчаслівымі могуць быць толькі абыякавыя, калі ні на што чужое, ні на што па той бок «я», душа не рэагуе. Бо калі нічый боль не абмінаеш, нічыю трывогу не адштурхваеш, нічыйго гора не цураешся, збаліцца душа за ўсё і за ўсіх і на сябе, на «сваё» часу і сілы не знойдзе. Не знаходзіць. Мо і павінна так быць, мо і нельга чалавеку інакшай, ды тугу не ўгаворыш. А навальваецца туга ўсё часцей, часам і выйсця ніякага не бачу...

**30 чэрвеня**

Вышэйшы суд справядлівасці (Бога ці д'ябла —як убачыць розніцу?) не дае чалавечаму сэрцу адчаяцца. Лягчэй мне будзе, цяжэй — з гэтым агнём у душы — не ведаю. Ведаю: жыву — буду жыць! — буду цягнуцца да агню, што нечакана ўспыхнуў, кожную свядомую хвіліну, не абгараючы — апякаючы думкі... Толькі б хапіла сілы. Толькі б гарэў, разгараўся агонь! — няхай далёка, няхай усё далей ад мяне, але палаў, набіраючы яркасць. У мяне лёгкая рука: веру, што дотык яе не прыносіць няшчасце, — я хачу, каб шчасце знайшло сустрэтага Праметэя, каб абавязкова знайшло. Мне яшчэ так доўга трэба расці...

Як ускалыхнулася Душа! Як затрымцела ўсё ў душы пры набліжэнні с а п р а ў д н а г а ! Якая глыбіня — якія глыбіні — сталі бачнымі, адкрыліся за ім! Толькі б хапіла сілы ступіць у гэту бездань і ўтрымацца над ёй, не расцяўшы вуснаў, не пагукаўшы паратунак. Мне яшчэ расці і расці!

**2 ліпеня**

Вялікдзень душы... Параўнанне прыйшло міжволі, міжволі згадаліся светлыя дні маленства ў стракатай, стракатa-чырвонай сукенцы і з ярка пафарбаваным яйкам на далоні... Ну, ды згадка згадкай, а душа аджывае ў цяпле, што льецца ў яе невядома адкуль — незразумела адкуль, і гэта дзіўна шчаслівае адчуванне. Так пачынаюць брадзіць у душы вершы, чакаючы ўсплёску, выплеску святла...

Не падганяю словы, баюся апярэдзіць святло і разбіць штосьці нябачнае, крохкае — штосьці, без чаго ўжо не жыць. Упершыню баюся кранууцца пачуцця словам, нават самым светлым, самым пяшчотным. Пачуцця? Я ж не ведаю, ш т о гэта! Г э т а — неназываемае.

**10 ліпеня**

Дзіўныя, дзіўна простыя вершы пішуцца. Быццам яны — і пачуцці, і я — не адно цэлае: словы ўслухваюцца ў мяне, я — у іх... Боязна дакрануцца да напісаных старонак рамана — баюся рамана! Дапамагаючы мне, дапамагаючы ацалець у гэтай барацьбе з сабою, прыйшлі, прыходзяць радкі: «Мы ж сябравалі, Муза, хіба не?.» Мы сябравалі...

Столькі цяпер ува мне наблытана, наламана, што, відаць, няхутка разберуся: то смутак ускалыхнецца, то жаль агорне, то злосць пачне прарывацца — і баліць, баліць душа. Нават тое, што пачала працаваць, пісаць, не здымае болю, нават тое, што ўсё-ткі бачу святло, не змякчае горычы. Як горка, як балюча быць жанчынаю!

**10 жніўня**

Усё ж хрысціянскай пакоры і цярплівасці ўва мне мала. Атмасфера дома цяжкая, і я не-не і зрываюся: ну, колькі можна! Дзе сілу браць?

Практычна, нічога не пішу. Душэўны пад'ём змяніўся звыклымі галаўнымі болямі, вершы не вяртаюцца, пачала працаваць над артыкулам па пісьмах чытачоў, і работа амаль не рухаецца: не так часу бракуе, як святла. Госпадзе, яшчэ зусім нядаўна я магла ўсклікнуць: бачу, бачу святло! — а сёння... І сёння бачу яго, ды з якойсьці балючай адлегласці: не маё, не для мяне...

Вечная сцяна! — паміж жаданым і рэальным, паміж памкненнямі і тым, што ёсць, выпадае. І ведаю ж: не адно я ў гэту сцяну б'юся, у кроў аб яе разбіваюся, а ўсё ж надараюцца хвіліны, калі да слёз шкада сябе, шкада гэтых разбітых намаганняў... Здэцца, і пішу пра гэта ўсе гады — вызваляюся, а вызваленнем і не пахне... Мне б цяпер на тры-чатыры гады ў манахіні падацца, у якой келлі з кнігамі зачыніцца! Якая ўсё-ткі ўбогая рэчаіснасць!

**15 жніўня**

Каго ні вазьмуся чытаць — усё лепш, усё больш смела, адкрыта. «Плаха» ж Айтматава проста гняце, прыгнятае: не з усім згодна, а — якая сіла!

якое ўменне па-мастацку ўвасобіць сваю філасофію! якая смеласць, урэшце! Поўнае ўнутранае вызваленне, няма і намёку на тыя «лейцы», якімі кожны з нас (большасць з нас!) сябе ўтрымлівае, — і гэта не можа не выклікаць захаплення. Мне б так — пра сваё... Не, «так» — не тое слова. З той жа мерай адкрытасці! — каб ніколі не перамагаў у бойцы рэдактар, што засеў ува мне, зросся са мной і вечна спрабуе дыктаваць. Вечна спрабуе...

**18 жніўня**

«Пачуцці не сапраўдныя, таму што спадарожныя, пабочныя, у жыцці герояў яны нічога не мяняюць і не вырашаюць, — выхлапы адпрацаванае пары (яшчэ адзін сэнс слова «аддушына») на шляху да іншай, практычна пастаўленай мэты». Гэта — І. Раднянская пра твор У. Маканіна. Гэта — балюча зачапіла (няўжо заўжды — адно спадарожныя?), быццам сказанае ёй самым непасрэдным чынам тычыцца мяне, маіх пачуццяў. Далёкая паралель — а паралель!

Не, не, святло, на якое ідзеш, — не «аддушына», вера, без якой не жыць, — не ўзбочча. Бо галоўнае ж — святло, вера, усяго астатняга магло не быць, можа не быць. Ніколі не шукала я ніякай «аддушыны» — нават апоры не шукала, мне ўсё жыццё бракуе разумення. Не адчужанага — жывога, блізкага разумення. Хіба гэта так многа, каб пажадаць? Хіба многа?

Пачуцці не сапраўдныя... А што — сапраўднае? Практычна вызначаная мэта? Шлях да яе? Не, не, я давяраю пачуццям. Хай яны наіўныя, хай часам прымаюць падман за рэальнасць, хай памыляюцца, без іх — жыццё мёртвае. І ніякая мэта не ўратуе.

**11 верасня**

«Камсамолка» надрукавала нарэшце мой артыкул пра Васіля Быкава (пасля іх жа выпаду супраць «заігрыванняў з божанькай» рэзананс на маё выступленне добры), і, магчыма, каб з'явіўся ён тады ж, калі быў напісаны, і адчула б я пэўнае задавальненне, а так... Добра, што сказала слова пра цудоўнага пісьменніка, якому і ў якога веру, а хвалявання, радасці няма — дык так і павінна быць: як інакш? У рабоце (пісьменніцкай рабоце!) важна быць сумленнай перад сабой, тады і перад іншымі — і перад часам! — застанешся сумленнай. А рэакцыя, рэзананс... Гэта ўжо справа дзесятая.

«Перамога і Паражэнне — гэта два падманшчыкі. Ніхто не прайграе ўсяго, як яму часам здаецца, і не знаходзіць трыумфу, якога чакаў. Па сутнасці, гэта наогул не мае значэння», — з апошняга інтэрв'ю Хорхе Луіса Борхеса. Цалкам згодна.

**18 верасня**

Якая дэмагогія пануе на нашых «прэзідыумах»! З паўтарагадзіннага выступлення Ніла ніводнае не тое што свежай, а хоць бы нечага вартае думкі не выцягнеш: «трэба, павінны», «пакуль што слаба адчуваецца перабудова...» Ды якая перабудова, ліха на яе!? Што гэта за пісьменнік, якому трэба «перабудоўвацца»? Любая перабудова выступленнямі (адкрытымі і смелымі) пісьменнікаў, пісьменніцкай грамадскасці рыхтуецца, любая трывога чалавецтва, дзяржавы, грамадскасці найперш мастаком адчуваецца. А як не адчуваецца, не прарываецца ў ягоных творах, значыць, няма мастака. Няма, хоць творчыя саюзы будуць «пухнуць» ад колькасці сяброў. А тут... Звыклі толькі партфелі адзін аднаго ўзважваць ды да ўзнагародаў прыглядвацца!

Адзінае, па сутнасці, слова Уладзіміра Калесніка прагучала. Ён спакойна выказаў тое, што адна з прычын (і галоўных!) таго, што сёння адбываецца ў эканоміцы, а ў нейкай ступені і ў палітыцы і, вядома ж, у мастацтве і літаратуры — тое, што адбыўся разрыў пакаленняў, што старэйшыя пакаленні чапляюцца за пасады і прывілеі і сцяной загароджваюць (загарадзілі) дарогу маладым, якія на тры галавы пераўзышлі ўжо іх. А «не заўважаць» маладых, не даваць ім сцвярджаць і сцвердзіць сябе, асобу ў сабе, — гэта за-

ведама, спланавана тушыць усякую ініцыятыву, прыгнечваць імпэт іх і тым самым сцвярджаць застой і коснасць.

Усё так. Усё, на вялікі жаль, так. На любым прыкладзе гэта можна даказаць. Толькі што ж з гэтых доказаў? Ужо і наш час хутка мінае...

**20 верасня**

О, як я раздражняю «дзевачак» ад літаратуры! Іх ад кожнага майго клічніка калоціць — заплюшчваюцца і, абражаныя, далдоняць: «супергераіня», «не ведае сумненняў у сваёй ідэальнасці, бездакорнасці», «самаатэстацыя», «празмерная гучнасць тону, высокія ноты», «стамляешся ад надрыву і празмернасці эмоцый»... І сумна, і смешна. Быццам на мне віна, што яны нарадзіліся адразу старымі, паўмёртвымі, што яны стамляюцца нават ад чужых эмоцый. Ужо ж, удары сэрца не разлічыш, не выраўняеш, дык чаго ж на чужое абурацца?

Дзіўна, што гэты раз падобнае ідзе ад Т.Чабан: яе я заўжды вылучала з хору кандыдатак у кандыдаты. Мо рука сяброўкі? Але ж тады і зусім гнусна. Што ж, «Маладосць» па-старэчы ашчэрылася на мае «высокія ноты», і гэтага трэба было чакаць: кранулася ж «недатыкальнай!» Зноў і зноў успльваюць іх спалоханыя твары тады, на пасяджэнні... Цкуюць пацыху. Нічога. Цяпер можна. Цяпер ужо можна.

**24 верасня**

«Будзённая трагедыя вялікага чалавека, акружанага дробязным...» — прачытала ў В. Сухнева. Прачытала і здзівілася дакладнасці вызначэння: гэта ж як пра ніякі іншы — пра наш час, гэта ж не пра каго іншага — пра шмат каго з нас (і не толькі ўчора, а і сёння). Будзённая трагедыя... Але ж трагедыя! І ў выніку — не проста крах надзей і разуменне сваёй незапатрабаванасці грамадствам, а крах асобы, душэўнае спусташэнне. І (Божа мой!) як цяжка гэтаму супрацьстаяць, магла б расказаць і я. Цяжка. Хоць і можна. Неабходна!

Як ужо сталася, а сталася, што чыноўнік ці таго горш — «лавачнік» стаў самай рэспектабельнай фігурай сённяшняга дня. З таго і пайшло. З таго і ўлада бюракратыі, і дэмагогія, і гнуснасць ананімных барацьбішак, і бранірававаныя шчыты амбіцый, і ракавая пухліна бездухоўнасці. А зірнеш на гэткі «рэспектабельны» натоўп зблізку — і страшна робіцца. Сорамна і страшна. Няўжо вось гэта сытая задаволенасць сабой і сваім месцам, няўжо вось гэта сытая тупасць («Ці бачыць мяне Іван Іванавіч? Ці не апынуўся я побач з кімсьці выпадковым тут, сярод абраннікаў?») і ёсць мяжа жаданага? Няўжо вось гэты натоўп і ёсць «вярхушка»?

Думкі не выпадковыя і выкліканы не адно развагамі Сухнева — часам ад іх няма куды дзецца. Асабліва пасля таго, як міжволі апынешся побач і зірнеш зблізку...

Будзённая трагедыя... Гэта магло б стаць назваю твора. Трагічнага твора пра таго, хто не хацеў зліцца з натоўпам, які ўцягваў яго і ўцягнуў. Уцягваў — і ўцягнуў.

**26 верасня**

Музыка размякчае сэрца і прыўздымае неба нада мной — на колькі імгненняў усяго, але ўсё ж і гэтыя імгненні — роздых, тая паўза, што так неабходна мне ў гэтай аблозе шэрых халодных дзён. Такіх шэрых і такіх халодных, што не саграваe работа. Які ўжо раз не саграваe...

Страшна адно, што гэты холад паселіцца ўва мне, і назаўжды. І тады зусім згаснуць словы, і тады не будзе для чаго жыць. Якую бездань набліжаюць падобныя думкі! І работа не супакойвае...

**27 верасня**

«...І няма ісціны, дзе няма любові». Удалая назва артыкула па пісьмах чытачоў, які нарэшце «ЛіМ» надрукаваў, і артыкул, па-мойму, закране, за-

чэпіць сяго-таго. І ўсё ж, гэта — дзень учарашні ( як хутка дні знікаюць у змроку былога!), гэта — са зробленага. Нязробленага больш, нязробленае мучыць.

**28 верасня**

Хаджу сама за сабой — за ценем сваім, і то сціскаю зубы, каб не завыць ад безвыходнасці, то спрабую выціснуць хоць якую думку, хоць самую прымітыўную — абы не задушлівая пустата гэтай тугі. Толькі сагнуцца, здаецца, — і абваліцца, раструшчыць мяне гэты ранак, гэта высокае халоднае неба.

Шыя — калом: гэтак напружана стараюся трымаць галаву як мага вышэй — над усім, што акружае, над усім, што не дае дыхаць. Пажаліцца б каму — ды каму? Ды і не мае гэта — жаліцца: сама абразілася б, каб хто пашкадаваў. Разумення б глыток!

**8 кастрычніка**

Учытваючыся ў напісаныя на працягу года старонкі, зразумела, што чый бы ўплыў ні адчувала нейкі час, пэўны м о й стыль ужо склаўся і кідацца з аднаго боку ў другі, відаць, не варта. Шукаць, удасканальваць, дадаваць новыя штрыхі і штрышкі — трэба, абавязкова (інакш — застой!), а кожным новым крокам адмаўляцца ад папярэдняга — гэта знішчаць і знішчыць сябе. Няўпэўненасць дапамагае намацаць патаемныя, прыхаваныя сцежкі, іх нітачкі ў душы, але з а ў с ё д н а я няўпэўненасць забівае — перш гасіць памкненні, потым высмоктвае сілу... Ці ж я не сутыкалася з падобным?

Увайду ці не ўвайду я ў рамкі жанру сучаснага рамана — важна, але не на столькі важна, каб адно прымервацца да гэтых рамак. Перада мной — аграмадны кавалак жыцця, яго жывая рухомая маса, і трэба, каб яна — гэткай жа жывой, рухомай! — паўстала, паўставала са старонак кнігі. Значыцца, трэба шукаць сродкі перадачы свайго адчування. Трэба пісаць. Месцамі перапісваць. Спатрэбіцца — усё перапісаць, раз, і другі раз. Але — пісаць! Бо з дня ў дзень губляецца штосьці няўлоўнае, а потым пачынаеш разумець, што без гэтага «штосьці» жывое жыццё робіцца мёртвым (гэткая пасмяротная маска!)... Не, не, я не адступлюся!

**11 кастрычніка**

У рэдакцыі чакала мяне пісьмо В.Быкава — колькі просценькіх фраз, водгук на мой артыкул у «Камсамолцы», але цёпла, светла стала на душы ад яго слоў: заўважыў, прыняў, адгукнуўся!

**19 кастрычніка**

Неспадзяваная паездка ў Кіеў (на вечар Івана Драча) абярнулася радасным адчуваннем людской еднасці. Прычына таму — раскоша гаворак з тымі, хто цябе — нутром! — разумее, хто гэткі ж, як ты, па самой душэўнай канструкцыі, па сваёй чуйнасці і ранімасці. Як толькі ўва мне (па выступленні на вечары) пазналі і прызналі гэта (г э т а!), адразу ж прынялі на сваім узроўні, нароўні, адно вельмі тонка адцяняючы нюанс (жанчына ж!) братэрскай пекнаты, часам нават пяшчоты... Кранута, усхвалявана дагэтуль. Сама на сябе пазіраю крышачку інакш.

Менавіта на свяце пабыла. А яшчэ ж — і Сафійскі сабор! і Лаўра! і заліты сонцам ярка-асенні Кіеў! Усхвалявана, акрылена дагэтуль. З цеплынёй думаю пра гэтыя два дні: пасля маскоўскіх сустрэч яны першыя асветленыя радасцю дні.

**28 кастрычніка**

Цікава, што ў нашым пакаленні тыя, каго падымалі спачатку і падымаюць дагэтуль, паступова адыходзяць у цень, а вылучаюцца (адметнасцю го-

ласу, інтанацыяй, глыбінёй спасціжэння) якраз «аўтсайдэры», якраз тыя, хто ніколі не быў навідавоку ні ў крытыкі, ні ў начальства. І гэта яшчэ раз сведчыць, што ў літаратуры няма аднойчы і назаўсёды вызначаных ці зваяваных месцаў...

**13 лістапада**

Пішу, дадаю да рукапісу літаральна па дзесятку сказаў. Чаго добрага, яшчэ рассыплецца ўсё, што з такой цяжкасцю сцягваю ў адно... Трэба зноў пачынаць спачатку — чытаць, учытвацца, уваходзіць у падзеі, па слове, па сказу набліжаючыся да таго, што занатоўвала сёння — інакш узнікне (немінуча!) пагроза неаднароднасці матэрыялу, неадпаведнасці характараў.

Якое шчасце і якая пакута — пісаць!

**28 лістапада**

Крытыкі, крытыкі... Што яны могуць разгледзець ува мне з таго, чаго я сама пра сябе не ведаю? Якія такія хібы ў напісаным мукай маёй знайсці, апроч тых, што я вучуся адольваць сама? «Выбірай адно справу, а не плады яе, — пісаў М. Рэрых. — Ды не будзе намерам тваім — мець плады дзейнасці. Адмаўляючыся ад прывязанасці, застаючыся аднолькава ўраўнаважаным у поспеху і няўдачы, вяршы дзеянне...» Добрыя словы, хутчэй за ўсё выпакутаваныя — не павучанне, а заклён, да сябе самога звернуты. І ў поспеху, і ў няўдачы... Толькі так!

**30 лістапада**

Майстэрства, калі яно — мэта, часта пераходзіць у сваю супрацьлегласць: з'яўляюцца штампы іншага парадку, чым у другіх, але тым не менш штампы, з усімі іх прыкметамі (адсутнасць пачуцця, прыгладжанасць, дакладней, згладжанасць і дакучлівы паўтор). Падобнае адбываецца — ужо адбылося! — з Р. Барадуліным, і крытыкі хутчэй робяць выгляд, што не заўважаюць, чым сапраўды не заўважаюць гэтага. І ўсё ідзе, як ішло. З'яўляюцца, друкуюцца, размнажаюцца (без супыну) мёртванароджаныя вершы — чытач адварочваецца, але што — чытач! Чытачу ніхто не растлумачвае «феномена папулярнасці», дзьмутай, як і сама велічыня...

Супрацьстаяць жа гэтаму льга толькі ў творчасці — творамі. Гэта як у Ламаносава: вакол яго — звады, інтрыгі, плёткі брудныя, а ў яго — дысертацыя, дысертацыя, дысертацыя! Іншых доказаў няма, бо чым бы ні казыраў, сапраўдныя козыры — толькі сапраўдныя творы. Толькі. І добра, што я гэта разумею, зразумела своечасова: душу ж атруціць злосцю або нянавісцю так лёгка, так хутка. Не, не. Не так шмат у мяне часу, каб марнаваць яго на сваіх «ворагаў» — абыдуцца!

**3 снежня**

Веры, вераванні, вучэнні... Яны ўзнікаюць і знікаюць. Але застаюцца храмы, абразы, кнігі, створаныя адухоўленымі верай, вераваннямі, вучэннямі. Але шырэюць прасцягі чалавечай душы і доўжыцца шлях пазнання. І тым апраўданы памылкі і «заблуждения разума».

**21 снежня**

Дні работы не пакідалі часу для дзённіка. Сёння «пераваліла» праз трохсотую старонку рамана (дзён дзесяць як у запале!) — усё бліжэй падступаюся да тых частак, якія завершаць кнігу, і не ведаю ўжо, ці ўкладуся ў трыццаць тры часткі, як намервалася.

Зноў зблізілася са сваімі героямі і бязмежна рада: іх лёсы зноў хвалююць мяне, іх учынкі змушаюць думаць і выказвацца пра тое, пра што выказвацца нібыта і не збіралася, іх пачуцці знаходзяць водгук у маёй душы. Калі б яшчэ жыццё не ўмешвалася ў нашы адносіны!

**28 снежня**

Самая трагічная фігура ў сённяшнім свеце — жанчына. Эмансіпацыя, у выніку якой адбылося і адбываецца не разняволенне жанчыны, а яе закабаленне, лягла на плечы такім цяжарам, што многія не вытрымліваюць — калі і не ламаюцца, то мяняюцца ў такой ступені, што страчваецца самая сутнасць іх, сама духоўная сутнасць. Работа, кар'ера, каханне — што? Што стане апорай? Што надасць жыццю сэнс, кошт? Пакутую гэтым я — пакутуюць мае гераіні, шукаючы і не знаходзячы адказу.

Дзіўная, калі не сказаць больш, рэакцыя крытыкі. Вось як зразумеў гэта П. Дзюбайла: «Апошнім часам стала ўваходзіць у моду так званая «жаночая проза». Была і ёсць «жаночая лірыка», цяпер з'явілася проза. «Жаночая» не таму, што ствараецца паэтэсамі сярэдняга пакалення, а таму, што яна слаба звязана з праблемамі сучаснасці, нярэдка мае камерны, я б сказаў, нават альбомны характар...»

Во як! Слаба звязана... А Анатоль Курчаткін на ўсю краіну заявіў, што праблема жанчыны, яе становішча ў сённяшняй рэчаіснасці, сёння нават большая, чым праблема дэмаграфічная ці экалагічная. Як можна гэтага не бачыць? Як можна гэтага не разумець? Хіба што адгарадзіцца ад «аб'яўленай» рэчаіснасці кабінетным сталом і хілай, бяскроўнай канцэпцыяй. А калі яшчэ да гэтага дадаецца кропля адвечнага жанчынаненавісніцтва...

Ну, ды Бог з імі, з крытыкамі! Якія яны ўрэшце крытыкі?

**30 снежня**

Выпісваюся да пустаты ўнутры. Адкладваю блакнот толькі тады, калі ні слова больш з душы не выняць, не выцягнуць, і нейкі час сама не своя. Ды і потым... Ні на каго і ні на што ўжо не стае сілы. Не тое што высмоктвае — жылы выцягвае раман, ідзі ведай гэта! А хоць і ведала б...

Задужа будзённыя мае героі. Ці будзе гэта прачытвацца? Ці разгледзіць чытач за знешняй рэспектабельнасцю — маральнае спусташэнне, за знешнім холадам — попел спаленага сэрца, за простай неўладкаванасцю — бяссілыя дамаганні мары? Гэта я ўсё пра герояў ведаю! Трэба ж, каб у с е зразумелі.

Думкі сведчаць пра тое, што канец работы ўсё-ткі бачыцца. Стамілася. Развінуць бы плечы, вольна ўздыхнуць!

## 5. ГОД 1987-мы

**9 студзеня**

Калі людзі жывуць так, як жывуць, яны не заслугоўваюць большага... Прызванне, прызванасць — гэта не абранніцтва: мы гэтак жа выпрацоўваем духоўны прадукт, як іншыя — матэрыяльны... Вера ў лепшага чалавека, у лепшую будучыню — тое ж, што вера ў тагасветнае жыццё, — перавернутая рэлігія, а атэісты — тыя ж рэлігійныя фанатыкі... Верыць, што чалавек зменіцца, ведаючы, як ён жыве і як памрэ (як мы!), наіўна... Мы пішам, таму што «мечаныя», — такія былі заўсёды, ад летапісцаў...

Думкі перашкаджаюць працаваць над раманам, таму што пішу марудна, тапчуся падоўгу на адной старонцы, напісанае здаецца прэсным і нецікавым.

**11 студзеня**

Раман «не трымае». Учора раптам «пайшоў» верш, потым другі... І аддацца гэтай плыні боязна (як жа ўсе мае планы?), і страціць яе не хочацца (вершы ж цяпер такія рэдкія госці!) — дзе змусам, дзе ўгаворамі, як кажуць...

І ўсё ж адчуваю: гэтыя дні ў Перадзелкіне, такая стрэча — самыя шчаслівыя ў маім жыцці. Падобнае рэдка адчуваецца вось так, побач, упобачкі, але зараз — такія дні, я адчуваю, і жыву імі, удыхаю іх у сябе на ўсю

сілу лёгкіх, убіраю іх у душу — на ўсе наступныя дні і гады, якія выпадуць. Якія ўжо выпадуць.

**23 студзеня**

Глыбокі нервовы спад. Быццам збоку гляджу на сябе і ўсё напісанае мной, усё — побач з венамі, не па венах... І нельга — па венах, і трэба, трэба! Раман таму і не трымае (не дыктуе!), бо застаюся ўсё ж на пэўнай адлегласці ад герояў, выняла сябе (сваё!) з яго жыццёвай прасторы і парушылася, увесь час парушаецца жыццёвая дакладнасць, хоць бы і дэталёва ўсё было выпісана.

Пэўна ж, трэба, як напісала рэцэнзентка пра дзве мае аповесці, каб чыталася напісанае «не як мастацкая проза, як дзённік», — толькі набалелае, толькі выпакутаванае. А то атрымліваецца: яшчэ не дапісала раман, а ўжо думаю пра яго як пра няўдачу...

**24 студзеня**

Бачанне — гэта спосаб параўнання, і залежыць ад таго, што з чым параўноўваецца: вялікае з вялікім, вялікае з малым, малое з малым... А параўнанне? Адштурхванне ўяўлення, усведамлення ад ужо бачанага, ужо вядомага? Але тады разуменне паміж людзьмі павінна ўзнікаць, калі ўяўленне, усведамленне адштурхваецца ад бачанага ўсімі, вядомага ўсім. І неразуменне мастака ідзе ад адметнасці яго бачання, ад таго, што ён у сваіх апісаннях адштурхваецца ад бачнага толькі яму, вядомага толькі яму... Гэтак проста?

У сне, ужо прачынаючыся, пісала пачатак аповесці, зусім новай стылістычна. Канешне ж, прачнулася — і ўсё здзьмута, ні слова ў памяці. Адно засталося — адчуванне стылістычнай навізны, якойсь не маёй выверанасці, узважанасці слова. Слова празаічнага.

**30 студзеня**

Заканчваецца мой адпачынак. Адпачынак, бо вось ужо трэці дзень не працую. Не магу. Вершы схлынулі (каля аркуша напісалася — гэта многа!), а да прозы павярнуцца сілы ўжо няма. Добра, што Святлана дала два раманы Бернара Клавеля («Час ваўкоў» і «Святло возера»), раманы цяжкія (смерць гоніць і заганяе чалавека!), чытаюцца цяжка, але думкі пераключыліся поўнасцю — і душа адпачывае. Ад тугі адпачывае, ад вершаў, што больш нагадвалі заклінанні...

Здаецца, яшчэ адзін месяц такога насычанага, тужліва-шчаслівага жыцця душа папросту не вынесла б. Таму думаю пра дом, пра справы, пакінутыя і не завершаныя, ці нават яшчэ не распачатыя. Пра справы — бо сябры мае ўсе (як ні дзіўна!) тут, а дома... Дома — дом! І хопіць пра гэта.

**31 студзеня**

«Раман Бернара Клавеля ўнутрана палемізуе з распаўсюджаным сярод пісьменнікаў пераканаnнем, што з добрых пачуццяў не зробіць добрай літаратуры. Чалавек, маўляў, з самага пачатку кепскі, мярзотны або нікчэмны. І, значыць, літаратуры нічога іншага не застаецца, як з горыччу гэта канстатаваць або апускацца ў бездань адчаю. Бернар Клавель усёй душой пратэстуе супраць такога прыніжэння чалавека...» Пратэстуе супраць прыніжэння чалавека! Вось гэта я і адчула — з самых першых, жудасных у сваім натуралізме сцэн. Чалавека можна кінуць у самыя неверагодныя ўмовы, у самае прадонне адчаю, але дух яго, калі ён асвятліў душу яго, растаптаць, змяшаць з гразёй нельга: парасткі яго падымаюцца над гразёй, над крывёй, над адчаем.

Не, не! Пісаць — значыць бачыць, з н а х о д з і ц ь гэтыя парасткі духу, гэтыя парасткі святла! Знаходзіць — і доўжыць у слове, у лёсе. Я ведала, адчувала гэта заўсёды. Мажліва, толькі сітуацыі, у якія я стаўлю герояў, залішне будзённыя, канфліктныя адно душэўнай мукаю, гэткай жа, як і жыц-

цё іх, ніяк не адасобленай, не вылучанай знакам, мецінаю якойсьці, што паставіла б іх над сітуацыяй, — яны заўсёды унутры яе, нават гэтай мукай, часта падобнай на звыклы роздум... Але ж гэта — ідзе ад маёй пазіцыі. Ад пераканання, што чалавек, які жыве ў буднях — будзённым! — так ці інакш выяўляецца. Ён жыве, а любое жыццё — гэта і жыццё духу. А значыць — і барацьба, і адступніцтва або перамога...

Адступніцтва — або перамога. Не ўсё так проста, вядома. Ды было б проста — і мучыцца не варта было б. Ні ў жыцці, ні са словам.

**2 лютага**

Сёння ад'язджаю. Больш аркуша прозы і больш аркуша паэзіі... Гэта, відаць, многа. Апошні тыдзень зусім не пісала. Ні радка. Высмактала ўсё з сябе, да апошняга, тры дні памірала ад галаўнога болю — да таго моманту, калі ў душу сталі прасочвацца першыя кроплі новай сілы. Першыя кроплі... А трэба ж, каб напоўніліся вены!

Хадзіла. Дыхала. Старалася не думаць. Ні пра тое, што ўжо толькі ў спамінах, ні пра тое, як буду жыць потым. «Адна» — так хачу назваць кнігу лірыкі.

Адна. Заўсёды адна. «Не я ў адзіноце, ува мне — адзінота...» Нармальны (за столькі гадоў!) стан душы. Нар-маль-ны! З гэтым трэба жыць. Як раней. Як заўсёды. І ўсю тую сілу, якая так марудна і так балюча аднаўляецца, скіроўваю на гэтае «як заўсёды», на заўсёдныя «магла» і «змагу». А што — іначай? Стала перачытваць вершы — чытаць немагчыма: такі адчай за імі...

Не, не! Тысячы людзей жывуць без іскаркі ў душы, без глытка чыстага (ад вірусаў пошласці) паветра, і я шчаслівая. Шчаслівая, што помню дотыкі агню, што нагбом піла чыстае паветра гэтых дзён, — і жаліцца грэх. Праўда, я і не жалюся ( і ў галаву не прыйшло б!), вось толькі ад тугі ніяк не вызвалюся, боль не суцішу...

**8 лютага**

Бог мой, некалькі дзён расцягнуліся ў непераадольную бездань! Здаецца, не было ні маёй паездкі ў Перадзелкіна, ні вершаў, ні светлых хвілін сам-насам з халодным зімовым небам — нічога... Нават туга была б жаданаю цяпер, бо ў душы пуста, быццам яе вынялі, і, апроч пачуцця безвыходнасці, няма ўва мне ўжо нічога: ні тугі, ні нават болю. Пустата, якая душыць... Немагчыма ўявіць, але — дакладна, фізічна дакладна.

«Дужая», «нязломная», «жалезная»... З якіх танюткіх валаконцаў гэта моц і гэта мужнасць — і як страшна, калі яны адно за адным пачынаюць рвацца, бяскроўна і бясслёзна лопацца! Як страшна!

Ні пачуццяў, ні думак — быццам амярцвелі ўсе нервовыя канчаткі. Толькі цяжкі, пусты гул у галаве. Толькі страх, што гэта непераадольна... Васіль ніколі не быў у такім кепскім стане, я ніколі не адчувала сябе такой бездапаможнай. Бальніца... Палата... Цяпер, побач з такой пакутай, у палоне такой бяссіласці шмат на што гляджу зусім інакш — іншымі вачамі. А ўжо што да вечнай калялітаратурнай мітусні, якую і заўсёды я не прымала ўсур'ёз, — то яна наогул па-за межамі думкі (не кажучы пра душу). Якім усёткі дробязным, нікчэмным, у большасці сваёй, заняты чалавек! Пакуль не грымне. Пакуль не зашчэміць боль. Пакуль не адчуе дыханне смерці...

**11 лютага**

Трэба змусіць сябе чытаць — хоць бы чытаць! — інакш звар'яцею. Адны і тыя ж думкі, адно і тое ж кола, па якім яны рухаюцца... Наглытаюся таблетак — і як мёртвая: думкі топчуцца, топчуцца вакол...

Добра, што сябры не пакідаюць, — звоняць, прапануюць дапамогу: іх словы, іх трывога, іх падтрымка быццам прывязваюць да жыцця, да жывога і заўсёднага «трэба». Трэба выстаяць, таму што ўсё трымаецца на мне.

Усё — дом... Дом, што так і не стаў надзейным тылам, нягледзячы на ўсе мае намаганні.

Працаваць! Усё роўна над чым, з чым — працаваць!

**16 лютага**

Друкуючы «Дзённік жанчыны», ведала, што тым самым кідаю костку зграі галодных крытыканаў, якім абрыдла далдоніць адно пра апісальнасць і вадзяністасць сучаснай беларускай прозы. Ведала — і кінула. У нечым наўмысна: грызіце, маўляў, тузайце, рвіце... І — цапнулі, ухапілі, а як жа! І чым болей рвуць (адзін Дзюбайла чацвёрты раз публічна выказаўся), тым больш пагрозлівы рык чуцён — ужо да «стрыптызу» дагаварыліся. Калі так і далей пойдзе, то ў хуткім часе дойдзе да «сацыялістычнае распусты» (крычаў жа мне ў трубку адзін кінуты жонкаю падобнае!).

Божа мой, ды калі б за мову аповесці, за стылёвую неахайнасць часам (ёсць жа за што папракнуць), а то — за пачуццё, за спробу раскрыць душэўныя (душэўныя!) мукі жанчыны, за саму пастаноўку праблемы «жанчына і грамадства». Ну, ды Бог з імі! Урэшце, гэта — не неразуменне, гэта — непрыняцце.

Ніколі, як цяпер, не хацела патыцкаць іх фізіяноміямі ў рэальнае жыццё — не ў карыта, да якога яны пішчом лезуць, топчучы адзін аднаго, а ў жыццё, у самае «бруднае» і балючае: праведнікі знайшліся! На жонак не зірнуць уважлівей, глыбей пасцельнай пяцімінуткі, а туды ж — пра душу і душэўную муку жанчыны судзяць! Хто зведаў, хто ведае душэўную муку, той выскаляцца на чужую муку (хай сабе і на муку гераіні твора) не будзе.

«Хіба бывае гэткае? Хіба бываюць гэткія?» — пыталіся ў мяне пасля таго, як было надрукавана апавяданне «Штрыхі да аўтапартрэта», а якія — гэткія? Бяздушныя? Бездухоўныя? З амярцвелымі, закамянелымі сэрцамі? Ды мы ж ужо адкрыта гаворым пра бездухоўнасць як пра сацыяльную хваробу! І «Дзённік...» — пра тое ж. Толькі не проста ўголас — у крык: зірніце! апамятайцеся! пакуль не позна! Мо ўжо п о з н а ?!

Не, не. Трэба пісаць. Трэба гаварыць яшчэ больш рэзка, яшчэ больш жорстка — каб пачулі. Каб зачапіць як мага глыбей. А зграя... Зграя няхай грызе і грызецца.

**21 лютага**

«Таленавітаму трайніку: паэту, празаіку, крытыку...» — падпісаў і прыслаў сваю кнігу Пімен Панчанка, а ў гэтага «таленавітага» ў душы адно друзкі разбітага, раструшчанага спакою. «Ачышчаюся» музыкай. Пасля тлумнага імяніннага вечара... Якая ўсё-ткі раскоша сёння — адзінота! Нічога я не прагнула з гэткай сілай, як не «отягченной» нічым адзіноты, калі можна ўслухацца ў сваю душу, у словы і гукі яе. У словы і гукі... У муку!

Атрымала ліст ад Сцяпана Гаўрусёва: «Для мяне вы назаўсёды будзеце гарманічным увасабленнем сціпласці, высокай і ўсебаковай таленавітасці, шчырасці і высакародства...» Мілы Сцяпан Захаравіч! Кранута яго трывогаю за мяне, яго дабрынёю (словамі сагрэць хоча!), а згадваецца даўняе, прарочае: «Яе не хваліць трэба, яе любіць трэба!» Усім нам гэта трэба. Усім, і мне. Вось і бачу ў мінулым толькі сумны, раптам як пастарэлы твар прыхаванай і ад таго яўнай любові... Божа мой!

**1 сакавіка**

Паглядзела фільм Абуладзе «Пакаянне», зроблены даволі моцна. «Ахі» — не падзяляю: занадта «пахне» мастацтвам, а для мяне, калі ад твора занадта «пахне» мастацтвам, шэдэўра не адбылося. Цяпер, пасля прагляду, магла б паспрачацца з рэжысёрам, які даў інтэрв'ю «Літаратурцы».

«Мы хацелі сцерці і час, і месца дзеяння, прымусілі працаваць на нас гісторыю і культуру розных часоў, уключылі ў фільм шматлікія «цытаты»,

якія пашыраюць сэнс», — гаварыў Абуладзе. Але ж «пашырэння» сэнсу якраз за кошт гэтых «цытатаў» не адбываецца! Фільм — сам па сабе, запазычванні з гісторыі і культуры — самі па сабе. Кожнае з іх служыць пэўным сімвалам, дасведчанаму чалавеку разгадаць іх няцяжка, але гэтых сімвалаў так шмат, што яны перашкаджаюць адзін аднаму, адштурхваюць адзін аднаго і міжволі выклікаюць раздражненне. Як не можа быць літаратурнага твора, напісанага цытатамі, так не можа быць мастацкага фільма, зробленага з сімвалаў. Фантасмагорыя, умоўнасць (я — за!) патрабуе яшчэ большай выверанасці, чым канкрэтнасць пэўных дэталей. І калі рэжысёр прызнае, што «многіх можа раздражняць менавіта форма, што яна можа выбудаваць сцяну паміж творам і гледачом», то мне здаецца: не форма сама па сабе, не навізна яе (навізны якраз няма), а недакладнасць, размытасць формы «цытатамі».

«Гісторыя настолькі фантастычная і абсурдная ў многіх сваіх праявах, што сродкамі рэалістычнага мастацтва яе нельга аднавіць поўнасцю і дакладна — яна патрабуе формы і стылю, якія больш адпавядаюць яе сутнасці», — гаворыць Абуладзе. Але, Бог мой, што ў яго фільме па-за рэалізмам? Што выпадае з плыні рэалістычнага мастацтва? Сон, у якім мастака знаходзяць і пад зямлёю? Шкілет рыбіны ў пальцах пасля ўяўнай, у думках, гаворкі з бацькам-д'яблам? Змешанасць дэталей і стыляў розных эпох гісторыі чалавецтва з чыста грузінскім побытам? Сам вось гэты вінегрэт з карцін Адраджэння, бетховенскай санаты, вусікаў Гітлера і рыцараў Сярэднявечча, якія павінны былі ўвасабляць малойцаў Берыі? Кожная дэталь у фільме абсалютна рэальная, і тое, што аўтары фантасмагарычна перамешваюць іх увесь час, на жаль, не стварае ні новай формы, ні новага стылю. Ні — тым больш! — новага кірунку развіцця кінамастацтва ў процівагу рэалістычнаму.

Цікавая работа. Але цікавая якраз тым, што дае матэрыял для спрэчак. Не для спрэчак пра гісторыю, пра пэўны гістарычны перыяд, а пра форму — пра пошук формы. Тое ж сёе з дадзенага рэжысёрам інтэрв'ю (пасля прагляду фільма) папросту не вытрымлівае крытыкі.

**8 сакавіка**

Не ведаю, што спрыяе таму, каб у душы ўсталявалася раўнавага, неабходная для работы, — ці то даволі частыя цяпер гаворкі з Гаўрылам Харытонавічам, ці то фільмы Абуладзе, ці то спакойныя развагі над гэтымі фільмамі, — працуецца добра. Пачала нават думаць, што не так ужо і кепска спраўлюся з задумаю, як настрашыла сябе.

Абуладзе ж... Зошчанка ў кіно! Так мне падалося. Асабліва пасля яго «Малення». Пачаць аповед з таго, што рука тлустага, валасатага чорта-чалавека прыкрывае руку самой Прыгажосці, самой Мары («Ты мая! мая!») і закончыць яго магільным (замагільным) плачам па чалавецтве, у якім трызненнем праходзяць то вяселле чорта і Мары, то бясконцая работа далакопаў — ад далягляду да далягляду, пакуль вока ўхопіць, то вясельня, да якой вядуць Мару, мог толькі вялікі мастак. Трагедыя без надрыву, маленне без слоў... Без слоў, хоць увесь час гучаць словы, вершы Пшавела. Здорава! «Дрэва жадання», фільм, безумоўна, добры, але паспрачацца з «Маленнем» не можа. І «Пакаянне» — не можа. Не тая мова. Нават не так. Не тая чысціня мовы, мовы глыбока вобразнай, глыбока паэтычнай, не тая чысціня...

Як усё-ткі важна захаваць гэту чысціню, не размыць лішнімі дэталямі, не перагрувасціць залішняй сімвалічнасцю!

**24 сакавіка**

Учора паставіла кропку і дату, якія сведчаць: сюжэт рамана вычарпаў сябе і завершаны. Не ўсё падабаецца, не выбудавана аўтарская лінія, але ўсе дапрацоўкі свядома адкладваю на восень: няхай адляжыцца, няхай крыху

забудзецца за іншай работаю, за іншымі творамі — іначай, топчучыся, павытоптваю здаровыя дужыя парасткі.

Сёння еду ў Маскву. На тры дні. Вярнуся — буду займацца зборнікам «Адна». Работа чакае немалая: трэба ж перагледзець усё, што не друкавалася, перагледзець і дапрацаваць, і выбудаваць кнігу (гэта найбольш складанае).

Адначасова буду рыхтавацца да новай невялікай аповесці, гераіняй якой хачу зрабіць «функцыянерку», даму пры пасадзе — даследаванне душы яе, ракавай пухліны бездухоўнасці, якая паглынае душу яе, можа быць цікавым, можа даць цікавы зрэз сучаснасці, сучаснага грамадства. Задача няпростая — трэба ж не іранізаваць, а ўскрыць прычыны яшчэ адной будзённай трагедыі. Менавіта трагедыі, хоць і будзённай.

**20 красавіка**

Не вельмі каб я і зважала на крытыку калі, і ўсё ж — прысмак горычы ў душы. «Не рэальная душэўная складанасць, а імітацыя яе», «жанчына, якая дэманструе сваю складанасць, а, па сутнасці, не ведае, чаго яна хоча, да чаго імкнецца», «поза і душэўнае самараспрананне», «гераіні так хочацца гаварыць пра сябе лагодна і ўзвышана», «звычайныя, пашлаватыя захапленні, любоўныя раманы», «ідэалізацыя таго, што не варта ідэалізацыі»... Вось так. Не больш, не менш. Зноў — Дзюбайла. Дзе ён знайшоў ідэалізацыю і чаму не згледзеў за позай (а як яшчэ ёй перад сабой апраўдацца?) слядоў пакуты ў душы, пра гэта ў яго не спытаеш. Ды і не варта.

Галоўнае, што аповесць магла б быць напісана і лепш — не пра іншае, не з меншай адкрытасцю (мажліва, і з большай), а інакш, глыбей па самой мове сваёй, па сіле пранікнення ў псіхалогію, у душу. І гэта я ведаю без крытыкаў. Тое-сёе льга выправіць зараз, тое-сёе застанецца сярод выдаткаў...

Не словы, для пісьменніка абразлівыя, гарчаць, а думкі пра тое, што праца мая, мукі мае, развагі не знаходзяць водгуку, не знаходзяць удзячнага чытача (гэта, у большай ступені, пра паэзію!), — мітусіцца ж у пошуку яго не ўмею. І не хачу. Колькі б разумнікі ні даводзілі, што па сённяшнім часе водгукі трэба арганізоўваць, — я не буду іх арганізоўваць. Яшчэ чаго! Лепш ужо горыччу захлынацца і захлынуцца.

**4 мая**

Праўлю «Дзённік...», вельмі марудна, літаральна па радку: шмат чаго — усё! — перапісала б наноў... Разумею: атрымалася б новая аповесць, а вось гэтай, ранейшай, у нечым нязграбнай і столькі разоў абгаўканай «прафесарам», шкада. Пры ўсёй нявыпісанасці, аповесць жывая і чапляе за жывое — адно таму і адступаюся ўсякі раз, як рука пачынае задужа ўмешвацца ў напісанае.

Пяць-шэсць гадоў аддзяляе мяне ад той, што пісала «Дзённік...», а як па-рознаму ўспрымаем мы свет, жыццё ў ім, сябе ў гэтым жыцці! «Нікому не трэба — звыш», напісала я некалі, глыбока ўпэўненая ў гэтым, а сёння... Сёння я думаю інакш: усім патрэбна тое, што звыш адмеранага, рэальнага і падымае, прыўздымае над будзённасцю, над побытам, цяжкім і збрыдлым. Патрэбна. Неабходна. Каб не зламацца пад звыклаю ношкай. Каб адчуваць сябе дужэйшым, маладзейшым — каханым, нарэшце! Бо як жа толькі адным цярпеннем жыць? Колькі ні цярпі, а як пахаваў спадзяванне на цуд — і састарэў (гады заўсёды далёка не ўсё вызначалі), і аджыў, пераджыў сваё жыццё... Жыццё без пачуцця, без любові, адно прытвараецца жывым.

Святатацтва, вядома, — прызнавацца ў тым, што аддаю столькі часу і сілы дапрацоўцы даўно напісаных аповесцей толькі таму, што іх прачытае і В., але ж так яно і ёсць. Гэта не толькі і не проста важна: я не вынесу яго насмешак, ці яго асуджэння, ці яго абыякавасці.

**6 мая**

Музыка, музыка! Зноў яна запаўняе мой пакой, зноў яна плёскаецца ў душы, падмываючы якіясь яе берагі, — і я з удзячнасцю адгукаюся на яе ўсплёскі, на яе гукі. Дзіўная злагада ўва мне, нягледзячы ні на што. Злагада і спакойная ўпэўненасць у паўнаце жыцця, якую адчуваю ўпершыню, амаль на працягу года, такога нялёгкага года. Шмат што стала здавацца нязначным, не вартым хвалявання, тым больш пакуты — проста ціха, нячутна радуюся жыццю, і ў гэтай радасці знаходжу адхланне. І апраўданне. Свет, жыццё не ўспрымаюцца, як раней, толькі ў балючай сваёй аголенасці — сёетое ў ім залежыць і ад мяне, ад маіх спадзяванняў. Шчаслівае адчуванне! Не хацелася б яго страціць.

**12 мая**

Падумаць толькі! Пры ўсёй шматстайнасці і рознасці падыходаў, інтэрпрэтацый біблейскіх сюжэтаў і вобраза самога Хрыста, у літаратуры няма (няма?!) твора, які б апавядаў пра маці Яго Марыю, пра гэту святую заступніцу ўсіх жывых, усіх гаротных. Што гэта? Абыякавасць да таго, што лічыцца само сабой зразумелым? Неразуменне ці непрыняцце таямніцы Святой? Звыклае (м у ж ч ы н с к а е) няўменне паставіць жанчыну (няхай сабе і святую) над асобаю мужаскага полу? Эгаізм, той жа, што ва ўсіх выпадках у адносінах да м а ц і ?

Раней не задумвалася, а цяпер дзіўлюся: каб такія карані спрадвечнае няроўнасці! адвечнае жаночай прыніжанасці! — і там, у біблейскіх паданнях, яна, Марыя, у ценю, яна — ахвяра. Ахвяра, хоць ахвяруе людзям Сына — дзеля людзей і дзеля славы сынавай ахвяруе, а сама ў цені... Цікава будзе — па нітачцы — разабрацца ў лёсе яе, у гісторыі стварэння Маткі Боскай, неўміручага вобраза яе.

Прыгадваю ўсё, што ведаю, што бачыла ў выяўленчым мастацтве: хіба Марыя т а к а я ?! Хіба такая б е с п а к у т н а п р ы г о ж а я ? Сына аддала: душа пры ёй засталася, не памкнулася следам з нячутным крыкам яе, з нябачнымі слязьмі яе?! Ці яе халодная, бяздумная прыгажосць і ўяўлялася мастакам сведчаннем мудрасці і дабрыні? Пытанняў адразу так шмат, што міжволі разгубілася: раней жа для мяне іх проста не існавала (з чаго б раптам я зацікавілася Святой Марыяй!), раней і ў галаву не прыйшло б імі мучыцца. А цяпер...

Цяпер я хачу разабрацца ў яе таямніцы, загадкавай і дасюль не разгаданай, разабрацца, каб зразумець (лепш і глыбей), хто яна (я!) — жанчына, чаму жанчына (заўсёды) калі не раба, то ахвяра — абставін, часу, самой прыроды. Дагэтуль. Колькі іх, Марый, Марыль, Марусь, а д д а ў ш ы ў с ё — у с ё! — знаходзяць у сабе сілу кінуць у зямлю жменю зярнят, пасадзіць і гадаваць кветкі не адно на магілах, а і пры дарозе, у палісадніку, выцвілым, да донца празрыстым позіркам мераць і мераць зямны шлях свой, роду свайго, — колькі іх страчала я ў жыцці! А вось жа і страчала, і прыгадвала не аднойчы, а з той Марыяй, з Маці Божай, сувязі не бачыла. Не адчувала... Мо каб адчуць, трэба было дагнаць сваю сталасць?

Якія ўсё-ткі прарэхі ў маёй адукацыі! Ледзь адно (адну) падлатаю, тут жа бачу іншае, тое, чаго дасюль не заўважала, над чым не задумвалася і што павінна б ведаць са школьных гадоў. І так раз ад разу, з дня ў дзень. І нельга спыняцца, спыніцца. Трэба чытаць. Учытвацца. Думаць. Трэба расці.

**14 мая**

Спрадвеку (ад Бібліі і раней) прапаведаваліся жаночая дабрачыннасць, пакорлівасць Богу, лёсу, мужу, цярплівасць і міласэрнасць — у гісторыі ж заставаліся якраз іншыя. Тыя, хто не пагадзіўся на гэту ролю і парушыў межы вызначанага, — і тым заслужыў любоў. Або нянавісць. У абодвух вы-

падках пачуццё пераважае. Любоў або нянавісць. Часта — адно і другое разам. І ніколі — разуменне.

Мажліва, сцвярджаю занадта катэгарычна. Але ж, нават узвышаючы (у мастацтве) жанчыну, творцы (пачатак ідзе ад Бога) пагарджалі ёю: святая (звычайна — маці), красуня (рэч або забаўка — у залежнасці ад таго, жонкаю была ці каханкаю), раба (працаўніца, служанка), вядзьмарка (калі не паддавалася ніводнаму вызначэнню) — вось і ўсе ролі, гістарычна вядомыя і звыклыя. І зручныя. Бо не прэтэндуюць на складанасць і вывучаны назубок — як адным бокам, так і другім: справа жанчыны — пагадзіцца, справа мужчыны — сачыць, каб выконваліся ўсе ўмовы... Колькі стагоддзяў не размыкаецца кола! Усе ж спробы (амаль усе) заканчваюцца паражэннем: вызваляючыся, чыста знешне, жанчына трапляе ў яшчэ большую кабалу.

Усе спробы заканчваюцца паражэннем... Тое, што хачу пісаць (намерваюся!), — яшчэ адна падобная спроба. Прызванне, любімая работа — тое, што вабіла гераіню «Дзённіка...», кар'ера (калі і тут шлях вытанцоўваецца ад адной са звыклых роляў) — павядзе другую, прыналежнасць да мастакоўскае эліты суцешыць трэцюю, але в а  ў с і х  в ы п а д к а х  гераіня пацерпіць паражэнне, прайграе гульню. Прайграе якраз таму, што гэта ўсё яшчэ толькі гульня — гульня ў роўнасць, гульня ў свабоду і свабоднае прызванне. Жыццё дужэйшае за яе, жанчыну, усё яшчэ (мажліва, і да веку) дужэйшае. Разуменне гэтага і ўсё ж супрацьстаянне руціне, коснасці і фармуе асобу кожнай з тых, пра каго хачу расказаць, нягледзячы на паражэнне, якое яны церпяць.

**11 чэрвеня**

Чамусьці так здарылася, што, перайшоўшы на прозу і выпісаўшыся (на сённяшні дзень), вызвалілася ад сябе, ад самага балючага ў сабе. Гэта і радуе, і засмучае. З аднаго боку — набыла пэўную ўпэўненасць, пазбавіўшыся комплексу непаўнацэннасці, з другога — паглыбіла душэўную адзіноту. Быццам усе, каго апісала (нават калі прыдумала), адышлі назаўсёды, цяпер ужо назаўсёды...

Не магу пісаць таму, што тыя, новыя мае героі, пакуль яшчэ чужыя: перш чым адарваць іх ад сябе, напоўніўшы сваімі пачуццямі, сваёй крывёй (зусім не ў пераносным сэнсе), трэба, каб яны прыраслі да мяне, ураслі ў маё, сталі мной. А гэты працэс цяжкі, доўгі. І балючы. Вось і нуджуся бяздзейнасцю.

Ды і тое, што душа баліць не ўяўным, хай сабе і вынашаным, выпакутаваным, а жывым — жаданым і немагчымым. І нікуды мне ад гэтага болю (збуджанага невядома чым) не дзецца. І марна дакараць, тузаць сябе: душа прагне жывога цяпла, жывога дотыку пяшчоты... Цьфу ты, са мной! Зноў, зноў размагніцілася, хоць выварочвай сябе...

**16 чэрвеня**

Хочацца крыху (хоць крыху) прыўзняць запону часу і ўсё ж застацца ў рэчышчы м а с т а ц к а г а, празаічнага твора, не збіцца на публіцыстыку. Колькі б ні вохкалі мы вакол напісанага з публіцыстычнай завостранасцю, літаратура — гэта м а с т а ц т в а, а публіцыстыка, хоць бы і мастацкая публіцыстыка, — толькі публіцыстыка. Мо яна і важнейшая на сёння, але ж сёння — яшчэ не ўсё...

Цяжка выказаць гэта з большай пэўнасцю: хутчэй, не веданне дыктуе сумненні, а чуццё — чуццё мэты, чуццё мастацкай праўды, чуццё слова. Не велькая перавага, а ўсё ж... Чамусьці згадала даўнюю задуму напісаць паўфантастычную аповесць «Голас», дзе голас (голас сумлення, голас прыроды, голас вярхоўнага суддзі — голас!), з'яўляючыся галоўнай дзейнай асобаю, адной з галоўных, вядзе дзеянне, выкрывае, агаляе самыя балючыя нервы сучаснасці. Праз людзей, праз герояў аповесці выкрывае...

**18 чэрвеня**

Бездухоўнасць... Чаму мы прыйшлі да яе? Рабскае ў чалавеку, якое, дай яму волю і адпаведныя абставіны, лёгка пераходзіць у дэспатызм? Але што ж тады мы выхоўваем, узвышаем? Роўныя правы на шчасце? Але чаму ж мы падмяняем шчасце дабрабытам, за які з купецкім размахам «змагаюцца» на ўсіх узроўнях? Гон за тым, што «прызнана» прэстыжным? Але дзе той ідэал, да якога спяшаліся б сцежкі?

Пытанні, пытанні! Мала іх паставіць, трэба намацаць, агаліць карэньчыкі іх, каб льга было вытлумачыць (мне — сабе! кожнаму — сабе!), калі, якая хвароба падтачыла іх, што ўзбуяла там, дзе яны падгнілі. Вытлумачыць — намаляваць. З той сілай, на якую здольна.

**29 чэрвеня**

Панарама сённяшняга жыцця часам (ва ўяўленні) нагадвае карціну начнога бою — калі рвуцца снарады, калі ўсплёскі агню апераджаюць выбухі і крыкі. А трэба ж не ўявіць, а намаляваць, паказаць, што гэтыя вогненныя ўсплёскі выпякаюць, спапяляюць канкрэтныя чалавечыя жыцці, што ўсе разрывы і выбухі працягваюцца ў чалавечых душах і ёсць не толькі боль, а і кроў, і смерць, і гной. Як лёгка страціць надзею! Як лёгка згубіць арыенцір і патануць у крыках і стогнах або ў незадаволеным бурчанні сведкаў, якія хацелі б адвярнуцца і не адварочваюцца толькі таму, што і там, ззаду, убачаць штосьці падобнае.

Як часта гучаць сёння словы пра адказнасць перад будучыняй, пра адказнасць перад народам, але ж народ — гэта не толькі мы і нашы бацькі, сваякі, сябры і знаёмыя па мінулым і сённяшнім жыцці, гэта мільёны і мільёны людзей — не тыя дзесяць мільёнаў, што складаюць насельніцтва рэспублікі на сённяшні дзень, а і блізкія і далёкія продкі нашы, каго шляхі часам заводзілі далёка ад родных мясцін: іх справы, іх думкі, іх мары адгукаюцца — павінны адгукацца! — у нашых справах, у нашых думках, у нашых марах. А мы са злачыннай лёгкасцю, толькі таму, што гэта дасць пэўныя, часта эфемерныя, выгоды нам, жывым, прагным да гэтых выгодаў, вырашаем, або моўчкі пагаджаемся, што нярэдка яшчэ горш, падвесці пад затапленне цэлыя раёны, унікальныя і ў прыродным і ў гістарычным плане, разбурыць стагоддзі прастаялыя пад нашым небам храмы, мо таму, што на іх фоне занадта ўжо бляклымі, няўклюднымі выглядаюць сучасныя бетонныя карабкі будынін. А мы... Сумна пазіраць вакол. Сумна і балюча.

**7 жніўня**

«Трагедыя вялікага чалавека, акружанага дробным...» Прыгадаліся прачытаныя некалі ў адным артыкуле словы — тужліва прыгадаліся... Колькі ні спрабуй разварушыць гэтыя па-жабрацку нікчэмныя, пустыя, лянівыя душы, адно ўдарам або пляўком скранеш нешта — і гэтае «нешта» будзе такое слізкае і агіднае, што самы час перахрысціцца... Так, нельга, відаць, жыць духам — сярод людзей. Нездарма ж сыходзілі продкі ў бязлюдныя мясціны, у скіты, у пячоры — а д л ю д з е й , да магутнай у сваёй чысціні прыроды. Магутнай у сваёй чысціні...

Задыхаюся. Ад нейкіх мярзотных выпарэнняў атручанага пошасцю абывацельшчыны часу, ад хлусні, якая гучыць паўсюдна, якая падаецца пад рознымі соусамі і ўсё ж патыхае гніллю, граззю. І носа не заткнеш — і без таго труцяць, а скажы ўсё да канца, назаві ўсіх сваімі імёнамі, накінуцца ўсёй зграяй. Не тое што боязна — на што, н а к а г о душу, душэўную сілу трачу?!

Госпадзе, як хочацца чысціні, чыстага глытка паветра! Разумею, адчуваю, што і да мяне ідуць, цягнуцца па гэты чысты глыток паветра, — і не магу, усё часцей папросту не здольная ступіць насустрач: колькі разоў падманвалася! колькі разоў адпіхвалі! Колькі — яшчэ?!

Зірнеш — не без людзей жа свет. Дык што ж з намі адбываецца? З кім льга было б перамовіцца — адводзіць вочы, з кім трэба было б паспрачацца — жартуе, з кім, як кажуць,на адным полі... — у душу лезе, і ўсё з нагамі тужыцца ўлезці, з бруднымі нагамі. Вось і нацягваеш на твар усмешку за усмешкай — ужо шыю не павярнуць. Балаган («балаганчык» блокаўскі) выдае (прадае!) сябе за жыццё — хапайце! Выдзірайце адзін у аднаго! — і хапаюць. Выдзіраюць адзін у аднаго. Выпіхваючы «чужака» за межы кола (ім бы яшчэ — за межы жыцця! хоць было і такое).

Госпадзе, як хочацца чысціні, чыстага глытка паветра! Памерла, здаецца...

**8 жніўня**

Каторы дзень перада мной, на кніжнай паліцы, на вокладцы альбома — Джаконда, яе загадкавая ўсмешка. Аўтапартрэт Леанарда? Што гэта павінна азначаць? Што ён хацеў сказаць і сказаў? Што? Пытанні ўвесь час вяртаюцца, пытанні тузаюць, быццам ад адказаў на іх, ад таго, ці знайду я адказы, залежыць штосьці важнае не толькі ў маім лёсе... Загадка жанчыны — загадка творчасці — загадка сусвету... Хто адгадае гэту загадку? Колькі я буду біцца над ёй?

**19 жніўня**

Першая старонка новага твора... Яшчэ не магу вызначыць яго жанрава (раман? аповесць?), але ўжо бачу — чую! Прыйшло ўзрушэнне — пайшлі словы. Кампазіцыйна: яна (Марыя?) — у бальніцы — пакутна спрабуе ўспомніць, што здарылася. Успомніць — усвядоміць. Але не ўсведамляе. Трызненнем здаюцца яе бязладныя думкі (ход, які дае магчымасць выказаць тое, што інакш — напрамую — не выкажаш), трызненнем, у якім, за якім вырысоўваюцца абрысы бяды. І яе ўласнай бяды, і бяды, што ўжо не проста пагражае людству, а насунулася на яго, атручвае веру ў заўтрашні дзень. Імя гэтай бяды — б е з д у х о ў н а с ц ь , што разрастаецца, ракавай пухлінай распаўзаецца па свеце, з адной чалавечай душы ў другую, падточваючы карані будучыні, я к о й   м о ж а   н е  б ы ц ь.

**21 жніўня**

Пераглядала ў судзе справу пра групавое згвалтаванне дзвюх студэнтак першакурсніц і потым — школьніцы, дзесяцікласніцы. Гідка на душы... Свет са старонак судовых пратаколаў уяўляецца такім брудным, такім жахлівым у сваёй убогасці, што, здаецца, нікому не адмыцца...

Я не пацягну гэту гразь на старонкі аповесці — не, не! Ды гэта і не трэба. Трэба так напісаць характары, сітуацыі, гаворкі і развагі, каб усё ч ы т а л а с я. Усё — небяспека, якая тоіцца ў бездухоўнасці, нават калі гэта бездухоўнасць знешне выглядае звычайна, звыкла.

А моладзь... Гэта нашы дзеці. Н а ш ы! Іх хваробы караняцца ў нас, у нашых душах. І колькі б ні вінавацілі мы час, застойны, бездухоўны, наскрозь ілжывы, — не час, сам па сабе, быў такім, мы ў ім былі такімі. Былі і — у нечым — застаёмся... Вось што самае трагічнае.

Чаму, чаму людзі так мала задумваюцца? Гэта ж пытанне з пытанняў. Судовая справа... Дзесяткі, сотні іх разглядаюцца штодня, адна-дзве трапляюць у газеты — і хто пра іх узгадвае? Ды што пра іх! Крыху больш года мінула пасля Чарнобыля, хто пра гэта — п р а   г э т а ! — гаворыць? Няўжо чалавек ніколі не вырасце ў   ч а л а в е ч а г а   с ы н а ? Няўжо словы будуць вечна біцца ў сцяну — у сцяну душэўнай глухаты, абыякавасці? Няўжо годнасць чалавечая так і не адолее статкавых інстынктаў?

**24 жніўня**

Памёр Міхась Стральцоў, русавалосы рыцар паэзіі нашай. Яшчэ адзін... Яшчэ адзін, дарагі сэрцу майму... І, нягледзячы на тое, што ў мяне ця-

пер свае рахункі са смерцю і пазіраю я на яе інакш (менш роспачы ў позірку, ці што?), балюча. Балюча ўсведамляць, што яшчэ аднаго паэта адштурхнула жыццё. Адштурхнула, не даўшы, па сутнасці, спазнаць слодыч, хоць бы кроплю яе, — усё больш горыччу Міхась захлынаўся. Захлынаўся — і захлынуўся. І нішто яго ўжо не магло ўратаваць. Нішто... Над безданню сэрца жыў. Хто б — дацягнуўся?

І нечаканасці ў вестцы горкай няма — і так балюча, што ўсе словы, ледзь загучаўшы, паміраюць. Няўжо лёс аднолькава горка ўсміхаецца над магіламі ўсіх паэтаў?

**25 жніўня**

«Гераізм», «барацьба», «напружанне сіл» — толькі і чуеш з усіх бакоў. А мне думаецца, гаварыць пра вынікі перабудовы льга будзе толькі тады, калі спатрэбяцца не гераізм, а сумленная праца, не барацьба, а спакойнае вядзенне справы, не напружанне сіл, а простая адказнасць за даручаны ўчастак або за даручаную работу. Толькі тады. Бо інакш — няма грунту, грунтоўнасці: тое, што добра на пэўны (кароткі!) прамежак часу, не можа быць скарыстана на працягу гадоў, дзесяцігоддзяў. Не можа...

**4 верасня**

Чацвёрты дзень у Бухарэсце... Адчуванне, што час спыніўся ці ледзьве цячэ паўз гэтыя дні. Экскурсіі па горадзе, паездка ў манастыр, фальклорны спектакль, гаворкі, сустрэчы... Адбылося знаёмства з Анай Бландзіянай — здалося, ведаю яе даўно, заўсёды. Той жа трагізм, прыхаваны недзе пад самай скурай (на твары — усмешка, за ўсмешкаю — няўцямны боль), што і ў Эн Сэкстан, што і ў Марыны... Мажліва, да сарака гэта яшчэ можна было схаваць...

О, гэты тоненькі шчыт усмешкі, якім спрабуюць абараніцца паэты ад дотыкаў бязлітасных ці абыякавых позіркаў! Ці ж ён абароніць? Ці ж ён прыкрые?

І сёння — пад уражаннем гэтага знаёмства, гэтай кароткай (на працягу гадзіны) гаворкі ў коле іншых (гаварыла з іншымі, з усімі, бачыла толькі Ану) — быццам шчымлівыя позіркі, якімі абменьваліся мы паверх усмешак, былі трапятлівымі матылямі, што ткалі, ткалі паміж намі сцяжыну разумення, сцяжыну роднасці, а іх адганялі, праганялі словы, усмешкі, нецярплівыя рухі...

Ведаю, што яна ўвайшла ў маё жыццё назаўсёды, і калі пастаўлюся больш сур'ёзна да румынскай мовы, то толькі дзякуючы нашай сустрэчы. З нецярпеннем чакаю, што мне сёння перададуць ад яе (яе!) кнігі. З лёгка разумелым нецярпеннем...

**28 верасня**

«Ведаю, няма чым бараніцца. І няма чым, і няма калі...» — словы апярэджваюць пачуцці, і нібыта прыспешваюць час, прыспешваюць гады і мае крокі, і я ў іх уладзе, я паслухмяна (больш таго: з радасцю!) іду за імі. Сама гукаю іх і іду следам. І нават калі б наперадзе ляжала бездань...

О, ужо гэта імкненне да прадбачання! Кінеш назад — знойдзеш наперадзе, гэтак у народзе кажуць. Таму і азіраецца кожны з нас час ад часу. Таму і я азіраюся.

**5 кастрычніка**

Дні стаяць сумныя-сумныя, да шчымлівасці ў душы. І колькі ні спрабую выбрацца з гэтага смутку, нічога не атрымліваецца.

Сёння ў «Правде» надрукаваны здымак «Яны працавалі ў Чарнобылі» — і якая ж смяротная туга ў іх вачах, бы з таго свету ідуць і, мажліва, не дойдуць да нас гэтыя хлопцы... Пакіну здымак. Як напамін. Як ілюстра-

цыю да папярэджанняў Адамовіча. «Што ўсе мукі перад гэтым жахам: пуста! — і ва мне, і нада мной...»

**19 кастрычніка**

Вярнуўшыся з паездкі, пацíху вяртаюся да жыцця, да звыклага будзённага жыцця, у якім не адно клопаты і турботы, а і свае невялікія радасці і перавагі. А тут яшчэ выйшаў артыкул А.Рагулі «Уласнае рэчышча» пра маю творчасць, пра кнігу «Спадчынны боль» (першае сур'ёзнае стаўленне да маёй творчасці, першае сур'ёзнае прачытанне маіх твораў), і пры ўсіх заўвагах, зробленых гэтым сур'ёзным крытыкам, думка выказана высокая, вартасць зробленага мной ацэнена як значная і глыбокая. Прыемна. Крыху паспакайнела на душы: праца ўсё-ткі заўважана! Адно, што праца гэта завершана даўно... Ну, ды тут ужо нічога не зробіш.

**3 лістапада**

Думаю над прачытаным артыкулам эканаміста Папова пра новы раман Бека, у якім разгледжана наша адміністрацыйна-бюракратычная сістэма, думаю над сваім... Злодзей і ахвяра, сістэма і яе спараджэнне — усё так, усё так і было. Але ж было і іншае! Было — у масе, масава, і можа быць названа не проста слепатой, адурманенасцю, а рэлігіяй — фанатычнай верай у светлую будучыню, калі нават страх быў «за». За мяжой свядомасці. Таму, менавіта таму шмат хто проста не перанёс раптоўнага «прозрения»— жыццём жа было заплачана, больш, чым жыццём — верай, марай, а значыць — сэнсам жыцця...

Думкі пакуль што невыразныя, як навобмацак, але і да вобраза бацькі (калі здолею падступіцца да яго), і да асэнсавання таго часу прыйду толькі праз іх. Гэта тэма для рамана. Безумоўна. Для рамана, дзе я змагла б расказаць, сказаць сваё — выказаць сваё разуменне культу, свой боль за ўсіх ахвяр яго, сваю трывогу за будучыню, у якую верацьсёння адзінкі.

Адзінкі... У нечым я наблізілася да гэтага разумення ў сваёй «Спакусе». У слепаты ж, у масавага асляплення (хоць бы і Сярэднявечча ўзгадаць) — іншыя карані, супрацьлегла іншыя прычыны. Гады культу — гэта гады інквізіцыі: і там і тут масавае асляпленне, і там і тут жорстка караюцца нявернікі, і там і тут — свае паэты, жывапісцы, дойліды... Далёкая паралель — а паралель! І, думаецца, не злодзей і ахвяра, не іх псіхалогія, вядомая на прыкладзе іншых часоў, тут самае цікавае, больш цікава, і больш важна — для мяне: разабрацца, зразумець, паказаць псіхалогію аслепленага, сляпога. Ёсць, ёсць над чым думаць!

**26 лістапада**

Трапіла ў «багну» Саюза. Як ні асцерагалася — усё ж патрапіла, і інакш і быць не магло, калі знаходзішся ўвесь час на вачах: не адзін, дык другі падштурхне... Тыдзень п'ю лекі, баюся, што «пасаджу» сэрца, бо ніяк не магу ўзяць сябе ў рукі, прымусіць рабіць нешта — хоць бы выдрукоўваць напісанае. Як шмат сілы, аказваецца, растраціла я за гэтыя гады: ніяк не магу выбавіцца ад адчування, што смерць цікуе за мной, і толькі пагадзіся я з яе судом...

Не, не! Мяне ж і гналі, гоняць у гэту пастку менавіта для таго, — шмат хто ўзрадаваўся б у душы гэткаму канцу: не паспела! не зрабіла! Трэба бараніцца ад балючых думак і працаваць. Калі ўжо напраўду загнаць сябе, дык працай! Урэшце, ніхто не можа мяне прымусіць грэбціся ў «іхняй» гразі, ад мяне залежыць, як я пастаўлюся да іх: спакойна, абыякава, грэбліва, адмоўна, бунтоўна — градацый шмат, нервавацца проста не варта. З той пагардай, з якой я стаўлюся да гэтых «людзішак», і рабіць усё льга, як хачу...

Госпадзе, пра што я думаю? Чым гняўлю Неба і душу сваю?

**3 снежня**

Алесь Адамовіч у гутарцы з карэспандэнтам маскоўскай газеты з горыччу казаў, што хвалі перабудовы, дакочваючыся да месцаў, мялеюць, ціхнуць і выносяць, зносяць да берага толькі смецце, брудную пену, раску, і ў горычы яго — горкая праўда. Але ж і праўда не ўся ў тым, што сказана. Яна патрабуе ўчынку. Можна сказаць, сказаць уголас, абурыцца — і адысціся, пашукаць чысцейшы бераг, а можна і, закасаўшы рукавы, не збаяўшыся бруду, паспрабаваць ачысціць тыя жывыя крынічкі, якія вымыюць, размыюць, ачысцяць ваду далёка вакол: ёсць жа такія крынічкі ў любога народа, жывяць яны раку жыцця! Вядома, праца такая — няўдзячная, не вельмі каб удзячная: запэцкацца можна, а то і ўгразнуць так, што без дапамогі не выберашся, але ж мільёны, дзесяткі мільёнаў людзей дыхаюць гнілымі выпарэннямі гэтай твані, і некаму ж трэба...

І душа чалавечая гэтак жа: заплывае раскай хлусні, тлушчам самазадаволенасці, і калі не расчышчаць крынічкі, якія жывяць яе, глухне, адмірае. «Серьезное искусство часто понимают превратно, ибо в нем немало яростного и непривлекательного. Мне бы хотелось, чтобы мир был более совершенен, но, начав игнорировать существующие в нем реальные условия, я изменила бы своей писательской честности», — пісала Джэйн Оутс, і я магла б падпісацца пад гэтымі словамі.

**4 снежня**

Трывожна, што з літаратуры, з літаратурных твораў знікае боль, боль за чалавека. Гэта павінна б насцярожваць, ажно — не. Крытыка захоплена піша пра выкрывальную, даследчую, прарочую (якую заўгодна!) ролю літаратуры, апроч той, якая ёй адведзена спрадвеку: быць, стаць сумленнем народа, яго болем, яго спадзяваннем. А мы... мы ўсе мітусімся, аспрэчваючы адзін у аднаго лаўры, прэстыжныя выданні, нават тэмы. Мала, што ў падобных спрэчках не захоўваюцца крытэрыі маральнасці, ад іх часам патыхае голым цынізмам. Сур'ёзныя, аблаўрэачаныя пісьменнікі публічна выказваюць крыўду, што не праведзены конкурс на сцэнарый пра чарнобыльскую трагедыю, а мне, беларусцы, з той зямлі, для якой гэта трагедыя абярнулася — і яшчэ абернецца! — незлічонымі стратамі, крыўдна, што пра трагедыю народа (трох народаў!) можна, аказваецца, гаварыць гэтак «походя», пабразгваючы звязкай сваіх правоў і сведчаннямі свайго кароткага «візіту» ў зону: як каршукі, кружаць над атамнай электрастанцыяй, над пакінутым горадам атамшчыкаў верталёты з карэспандэнтамі і вучонымі, узіраюцца ў нас з экранаў пустымі вачніцамі пакінутыя людзьмі вёскі, гучаць бадзёрыя, упэўненыя галасы з розных інтэрв'ю... Здаецца, усе слёзы, увесь боль засталіся там, у трыццацікіламетровай зоне...

А я ўзгадваю ціхі аповед старшыні аднаго з калгасаў на Міншчыне (на Міншчыне, а не на Гомельшчыне — за трыста, а не за трыццаць кіламетраў ад Прыпяці!) пра тое, што мінулай зімой не хапіла ў калгасе лесу на труны — цэлую зіму хавалі людзей. А я згадваю лічбы, якія (праўда, не адкрыта, не ў друку!) сведчаць, што смяротнасць на Гомельшчыне за мінулы год вырасла ўдвая, а анкалагічныя бальніцы перапоўнены... І не відаць у гэтых нашых вёсках не тое што пісьменнікаў, а і журналістаў. Дзе ўжо тут пра гора ды пра слёзы! Мы ж усё пра галоснасць, пра дэмакратыю разважаем...

Прычына таго, што пісьменнікі кінуліся ў спаборніцтва з публіцыстамі, ясная: барацьба за чытача падштурхвае. Толькі мне думаецца, што місія пісьменніка — іншая, большая: барацьба за чалавека. За чалавека ў чалавеку.

Крытэрыі маральнасці, маральныя крытэрыі... Ці не галоўным нашым клопатам гэта павінна стаць? І ў грамадстве, і ў літаратуры, і ў пісьменніцкім асяроддзі. А то што адбываецца? Не заўважаем, шпыняем, б'ём не падобнага на іншых сабрата свайго, публічна клянёмся ў сваёй любові да яго пасля

ягонай смерці, радуемся (чамусьці ўвесь час здаецца, што роблена), што прызнанне (у выглядзе літаратурнай прэміі) знайшло яго хоць цяпер, пасля смерці, а, на маю думку, мы павінны адчуваць сорам, што цяпер, толькі цяпер упіхваем імя Ул. Караткевіча ў той рад лаўрэатаў, аб які, як аб сцяну, разбіўся голас паэта. Няўжо мы не разумеем, што не дадаём нічога да славы Караткевіча, што наадварот — тым самым мы «аблагароджваем» тых, хто ўпісаны ў ненадзейныя, калі гаварыць аб неўміручасці, спісы лаўрэатаў? Няўжо незразумела, што яго высокая «неаблаўрэачаная» аўтарытэтнасць, народнасць, і ёсць той маральны крытэрый, аб які павінны разбівацца прэтэнзіі шмат каго з жывых, шустрых і шустранькіх?

**5 снежня**

У традыцыях Янкі Купалы і Якуба Коласа... Як часта мы спасылаемся на гэтыя традыцыі, калі ўсхліпваем (менавіта ўсхліпваем, а не плачам!), пра вёску, пра вясковы побыт, які адыходзіць, як роблена, абараняючы сваё няўменне (ці нежаданне) мысліць, сумуем па прастаце, што горшая за беднасць! І кожны раз узнікае пратэст: а Максім Багдановіч? А яго традыцыі? Юны геній — незразуметы — н е  п р а ч ы т а н ы! — дагэтуль не прачытаны намі...

Пэўна ж, лягчэй напісаць паэтычны рэпартаж пра якую-небудзь падзею ці будоўлю і спаслацца на традыцыі народных песняроў, чым выплеснуць у вершы або паэме боль свой ці радасць сваю, наследуючы традыцыі мысліцеля, паэта, чый інтэлект увабраў у сябе паэтычны вопыт усіх стагоддзяў, прашумелых над Еўропай, чыя душа не проста балела за народ свой, за край свой, а рвалася, вырывалася з цянётаў гора, клічучы да святла, да волі, да шчасця. Клічучы і сучаснікаў і нашчадкаў — нас і нашых нашчадкаў. Колькі яшчэ трэба спасцігаць, колькі яшчэ трэба зрабіць! А мы ж павінны ісці далей, а мы ж павінны імкнуцца вышэй...

Далей і вышэй — у крузе, куды мы загнаны? Словы кажуць адно, душа — другое. Ледзь падымаю галаву, ледзь падымаю вочы — тут жа пагляд засцілаюць сумненні... Не, не! Палон сумненняў — цяжкі. Страшны. Неадольны, калі скарыцца... Трэба нешта рабіць — трэба, н я г л е д з я ч ы  н і  н а  ш т о, заставацца сабой і жыць в ы с о к і м, горнім, як казалі некалі. І не на Саюз азірацца, а на Паэтаў зямлі маёй. На Паэтаў, сярод якіх ясней за ўсё бачу Максіма Багдановіча.

**6 снежня**

Як лёгка скампраметаваць чалавека! Пісьмом графаманкі з прэтэнзіямі на зборнік паэзіі і каханне. Серыялам арганізаваных ананімак з намёкамі на амаральнасць або любоў да зялёнага змія. «Цытатнікам», дасланым у высокую інстанцыю, падабраным, каб паказаць адсутнасць таленту ці, па меншай меры, грамадзянскасці. Патэтычным выкрыкам у залу, які і ёсць чарговы ярлык, — абвінавачванне ў апалітычнасці або схільнасці да «самараспрацавання». Чуткаю, распаўсюджанай «ад Масквы да самых да...», па якой выйдзе, што чэснасць, неабыякавасць — толькі знак таго, што чалавек рвецца да пасады... Ці мала яшчэ чым! І самае мярзотнае — не самі гэтыя пісьмы, ананімкі, чуткі і ярлыкі, а тое, што тыя, хто лічаць сябе сумленнымі і неабыякавымі, а нярэдка і тыя, хто ў свой час (тады, калі ён ці яна замінaлі некаму, не заўсёды ананімнаму) былі абылганы, змаўчаць. Хто папросту адвернецца, хто зробіць выгляд, што недачуў, хто горка пасміхнецца — і ўсе змаўчаць. Самае страшнае — вось гэта маўчанне, вось гэта маўклівая згода на тое, што расправяцца з кімсьці чарговым, наступным.

Правы можна даць толькі таму, хто хоча іх мець, хто здолее іх апраўдваць. Простая, здавалася б, ісціна... А як усё няпроста!

«Когда-то мы наивно полагали, что нового человека вырастить столь же легко и просто, как превратить рожь в пшеницу. Лысенковщина в биоло-

гии была предвосхищена схожими по типу новациями в области общественной мысли...

Легче побороть зло в его натуральном, беспримесном виде. Гораздо труднее обличить демагога — «со скошенными от постоянного вранья глазами» — который взывает к святыням...»

Гэта — думкі з артыкула Ігара Волгіна. Гэта — і мае думкі. І горка, што нават выказаныя, яны не могуць змяніць становішча. Няўжо не могуць?

**25 снежня**

Новы раман... Ён павінен быць глыбейшым, больш філасофскім па ўсіх сваіх гарызанталях: гаворка ж пойдзе пра трагедыю народа, пра слепату, якая раз'ядае (раз'ела!) не вочы, а душы людзей — тут і без экскурсаў у мінулае (у 20-ыя — 30-ыя гады) не абысціся, і без спасылак на будучыню, на трагедыі ў будучым, тых, саракавых, не зразумець. Дзеянне ж павінна адбывацца ў саракавыя, пасляваенныя гады, трагічныя не адно пасляваеннымі нягодамі, не толькі голадам і мільёнамі бяздомных. Галоўны герой — бацька...

Бацька? Не ведаю, ці змагу. Хоць, урэшце, вобраз будзе ўбіраць у сябе рысы шмат каго — патрэбны ж і гістарычная, і жыццёвая дакладнасць. І потым — свае, свае адносіны да гісторыі, да таго часу я выкажу. Павінна.

Вось запісваю — і ўсё больш сумненняў узнікае: задума ж грандыёзная — ці пад сілу мне з ёй справіцца? Ну, ды гэта даволі аддаленая перспектыва...

**27 снежня**

Не магла б паскардзіцца, што няма сяброў, што мала тых, хто мяне разумее, і ўсё ж... Як часам не хапае а д з і н а г а — таго, з кім побач льга было б дыхаць высокім, горнім, дыхаць і не захлынацца холадам — холадам адчужэння, неразумення, адзіноты. Адзіноты... Чым больш вакол мітусні, тым глыбейшая адзінота — рукой да краю не дацягнуцца!

Непатрэбныя адносіны з адным, з другім, з трэцім... Чуткі, плёткі, гульні ў закулісную праўду! Гэта ўсё — бясконца, гэта ўсё — непатрэбшчына, гэта ўсё п е р а ш к а д ж а е . Значыцца... Ах, як хацелася б здабыць, займець нарэшце волю. Волю ад усяго. Ад усіх!

З дня ў дзень, з году ў год — ад аднаго «трэба» да другога, з адной «ямы» ў другую. Няўжо жыццё нічога не павінна м н е? Я ж не так шмат і прашу: душэўнага спакою, каб льга было працаваць, пісаць, — і няма, няма спакою.

**30 снежня**

Дыхаць высокім, горнім... Шмат каму гэта ўяўляецца: бліжэй да начальства... Усмешка крыху гарчыць, але ж нельга без усмешкі назіраць, як, здавалася б, самавітымі людзьмі ігнаруецца простая чалавечая годнасць — ці то своя, ці то яшчэ чыя — ва ўгоду добразычліваму начальніцкаму позірку. Куды дзяваецца ўся іх самавітасць, уся іх поза? І няхай бы толькі Ніл — за ім скрозь гэта вадзілася, а то і Някляеў... Ну, ды Бог з імі. Шкадаванне канчаткова саступіла іроніі: гуляйце, хлопчыкі, гуляйце! Невялікая забаўка, а ўсё ж...

*Працяг будзе.*



Ала НІКІПОРЧЫК

# УЗНЯСЕННЕ ДА СЛОВА

## *(Штрыхі да творчага партрэта Юркі Голуба)*

*І ляціць радзіма без канца.*
*І фіранка часу варухнецца,*
*Каб угледзець твар свайго ганца,*
*Не спытаўшы — як ганец завецца.*



Але, калі мы з вамі ўмовімся, што гэтым ганцом будзе паэт, і калі яшчэ больш дакладна ўмовімся, што гэтым паэтам будзе Юрка Голуб, — то тады абавязкова не толькі будзе ўгледжаны твар, але названа і імя. Бо той, хто мае свой твар, мае і сваё імя. І не толькі ў літаратуры. Адметнасць паэзіі Юркі Голуба была заўважана адразу — тады ж, у канцы 60-х. Благаславёны самой Ларысай Геніюш, ён адразу «прымусіў» крытыку прызнаць, што «яго погляд на свет не зблытаеш ні з чым іншым» (Ф. Яфімаў). Магчыма, патрабавальнасць творцы да свайго ўласнага паэтычнага слова з'явілася прычынай таго, што кніг было выдадзена няшмат. «Не адношуся да аўтараў, якія фарсіруюць у сабе імкненне пісаць у любое надвор'е, з любой нагоды, у любых абставінах — прызнаецца паэт. — І дарадцам тут сам па сабе становіцца спрактыкаваны Гётэ: «Лепш ужо забаўляцца або спаць у непрадуктыўныя дні і гадзіны, чым старацца з сябе выціснуць тое, што потым ніякай радасці табе не дасць». Але трэба прызнаць, што кожная з выдадзеных кніг не заставалася па-за ўвагай крытыкі. Пра паэзію Ю. Голуба пісалі Р. Бярозкін, А. Пысін, А. Лойка, В. Коўтун, Р. Баравікова, В. Ярац і інш. Пры гэтым адзначалі высокаразвітую тэхніку верша, гнуткасць інтанацый, лёгкасць натуральнай размовы, непасрэднасць паэтычнага ўспрымання.

Слова браў са святла бяроз,
Звону лёну,
Расы каля хаты... —

напісаў паэт пра паэта яшчэ ў зборніку «Векапомнае поле». Думаецца, што і са святла дажджу... Бо з якой жа тады нагоды ўзнік бы партрэт — твар — самога аўтара на фоне, занітаваным наўскос дажджынкамі? Удумлівы і засяроджаны позірк сцвярджае, што паэт мае што сказаць сусвету. (А паэт заўсёды гаворыць сусвету і з сусветам, нават тады, калі ён маўчыць самнасам!) Больш за тое — мы разумеем, што сусвет будзе яго слухаць... Менавіта такім узнік вобраз Юркі Голуба на вокладцы аднаго з апошніх яго

---

*Нікіпорчык Ала Дзмітрыеўна нарадзілася на Гродзеншчыне. Скончыла філфак БДУ. Працуе ў Гродзенскай абласной навуковай бібліятэцы імя Я. Карскага. Выступае ў друку з вершамі і крытычнымі артыкуламі.*

зборнікаў «Поруч з дажджом». А геаметрычныя — графічныя — абрысы акна, намаляванага на тытульным лісце і занітаванага дажджом, адчыняюць нам гэты сусвет, вядуць у «сусвет» самога паэта — адразу туды, дзе «Ідуць галасы навобмацак, // Пра нешта муры маўчаць», вядуць у роздум і трывогу паэта (а дождж — заўсёды час роздуму і развагі, час цішыні і спакою):

Мусіць, і нас не будзе.
Над голасам стане груд.
Хацяь мы раслі пры брудзе,
Нас не спаганіў бруд.

У апошніх радках — не толькі роздум і развага. Тут ужо філасофскія высновы жыцця. І нават — яго вынік. Хоць вынікі падводзіць, можа, яшчэ рана: за плячамі Юркі Голуба невялікая ношка гадоў. Але нават гэтая невялікая ношка мяняе, як гэта ўласціва чалавеку, успрыняцце часу і бачанне самога сябе ў ім. І калі раней жыццё мералася імгненнямі: «Чарацінка жыцця — ІМГНЕННЕ // Свеціцца на вадзе», то цяпер:

Поле. І ў полі зроку
Скібамі час залёг.
Далей не ступлю ні кроку —
Тут супыніўся Бог.

Час заўсёды прысутнічаў у паэзіі Юркі Голуба. А ў вершах апошніх гадоў — у найвышэйшай канцэнтрацыі: «Падае вобзем час // Зорнаю пацяруха́й», «Змерана безліч вёрст, // Збіты нашчэнт падэшвы» і г.д. І паступова час пераходзіць у вечнасць: «Вобак сусветных драм // Бачацца ў вечнасць дзверы»... Але якая вечнасць без гэтага запытання: «Мама, а як ты там?..», без гэтага параўнання:

Стоены адвячорак.
Лепшая з дзіўных мам...
Здаецца, было ж учора.

Вечнасць і ўчора — што можа быць бліжэй і нераз'яднаней! Ды і пытанне да мамы не першае.

Вербы дояць аселіцу.
Адзначаюцца святы.
. . . . . . . . . . . . . . . . . .
Як жа зараз асмеліцца
Без цябе і дахаты? —

гучала яно ў кнізе «Помню пра цябе». Хоць большасць пытанняў да мам застаецца заўсёды па-за вершамі, нават у паэтаў.

Шлях памяці, шлях успамінаў, якімі так часта пранізаны вершы... Шлях нябыту і шлях вяртання ўзнікаюць ужо на памежжы:

Вецер б'ецца ў вушах.
Далеч горка вітае.
Да нябыту мкне шлях.
Шлях вяртання.

Час, шлях і, як прадаўжэнне пераліку дамінант паэзіі Юркі Голуба, трэба назваць — радзіму. Радзіма — такая ж неад'емная «метка» яго творчасці, як «радзімка на шчацэ», «радзімка на вятрах», «радзімка на душы». Гэтыя вобразы-«радзімкі» паэт сам «паставіў» побач з радзімай, спалучыўшы іх,

і больш за тое — «абараніў на ўсё жыццё наперад». Ён вызнае сябе ў роўнай ступені сынам зямлі і неба:

Там, на стропах праменнай вясны,
Жаўрукі і цябе разгайдалі.
Разгадалі,
Што сцежак ты сын,
І, што неба ты сын — разгадалі.

Для яго аднолькава блізка і неба, і зямля, бо і тое, і другое — гэта радзіма. «Цяга траў і нябёс» — можа, у гэтым радку і схавана (ці раскрыта?) таямніца паэзіі Юркі Голуба... Вобраз радзімы ў яго ніколі не паўтараецца. Стрыманы і някідкі, асэнсаваны і глыбокі, паўстае ён кожным радком у вершы «Паштоўка». «Ручай слязы тваёй не высах, // Дый радасць не пашла на звод» — радасны ён і балючы аднача́сна. І боль можа нават выходзіць за межы болю, сягае недзе да абсягаў трагічнага — Радзіма, не прывітаная дарчаю паштоўкай...

Радзіма ідзе ад той літары Р, ад таго чытання па складах у далёкім 54-м («Чытанне па складах»), ад той просьбы: «Аддайце мне напавер // Яе (літару Р. — **А. Н.**), дарагі настаўнік». Радзіма, як той сонечны блік праз густое вецце бярозы, «прасвечвае» ці не ў кожным вершы. «Прасвечваць» можна не толькі промнем, але — болем, сумам, роздумам. І не толькі чалавечым. «Зноў маўчаць у роздуме бярозы...» — як у вершы «Пад бярозамі»:

Ды ў бяроз з таемным светам повязь:
Восень асыпае зорны друз
На бяроз маўклівую аповесць
Пра пакутны шлях на Беларусь.

У паэзіі таксама «з таемным светам повязь»... Радзіма не толькі там, дзе «Нёман шлях здавён прывык // Кульбакай значыць, як астрожнік» — яўна яна і ў блакітных званочках («Званкі»), і ў чырвоным пажары брусні́чніку («Брусніцы»), і ў вяртанні шпака — загадкава, амаль імпрэсіяністычна... І як нешта гаючае і збаўляльнае (бо «з пахілых плячэй // Атрасаюцца звягі») — паездка на радзіму, пад Зэльву:

Там,
У згадак на дне,
Пад завесаю высяў,
Сад гадоў расквітнеў,
Сноў калодзеж не высах.

Яшчэ задоўга да гэтага, у сваім другім па ліку зборніку «Дрэва навальніцы», Юрка Голуб выгукнуў: «Шчаслівы, як цыган, // Што краў у Зэльве коней»... Выгукнуў непасрэдна і ўпэўнена, што ўжо ніяк не выпадае ўсумніцца ў шчаслівасці самога аўтара, у асаблівасці таго цыгана і тых коней, пазначаных геаграфічнай меткай Зэльва. Як не выпадае сумнявацца ў гаючай выратавальнасці гэтай паездкі пад Зэльву... «Сад гадоў» і «сноў калодзеж», дождж «наўскасы ў грымотнай паставе» і «неба колер у жыцце» — застаецца толькі паверыць іх асаблівай гаючасці і прыняць як ісціну.

Гэтай жа геаграфічнай меткай пазначаны і галінка хвоі з верша «Зэльвенская галінка», што падступае да вокнаў («Стукаецца ў балкон // Зэльвенская галінка»), і нават альховы лісток:

Вячэрні пагляд калышу...
Адкрыцца для слова гатовы,
Англійскаю ручкай пішу
Пра зэльвенскі лісцік альховы.

Акрамя таго, верш «Альховы лісток» — а цытаваўся менавіта ён — раскрывае найтанчэйшыя нюансы паэтычнай творчасці. Гэта — адкрыццё слова. А дакладней — гэта ўзаемаадкрыццё: паэт адкрывае слова, а слова адкрывае паэта. Тут усё вячэрняе: і пагляд, і ўздых. І дзеянні да іх лёгкія, ціхія, незаўважныя для іншых, але заўважныя і нават значныя для самога сябе:

Вячэрні ўздых варушу:
Успомніў пра лісцік альховы.
Шапчу і зусім не пішу,
Узняцца да слова гатовы.

Якая трапнасць, дакладнасць і дасканаласць у вызначэнні гэтага імгнення — калі вось-вось з'явіцца верш, як азарэнне, як выратаванне. І дзеяслоў «узняцца» як нельга лепш падыходзіць для гэтага, бо слова (сапраўднае паэтычнае слова!) — гэта заўсёды вышыня, гэта амаль нябесная недасяжнасць, гэта — узнясенне... А яно вымагае ад паэта і подзвігу, і ахвяры — адначасна.

Якое яно моцнае — роднае! Вечнае, неадступнае. То — лісцік. А што ўжо казаць пра родныя сцены! Верш «Родныя сцены» — гэта як невялікая паэма, як своеасаблівы жыццёвы круг — рух — чалавека... Чамусьці ўзнікае спакуса напісаць — вакол родных сцен, магчыма, па аналогіі з рухам планеты вакол сонца. Але ўсё-такі — унутры іх, бо родныя сцены выводзілі ў людзі, маўчалі, калі «Учынкі цягнуліся ў цемень», саджалі на покуць — сустракалі... Але ўсё-такі круг. Як пачатак і завяршэнне...

Не скажаш, што з гучным плачам,
Ды хопіць, сыходжу са сцэны.
Панура стаяць за плячом
Родныя сцены.

Бо пачатак і завяршэнне не размыкаюцца, паяднаныя кругам, выпешчаныя і выпакутаваныя ў родных сценах. Апошняя страфа «Родных сцен» прымушае ўзгадаць яшчэ адну рэтраспектыву — верш «Пейзаж»:

Памру, пазначаны зімой,
Дзе каляндар чуцён палозна.
Раптоўна кінуцца за мной
У снег загорнутыя лозы.
Вятры прылягуць пад адкос,
І з'едуць да рыштоку сані,
І нехта вышапча: кось-кось...
Астатняе пішыце самі.

Як хітра і ўмела прадумана ўсё Юркам Голубам: за такой простай, нават прымітыўнай назвай схаваць такі глыбокі філасофскі сэнс! Так удала — далікатна, па-майстэрску — схаваць сваё «я» і «выставіць» на першы план «у снег загорнутыя лозы», вятры, сані — адным словам, пейзаж...

Калі ў свеце штосьці і можна дзяліць на мажорнае і мінорнае, то толькі — не паэзію. Сапраўдная паэзія заўсёды мужная. А ў Юркі Голуба яна менавіта такая. І гэтыя — дзве высока мастацкія рэчы — яшчэ адно пацвярджэнне таму. Але мужнасць у паэзіі не выключае пяшчоты, спага-

ды, нават — цішыні... Паэзіі Юркі Голуба дасяжны самыя няўлоўныя гукі: «І голас травы, паміж тым, // хвалюе бярэ, непакоіць...» Як справядліва зазначае М. Скобла ў «Дзярэчынскім дыярыушы», «паэт гаворыць няспешна, напаўголаса. І напаўголас ягоны — хай сабе нават і шэпт — непадробны, яму ўласцівыя і свой тэмбр і сваё дыханне». І каб пераканацца ў гэтым, варта ўзгадаць верш «Лістапад» — адзін з выбітных голубаўскай лірыкі:

Засыпае лісцём душу
Каляровага саду завея.
Аб адным я цябе прашу:
Апусці на хвілінку веі.
Мы паслухаем лістапад
І травы элегічнай рухі.
Нам дарогі няма назад,
Дзе язмінам апаліць рукі.

Спынімся. На жаль, гэты верш нельга цытаваць — яго можна чытаць толькі цалкам, не парушаючы элегічную канву, не разрываючы строфы. Можа таму, што два лёсы ў ім — «як два лісткі, // Міжсусветнага лістападу» — паяднаны назаўсёды. І гэтае ўнутранае назаўсёднае паяднанне як бы не дае нам права на раз'яднанне знешняе.

Акрамя традыцыйных сілаба-танічных вершаў, значную частку творчасці Юркі Голуба складаюць верлібры. У іх, напоўненых глыбокім філасофскім зместам («Грымучая студня», «Сцяна», «Непатрэбныя рэчы», «Эпілог» і інш.), падчас — з іранічнымі ноткамі («Мемуары», «Дакладнасць», «Выхадны» і інш.) адчуваецца рука сапраўднага майстра:

У прысмерку
над сцежкамі ў жыце
насустрач ляцела
вялікае
чорнае
і бясшумнае.
Здалося,
настаў канец свету,
падкасіліся ногі
і сэрца правалілася
ў бездань —

так Юрка Голуб падае сустрэчу хлопчыка з кажаном, першую ў яго жыцці («Сустрэча з кажаном»), малюе яе вачыма дзіцяці:

Якраз яго, напэўна,
нізашто
і запароў віламі дзядзька,
выдраўшы з-пад страхі
гумна.

Гэта ўжо фінал верша, калі хочаце — балады. Скупымі мастацкімі сродкамі — суха і строга — намалявана цэлая філасофская дзея, якая не можа пакінуць чытача абыякавым.

І ў той жа час для паэзіі Ю. Голуба характэрны разгалінаваная вобразнасць, глыбокая метафорыка. Так, пакінуты хутар «калісьці цвірчэў, расквітаў і заглядаў у студню»:

І самае, пэўна,
вусцішнае:
слухаць, як шэпча пацеры

дзічка
на котлішчы адзіноты —

заўважае аўтар падчас наведвання пакінутага хутара.

Метафарычнасцю і трапнасцю вызначаецца апісанне стану кожнага прадмета ў вершы «Музей»: саха — панурылася ў глыбокім маўчанні, шляхецкія бомы — грэбліва надзьмуліся, крыжаносца ў латах — адолеў сон,

І толькі вышыванка крыжыкам
заспявала,
як і калісьці:
«Міленькі дружочак, не па праўдзе
жывеш,
як прыйдзе вечар, да другое ідзеш...»

Прырода, Радзіма, чысціня чалавечай душы — непераходныя духоўныя каштоўнасці паэзіі Юркі Голуба.

У залі прыёмаў
з белага мармуру,
які адразу ашаламляе
вочы,
успомніў,
як быў апраменены
роднай хатай,
пабеленай маці
перад Вялікаднем. —

адным штрыхом, адным словам — апраменены — аўтар узнімае дарагое і роднае на такую недасягальную вышыню, дзе ўжо няма ні «залі прыёмаў», ні белага мармуру, а толькі — чалавечы дух — душа — з яе адвечным і чыстым, незнішчальным і непераходным... «Асноўнай значымай адзінкай верлібру становіцца слова, — зазначаў вядомы крытык і літаратуразнаўца У. Гніламёдаў. — Слова — якое-небудзь адно, на фоне іншых вылучаецца ў радку. Недаацэнка асобага значэння славеснай адзінкі ў верлібры вядзе да яго інфляцыі, пераўтварэння ў драбленую на вершаваныя радкі прозу». Тонкае і дакладнае адчуванне слова паэтам і засцерагае яго вершы ад пераўтварэння ў прозу, надае ім глыбокі філасофскі сэнс. Нездарма ж, па прызнанні самога Юркі Голуба, ён цэніць у паэзіі «слова не зацяганае, не зашмальцаванае на кірмашовых прылаўках і ў чыноўніцкіх канторах, а слова трапяткое, нераспешчанае і, зразумела, неабыякавае і да голасу жаўрука ў небе, і да шэпту травы ў доле». І гэта датычыць не толькі верлібраў. Так, у вершы «Пакаянне» колішняе прыволле пераўтвараецца ў «крык незагойны»:

Мы шпурлялі каменне вакол,
А цяпер падбіраем па найме,
І паўстала дакорам вякоў
Заржавелае сонца над намі.

Заржавелае (сонца) — тут не эпітэт (эпітэт — толькі знешне). Гэта — уменне аўтара адным словам абазначыць цэлы светапогляд або стан душы. Заржавелае сонца — гэта няспраўджаная сістэма поглядаў, гэта — філасофія чалавека-банкрута, чалавека, які не адбыўся... Але лірычны герой здолеў убачыць, а мог бы вельмі проста сысці з гэтага свету, як з тэатральных падмосткаў, і не заўважыць іржу на сонцы — на жыцці, на душы, на грамадстве ўвогуле... Заржавелае сонца ўбачана, «дакор вякоў» адчуты — таму пакаянне адбылося... А паколькі пакаянне — гэта не проста нейкае

імгненне, а цяжкае працяглае адчуванне віны, перамена розуму (па-грэчаску пакаянне — перамена розуму), а значыць — зроку і слыху — душы — пакаянне адбудзецца, іржа з сонца знікне, тады «І зазвоніць сабор // З ласкі Бога // За тваю над сабой // Перамогу».

Юрка Голуб можа ў двух радках намаляваць цэлую пейзажную панараму: «Стаяла графіка бяроз // І кожнай галкай шапацела...», або, як у трыялеце «Сасна», адной «бронзай» замест мноства магчымых тут эпітэтаў падаць яскрава і дакладна вячэрнюю карціну:

У бронзе вячэрняй сасна
Узнеслася ўгору астральна.

Мініяцюрна-лаканічныя трыялеты — яшчэ адзін бок паэзіі Юркі Голуба. На пачатку 2003 года выйшаў яго зборнік трыялетаў «Зажураны камень», як прызнаецца ў прадмове сам аўтар, — «пад уладным заклікам Максіма Багдановіча». У беларускай літаратуры трыялеты пісалі Я. Сіпакоў, Хв. Чэрня, А. Барскі і інш., але зборнік «у адной вершаванай раме» —трыялеце — выдадзены ўпершыню. Да гэтай — вытанчанай знешне і філасофскай знутры — вершаванай формы Ю. Голуб меў схільнасць і раней. Выразна і пластычна — барэльефна — выпісанае ім «Рабіны літое пламенне», што «У шыбах паўстала бы знак», яшчэ ў зборніку «Помню пра цябе» (там было змешчана шэсць трыялетаў) «паўстае бы знак» працягу ў кнігах «Сын небасхілу» і «Поруч з дажджом».

Трыялеты «Памяць», «Клён», «Гадзіннік», «Дзверы», «Сцяна» і інш. напоўнены глыбокім філасофскім сэнсам, нягледзячы на абмежаванасць гэтай вершаванай формы. Прычым трыялеты вызначаюцца сваёй музыкальнасцю: страявой маршавай музыкай — трыялет «Войска» («На шляху і на зыходзе дня // Вецер біў у бубны гімнасцёрак»), светла-журботнай рамансавай мелодыкай напоўнены трыялет «Клён», сумам і пяшчотай — бетховенскімі, як у п'есе «Да Элізы», — пранізаны трыялет «Вадаспад»...

На руках трымаеш вадаспад.
Ён табой, як я, зачараваны.
Дзе маланак повязь разарвана,
На руках трымаеш вадаспад.

Імгненне — як з далёкай кінахронікі, але — не застыўшае, не патухлае, таму што, «хоць гадоў ружанцы перабраны», яно выклікае здзіўленне і цяпер («Азірнуся, здзіўлены, назад...»), яно засталося такім жа дарагім і блізкім, хоць ужо і ўтрымлівае ў сабе часцінку вечнасці. А можа, дзякуючы гэтай часцінцы (вечнасці) яно і стала такім дарагім і блізкім.

У яго трыялетах, як і ў цэлым у паэзіі, пульсуюць час і памяць, роздум і высокія памкненні душы. Аўтару ўласціва «схапіць» паэтычнае імгненне — нездарма некаторыя яго вершы называюцца «Імпрэсія», «Гродзенская імпрэсія» — і высвеціць яго найбольш значнай і адметнай гранню («Гасцінец лёг паміж бяроз, // Шурпаты, нібы плашчаніца», «На дрэве памяці плады // Здалёку свецяць перламутрам», «Як ключоў бесхацінных звязак, //З неба вечнасць шпурляе зоры»), вобразы выпісаны пластычна і дасканала, як, напрыклад, у трыялеце «Горад»:

Пад бляскам месяца муры
Маўчаць шчымліва, як афорты.
І апрануты шэрым кортам
Пад бляскам месяца муры.
І зачыняе сумна фортку
Рукой дрыжачаю стары.

Пад бляскам месяца муры
Маўчаць шчымліва, як афорты.

Апошнія два зборнікі «Поруч з дажджом» і «Зажураны камень» засведчылі, што паэт знаходзіцца на піку свайго паэтычнага майстэрства. І з гэтай вяршыні яму адкрываюцца не толькі панарамныя краявіды, але і такія «дробязі», што так балюча-шчымліва кранаюць сваёй абвостранасцю і вытанчанасцю пачуццяў. Маецца на ўвазе трыялет «Край»:

Спадчынны край на зары
І жылкаю мне далягае.
І з твару падобны да гаю
Спадчынны край на зары.

Жылкаю — можа, на тым самым зэльвенскім лісціку... Паэт бачыць Радзіму не толькі ў сваёй неабсяжнасці («Нібыта спарышы // З сусветнае валокі — // Радзімка на душы, // Радзіма — пад аблокі»), але і адчувае кожную яе жылку, пачуцці яго глыбокія... балючыя... І радзіма нікуды не знікла з яго паэтычных даляглядаў. Усё, як і раней:

І ляціць радзіма без канца,
І фіранка часу варухнецца...

І за гэтай «фіранкай часу» мы яшчэ не раз з вамі ўбачым, адкрыем для сябе пранікнёныя і глыбокія вершаваныя радкі, здольныя «Свет пяшчотна трымаць, // Як раменьчык запясце, // Як расінку трава»... Паэзіі Юркі Голуба гэта падуладна.







**Таццяна ШАМЯКІНА**

# АНАЛІТЫКА ПАЭЗІІ

На думку шмат якіх прыхільнікаў паэзіі, аналізаваць яе немагчыма, ды і не патрэбна, бо аналіз непазбежна выпустошвае самую сутнасць паэзіі, алгебра знішчае гармонію. Лепш проста чытаць вершы і адчуваць ад іх асалоду.





*Мінск, «Беларуская навука», 2004*

Гэта, бясспрэчна, так. Але дапытлівы чалавечы розум амаль адразу пасля ўзнікнення паэзіі пажадаў спазнаць, у чым заключаюцца яе таямніцы, прагнуў разгадаць загадку гармоніі. Вядома, што філалогія як навука — навука аналізу тэкстаў — узнікла ў Індыі ў VIII стагоддзі да н.э. як каментарый да свяшчэнных арыйскіх Ведаў. Паступова з філалогіі вылучылася асаблівая яе галіна — паэтыка, якая пачала вывучаць тыя элементы тэксту, што ўдзельнічаюць у фарміраванні эстэтычнага ўражання ад твора, інакш кажучы, якраз яго здольнасці дараваць чытачам асалоду.

Тэарэтычнае асэнсаванне паэзіі ў Еўропе адбываецца яшчэ ў эпоху Антычнасці — у творах Платона і Арыстоцеля, асабліва ў «Паэтыцы» апошняга. У эпоху Сярэднявечча ў працэсе набыцця вопыту паэтычнага пісьменства ўжо амаль кожная нацыянальная літаратура стварае сваю «паэтыку» — звод традыцыйных для яе «правілаў» вершаскладання, «каталогі» традыцыйных вобразаў, улюбёных метафар, жанраў і г.д. Такія «паэтыкі» замацоўвалі эстэтычную традыцыю, мастацкі вопыт народа, садзейнічалі асэнсаванню этнасам — праз сістэму паэтычных вобразаў — самога сябе. У эпоху Адраджэння Сымон Будны адным з першых сярод еўрапейскіх мысляроў пачынае аналізаваць Біблію як выдатнейшы літаратурны твор. У далейшым на Беларусі, ва Украіне і Расіі шырокае распаўсюджанне атрымліваюць так званыя «школьныя піітыкі», якія выкарыстоўваліся ў мэтах навучання моладзі паэзіі і рыторыцы, напрыклад, «De arte poetica» Феафана Пракаповіча, апублікаваная ў 1786 г. на лацінскай мове. Быў раздзел па паэтыцы і ў «Граматыцы» Мялеція Сматрыцкага.

Працяглы перапынак ў развіцці беларускай літаратуры, што назіраўся ў XVIII стагоддзі, перапыніў паэтычную традыцыю, рэзка знізіў творчы патэнцыял нацыі, і таму на працягу ўсяго XIX стагоддзя беларускай паэзіі

---

***Шамякіна Таццяна Іванаўна** нарадзілася ў 1948 годзе ў Мінску.*

*Скончыла філфак БДУ. Доктар філалогіі, прафесар, загадчык кафедры беларускай літаратуры і культуры філфака БДУ.*

*Аўтар шматлікіх крытычных кніжак і падручнікаў па беларускай літаратуры і міфалогіі.*

прыйшлося, фактычна пачаўшы з нуля, нанова назапашваць уласны мастацкі вопыт — без тэарэтычнага яго асэнсавання, бо ўмовы для развіцця айчыннай культуры па-ранейшаму былі выключна неспрыяльныя.

Бурнае развіццё беларускай літаратуры ў XX стагоддзі і, у прыватнасці росквіт паэзіі, прывялі да неабходнасці падагуліць творчыя дасягненні і іх аналіз ў выглядзе даведачнага выдання навукова-энцыклапедычнага характару. У 70—80-я гады мінулага стагоддзя Беларусь перажывала своеасаблівы энцыклапедычны бум. Але перш чым даволі нетаропкія акадэмічныя інстытуты і выдавецтва Беларускай савецкай энцыклапедыі распачалі адпаведную працу — выданне Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва Беларусі, яе зрабілі работнікі адукацыі, сярод якіх, бадай, ці не першы быў Вячаслаў Рагойша з яго «Паэтычным слоўнікам».

«Паэтычны слоўнік» выйшаў у выдавецтве «Вышэйшая школа» ў 1979 г. У той час гэта была найважнейшая падзея ў культурным жыцці рэспублікі, бо такога грунтоўнага выдання, прысвечанага аналізу паэзіі, у беларускім літаратуразнаўстве яшчэ не было. Сціпла названая «Слоўнікам», кніга В. Рагойшы фактычна ўяўляла сабою паэтычную энцыклапедыю, якая зводзіла ў адно і уніфікавала асобныя элементы беларускай «алгебры» гармоніі. Пасля выхаду «Паэтычнага слоўніка» раптам высветлілася, што мастацтва аналізу паэзіі не менш прыгожае і захапляльнае, чым уласна мастацтва паэзіі. Звышзадачай кнігі было — навучыць адчуваць асалоду ад паэтычных твораў, бо адчуванне асалоды часта ўзрастае ад разумення, так бы мовіць, «механізмаў» яе стварэння. І як матэматык бачыць прыгажосць у формулах і тэарэмах, так і літаратуразнаўца можа захапіцца сам і захапіць чытачоў логікай сваёй думкі, разгадваннем сакрэтаў паэтычнага слова і «формулаў» верша.

Я памятаю, як пасля выхаду Рагойшавага «Паэтычнага слоўніка» рэзка актывізавалася напісанне курсавых і дыпломных прац па пытаннях вершаскладання, паэтычнай мовы, як увогуле прасцей стала чытаць курс «Тэорыі літаратуры». Намнога больш эфектыўна пачалі праходзіць семінарскія і практычныя заняткі на філалагічных факультэтах вузаў рэспублікі. Зусім па-іншаму, з улікам нават структуры «Слоўніка», мы перабудавалі курсы па «Уводзінах у літаратуразнаўства» і па «Тэорыі літаратуры».

Кампазіцыя кнігі адрознівалася ад звычайных энцыклапедычных выданняў, напрыклад, ад шырокавядомага «Поэтического словаря» рускага даследчыка А. Квяткоўскага, бо яна была абумоўлена найперш адукацыйнымі мэтамі, патрэбамі названых курсаў, якія чыталіся не толькі на філалагічных факультэтах, але і на аддзяленнях факультэта журналістыкі. Раздзелы кнігі наступныя: «Асновы паэзіязнаўства», «Лексіка паэтычная. Тропы», «Сінтаксіс паэтычны. Інтанацыя», «Метрыка. Рытміка», «Фоніка. Рыфма», «Кампазіцыя. Строфіка», «Жанры паэзіі. Віды верша», «Прадметны паказальнік».

У цэлым гэткая ж структура засталася і ў другім выданні «Паэтычнага слоўніка», які выйшаў са зменамі і дапаўненнямі ў 1987 г. У новым выданні В. Рагойша ўлічыў некаторыя заўвагі і прапановы, якія былі выказаны даволі шматлікімі рэцэнзентамі кнігі, прычым рэцэнзентамі не толькі з Беларусі, але і з Польшчы, Украіны, Расіі, дзе назапашаны намнога багацейшы вопыт у стварэнні такога кшталту энцыклапедычных выданняў. Прапановы зацікаўленых чытачоў тычыліся галоўным чынам удакладнення асобных азначэнняў, пашырэння кола тэрмінаў — іх уведзена ў другім выданні звыш ста, натуральна, адноўлены і прыклады.

Пасля выхаду другога выдання «Паэтычнага слоўніка» яшчэ больш актывізавалася вывучэнне тэорыі літаратуры як у акадэмічнай навуцы, так і ў адукацыйнай, што дало магчымасць арганізаваць адпаведныя структу-

ры — сектар тэорыі літаратуры ў Інстытуце літаратуры імя Я. Купалы НАН Беларусі і кафедру тэорыі літаратуры ў БДУ. Дарэчы, кафедру тэорыі літаратуры з моманту яе ўзнікнення (1994 г.) і па цяперашні час узначальвае В. Рагойша.

З моманту выхаду ў свет другога выдання «Паэтычнага слоўніка» прайшло семнаццаць гадоў. За гэты час адбыліся кардынальныя змены ў нашым існаванні: мы жывём у новую касмічную эру (у выніку так званай астранамічнай прэцэсіі), бо сапраўды Сонечная сістэма перамясцілася ў іншую вобласць Галактыкі; мы будуем новую дзяржаву з іншым грамадскім ладам; мы перажываем інфармацыйную рэвалюцыю. Мы назіраем і росквіт айчыннай паэзіі, і ў той жа час поўную няўвагу да яе з боку масавага чытача. Гэта адзін са шматлікіх парадоксаў нашага часу. Дзякаваць Богу, не перапынілася паступовае развіццё аналітычнай думкі. Наадварот, з'явілася неадкладная патрэба ў абагульненні ранейшага літаратурнага вопыту, беларускай эстэтычнай традыцыі, у тым ліку, у галіне паэзіі. Вось чаму і прыспела неабходнасць у трэцім выданні «Паэтычнага слоўніка», якое выйшла напрыканцы 2004 года ў выдавецтве «Беларуская навука».

Сам В. Рагойша піша ў «Прадмове» да кнігі, лічачы неабходным нагадаць пра асноўныя задачы выдання: «Аўтар слоўніка імкнуўся не толькі вытлумачыць асноўныя літаратуразнаўчыя тэрміны, так ці інакш звязаныя з паэзіяй, але і паказаць, чаго дасягнула беларуская паэзія ў галіне мастацкай формы, паэтыкі за пяцісотгадовы перыяд свайго развіцця, і ў той жа час адзначыць, што яна яшчэ недастаткова або зусім не засвоіла з вопыту сусветнай паэтычнай культуры. Такім чынам, гэтае выданне энцыклапедычнага тыпу — не толькі паняційна-тэрміналагічны даведнік, але і своеасаблівая кароткая гісторыя беларускай паэзіі».

Сціпласць Вячаслава Пятровіча не дазволіла яму падкрэсліць унікальнасць сваёй кнігі, у якой арганічна паяднаны дзве важнейшыя філалагічныя дысцыпліны — тэорыя літаратуры і гісторыя літаратуры. Пры гэтым аўтар шчасліва пазбегнуў нарматыўнасці, скіраваўшы ўвагу ў асноўным на неабходнасць навучыць студэнтаў апісваць, даследаваць, аналізаваць літаратурны твор. (Дарэчы, ёсць у В. Рагойшы і своеасаблівы падручнік для маладых паэтаў — «На шляху да Парнаса».) Слоўнік, маючы структуру вучэбнага дапаможніка, у той жа час — паўнацэнны энцыклапедычны даведнік; яго апошні раздзел — алфавітны — «Прадметны паказальнік» — дае магчымасць лёгка знайсці любы тэрмін, што тлумачыцца або ў спецыяльным артыкуле, або ў артыкуле на іншую тэму. Вытлумачэнне тэрмінаў (а іх больш за тысячу) даецца ў тэарэтычным аспекце, але, як правіла, шукаецца і генезіс паняцця, зафіксаванага ў тэрміне, паказваецца яго асэнсаванне рознымі даследчыкамі, прыцягваюцца шматлікія факты з гісторыі беларускай, рускай, украінскай, еўрапейскай, усходняй паэзіі. Тэрмін амаль заўсёды ілюструецца прыкладамі з беларускага фальклору і пісьмовай паэзіі, але часам выкарыстоўваюцца і творы з іншых нацыянальных літаратур, калі ў айчыннай не аказваецца адпаведнай формы.

Узорам артыкула, які дае ўяўленне пра багацце і глыбіню матэрыялу, прыведзенага ў «Паэтычным слоўніку», можа быць наступны:

«**Перыфраза,** або **перыфраз** (грэч. periphrasis, ад peri — навокал і phradzo — гавару), — адзін з тропаў, у якім назва з'яў або прадметаў падаецца праз апісанне іх асобных вызначальных прымет. У П. заключаны элемент своеасаблівай паэтычнай адгадкі, «ключ» да якой знаходзіцца тут жа, у паэтычным кантэксце. Вось некаторыя П. беларускіх паэтаў: *«кроў сіняя любай краіны»* (Нёман; Л. Геніюш); *«чырвоныя сны Дэлакруа»* (карціны Дэлакруа; М. Танк); *«бязвоблачная званіца»* (неба; Ю. Гаўрук); *«пасвіць між моху вочы»* (шукаць грыбы; П. Панчанка), *«ластаўка родна-*

*га слова»* (Леся Украінка; Я. Янішчыц); *«кароль звяроў, цар джунгляў і гаспадар тайгі»* (леў, тыгр, мядзведзь; А. Вярцінскі)... Многія народныя ідыёмы маюць перыфрастычны характар (класці баразну — араць, заглядаць у бутэльку — піць гарэлку, пусціць агнём — спаліць, сысці ў магілу — памерці). П. даволі шырока ўжываюцца ў фальклоры, у прыватнасці ў народных песнях:

Не пайду за *такога,*
*Што барада коле,*
А пайду за *такога,*
*Што сеюцца вусы.*

У паэзіі сустракаюцца як фальклорныя, так і арыгінальныя аўтарскія П.:

Не пад мысль песня будзе каму-небудзь нам —
*Канапляную возьмеш зарплату.*
*(Янка Купала. «Курган»)*

Га! Знаем вас, *атручаныя найміты;*
Вы — *служкі чорныя Яснейшага Мамона,*
Вы — *мора бруд ля берагоў намыты,*
Без дум і без мазгоў, вы — *золата без звона.*
*(А. Гарун. «Юдам»)*

*Цяжкую шапаткую пазалоту*
Кляны ў ваду раняюць пакрысе...
*(М. Федзюковіч)*

У вершы В. Зуёнка «Андрэй, Андрэй...» ужыта надзвычай рэдкая разгорнутая П., якая дазволіла аўтару, не ўжываючы слова *могілкі,* выразна намаляваць іх:

Не сыдуцца *жалобныя пагоркі,*
І толькі неба — юнае заўжды —
Нахіліцца над намі адвячоркам,
Каб ціха мы ўглядаліся туды,
*Дзе сейбіты агаралі палетак*
*І вечны хлеб свой сеюць,*
*ды не жнуць*
*Дзе пад вятрамі соцень зім і летаў*
*Гадуюць лес,*
*ды зрубы не кладуць.*

П. часам ляжыць у аснове эўфемізма і антынамазіі. Многія народныя і літаратурныя перыфрастычныя выразы сабраны ў кнізе Г.Малажай «Беларуская перыфраза» (Мн., 1974).

Аўтар не хавае цяжкасцей, з якімі сутыкнуўся ў працэсе стварэння сваёй кнігі, бо некаторыя тэрміны дзякуючы сваёй працяглай гісторыі існавання і вобразна-структурнаму напаўненню могуць трапіць у розныя рубрыкі (напрыклад, паралелізм); некаторыя катэгорыі ў сваіх дэфініцыях да нашага часу выклікаюць спрэчкі сярод даследчыкаў; іншыя ўвогуле не сустракаюцца ў ранейшых выданнях, і Рагойша дае ім уласнае вытлумачэнне. Аўтар імкнецца да паўнаты доследу, складае амаль поўны — на сённяшні дзень — рэестр прыёмаў, якія ахопліваюць гукавую, слоўную і вобразную пабудову паэтычнага твора; смела выходзіць за межы ўласна літаратуразнаўства ў іншыя сферы творчасці — у розныя віды мастацтва; адсылае чытачоў да тэарэтычных даследаванняў больш шырокага харак-

тару і г.д. Часам з некаторымі палажэннямі аўтара можна паспрачацца, напрыклад, з прыкладамі, якія даюцца да артыкулаў «Метанімія» і «Сінекдаха», але ў цэлым «Паэтычны слоўнік» — выданне надзвычай дакладнае, выверанае, у поўным сэнсе слова навуковае. Кнігу цікава і проста чытаць, бо яна напісана жывой, даходлівай мовай і проста ўражвае багаццем і разнастайнасцю матэрыялу.

У параўнанні з двума папярэднімі ў трэцім выданні «Паэтычнага слоўніка» значна пашырана кола аўтараў, радкі якіх прыводзяцца ў якасці ілюстрацый да тэрмінаў. В. Рагойша заўсёды ўважліва сачыў за з'яўленнем маладых цікавых паэтаў, а іх апошнім часам з'явілася шмат, хоць эпоха наша, здавалася б, не паэтычная. Аўтар слоўніка даволі часта звяртаецца да ўдалых радкоў маладых паэтаў. Напрыклад, у артыкуле «Паўтор» ён піша: «Арыгінальна, звярнуўшыся да ампліфікацыі (*гл.*), выкарыстаў В. Жыбуль у сваім вершы «Сон Мендзелеева», напісаным чатырохстопным харэем, пералік назваў усіх хімічных элементаў з перыядычнай табліцы Мендзелеева». І цалкам прыводзіць верш маладога паэта.

У новым выданні слоўніка В. Рагойша абапіраецца і на вернутыя з незаслужанага забыцця вершы і паэмы савецкіх аўтараў, літаратараў беларускага замежжа — А. Гаруна, Н. Арсенневай, А. Салаўя, М. Каваля, Р. Крушыну і інш. Напрыклад, у артыкуле «Брахікалан» ён піша: «Своеасаблівы Б., у якім з аднаскладовых слоў зарыфмаваныя толькі цотныя радкі, напісаў А. Салавей («Тысяча дзвеяцьсот»)».

Найчасцей В. Рагойша звяртаецца да прыкладаў з твораў класікаў беларускай паэзіі — Янкі Купалы, Якуба Коласа, М. Багдановіча, М. Танка, П. Панчанкі, А. Куляшова, У. Караткевіча, зноў і зноў аднаўляючы афарыстычныя радкі, якія ў прынцыпе павінен ведаць кожны адукаваны жыхар Беларусі, як у Іране ведаюць сотні тысяч радкоў з класічнай персідскай паэзіі (Рудакі, Саадзі, Хафіза), а ў Індыі — з «Махабхараты» і «Рамаяны». Надзвычай каштоўныя тыя прыклады, дзе адзін аўтар згадвае імя другога аўтара, аддаючы яму належную даніну:

Знят з узбраення,
бо ўстарэў *зусім,*
Славуты «максім»,
кулямёт *станковы...*
А ты ўсё не старэеш,
Танк *Максім,* —
Гады ідуць,
а ты штодзённа
*новы...*

*(М. Аўрамчык. «...Калі запеў ты некалі ў гаі»)*

Дзякуючы ўвядзенню шэрага новых аўтараў, прыкладаў, сучасных паняццяў, аб'ём слоўніка ў параўнанні з папярэднім выданнем значна павялічыўся — з 15 друкаваных аркушаў да 21. Намнога ўзбагаціўся навуковы апарат даведніка, бо за гады з моманту выхаду другога выдання з'явіліся шматлікія тэарэтычныя працы даследчыкаў верша — як айчынных, так і замежных. Іх згадвае В. Рагойша ў «Прадмове», і не толькі прыводзіць назвы іх прац у раздзеле «Даследаванні па паэтыцы верша», але і неаднаразова дае спасылкі на вядомых навукоўцаў ў тэксце. Напрыклад: «**Недасказ** разлічаны на здагадку чытача, своеасаблівае садуманне яго з паэтам; Н. будзіць фантазію таго, хто ўспрымае вершаваны твор. Гэта адна з найбольш важных стылістычных фігур, паколькі «роля невядомага тэксту (любога ў семантычных адносінах), уведзенага ў бесперапынную канструкцыю верша, непараўнана мацнейшая за ролю пэўнага тэксту» (Ю. Лотман).

У «Паэтычным слоўніку» аўтарам праведзена не толькі каласальная даследчыцкая работа па зборы, апісанні і кваліфікацыі найбагацейшага матэрыялу, але і глыбока аналітычная праца па вывучэнні метрыкі і рытмікі паэтычных твораў. Пасля найвыдатнейшых даследчыкаў І. Ралько і М. Грынчыка Вячаслаў Рагойша на сённяшні дзень — найбольш аўтарытэтны знаўца вершаскладання ў беларускім літаратуразнаўстве. Раздзел яго слоўніка — «Метрыка. Рытміка» — своеасаблівая мініманаграфія ўнутры даведачнага выдання. Акрамя слушных, глыбокіх тэарэтычных разваг, тут даюцца шматлікія схемы рытму паэтычных твораў. Асаблівую складанасць у студэнтаў заўсёды выклікаюць так званыя рытмаграмы — своеасаблівыя графікі, на якіх фіксуюцца колькасныя і якасныя паказчыкі вершаванага памеру. В. Рагойша прыводзіць узорныя прыклады некаторых рытмаграм.

У параўнанні з першымі выданнямі «Паэтычнага слоўніка» В. Рагойша значна перапрацаваў уводны яго раздзел «Асновы паэзіязнаўства», дзе даюцца найбольш агульныя тэрміны, звязаныя з паэзіяй, і ў той жа час падкрэсліваецца сувязь літаратурнай творчасці з жыццём. Бясспрэчна, матэрыял значна асучаснены. У той жа час, зняўшы, прыкладам, паняцце «камуністычная партыйнасць» і разгляд вядомай працы У. І. Леніна, В. Рагойша палічыў неабходным захаваць паняцце «партыйнасць» сярод іншых важных катэгорый літаратуразнаўства. Тут з паважаным аўтарам можна было б і паспрачацца, бо паняцце «партыйнасць» «варта пакінуць у дачыненні да публіцыстыкі, а не да паэзіі. Але паколькі «Паэтычны слоўнік» усё ж у значнай ступені зарыентаваны і на гісторыю літаратуры, у тым ліку, літаратуру XX стагоддзя, дзе паняцце «партыйнасць» нейкі час было ў эстэтыцы адным з галоўных, то логіку думкі аўтара можна і зразумець.

У цэлым «Паэтычны слоўнік» В. Рагойшы — кніга надзвычай каштоўная. Яшчэ яе папярэднія выданні не толькі стымулявалі развіццё літаратуразнаўчай адукацыі і тэарэтычнай думкі ў Беларусі, але і садзейнічалі нараджэнню новых, невядомых раней у беларускай паэзіі, формаў і відаў верша. Можна сказаць, што на «Паэтычным слоўніку» вырасла цэлая плеяда таленавітых паэтаў і навукоўцаў. Трэцяга выдання кнігі чакалі даўно. Можна не сумнявацца, што і яно народзіць новую хвалю твораў нашай таленавітай моладзі.





# МЕТРЫКА
## *літаратурная*

**875**

— гадоў таму нарадзіўся Кірыла **ТУРАЎСКІ** (каля 1130—1182), старажытнарускі пісьменнік-прапаведнік, царкоўны дзеяч, майстар аратарскай прозы.

Дакладныя даты яго жыцця невядомыя. Нарадзіўшыся ў Тураве ў сям'і *«богату родителю»*, быў добра выхаваны і адукаваны. З часам сышоў у манастыр, а затым і ўвогуле стаў стоўпнікам, адналюднікам, першым на нашай зямлі. *«Посем блаженный, на болшая подвиг желая, во столп вшед затворися, и ту пребысть неколико время, с постом и молитвою паче себя тружаяся, и много божественная писания изложи»*.

Стоўп уяўляў сабою драўляную вежу, дзе на самоце і ў моўчы працаваў падзвіжнік. Маліўся і пісаў. Магчыма, што гэты стоўп стаяў на беразе Прыпяці. Прынамсі такія меркаванні адносна лёсу Кірылы Тураўскага мае вядомы вучоны Юры Лабынцаў. Праз пэўны час *«бысть умолен»* заняць кафедру епіскапа горада Турава. Аднак, адчуўшы сябе не на сваім месцы, прыкладна ў 1182 годзе зноў сышоў у манастыр *«у святаго Николы»*, дзе і былі створаныя сёння вядомыя ўсяму свету малітвы і казанні. Ёсць, праўда, і іншыя меркаванні. Напрыклад, А. Надсан лічыць, што ў 1182 годзе Кірылы Тураўскага ўжо не было на гэтым свеце, і што ён не адмаўляўся ад епіскапскай кафедры ў Тураве і ні ў які манастыр больш не сыходзіў... Магчыма. Ад сябе толькі зазначу, што ўсякая палеміка жывіць і векавечыць славу вялікіх людзей.

Жыццяпісец успамінае, што Кірыла Тураўскі напісаў *«павучэнні на тэмы Евангелля і прарокаў, казанні на Гасподнія святы і шмат іншых твораў карысных для душы, а таксама малітвы і пахвалы шматлікім святым»*.

Вялікі асветнік і падзвіжнік нашай хрысціянскай веры, мовы і літаратуры так пачынае сваё «Слова ў нядзелю на святога Фамы»: *«Вялікі вучыцель і красамоўца мудры царкве на ўпрыгожанне свята. А мы ўбогія словам, маруднымя розумам і агню Духа Святога ў сабе не маем, каб гэтак скласці душакарысныя словы, што іх пачуюць і прымуць людскія душы»* (перапумачэнне на сучасную беларускую мову А.Разанава).

**535**

— гадоў таму нарадзіўся **ГУСОЎСКІ** Мікола (1470?—1533?), беларускі паэт-гуманіст эпохі Адраджэння, прадстаўнік новалацінскай усходнееўрапейскай літаратурнай школы, дзеяч славянскай культуры.

Спрэчкі пра грамадзянскае і нацыянальнае паходжанне Міколы Гусоўскага не сціхаюць да гэтай пары. За геніяльнага аўтара «Песні пра зубра» вядуць навукова-архіўнае *змаганне* літаратуразнаўцы і гісторыкі Польшчы, Украіны і Беларусі. Хоць сам паэт у знакамітым сваім творы найперш усlаўляў Вялікае княства Літоўскае, у склад якога і ўваходзілі землі вышэй названых дзяржаў, аднак, як піша С. Кавалёў, за ўзор ідэальнага ўладара лічыў

князя Вітаўта, а не караля Ягайлу. І ўсё ж за лепшае, пэўна, усю шматмоўную літаратуру ВКЛ трэба лічыць агульнай спадчынай гэтых народаў. Сама ж паэма Міколы Гусоўскага «Песня пра зубра» была напісана ў Рыме ў 1522 годзе. *«Гусоўскі сваёй творчасцю паскорыў засваенне гуманістычнай арыентацыі ў мастацкай культуры ўсходніх славян. (...) Смелая крытыка паэтам маралі і феадальнай палітыкі пануючых класаў, якія давялі краіну да цяжкага эканамічнага і палітычнага становішча, палымяная грамадзянскасць «Песні пра зубра» зрабілі прыкметны ўплыў на развіццё сацыяльна-палітычнай думкі Вялікага княства Літоўскага»* — піша В. Дарашкевіч, і дадае: *«Але Гусоўскі да канца жыцця імкнуўся развіваць свае ідэйна-эстэтычныя прынцыпы (прапаведзь міру, дружбы і яднання народаў, абарона прыгонных сялян, ідэя самапазнання і грамадства)».*

Паэт пісаў і іншыя, менш вядомыя, творы (паэмы «Новая і славутая перамога над туркамі ў ліпені месяцы», «Жыццё і подзвігі св. Гіяцынта»...) Аднак не яны, а менавіта «Песня пра зубра» прынесла паэту вялікую сусветную славу. *«Лёс творчай спадчыны паэта складаны і цяжкі, як пакутлівай была і гісторыя яго Бацькаўшчыны,* — акцэнтуе ўсё той жа В. Дарашкевіч, — *якой польскі шавінізм і рускі царызм не раз адмаўлялі ў праве на сваё месца пад сонцам».*

Таму не дзіўна (нават суадносна нашага часу) чытаць заключныя радкі паэмы Міколы Гусоўскага «Песня пра зубра»:

Гэтак, каб той, хто не спэцкаў яшчэ сваё ймення,
Меч наш усюды й заўжды скіраваў справядліва
І ўладара ўзгадаваў бы з сябе, што патрэбны
Кожнаму конча сягоння ў хаосе сусветным.

**240** — гадоў таму нарадзіўся **МАНЬКОЎСКІ** Ігнат Антонавіч (каля 1765—1832), беларускі публіцыст.

**175** — гадоў таму нарадзілася **ПАЎЛОЎСКАЯ** Лізавета Іванаўна (1830—1915), збіральніца беларускіх народных песень.

**155** — гадоў таму нарадзілася **КОСІЧ** Марыя Мікалаеўна (1850—1911), беларуская фалькларыстка, этнограф, паэтэса і перакладчыца. Нарадзілася на Чарнігаўшчыне, вучылася ў Пецярбургу. Жывучы ў маёнтку дзеда ў атачэнні беларускіх сялян, пачала збіраць беларускія песні і фальклор. З часам пачала пісаць і сама. Перастварала на беларускую мову паасобныя байкі І. Крылова. Спрабавала перакласці і выдаць па-беларуску камедыю Л. Талстога «Першы вінакур, Або як чарцянё акрайчык заслужыла» (захаваўся аўтограф яе перапіскі на гэты конт з вялікім «писателем земли русской»). Выпусціла ў свет зборнікі: «Литвины-белорусы Черниговской губернии: Их быт и песни» (1902), «На переселении: рассказ тетки Домны из Полесья» (1903), «О постройках белорусского крестьянина...» (1906).

**135** — гадоў таму нарадзіўся **ГУЛЕВІЧ** Пётр Восіпавіч (1870—1957), беларускі казачнік.

**125** — гадоў таму нарадзіўся **ПЕТРУКОЎ** Міхалка (сапр. Лотыш Міхаіл Пятровіч (1880?—1947), беларускі пісьменнік.

Адукацыю меў няпэўную. Працаваў пісарам у Валожыне, Стоўбцах, Івянцы. Супрацоўнічаў з «Нашай нівай». Меў знаёмства з Ядвігіным Ш. і добрае стаўленне да сябе рэдактара газеты А. Уласава. У сваіх апавяданнях асуджаў з'явы карупцыі і самаўладства чыноўнага апарату. Уласнай кніжкі так і не выдаў. Тое-сёе перакладаў з рускай мовы. Агулам пра жыццё Міхалка Петрукова мала што вядома.

**15**

— гадоў таму (1990) быў створаны **Полацкі музей беларускага кнігадрукавання**.

## ЛЮТЫ

**1**

— **90** гадоў з дня нараджэння **КАВЫЛЯ** Міхася (сапр. Лешчанка Язэп Казіміравіч (1915-?), беларускага паэта, крытыка, празаіка.

Нарадзіўся ён на Случчыне. Вучыўся ў Беларускім педтэхнікуме. Быў сябрам «Маладняка». У 1933 годзе за *нацдэмаўшчыну* арыштаваны і асуджаны на 3 гады няволі. Адбываў пакаранне на Далёкім Усходзе. Давучваўся ў Варонежскім педінстытуце. У гэтай жа, Варонежскай, вобласці працаваў настаўнікам. На фронце — ад пачатку вайны. У 1942 трапіў у палон да румынаў. У 1950 годзе выехаў з Германіі на сталае жыхарства ў ЗША. Выдаў зборнікі вершаў: «Ростань», «Пад зоркамі белымі», «Першая рана», «Цяжкія думы»... Апошняя па часе кніжка — выбраныя творы «Міжагнёўе» (1990).

**1**

— **85** гадоў таму (1920) выйшла ў свет штодзённая беларуская грамадска-палітычная газета **«Савецкая Беларусь»**. Выходзіла да 21 сакавіка 1933 года.

**5**

— **70** гадоў з дня нараджэння **ПАЛІТЫКІ** Апанаса Паўлавіча, беларускага гумарыста, празаіка і паэта.

Жыве ў Крычаве. У гэтым жа раёне і нарадзіўся. Шмат дзе працаваў і вучыўся. Апошнія часы — у рэдакцыі мясцовай газеты і раённым радыё. Выдаў кніжкі сатыры і гумару: «Маўчанне навыперадкі», «Свой хлопец», «Праверка»...

Віншуем! Жадаем здароўя і творчага натхнення!

**7**

— **80** гадоў з дня нараджэння **ФЯДОСІКА** Анатоля Сямёнавіча, беларускага фалькларыста, крытыка, заслужанага дзеяча навукі Беларусі.

**8**

— **150** гадоў з дня нараджэння **ГЛАСКО** Івана Антонавіча (1855—1881), беларускага публіцыста.

**9**

— **75** гадоў з дня нараджэння **ТАРАСА** Валянціна Яфімавіча, беларускага пісьменніка.

Нарадзіўся ў Мінску (1930) у сям'і мастака. Падлеткам удзельнічаў у партызанскім руху падчас вайны. Скончыў журфак БДУ. Працаваў у рэ-

дакцыях газеты «Звязда» і часопіса «Нёман». Піша на рускай і беларускай мовах. Выдаў шмат паэтычных кніг. Пісаў сцэнарыі дакументальных фільмаў і кампазіцыі для канцэртнай праграмы ансамбля «Песняры» («Праз усю вайну»). Займаўся перакладамі твораў беларускіх паэтаў і пісьменнікаў на рускую мову. Актыўна ўдзельнічае ў грамадска-палітычным жыцці краіны.

Віншуем з юбілеем, жадаем здароўя і творчага плёну!

**11** — споўнілася б **70** гадоў з дня нараджэння **КУСЯНКОВА** Міколы (Мікалая Сяргеевіча; 1935—2004), беларускага паэта і празаіка.

Мікалай Сяргеевіч, на жаль, не дажыў да свайго юбілею. Нарадзіўся ён у Добрушскім раёне. Скончыў лясны тэхнікум. Працаваў у расійскіх рэгіёнах па спецыяльнасці. Пасля вучыўся на Вышэйшых літаратурных курсах. Завочна скончыў БДУ. Працаваў у многіх рэдакцыях, у тым ліку і ў часопісе «Полымя», галоўным рэдактарам выдавецтва «Мастацкая літаратура». Пісаў вершы і прозу. Кніжак выдаў няшмат, аднак — адметных і таленавітых. Лаўрэат літаратурнай прэміі імя А. Куляшова (па паэзіі, 1991), а таксама Дзяржаўнай прэміі імя Я. Купалы (па прозе, 2002).

**13** — **300** гадоў з дня нараджэння **РАДЗІВІЛ** Францішкі Уршулі (1705—1753), асветніцы і драматурга.

Прыдворны тэатр князёў Радзівілаў існаваў у Нясвіжы з 1740-га да 1791 года. Паказанні адбываліся ў спецыяльным будынку — «камедыхаўзе» ў суправаджэнні Нясвіжскай капэлы Радзівілаў, а таксама ў прадмесці Нясвіжа Альбе пад адкрытым небам у «зялёным тэатры» і ў палацы «Кансаляцыя». У. Ф. Радзівіл рыхтавала для рэпертуару тэатра камедыі, трагедыі і нават оперы, перакладаючы і перарабляючы творы вялікіх французаў Мальера і Вальтэра. Стварала таксама асобныя балеты і пантамімы. Яе роля ў тэатральнай культуры нашай Айчыны неацэнная.

**16** — **80** гадоў з дня нараджэння **НАВУМЕНКІ** Івана Якаўлевіча, беларускага пісьменніка, літаратуразнаўца.

Нарадзіўся ў Рэчыцкім раёне. Скончыў БДУ. Напісаў шмат празаічных твораў, у тым ліку раманаў. Найбольш вядомыя «Сасна пры дарозе», «Смутак белых начэй», «Асеннія мелодыі», «Дзяцінства»... Аўтар манаграфій пра Янку Купалу і Якуба Коласа. Народны пісьменнік Беларусі. Акадэмік НАН. Доктар філалогіі. Прафесар. З 1973 года ўзначальваў Інстытут літаратуры, а з 1982 па 1992 быў віцэ-прэзідэнтам НАН Беларусі. Лаўрэат прэмій Ленінскага камсамола Беларусі, Дзяржаўнай прэміі імя Я. Коласа. Старшыня Вярхоўнага Савета БССР (1985—1990).

Жадаем здароўя і творчага натхнення!

**17** — **50** гадоў з дня нараджэння **ТВАРАНОВІЧ** Галіны Паўлаўны, беларускага літаратуразнаўца, паэтэсы.

Кандыдат філалагічных навук. Актыўна займалася праблематыкай югаслаўскай літаратуры. Выдала некалькі зборнікаў вершаў. Цяпер жыве і працуе ў Польшчы.

Віншуем з юбілеем і зычым дабра і творчага плёну!

**19**

— **115** гадоў з дня нараджэння **СВАЯКА** Казіміра (сапр. Стаповіч Канстанцін; 1890—1926), беларускага паэта, драматурга, публіцыста, каталіцкага святара.

Нарадзіўся на Астравеччыне. Скончыў Віленскую каталіцкую духоўную семінарыю. Актыўна выявіў сябе ў беларусізацыі касцёла на Беларусі. Змоладу захварэў на сухоты. Лячыўся на курортах Закапанэ. Пісаць і публікавацца пачаў з дваццаці двух гадоў. Найбольш праявіў сябе ў паэзіі. У 1924 годзе ў Вільні пабачыў свет адзіны прыжыццёвы зборнік К. Сваяка «Мая ліра». Ім быў складзены малітоўнік для беларусаў-католікаў «Голас душы». Маючы вялікі талент ад Бога, многае стварыць і здзейсніць паспеў. Памёр ад сухотаў у 36 гадоў.

**19**

— **90** гадоў з дня нараджэння **БЯРОЗКІ** Анатоля (сапр. Смаршчок Мацвей; 1915-?), беларускага паэта, заслужанага доктара медыцыны.

*«Сам Максім Танк, які неаднойчы выступаў разам з А. Бярозкам на літаратурных вечарынах у даваеннай Вільні, азадачана пытаўся: «Дзе дзеўся Бярозка? Што з ім?»* А Мацей Смаршчок з'ехаў у ЗША і займаўся медычнай практыкай. І дасягнуў у гэтай дзейнасці значных поспехаў і пашанотных узнагарод. *«Цяжка з упэўненасцю сказаць, што змусіла яго падацца на Захад: падчас вайны ні ў якую структуру не быў заангажаваны, працаваў як медык у Баранавічах»*, — піша А. Ліс. «Адзінаццаць вершаў» — так называўся адзіны аўтарскі зборнічак паэта (1989). У 2004 годзе была выдадзена кніжка «Выбранае» з твораў А. Бярозкі і ўспамінаў пра яго.

**20**

— **60** гадоў з дня нараджэння **БОНДАР** Таісы Мікалаеўны, беларускай паэтэсы, празаіка, публіцыста.

Нарадзілася на Міншчыне ў г/п Рудзенск. Завочна скончыла Мінскі педагагічны інстытут замежных моў. Выкладала англійскую мову і гісторыю мастацтва ў мастацкай школе ў горадзе Фалешты (Малдова). З 1978 года жыве ў Мінску. Працавала ў рэдакцыі газет «Вячэрні Мінск» і «Літаратура і мастацтва». Неўзабаве была прызначана на пасаду намесніка галоўнага рэдактара часопіса «Беларусь». З 1996 года ўзначальвала новаствораны часопіс «Всемирная литература», а з 2002 года — дырэктар рэдакцыйна-выдавецкай установы «Литература и Искусство», куды ўваходзяць рэдакцыі такіх літаратурна-мастацкіх выданняў, як газета «ЛіМ», часопісы «Полымя», «Маладосць», «Нёман» і «Всемирная литература».

Піша вершы і прозу. На пачатку творчага шляху аддавала перавагу паэзіі. Выдала каля дзесятка зборнікаў, найбольш вядомыя з якіх «...І голас набыла душа», «Чырвоны месяц года», «Адна»... З гадамі стала часцей звяртацца да прозы. Апроч кніг апавяданняў і аповесцей выйшлі чатыры раманы: «Спакуса», «Ахвяры», «Мечаная», «Павуціна». Пошукі Боскага пачатку ў чалавеку, духоўнасці, таемнай існасці зямнога жыцця — вось асноўныя накірункі творчасці Таісы Бондар і відочныя азнакі яе таленту.

Віншуем Таісу Мікалаеўну з юбілеем, жадаем здароўя і літаратурнага плёну!

**20**

— **50** гадоў з дня нараджэння **ШРУБА** Паўла Міхайлавіча, беларускага паэта.

Нарадзіўся ў Жыткавіцкім раёне. Скончыў фізічны факультэт Ленінградскага універсітэта. З цягам часу — Мінскую вышэйшую школу

МУС СССР. Адным словам — натхняў органы на подзвігі пры ахове грамадскага парадку: там, дзе не праходзіў міліцэйскі «козлік», перасаджваўся на Пегаса... І — недарма. Выдаў некалькі паэтычных зборнікаў, за адзін з якіх атрымаў прэмію Ленінскага камсамола Беларусі. На пенсіі. Піша. Друкуецца...

Віншуем, зычым здароўя і творчых поспехаў!

**22** — **85** гадоў з дня нараджэння **КОРШАКА** Аляксея Ігнатавіча (1920—1945), беларускага паэта.

Нарадзіўся ў вёсцы Вуглы Капыльскага раёна. Да вайны вучыўся на літаратурным факультэце Мінскага педагагічнага інстытута імя А. Горкага (1938—1941). У 1944 годзе быў прызваны ў Савецкую Армію. На фронце быў разведчыкам. Загінуў 27 лютага 1945 года ва Усходняй Прусіі.

Пісаў вершы. Друкаваўся, у тым ліку ў газеце «Літаратура і мастацтва». Зборнік яго паэзіі «Апаленыя пялёсткі» выйшаў у 1963 годзе. Нізкі яго вершаў змешчаны таксама ў калектыўных зборніках «Мы іх не забудзем» (1949) і «Крывёю сэрца» (1967).

**24** — **410** гадоў з дня нараджэння **САРБЕЎСКАГА** Мацея Казіміравіча (1595—1640), паэта, тэарэтыка літаратуры, педагога. Пісаў на лацінскай мове.

Ёсць звесткі, што ён быў ліцвінам. Сярод адрасатаў яго вершаў часта фігуруюць прозвішчы вядомых беларускіх магнатаў: Хацкевічаў, Пацаў, Сапегаў, Радзівілаў, Кішкаў. Ён з'яўляецца аўтарам некаторых касцельных гімнаў. За першы паэтычны зборнік «Лірычныя творы» (1625) атрымаў найменне «хрысціянскага Гарацыя». Многія творы пісаў у Беларусі падчас навучання ў Вільні і выкладання ў Полацку. Яго вершы перакладзены на многія еўрапейскія мовы. На польскую М. Сарбеўскага пераклаў У. Сыракомля. Сваёй творчасцю зрабіў неацэнны ўнёсак у культуру Беларусі. Яго духоўная і літаратурная праца паўплывала на творчасць Сімяона Полацкага і Мялеція Сматрыцкага. Шырока і хораша пра яго пісаў У. Конан. На беларускую мову М. Сарбеўскага перакладалі М. Гайдук (тыднёвік «Ніва», 16.04.1961) і Л. Чарнышова (часопіс «Спадчына», 1991, № 3).

**24** — **70** гадоў з дня нараджэння **БАРАДУЛІНА** Рыгора Іванавіча, беларускага паэта, перакладчыка.

А нарадзіўся ён на хутары Верасоўка, што на Ушаччыне. Бацька загінуў у партызанскім атрадзе падчас блакады. Выхоўвала будучага паэта мама Акуліна. Адна. Сын скончыў філфак БДУ. Працаваў у рэдакцыях газеты «Советская Белоруссия», часопісаў «Бярозка», «Беларусь», «Полымя». Доўгі час быў рэдактарам, а пасля загадчыкам рэдакцыі ў выдавецтве «Мастацкая літаратура». Наўрад ці знойдзецца ў Беларусі паэт, які пры жыцці выдаў каля пяці дзесяткаў напісаных і перакладзеных ім кніжак! Зрэшты, тут — як каму пашанцуе. Ён слухае слова — і — слова слухаецца яго.

Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі, Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Купалы. Узнагароджаны ордэнам Дружбы народаў і медалём Францыска Скарыны. Народны паэт Беларусі.

Шчыра віншуем Рыгора Іванавіча з юбілеем, зычым здароўя і творчага плёну!

**25**

— **85** гадоў з дня нараджэння **ПРЫХОДЗЬКІ** Пятра Фёдаравіча, беларускага паэта.

Нарадзіўся ў Хоцімскім раёне. Працаваў кіраўніком спраў Хоцімскага райкома камсамола. Скончыў Магілёўскую газетную партыйную школу, пасля — Камуністычны інстытут журналістыкі імя С. Кірава. З 1940 года ў СА. Прайшоў усю вайну. Удзельнічаў у змаганнях за Берлін і Прагу. Пасля вайны працаваў у вайсковых газетах. Дэмабілізаваўся ў 1953 годзе. Скончыў Вышэйшыя літаратурныя курсы. Працаваў рэдактарам у розных выдавецкіх установах. Узнагароджаны ордэнамі і медалямі. Выдаў мноства вершаваных кніжак. Лаўрэат літаратурнай прэміі імя А. Куляшова (1985).

Па сённяшні дзень займаецца актыўнай творчай дзейнасцю. Няма таго тыдня, каб рэдакцыі нашага холдынга не атрымлівалі яго пульхных лістоў з новымі вершамі і публіцыстычнымі артыкуламі. Дай Бог здароўя і надалей.

У гэты юбілейны год вялікай перамогі над фашызмам ад усяго сэрца віншуем Вас, шаноўны Пётр Фёдаравіч, і жадаем новых літаратурных здзяйсненняў!

**28**

— споўнілася б **70** гадоў (1935—2003) **КАЛОДЗЕЖНАМУ** Леаніду Трафімавічу, беларускаму празаіку.

Нарадзіўся ў вёсцы Солаўе Аршанскага раёна. Скончыў Віцебскае мастацка-графічнае вучылішча. Доўгі час працаваў мастаком-афарміцелем на Аршанскім ільнокамбінаце. Актыўна супрацоўнічаў з перыферыйным друкам. На першы зборнік апавяданняў «Аўсяны звон» станоўча адгукнуліся Серафім Андраюк, Алесь Жук, Генадзь Шупенька... Праз шэсць гадоў выйшла наступная кніжка «Бярозы ў жыце» (1981).

Увогуле ж Л. Калодзежны выдаваўся вельмі рэдка. А тое, што было задумана, але яшчэ не рэалізавалася, перапыніла заўчасная смерць.

*Аўтар рубрыкі Леанід ГАЛУБОВІЧ.*



***Аўтары нясуць адказнасць за факты, якія прыводзяцца ў публікацыях, у адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь. Рукапісы не рэцэнзуюцца і аб'ёмам да двух аркушаў не вяртаюцца. У выпадках паліграфічнага браку ў часопісе звяртацца ў друкарню.***

***e-mail: minsk@lim.by***

Рэдакцыя часопіса «Полымя», 220005, Захарава, 19.
Тэлефоны: галоўнага рэдактара, намесніка галоўнага рэдактара, аддзелаў прозы, паэзіі, крытыкі і літаратуразнаўства, грамадскага жыцця і культуры — 284-80-12.

Стыльрэдактар *М. І. Гусева*
Камп'ютэрная вёрстка *С. І. Сяргейчык*

Падпісана ў друк з гатовых дыяпазітываў 27.01.05 г. Фармат 70х108 1/16. Папера газетная. Друк афсетны. Друк. арк. 19,60. Ул.-выд. арк. 18,57. Тыраж 3244 экз. Зак. 144.

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». 220013, Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.



*Якуб Колас на пасяджэнні Славянскага камітэта. Масква, 1944 г.*



*Сын Якуба Коласа Юрка Міцкевіч (загінуў у верасні 1941 г.).*



*Якуб Колас і дзед Талаш сярод афіцэраў Савецкай Арміі. Масква, 1943 г.*

*Якуб Колас, 1943 г.*

Нашы індэксы
індывідуальны — 74985
ведамасны — 00141

**ЧЫТАЙЦЕ Ў НАСТУПНЫМ НУМАРЫ:**

Леанід Левановіч
**ПАЛЫНОВЫ ВЕЦЕР**
Раман /пачатак/

Мікола Маляўка
Васіль Жуковіч
Віктар Шніп
Вершы

Святлана Лобач
**ПАЖЫВІ ДЛЯ ЛЮДЗЕЙ**
Навелы

Таіса Бондар
**ШЭСЦЬДЗЕСЯТ МІНУС ДВАЦЦАЦЬ ДВА**
/працяг/

**ПОЛЫМЯ**

ISSN 0130 — 8068